**Галасы Беларусі — 2022.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2023. 346 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Укладальнік
*Сяргей Дубавец*
Карэктар
*Марына Сідаровіч*

Гэта трэцяя кніга трылёгіі „Галасы Беларусі“, дзе пра кожны год беларускага жыцьця — 2020-ы, 2021-ы, 2022-і — апавядаюць сьведкі падзеяў: палітвязьні ў „апошнім слове“ ў судзе і лістах з турмы; палітэмігранты і тыя, хто застаецца на радзіме; тыя, каго ва Ўкраіне засьпела вайна, і тыя, хто ўступіў ва ўкраінскае войска, а таксама блізкія тых, хто загінуў. Гэта вельмі розныя гісторыі беларусаў, якія часам нагадваюць пратакол, а часам — шчырую споведзь ці мастацкі аповед. Усе разам яны зьліваюцца ў шматгалосьсе, якое адлюстроўвае злом часу і агульнае разуменьне таго, што вяртаньня да ранейшага жыцьця больш ня будзе ніколі.


FOL

ISBN 978-1-948784-00-9

# ЗЬМЕСТ

## КРАСАВІК



## ТРАВЕНЬ



## ЧЭРВЕНЬ



## ЛІПЕНЬ

## ЖНІВЕНЬ



## ВЕРАСЕНЬ



## КАСТРЫЧНІК



## ЛІСТАПАД

## СЬНЕЖАНЬ



## НОБЭЛЕЎСКАЯ ЛЕКЦЫЯ

# КОЛИСКОВА

...І голос не відберуть у всіх,
тільки в тебе.
І не відберуть у всіх Батьківщину,
тільки в тебе.
І не у всіх заберуть волю,
тільки в тебе.
І не всіх на війні вб'ють,
Тільки тебе.
Але любити будуть
Тільки тебе,
І поминати в молитві будуть
Тільки тебе,
Тому що голос Білорусі
Тільки ти.

## КАЛЫХАНКА

...І голасу ўсіх не пазбавяць,
Толькі цябе.
І не пазбавяць усіх Радзімы,
Толькі цябе.
І ў турму ўсіх не пасадзяць,
Толькі цябе.
І на вайне ўсіх не заб'юць,
Толькі цябе.
Але любіць будуць
Толькі цябе.
І памінаць у малітве будуць
Толькі цябе,
Бо голас Беларусі
Толькі ты.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# ВАЙНА, ЯКАЯ ЗРУШЫЛА ЗЬ МЕСЦА ЧАС

*Ад укладальніка*

Маю дачку-першаклясьніцу Стэфку ў школе пачалі называць Стэфанія-мама. Гэта пасьля перамогі ўкраінскай песьні на „Эўравізіі“. Пасьля нападу Расеі на Ўкраіну. Пасьля 24 лютага, калі расейскія бомбы паляцелі на Кіеў з нашай Беларусі.

Гэтыя тры гады для шасьцігадовай Стэфкі — палова жыцьця. Для мяне, 60-гадовага, — ягоная квінтэсэнцыя. Бо ніколі на маёй памяці бомбы падзеяў ня падалі так блізка, так нечакана і так часта, як за гэтыя ўсяго толькі тры гады. Спачатку эпідэмія, якая, здаецца, прамінула; потым статысячныя мірныя маршы па ўсёй краіне; потым масавы тэрор рэжыму і масавая эміграцыя зь Беларусі, якія не спыняюцца ні на хвіліну; нарэшце — вайна.

У лістападзе 2019-га, калі мы стаялі на віленскіх могілках Росы на пахаваньні Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў пасярод тысяч людзей зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, сябра сказаў мне, што ўсё самае важнае ў жыцьці ён, мабыць, ужо пабачыў: распад Саюзу, незалежнасьць Беларусі і вось гэтае ўрачыстае пахаваньне нацыянальнага героя нумар адзін. Нічога больш эпахальнага ўжо быць ня можа.

І пачалося.

Быццам само жыцьцё вырашыла „дасыпаць“ нам усім таго, чаго мы яшчэ не пабачылі, удзельнікамі і сьведкамі чаго яшчэ не былі. Але сёньня ў мяне іншае ўражаньне. Што б ні здарылася заўтра, яно ўжо ня будзе такім нечаканым і важным, як тое, што адбылося за гэтыя тры гады. Нават ядзерны выбух, нават сусьветная вайна, нават распад Расейскай імпэрыі, нават мэтэарыт… Усё самае страшнае ўжо адбылося. Цяпер уразіць магло б хіба што цудоўнае вяртаньне да нармальнага жыцьця. Прынамсі, гэтага найбольш хочацца для Стэфкі, для мяне і для майго сябра.

Гэтым тром жахлівым і адначасова адчайна шчасьлівым гадам нашага агульнага часу мы прысьвяцілі трылёгію „Галасоў Беларусі“, дзе сабралі сотні сьведчаньняў і споведзяў нашых суайчыньнікаў пра тое, праз што ўсім нам давялося прайсьці.

Споведзі; успаміны пра жыцьцё, якога больш ня будзе ніколі; турэмныя дзёньнікі з новых і новых „ходак“; пераход да „качавога ладу жыцьця“, турэмныя лісты… Сьведчаньні з украінскай вайны… Асэнсаваньне робіцца глыбейшым, няма простых адказаў і няма вяртаньня…

Фокус у кантэксьце ўсяго эпасу. Пачуваньне сябе адным народам — пабітым, зьняволеным, выгнаным. Такога не было і не магло быць да 2020-га.

Гэта заключная кніга трылёгіі.

У першай кнізе — пра 2020 год — наш звыклы час зламаўся. Зламалася ўсё наша ранейшае жыцьцё. Не маё ці тваё і не маёй ці тваёй сям’і, а ўсіх увогуле беларусаў. А можа быць, і ня толькі іх. Эпідэмія, рэвалюцыя, тэрор — раптоўна мы

апынуліся дзесьці далёка ў гісторыі, пра якую прывыклі ведаць адно з кніг.

Было страшна прыгожа і проста страшна.

Успомніце, як сьпякотным днём тысячы абуджаных людзей стаялі ў чарзе ў ЦВК на плошчы Незалежнасьці ў Менску, каб паскардзіцца на нерэгістрацыю кандыдатаў у прэзыдэнты, а чалавек на аўтамабілі падвозіў і раздаваў усім ахвочым ваду. „Гэта мая інвэстыцыя ў будучыню“, — казаў ён. Сёньня ўявіць сабе такое немагчыма.

Той год быў годам надзеі. Гэта агульная надзея вывела людзей на маршы. І нават тэрор у адказ гэтую надзею мацаваў, бо так… у нас… у XXI стагодзьдзі… у цэнтры Эўропы… проста ня можа быць! У гэта немагчыма было паверыць.

У другой кнізе — пра 2021 год — мы ўсе спрабавалі прыстасавацца да гэтага зломy. Да выжываньня ў турме. Да штохвіліннага чаканьня „сіняга буса“, выбітых дзьвярэй,ператрусу і катаваньняў. Да ўцёкаў за мяжу і спробаў упісацца ў тамтэйшае чужое жыцьцё. І гэта таксама тычылася нас усіх. Але ўжо толькі нас, беларусаў.

Той год — 2021-ы — быў годам страты надзеі. Так… быць… можа. Больш за тое, гэта новая рэальнасьць, у якой мы цяпер будзем жыць. Да тэмы рэжымнага тэрору дадалася тэма ўцёкаў і эміграцыі.

У трэцяй кнізе, якую вы трымаеце ў руках, пра 2022 год, мы зразумелі, што ўсё, што адбылося і адбываецца — гэта не катастрофа, якая ўзяла нас у палон, а наша іншая рэальнасьць; што ранейшае, нармальнае жыцьцё ўжо ня вернецца; што адведзены нам час зламаны і ў такім, зламаным, мы цяпер будзем жыць.

У першай кнігі быў падзагаловак-крык: „Нас усіх пасадзяць — Мы пераможам“. У другой — падзагаловак-шэпт: „Пахне чабор! — Пахне вечна!“. У трэцяй — маўчаньне: „Той, хто зьехаў. — Той, хто застаўся“.

Новая кніга мае ўжо не тэматычны, а „хранічны“ прынцып.

Адышла эпідэмія, сьцішылася рэвалюцыя, яшчэ больш жорсткім стаў тэрор і пачалася вайна. У Беларусі канчаткова скончылася журналістыка. Затое як ніколі пішуцца вершы. У турмах, у эміграцыі, у падпольлі. Дакладна паводле Янкі Купалы: „Эх, бо ведае сьвет, што вялікіх дум цьвет адно толькі на зломе ўзрастае!“.

Калісьці, у тым яшчэ жыцьці, я напісаў эсэ пра сваю краіну і наша жыцьцё „ў спыненым часе“. Было такое аблогнае адчуваньне. І хацелася, каб час „пайшоў“. Немагчыма было ўявіць, што ён найперш зламаецца і толькі потым пойдзе. Войны не адбываюцца ў спыненым часе, бо ўсе войны маюць пачатак і маюць канец. Пачалася вайна.

І тады вярнулася храналёгія.

29 сьнежня 2021 — 1 студзеня 2022

# СЯДЗІМ У КАЦЯРЫНІНСКІХ СТАЙНЯХ*

*Максім Знак:*

Пішу табе з новага адрасу, хоць ён, спадзяюся, таксама ненадоўга. Паспрабую расказаць у агульных рысах свае ўражаньні ад паездкі. Тэзісна, абрыўкамі думак:

1. Зіма для некаторых народаў заўсёды прыходзіць нечакана. Вось і я рыхтаваўся легчы спаць. А зьнянацку знайшоў сябе, які носіцца ў замкнутай прасторы і думае, а чаго б яшчэ ўзяць, а лепей выкінуць.

2. І ўсё ж адчуваньне, што зіма блізка, было. Яно й ня дзіўна. Тыдні тры апошнія я займаўся тым, што робіць сабака, калі няма чаго рабіць. Толькі не фарбаваў будку, а перабіраў увесь свой назапашаны скарб і расьцягваў яго па файліках, пакеціках, мяшэчках, торбачках. Пакаваў, адціскаў паветра, уклаўся ў дзьве вялізныя кайстры, але чаго мне гэта каштавала! Прамінаючы дэталі, раскажу вынік. Цяпер маю чатыры торбы замест дзьвюх (аб'ёмам таксама ўдвая болей), а мае манаткі складаюць захапляльны пазл. Цяпер доўгімі зімовымі вечарамі я буду аддзяляць (як Папялушак) „Што? Дзе? Калі?“ ад ёгі і Пола Брэдлі, лісты ад маляваньня, анэкдоты ад паштовак, карціны ад карцінак і да т.п. Чароўны хаос і магчымасьць перасягнуць по-

* Гэты ліст адваката і палітвязьня Максіма Знака сваякі атрымалі ўжо ў 2022-м, хоць пісаўся ён за пару дзён да Новага году.

дзьвіг Геракла ў Аўгіевых стайнях. Праўда, у яго там ваду можна было пусьціць, а тут усё ж давядзецца зноў усё перабраць і разабраць. Зрэшты, час, напэўна, у мяне будзе.

3. Выкрэсьлівай са сьпісу кніг і „Арэну“, і „Практыкаваньні“ — на жаль, не пасьпеў. Паставіў кропку ва ўчорашнім лісьце — і панеслася. Затое сёньня прачытаў выдадзеную са складу „Па што ідзеш, воўча?“ — вельмі спадабалася. Такі Мележ у экспрэс-варыянце — стагодзьдзе жыцьця людзей на балоце за сотню старонак. Ёсьць і магія, і наша няшчасная гісторыя ўва ўсёй красе, куды ўжо безь яе. Увогуле я сёньня не сумаваў у тыя моманты, якія былі адведзеныя для сумаваньня. Але стаміўся даволі моцна: усё ж падарожжа ў спэц. СВ (спальным вагоне) спэцыфічнае, нават калі ў цябе асобнае купэ (падобнае на „замежныя“ трохпалічныя купэшкі). А забег з чатырма торбамі, калі ты крыху скавана сябе адчуваеш (і ня так сабе) — гэта і ўвогуле найзахапляльнейшы фітнэс. Затое звычайным пасажырам нават дарагога СВ ніколі так блізка не падавалі аўтамабіляў да пад’езду. Амаль трап да трапу — узровень!

4. Яшчэ з уражаньняў дня — я ўпершыню за вельмі доўгі час трапіў у месца, якое было збудаванае пазьней за 1826 год. Таму ўсе плюсы афармленьня я ўспрымаю як адкрыцьцё. А пасьля абеду прасіў перадаць шэф-кухару камплімэнты. Зрэшты, мая хата раднейшая і мілейшая (родны кут).

5. Цікава, што ўчора быў роўна год, як я пераехаў да №58 на „Валадарцы“. І забаўна, што народ прапанаваў „адзначыць“, і мы адзначылі з пажаданьнямі (амаль як разьвітаньне). І тут я —

хобана — сеў і паехаў. Зручна атрымалася! І — адразу ў культурную сталіцу.

Суседзі расказалі, што сядзім у Кацярынінскіх стайнях. Вось табе раз! Атрымліваецца, што „Валадарка“ — навабуд? А я тут табе пішу, што ў наўё ўехаў!*

---

1 студзеня

## НА НАС ІДЗЕ ПАЛЯВАНЬНЕ**

*Алена Міхайлаўна, маці Дзьмітрыя Ўсхопава:*

Яны яго забілі — міліцыя забіла. Я ўдава афганца, усё пішыце. Ён ехаў да мяне Новы год адзначаць, стаяў на прыпынку зь сябрам. „Я зараз пад'еду“, — звоніць. Яны там пілі шампанскае і закусвалі мандарынам. А тут усё, ехалі: расьпіцьцё. Рукі заламалі. А ён кажа: „Я да мамы еду, выпусьціце, не затрымлівайце“. А потым яны там яго... на скроні рана, сьпіна сіняя, рукі сінія. Майка на шматкі разарваная, як вугаль ягонае цела.

*Сястра Дзьмітрыя:*

Мяне абвінавацілі, што я прадаю інфармацыю СМІ! Пішуць паклёп на мяне і майго забітага брата. Але мяне не зламаць, мая воля моцная. Нікому не прабачу. Калі мяне пастараюцца „прыбраць“, ведайце, што я шматдзетная маці, юрыст; жанчына,

---

* Перад самым Новым годам Максіма Знака, які атрымаў 10 гадоў турмы, перавялі ў віцебскую калёнію.

** Новы год у Беларусі пачаўся з забойства ў міліцэйскім пастарунку. Гэта адбылося ў Рэчыцы, дзе жыхар гэтага гораду Дзьмітры Ўсхопаў памёр ад траўмаў.

якая працуе на дзьвюх працах, і няўцешная сястра забітага брата.

Дзімку даставілі ў пастарунак. Там або дапытвалі і білі, або адзін раз ударылі ў галаву, або стрэлілі з пнэўматыкі, я дакладна ня ведаю. Ён страціў прытомнасьць у РАУС, яго там жа аблівалі вадой, спрабавалі рэанімаваць, нацельная саколка разарваная. У аддзяленьні ЦРБ яго прынялі ў стане комы.

Са слоў тэрапэўта, спрабавалі яшчэ рэанімаваць адрэналінам і масажам сэрца, але час быў страчаны. Адправілі ў морг, а раніцай 01.01.2022 зрабілі па лжывай пастанове сьледчага тэрміновае ўскрыцьцё. У морг не пускалі. Прыехаў начальнік аддзяленьня судмэдэкспэртызы і выклікалі сьледчага, нам паказалі цела. На запясьцях рук і каленках відаць сінякі, на галаве круглая рана. Яму рабілі ўскрыцьцё чэрапна-мазгавой каробкі і брушной паражніны.

*Аляксандар Жогаль, сябра Дзьмітрыя:*

Мы разам былі на прыпынку грамадзкага транспарту, адкуль Дзьмітрыя забрала міліцыя. Пасьля сьмерці Дзімы міліцыя пачала „паляваньне“ на ягоных сяброў. Я мусіў уцячы за мяжу.

Мы сябравалі зь Дзімам зь дзяцінства. У аднаго трэнэра займаліся футболам. Пазьней Дзіма пайшоў займацца ў менскае „Дынама“, ды нешта ў яго там не атрымалася. На Новы год, 31 сьнежня, мы сустрэліся, вырашалі, дзе і як адзначаць сьвята. Купілі прадуктаў і алькаголю. Зь Дзімам і Ільлём — гэта яшчэ наш адзін сябар, які цяпер затрыманы, — паехалі да маёй сястры. Там трохі выпівалі.

Так, мы пілі ў той дзень, але няшмат, я думаю. Выпілі піва, шампанскага, трохі брэндзі. Потым мы вырашылі ехаць адзначаць Новы год да Дзімавай маці, бо яна адна жыве. Стаялі на прыпынку. Дзіма трохі хістаўся. У адзін момант ён быў на эмоцыях, бо ўспамінаў сьмерць свайго прыяцеля, які летась памёр 30 сьнежня. Ён гучна гаварыў, ужываў нецэнзурную лаянку, і гэта прыцягнула ўвагу міліцыі.

Двое патрульных не далі рады Дзьмітрыю, бо ён вырываўся і супраціўляўся. Я таксама не стаяў убаку, адцягваў сябра ад міліцыі. Тыя выклікалі падтрымку.

Прыбылі пяць чалавек. Двое трымалі мяне, а тыя пяцёра ламалі Дзіму. І заламалі, кінулі яго ў аўтамабіль і павезьлі ў РАУС. Мяне не забіралі. На момант затрыманьня на Дзіму не было ніякіх пашкоджаньняў.

Ранкам мне патэлефанаваў Ільля і сказаў, што Дзіма памёр. Я не паверыў, нават калі ўбачыў заплаканага Ільлю. Я патэлефанаваў знаёмай (у яе муж працуе ў міліцыі). І яна сказала мне, што Дзіма памёр ад перадазаваньня наркотыкаў. Такога ня можа быць! Не было ніякіх наркотыкаў! Яму проста „дапамаглі“ памерці ў міліцыі. Каб забіваць — такога яшчэ, здаецца, не было. Але, можа, яго білі ў міліцыі ці не аказалі дапамогі. І тое, што было 4,3 праміле, як напісала міліцыя, я ня веру. Мы столькі ня выпілі. Можа быць, я дапускаю (бо ў Дзімы з сабой быў алькаголь, калі яго забрала міліцыя), што яму маглі той алькаголь гвалтам уліць, тады будзе 4,3 праміле.

Я напісаў заявы ў міліцыю і СК з патрабаваньнем разабрацца па факце сьмерці. Мне патэлефа-

наваў сьледчы і прапанаваў, як ён сказаў, таемна сустрэцца. Я адмовіўся і выкінуў SIM-карту. Два дні я сядзеў у Дзімавай маці. Яна была, зразумела, у жудасным стане... Не перадаць словамі. На наступны дзень міліцыя затрымала Ільлю і яшчэ траіх чалавек, нібыта за наркотыкі. Я разумеў, што на нас ідзе паляваньне. За домам Дзімавай маці было назіраньне, стаялі розныя аўтамабілі і сіні мікрааўтобус. Мне ўдалося ўцячы, выбрацца спачатку з дому Дзімавай маці, потым — з краіны.

---

31 студзеня

## ПРА АКРЭСЬЦІНА Я НАПІСАЛА ВЕРШ

*Настасься Кухарава:*

Нават цяпер, знаходзячыся ў іншай краіне, у бясьпецы, мне па-ранейшаму цяжка ўспамінаць пра тое, што са мной адбылося. Я займаюся з псыхатэрапэўтам і вельмі хачу стаць той ранейшай Настай, якой была да затрыманьня. Але атрымліваецца гэта зь вялікай цяжкасьцю.

Мяне затрымалі 31 студзеня. Губазік схапіў мяне на чыгуначным вакзале, калі я вярталася з маскоўскіх вакацый у Менск. Спачатку мяне пабілі, каб атрымаць пароль ад тэлефона, а затым ачарнілі ў „пакаяльным“ відэа. Першыя дзесяць дзён мяне трымалі на Акрэсьціна, а потым перавялі на „Валадарку“ і выставілі абвінавачаньні — нібыта за перакрыцьцё дарог на адным зь нядзельных маршаў у верасьні 2020 году.

Мяне зьнялі зь цягніка. Замест маці, якая прыехала мяне сустракаць, сустрэлі шэсьць супрацоўнікаў губазіку. Адзін зь іх быў у балаклаве. Яны спыталі, ці я Анастасія Андрэеўна, і калі ў поўным неразуменьні я адказала, што гэта я, двое зь іх узялі мяне пад рукі і кудысьці павялі. Я была ў шоку, спрабавала высьветліць, чаму мяне затрымліваюць...

У адказ на гэта яны паказалі мне фатаздымак з маршу пратэсту, які праходзіў 27 верасьня 2020 году. На тым фатаздымку сярод іншых удзельнікаў была я. Усе мае патрабаваньні прад'явіць дакумэнты, на падставе якіх мяне затрымліваюць, яны ігнаравалі. Надзелі на мяне кайданкі і запхнулі ў машыну. Увесь гэты час мне намагалася датэлефанавацца мама, тэлефон разрываўся. Але ён быў у іх. У нейкі момант яны зьнялі трубку і сказалі маме, што я затрыманая, бо парушыла закон.

Мяне прывезьлі ў губазік, адвялі ў нейкі пакой і замкнулі дзьверы на ключ... Было вельмі страшна. У пакоі са мной засталіся два вялізныя амбалы. Адзін зь іх схапіў мяне за валасы і пачаў біць галавой аб сьцяну, потым кулаком па галаве, твары... У мяне пачалася гістэрыка. Некалькі разоў ён ударыў мяне ніжэй грудзей... Потым зламаў мае акуляры і рагатаў з гэтага. Ён скончыў мяне біць, а я рыдала.

Ён працягваў зьдзекавацца. Казаў: „Ну што ты плачаш, Настачка, усё ж добра. Можа, гарбаты табе ці кавы? Вось цяпер паедзеш на зону, су*а ё*аная, і будзеш там рэвалюцыю рабіць!“.

Яны казалі, што такіх як я, трэба забіваць. Што такіх, як я, нельга нават блізка падпускаць да

дзяцей (я настаўніца расейскай мовы і літаратуры). Гэта было невыносна.

Пасьля такога допыту і афармленьня пратаколу мяне прымусілі запісаць тое самае „пакаяннае“ відэа на фоне дзьвярэй.

Мяне здымалі на зялёным фоне. І, хоць я даўно нічога не ўжываю, мяне прымусілі сказаць, што я наркаманка. І самі рагаталі пры гэтым: „О, гучная справа будзе — наркаманку-змагарку пасадзілі“.

На Акрэсьціна мяне ўтрымлівалі з 31 студзеня да 11 лютага. Пра ўсё гэта я напісала ў вершы:

*Высокие стены, двухместная камера,*
*Нас было шестеро в комнате маленькой.*
*Там были клопы и другие создания —*
*Их называли мы „надзиратели“.*
*Мы спали на досках, по двое на шконке,*
*Забрали одежду, не дали подушку,*
*О чем это я — матрасов не дали,*
*Мы спали, как звери на лавках стеклянных.*
*Кто-то спал на полу, под батареей.*
*Кто-то из хлеба лепил изделия,*
*Кто-то бродил из угла в угол,*
*Такие вот были в пыточной будни.*
*Нам было так холодно ночью и днём,*
*Мы грелись бутылками с тёплой водой.*
*В обнимку по трое на шконке лежали,*
*Вот так мы отчаянно тепло сохраняли.*
*Среди ночи нас часто будили дежурные,*
*Стучали нам в двери, называли паскудами.*
*Вместо прокладок давали нам вату,*
*Чай был раз в день — мы пили из крана.*
*При шмоне все вещи на пол бросали,*
*Топтали ногами и хохотали.*

*Несмотря на все это, наш дух не сломали,*
*Всю нашу волю в кулак мы собрали.*
*Мы „Купалинку“ шепотом пели,*
*Вот так страшные дни мы преодолели.*

Пасьля Акрэсьціна СІЗА №1 на Валадарскага здаўся раем.

Мяне прывезьлі ўначы, але нават прапанавалі схадзіць памыцца. Потым адвялі ў камэру №5. Па-турэмнаму — у „адстойнік“. У ім зьняволеныя знаходзяцца некаторы час, пакуль іх не перавядуць у звычайную камэру.

У „адстойніку“ вельмі нізкія столі, на падлозе пыл, пляўкі, сьцены ў цьвілі, прыбіральня — дзірка ў падлозе, адно акно, адна батарэя, вада ледзяная, але я была шчасьлівая трапіць туды, бо там мне далі матрац, падушку і плед, і я заснула як нармальны чалавек у ненармальных умовах. У гэтым „адстойніку“ я жыла 5 дзён. Са мной было яшчэ 13 жанчын: палітычная была ўсяго адна. Астатнія былі за рабаваньне з узброеным нападам, махлярства, замах на забойства, крадзеж, некалькі былі за нявыплату алімэнтаў, падаткаў, наркотыкі…

Пашчасьціла, што мяне своечасова перавялі, бо тым жа днём дзяўчатам у камэру засунулі нейкую вар'ятку, якая казала: „Як толькі вы засьняце, я вас усіх заб'ю“. Яна ўвесь час крычала, білася ў дзьверы, бегала.

У камэры я ўбачыла высокія столі, адно акно і шмат прыгожых жанчын. Мяне сустрэлі досыць цёпла; я плакала бясконца, а дзяўчаты мяне падтрымлівалі. Была, праўда, адна жанчына-алімэнтшчыца, дык вось яна была зусім не здаровая:

лаялася з усімі ўвесь час, крычала па начах, а яшчэ ў яе былі гепатыт і ВІЧ. Калі ў яе былі месячныя, яна не карысталася пракладкамі, увесь час на лаве заставаліся плямы ейнай крыві. Ёй прысудзілі месяц арышту. Яна адседзела з намі тэрмін і пайшла дадому.

Але мне пашанцавала — я апынулася ў самай вялікай камэры жаночага корпусу, нас было 10 чалавек, вада была ледзяная, але на сьценах не было цьвілі. Мылі адзеньне як маглі: грэлі ваду кіпяцільнікамі, а паласкалі ў халоднай вадзе. Мы называлі гэта „масаж рэчаў“.

У камэры была добрая тэмпэратура. Курылі па гадзінах, бо немагчыма ўвесь час дыхаць пылам і дымам. Вэнтыляцыі ніякай не было. Пару разоў мы бачылі нейкіх насякомых. Атаварка ў СІЗА была вельмі бедная, усяго 56 пунктаў. Зь ежы ў асноўным вафлі, печыва, кава, чай, кашы, супы, зэфір, газінакі. Астатняе — тавары асабістай гігіены і бытавая хімія, яшчэ цыгарэты і канвэрты. Але палову з гэтага ў краме не было.

У лазьню хадзілі раз на тыдзень, вада была вельмі гарачая, напор слабы, але мыліся як маглі. Ежа, вядома, пакідае жадаць лепшага: мне падабаліся сьняданкі, я ўвесь час ела там кашу (акрамя сечкі), але на абед быў суп-вада: бяз гушчы, зьліплая ў адну масу макарона з парай кавалачкаў мяса ці сала, часамі нейкая прэсная каша, вадзяністая бульба з варанай капустай, раз на тыдзень давалі катлету, але я не магла яе есьці — яна заўсёды была халодная. На вячэру — вараная дробная рыба. Давалі вялізную талерку, і толькі хвасты тырчалі.

Па тэрыторыі турмы вадзілі ў позе „рукі за сьпінай“. Хадзілі падваламі, дзе ўвесь час нечым сьмярдзела. Шмат бруду, некалькі разоў бачылі пацукоў...

З добрага: там у СІЗА зусім іншыя супрацоўнікі. Яны ня ціснуць маральна. Ёсьць, вядома, шкадлівыя міліцыянты, было нават некалькі неадэкватных (у асноўным жанчыны ці мужчыны з жорсткімі жартачкамі, маўляў, „будзеце на зоне нам вопратку шыць“), але ў асноўным там працуюць усё ж „людзі“, чаго ня скажаш пра супрацоўнікаў з Акрэсьціна.

Яшчэ там быў псыхоляг: мой стан быў жахлівым, але за тры месяцы я трапіла да яе два разы. І то таму, што пісала ёй кожны дзень і звала яе праз „дзяжурных“. Я пыталася ў яе: „Як вы можаце тут працаваць?“. Яна адказвала: „Тут таксама людзі...“. Думаю, яна не разумела майго пытаньня.

Самая сьветлая падзея ў турме — гэта лісты і спатканьне з роднымі.

Я ня ведаю, дзе мая маці знаходзіла сілы, але падчас спатканьняў яна трымалася, як салдат. Схуднела да 35 кіляграмаў, але працягвала мне ўсьміхацца, хоць, я ведаю, ёй хацелася галасіць. Мой дзядуля трапіў у кардыялёгію, бабуля практычна перастала хадзіць. Але ўсе яны пісалі мне лісты і верылі ў добры зыход.

Шостага траўня ў Маскоўскім судзе Менску судзьдзя Вера Малашэнка за нібыта блякаваньне дарог на маршы ў 2020-м прысудзіла мне тры гады абмежаваньня волі без накіраваньня ў папраўчую ўстанову („хатняй хіміі“). Мяне вызвалілі ў залі суду — і я ўцякла зь Беларусі.

16 лютага

# ЦЯПЕР МНЕ ВАЖНЫ ФІЛЯЗОФСКІ ЎЧЫНАК

*Уладзімер Мацкевіч (лісты з турмы):*

Цяпер мне важныя ня проста філязофскія разважаньні і дыялёгі, а філязофскі ўчынак. Але ты ведаеш: этас і праксіс, топас і эрас. Ну і лёгас. Усё гэта ў адным учынку можа быць сабрана. З трох прастораў існаваньня філёзафа (жыцьцё, дзейнасьць, гульні) у нейкі момант я стаў цаніць жыцьцё. Трэба сказаць, што ў розныя часы я ставіўся да жыцьця дастаткова легкадумна і безадказна, больш цаніў гульню і дзейнасьць.

Але ў гульнях так бывае — „стаўка большая за жыцьцё". І гэта ня толькі ў кіно.

Паветра, як пасьля навальніцы, на душы сьвята. Тое, што я стаў маліцца, цябе ня зьдзівіць. Але тое, што я пачаў рабіць зарадку, зьдзіўляе мяне самога. Я на ўсё забыўся. „Ойча наш" успомніў хутка. Дыхальную гімнастыку ўспамінаў пасТупова, цела само ўспаміналА. Практыкаваньні раблю самыя прымітыўныя: чаго цела просіць, тое і раблю.

Проста сёньня сьвята. Зранку чакаў перадачу, навёў чысьціню, вымыў падлогу, санвузел. Пакуль чакаў, прыйшоў бібліятэкар. Набраў сем кніг. Набор выпадковы, але ацані: Дэн Браўн, Робэрт Гайнлайн, Барыс Акунін, Фрыдрых Ніцшэ, Карляс Кастанэда, томік Шэкспіра з позьнімі творамі. І папрасіў Біблію. Аказаўся толькі Новы Запавет. Пакуль я радаваўся кнігам, прынесьлі перадачу. Куча радасьці.

У каменным цесным мяшку, які тут адводзяць для прагулак, адзін раз знайшоў жоўты лісток, які аднекуль заляцеў, падабраў і выкарыстоўваў як закладку ў кнізе. Іншы раз трапілася лятучае семя нейкага дрэва. Такое — з адным крылом і насеннай круглай каробачкай на тонкай доўгай ножцы. Таксама ўзяў яго ў кішэню, але яно памялася і зламалася, давялося выкінуць. Так што насалоджвайся ляндшафтам і пэйзажам; у такіх месцах, у якіх я цяпер знаходжуся, разумееш, якая гэта раскоша.

Цяпер чытаю Насіма Талеба „Чорны лебедзь“ і, напэўна, дачытаю да канца. Ніколі б не падумаў раней, што буду яго чытаць. Калі я пазнаёміўся зь ягонымі ідэямі, я палічыў іх банальнымі, і цешуся, што крыху памыліўся ў ім. Асноўная ідэя сапраўды банальная; здаецца, што я гэта ведаю ўжо гадоў 40. Але ён піша добра і захапляльна, рассыпае навокал асноўнай ідэі мноства дробных, але цікавых.

У мяне ўсё нармальна, наколькі дазваляюць умовы. Пішу шмат, будзе новая кніга.

Пакуль Альцгеймэр да мяне не дабраўся, я шмат магу выцягнуць з памяці, і ўсё ідзе ў справу. Калі б тут быў кампутар, то напісаў бы ў 3-4 разы больш, а так „рука бойца колоть устала“ ☺

У пяці сшытках — новая кніга. Пакуль працоўная назва — „Сэміятычная тыпалёгія“. Тут я выкладаю на апэрацыях са схемамі свой погляд на філязофію і сацыяльную веду. Напэўна, у іншых умовах я б проста ня меў часу і натхненьня на гэта. Як на мой густ, атрымліваецца грунтоўна і цікава. Але ж вельмі не хапае абмеркаваньняў і дыскусій па асобных тэмах.

Я спадзяюся яшчэ выйсьці адсюль, і ўжо тады падыскутуем. Жыць можна паўсюль, і тут таксама, калі ёсьць дзеля чаго і што-нішто за душой.

Спадзяюся, што ўсё ў вас будзе добра, і шчыра зычу гэтага. Ну а я здолею. У 65 гадоў усё гэта пераносіцца лягчэй, чым больш маладым, якім выпала гэтая доля. Усё наладзіцца!

Я адаптыўны, шмат да чаго прызвычаіўся ў жыцьці, шмат што перажыў і бачыў. Так, турма ўпершыню, новы досьвед, але нічога экстраардынарнага. Даведаўся сёньня аб прысудзе Калесьнікавай і Знаку. Сурова. Таму гатовы да любога павароту ў лёсе, але надзеі на лепшы зыход ня трачу. І ты ня страчвай!

---

18 лютага

## Я ТРЫМАЛАСЯ ЗА БАЛАКЛАВУ*

*Натальля Хершэ:*

У той момант я адчувала, што трэба за нешта трымацца, і я трымалася за ягоную балаклаву. Не хачу сказаць, што гэта было заплянаванае дзеяньне — здымаць балаклаву. Не. Напэўна, ад пратэсту, ад абурэньня мне было настолькі важна ўбачыць ягоны адкрыты твар… І я тут жа раскаялася, што трэба было альбо ўвогуле не чапаць, альбо рабіць дык рабіць, да канца і правільна, болей сілы прыдаць гэтаму руху, каб балаклава

* 18 лютага з магілёўскай турмы раптоўна вызвалілі палітзьняволеную Натальлю Хершэ, грамадзянку Швайцарыі. Яна правяла ў турме 17 месяцаў. А праз некалькі дзён, ужо з-за мяжы, расказала пра свае цяперашнія думкі.

засталася ў мяне ў руках. Калі б я гэта зрабіла, у яго не было б пасьля магчымасьці абылгаць мяне, што я нанесла яму драпіну. Гэта было б нашмат прасьцей, але як ёсьць.

Наконт таго амапаўца, у мяне было абурэньне, першы час асабліва. Як можна, як можна ўвогуле так рабіць? Як? І я на судовым працэсе… Ён не глядзеў на мяне. Ну… Глядзеў, калі гэта было неабходна. І тады я заўважыла, калі ўжо ўсё нібыта скончылася… Я бачыла толькі ягоны профіль. І ён павярнуў да мяне галаву, і мне здалося, гэты рух быў такі нясьмелы, баязьлівы. Ня ведаю, навошта яму спатрэбілася паглядзець на мяне. І я адчула страх ягоны. Ён баяўся. І, напэўна, цяпер баіцца. Я так думаю, ён у нейкай ступені і разумее, усьведамляе сваю памылку. Магчыма, мне так здаецца.

Чалавек знаходзіцца ў сыстэме, сыстэма прымушае яго гэта рабіць. Калі ён гэтага рабіць ня будзе, ён вылеціць з гэтай сыстэмы. Ён, вядома, можа апраўдаць сябе масай абставінаў. Але ўсё ж залежыць ад таго, наколькі ты чалавек. Наколькі ты можаш гэта зрабіць, ты можаш ілжэсьведчыць? Ад таго, наколькі моцны чалавек, найперш духоўна. Значыць, ён слабы. Я сумняваюся, што ён ідэйна падкаваны ў пляне таго, што ён цалкам згодны з гэтай палітыкай. Але трэба быць зусім ужо аднабокім, каб верыць таму, што гаворыць дыктатарскі рэжым, зусім ужо чэрствым. Я нейкі час думала пра адплату, пра тое, што ён мусіць адседзець хаця б столькі, колькі я. Я чытала шмат духоўнай літаратуры ў магілёўскай турме… І цяпер я наўрад ці, наўрад ці буду настойваць на гэтым.

24 лютага

## НЕБА МАЕ БАРВОВЫ КОЛЕР*

*Сяргей Прылуцкі:*

У першыя дні не было нават думкі нешта занатоўваць. Жыцьцё яшчэ ішло па інэрцыі, сын бегаў і сьмяяўся (як зрэшты, і зараз, толькі падчас выбухаў кажа „бух!“ і бяжыць хавацца ў ванну), інтэрнэт працаваў. Праўда, усё гэта пад выбухі спачатку ў іншых гарадах, а потым і пад тваім домам. Вораг наступае, на кухні ляжыць недарэзаная каўбаса, а ты выскокваеш усёй сям'ёй у двор з „амаль трывожнымі“ заплечнікамі. На ганку суседзі стаяць і назіраюць, як палае аэрапорт, захапіць які для маскалёў стратэгічна важна. Нехта сьпешна пакуе рэчы ў машыну.

Мы бяжым у бамбасховішча, падбіраючы па дарозе сяброўку зь дзецьмі. Сховішча — звычайны падвал савецкага пяціпавярховіка. Абсалютна ніяк не прыстасаваны для таго, каб начаваць. У суседнім будынку ўсё нашмат лепш, бо пабудаваны нядаўна. Адно з памяшканьняў — крама з тканінамі. Уражаньне такое, што ня ўсе да канца разумеюць, што насамрэч адбылося. Выглядае, як нейкі сюр: прадмесьце сталіцы атакуюць? Але з аэрапорту валіць дым, лятаюць над дахамі самалёты і верталёты.

---

* 24 лютага Расея напала на Ўкраіну. Беларускі празаік і паэт Сяргей Прылуцкі з жонкай, украінскай паэткай Аленай Сьцепаненкай, і сынам жывуць у Бучы каля Кіева, дзе адбыліся жорсткія і крывавыя баі ўкраінскіх войскаў з расейскімі захопнікамі.

Зноў выбухі, стрэлы. Хто мае куды зьехаць, з торбамі і дзецьмі сядаюць у машыны або ідуць пешкі да трасы. Потым гэта стане немагчыма, калі ты, вядома, не гатовы рызыкнуць жыцьцём і праравацца праз „гарачую“ трасу, на якой час ад часу ідуць баі і праяжджаюць вайсковыя калёны расіян.

Карацей, навокал паніка. Усе бягуць, выбягаюць, забягаюць, стаяць у шоку. Людзям страшна за дзяцей, за сябе, за родных. І толькі нейкі мужык на верхнім паверсе пяціпавярховіка флегматычна курыць на бальконе і, абапёршыся на локці, назірае, як разгараецца пажар.

Нягледзячы на зьнішчаны там, на даляглядзе, аэрапорт, у горадзе нашым вайны яшчэ як такой не было. Але атмасфэра ўжо адчувалася на ўсю моц.

Выйшаў увечары ў супэрмаркет. Паўпустыя паліцы з мукой і крупамі. Хлеба няма: сумны мужчына ідзе з адзінокім лавашом у руцэ да касы. Вясёлы гопнік нападпітку кажа ўсхвалявана касірцы, беручы пяць джын-тонікаў і семкі: „Оце пиздець, конєшно! Оце їбанутись! Хто таке ждав? Я таке не ждав!“.

На вуліцах ужо нашы вайскоўцы і тэрабарона. Шостая вечара, ідзеш паўз парк, дзе звычайна ў гэты час куча народу, а там ні душы. Праходзіш міма кіёска, дзе пастаянна купляеш цыгарэты. Заўтра тут разбамбяць расейскую калёну. Адзін са снарадаў упадзе побач з кіёскам, разьвярнуўшы бляшаны плот.

Урэшце начуем у сяброў у іншым канцы гораду. Праверылі на сабе закон, які чамусьці не праходзяць у школе: што чалавек можа прывыкнуць

да многага. На другі-трэці дзень мы прывыклі да выбухаў і гукаў артылерыі. Што будзе далей, нават праз гадзіну, ніхто ня ведае.

У будынку пад аэрапортам засталіся сябры. Спачатку там адключылі газ. Потым ваду са сьвятлом. Сувязь зь імі мы страцілі на пяты дзень вайны, кантакту няма нават праз SMS.

Мозак вельмі хутка ўключаецца ў рэаліі. Сын у пустым двары залез на горку, калашмаціць па ёй ботамі з гучным рэхам. Першая думка: гучыць, як стрэлы.

Вайна вучыць быць кансэрватарам: слухаць радыё (бо тэлевізар амаль два дні паказваў толькі „сьнег“), пячы хлеб (бо ў краме даўно разабралі і больш ня будзе), зычыць сьмерці марадэрам.

На шосты дзень вайны на вуліцы да групы людзей падыходзіць дзядок: „В мене є вино та шампанське. Можете поміняти на пачку цукру?“. Інтэрнэту няма, таму ад банкаўскіх картак ніякай карысьці. Банкаматаў з грашыма ў ваколіцах няма. Крама з рэшткамі запасаў прымае толькі гатоўку. Між будынкамі праехаў бусік, людзям раздалі дзіцячае харчаваньне, нешта яшчэ першай неабходнасьці. У кагосьці ў вачах яшчэ той страх, як у першы дзень. Нехта прызвычаіўся і ўсе гэтыя дні па даўно заведзеным графіку выгульвае свайго сабачку.

Уначы неба мае барвовы колер ад навакольных пажараў пасьля таго, як нашы расьфігачылі расейскія калёны. Ва ўсіх вокнах цёмна. Пэрыядычна, дзень і ноч, то здалёк, то паблізу гучыць арта.

24 лютага

## НА ВАКЗАЛЕ БЫЛО ПОЎНАЕ АДЧУВАНЬНЕ ВАЙНЫ

*Яўгенія Доўгая:*

Мы пераехалі ў Кіеў празь перасьлед на радзіме. Цяпер давялося ўцякаць з-пад куляў разам зь дзесяцігадовай дачкой Сашай.

У мяне пытаюцца: „Як ты?“. І я цяпер адказваю: „Не мачуся ў штаны“. Гэта ўжо добра, бо было нават і такое ад нэрваў і страху. Ледзь-ледзь сплю. Але і гэта, напэўна, ужо лепш.

У ноч з 23 на 24 лютага зусім ня спала, была вельмі ўстрывожаная. Я маніторыла навіны, і як толькі Пуцін сказаў, што пачынае ваенную апэрацыю, то, як па пстрычцы, як па будзільніку, пачаліся выбухі па ўсім Кіеве. Спачатку я думала, што гэта нейкі салют, але потым зразумела, што гэта сапраўдныя выбухі.

Станцыі кіеўскага мэтро сталі бамбасховішчамі, мэтро спыніла перавозку людзей. А 5-й раніцы я пачала шукаць квіткі хоць куды-небудзь, каб выехаць з дачкой.

Усё проста ў адно імгненьне разабралі. Выбухі былі рэдкія, але вокны дрыжалі. Наш дом выходзіў на акружную дарогу, быў відаць велізарны затор на выезьдзе з гораду. У Кіеве жыве мая цётка, я пачала званіць ёй, прасіла адвезьці нас у Львоў, да мяжы ці хаця б да мэтро, каб мы схаваліся, бо бамбасховішчы ў нашым раёне ненадзейныя. Цётка абяцала дапамагчы, але ўвечары сказала, што

едзе з гораду зь сям'ёй і ў машыне няма месца. І на наступную раніцу каля ейнага дома ўпаў снарад.

Наступную ноч я зноў ня спала. Разабрала ложак, закрыла матрацамі вокны ў пакоі, а іншыя заляпіла скотчам, каб аскепкі не разьляталіся ад выбуху.

Мы з Сашкай спалі бліжэй да калідору; нашы суседзі адкрылі падвал, каб у выпадку трывогі мы спускаліся туды. Гэта была жудасная ноч, камэндандцкі час, страшна: цішыня вакол, і ты чуеш грукат тракаў, бо танкі едуць пад тваім вакном. Сашка трохі паспала, я больш была ў дрымоце, прыслухоўвалася да ўсяго, выходзіла да суседзяў.

Я разумела, што нельга надоўга заставацца ў кватэры і трэба ехаць да суседняй станцыі мэтро.

Выбегла на дарогу і стала крычаць усім машынам: „Падвязіце нас!“. Мужчына давёз нас да мэтро, там я пабачыла мноства добраахвотнікаў, якім раздавалі зброю. На станцыях людзей было менш, але ўсе зь дзецьмі малымі, сабакамі, катамі, рыбкамі. Хтосьці нават намёты ставіў проста ў мэтро. Сашы было вельмі трывожна. Потым нам пазванілі з Free Belarus Centre і сказалі, што на „Жытомірскай“ будзе стаяць аўтобус, на якім можна даехаць да польскай мяжы.

Зь дзіцем і валізкамі я пайшла праз горад, каб пасьпець на аўтобус. Было вельмі страшна выяжджаць з Кіева — вакол стаялі танкі, шмат расстралянай тэхнікі.

З Кіева да мяжы мы ехалі 23 гадзіны. Я знарок села ля вакна — у нас была з Сашкай інструкцыя, што ў выпадку абстрэлу я яе павінна закрыць. Я ня спала, глядзела ў вокны. Калі сьветла, ты неяк кантралюеш сытуацыю, а ў цемры ты ня ведаеш,

адкуль і што можа прыляцець. Гэта было вельмі страшна.

Так мы даехалі да памежнага пераходу „Шэгені“, але ён быў закрыты, бо перапоўнены: чаргі чакалі больш за 3000 чалавек. Нас падвезьлі на чыгуначны вакзал у Львове — там мелі быць цягнікі на Польшчу.

На вакзале было поўнае адчуваньне вайны. Было настолькі трывожна, здавалася, што ў цябе прыляціць снарад. Усе людзі сварыліся, штурхаліся. Як падышоў цягнік, пачалася жудасная цісканіна, людзі моцна плакалі, крычалі, кідалі свае валізкі на пэроне, на рэйкі. Дзеці падалі, па іх тапталіся людзі. Яшчэ падчас усяго гэтага страшна страціць рэчы, бо ўсё крадуць, зрываюць зь цябе торбы. Прыгожыя, яркія валізкі, куды людзі ўклалі сваё жыцьцё, кідалі на плятформе і на рэйках. Бралі толькі самае дарагое. Пасьпявалі толькі пераноску з катом ці сабакам узяць і заскочыць у вагон.

Ад самага ранку мы чакалі на вакзале магчымасьці сесьці ў цягнік. Але абвясьцілі, што наступны цягнік затрымліваецца.

Дзясятая раніцы, дванаццатая, і абʼяўляюць, што цягнік не прыедзе. І тут Саша пачала крычаць: „Ты мяне падманула! Ён не прыедзе!“.

Яна ляжала на зямлі, крычала: „Я не хачу паміраць, не забівайце мяне! Я нічога не зрабіла, не забівайце мяне! Я вас прашу“.

Я стала тэрмінова шукаць жытло ў Львове, каб перачакаць і супакоіць дачку, у якой здарыўся нэрвовы зрыў. Пакуль мы заставаліся ў горадзе, там безупынна абвяшчалі паветраную трывогу, усе хаваліся ў бамбасховішчы.

Людзі ацэньвалі, як хутка і куды ракета даляціць, рыхтавалі „кактэйлі Молатава“ проста ў бамбасховішчы. Але ўсё роўна вакзал — самае страшнае месца. Там усім пляваць, што ў цябе дзіця, усе ратаваліся як маглі. Старых штурхалі, усе крычалі, у дзяцей былі панічныя атакі, і па іх тапталіся мужчыны.

З дапамогай сяброў мы трапілі ў аўтобус да Кракава, на якім рэлякавалі айцішнікаў. Мы зноў ехалі больш за содні. Падбіралі людзей зь дзецьмі, якія ішлі пешшу. Бачылі, што ля кожнага ўезду ў вёску стаяць барыкады. Украінцы будуць бараніць свае землі. Яны рыхтуюць супрацьтанкавыя „вожыкі“, робяць зь бярвеньня барыкады, стаяць скрыні з „кактэйлямі Молатава“. Жанчыны ў намётах гатуюць палявую ежу для сваіх мужчын і частуюць людзей, якія затрымаліся ў чэргах. Людзі ўсюды з аўтаматамі Калашнікава.

На мяжы я адчула сапраўдную варожасьць, калі памежнік убачыў мой беларускі пашпарт.

Я адразу дастала ўсе дакумэнты пра мае затрыманьні, стала гучна гаварыць: „Я ў 2020-м зьехала, вось што са мной зрабіў Лукашэнка“. Прачытала свае дакумэнты памежніку, ён паставіў штамп у пашпарт. Польскую мяжу мы прайшлі адразу. Памежнікі сталі ўхутваць Сашку ў коўдру, даваць цёплую ежу, бутэрброды, гарбату, какаву. Вельмі шмат валянтэраў стаяла. Але агулам да беларусаў рэзка сталі дрэнна ставіцца. Я ня ведаю, як мы адмыемся. Украінцы не разумеюць, як так, чаму ад нас гэта ляціць. Я тлумачыла, што ў нас два гады тэрору і тое, што людзі выйшлі на выходных, гэта подзьвіг. Але яны не разумеюць абсалютна.

Цяпер мы з Сашай жывём у знаёмых, шукаем жытло.

Пакуль нас прытулілі, накармілі гарачай ежай, я схадзіла ў гарачы душ. Сашцы ўжо лепш, а я ў поўнай разгубленасьці. Я вельмі баялася, ад страху ў мяне зьявіўся энурэз. Я і так была на антыдэпрэсантах, але мяне агледзеў лекар, выпісаў мацнейшыя таблеткі, сказаў, што гэта ўсё пройдзе.

У Кіеве ў мяне засталіся рэчы, частка грошай па дарозе згубілася разам з торбай. Банкаўскую картку мне заблякавалі.

Я ў тэхнічную падтрымку банку напісала: „У мяне на карце 200 эўра, калі вы іх разблякуеце, калі ласка, адпраўце ўкраінскаму народу. Жыве Беларусь! Слава Ўкраіне!“.

Цяпер Саша пайшла да псыхатэрапэўта, а сёньня будзе слухаць Маляваныча. Але мы ў бясьпецы, гэта самае важнае, што можа быць. Гэта жудасна. Гэта такая бессэнсоўная вайна.

---

24 лютага

## ДОЎГА ДАБІРАЛІСЯ ДА ЛЬВОВА

*Алесь Пілецкі:*

Я працаваў фотажурналістам парталу Tut.by у Віцебскай вобласьці. І вось у адзін момант, а гэта было 18 траўня 2021 году, я быў у Менску, вырашыў зайсьці ў офіс Tut.by, павітацца з калегамі. Але мне своечасова патэлефанавалі, папярэдзілі, што офіс узяты „праваахоўнымі органамі“, заблякаваны.

Наступны званок быў ад маіх суседзяў, якія сказалі, што каля дому невядомыя і яны грукаюцца да мяне ў кватэру. У выніку я змог выехаць толькі праз Батумі і 26 траўня апынуўся ў Кіеве. Жонка і двое дзетак засталіся ў Беларусі.

24 лютага, калі пачалася вайна, я прачнуўся ў Кіеве зь першым выбухам, у 5:04. Праз гадзіну ўжо здымаў відэа з ракетай, якая ляціць літаральна над галавой. З Free Belarus Centre мы вырашылі зрабіць co-living месцам збору беларускіх уцекачоў, якіх трэба тэрмінова эвакуаваць з Кіева. Спачатку я хацеў застацца ў горадзе, але вось мы скаардынавалі першы аўтобус, і кіраўніцтва настаяла, каб я пакінуў Кіеў, суправаджаў паездку.

Наша група беларусаў вельмі доўга дабіралася да Львова. Быў вялікі затор, аўтобус спыніўся за 25 кілямэтраў ад мяжы. Некаторыя людзі хацелі пакінуць аўтобус і пайсьці пешшу з торбамі, але было ўжо каля 7-й гадзіны вечара. Таму мы прынялі рашэньне, што ніхто ня пойдзе, усе застануцца ў аўтобусе, бо мінусавая тэмпэратура і невядома, што можа адбыцца. За наступныя пяць гадзін мы праехалі толькі каля 700 мэтраў. Побач з аўтобусам пастаянна ішлі людзі з торбамі, вазкамі, жанчыны зь дзецьмі. Яны грукаліся да нас, прасілі пагрэцца, пераначаваць, але мы некалькі чалавек і так падабралі ў Львове, быў нават праход заняты. Нават жанчынам зь дзецьмі мусілі адмаўляць, бо проста не было месца. Гэта стала для мяне вялікім стрэсам.

У нейкі момант наш кіроўца выехаў на сустрэчную паласу, чаго катэгарычна рабіць нельга, бо дарога вельмі вузкая, двупалосная, і, калі што, машыны не разьмінуцца. Але кіроўца ня спаў

больш за 30 гадзін і быў амаль на нэрвовым зрыве. Нас спыніла паліцыя, але для таго, каб мы пусьцілі жанчыну зь немаўлём у вазку. За гэта паліцыя дала нам зялёны калідор па сустрэчнай паласе, і мы дабраліся да мяжы, нас ужо не спынялі.

Было 2:30 ночы 25 лютага.

Гэта быў жах, пункт быў цалкам запоўнены людзьмі. Натоўп у некалькі тысяч чалавек; ты ня ведаеш, што рабіць, куды рухацца; ты проста нічога ня бачыш праз колькасьць людзей, гэта як стадыён выпусьціць. На вуліцы мінусавая тэмпэратура. Вады, ежы, прыбіральняў і месцаў, дзе можна схавацца, няма. Мы перацякалі з натоўпу ў натоўп. Кантраляваць усе 50 чалавек з нашага аўтобуса было немагчыма, таму я падзяліў усіх на групы, каб кожная рухалася асобна, але блізка адна да адной.

Каля 70% у натоўпе — іншаземцы. Напэўна, гэта былі студэнты зь Індыі і афрыканскіх краін.

Гэта быў поўны трэш. Іншаземцы трэсьлі плот, памежнікі іх разганялі, пачаліся беспарадкі. Але нейкім цудам мы прасунуліся да дзьвярэй. Дзесьці а 2-й гадзіне дня я трапіў у „зялёную зону“, дзе ўжо стаіць чарга на афармленьне дакумэнтаў. Зона прыкладна 20 мэтраў шырынёй і 700 даўжынёй была перапоўненая, там былі бойкі, абурэньні; на некаторы час нават спынілі афармленьне дакумэнтаў, бо чалавек памёр. Адбываўся кашмар: людзі перакідалі валізкі цераз плот, яны разьбіваліся, усе тапталіся па дакумэнтах і тэхніцы.

Калі я трапіў у „зялёную зону“, знайшоў там людзей са сваёй групы.

Украінскія жанчыны зь дзецьмі падыходзілі да нашых дзяўчат, прасілі быць да іх бліжэй, бо

бачылі, што ў нас усё арганізавана, мы трымаемся разам і хлопцы дапамагаюць.

Я і яшчэ некалькі чалавек з маёй групы пачалі дапамагаць памежнікам стрымліваць масу людзей, якія прарываліся ў „зялёную зону“.

Я знаходзіў у пабітых валізках ваду, разьліваў па маленькіх пляшках і аддаваў праз краты. Нашыя хлопцы па-за зонай таксама дапамагалі жанчынам зь дзецьмі праціснуцца да ўваходу. У нейкі момант усё пачало выходзіць з-пад кантролю: людзі сыпаліся цераз калючы дрот, як у фільме жахаў паказваюць зомбі. Выклікалі атрады вайскоўцаў. Памежнікі зрабілі нам павязкі, каб нас можна было адрозьніць. Сьцямнела. Я спрабаваў сьвяціць на сваіх хлопцаў ліхтаром: яны былі ў жудасным стане. Без вады, ежы, стоячы ў натоўпе, яны трацілі прытомнасьць. Я дамовіўся з вайскоўцамі, каб тыя выцягнулі іх з натоўпу і прывялі ў зону з умовай, што яны таксама дапамогуць памежнікам.

Ужо на пашпартным кантролі ў мяне ўзьнікла праблема: не хацелі выпускаць. У мяне выпала чырвонае пасьведчаньне журналіста. Памежніца ўбачыла, вырвала дакумэнты, хвілін 30-40 стаяў і ня ведаў, прапусьцяць мяне ці не. Потым прыйшла начальніца, аддала дакумэнты са словамі: „А чаго ты не сказаў, што дапамагаў нам там?“. Мяне выпусьцілі. Але я прыйшоў у дзікі жах ад таго, як да цябе мяняецца стаўленьне, калі ты паказваеш беларускі пашпарт. Я да апошняга ня верыў, што пачнецца вайна. І мне вельмі крыўдна, шкада, што мы ўцягнутыя ў гэта ўсё.

На польскай тэрыторыі стаялі намёты з гарачай ежай, напоямі, раздавалі SIM-карты, развозілі людзей па розных гарадах. Калі я прыехаў у Варша-

ву, адразу пачаў шукаць людзей, якія маглі згубіцца на мяжы. Высьветлілася, што 8 чалавек з нашай групы адразу паехалі назад у Львоў, як убачылі натоўп. Цяпер я дапамагаю Free Belarus Centre арганізоўваць эвакуацыю беларусаў з Кіева.

---

24 лютага

## ДАТА ШЛЮБУ Ў ТУРМЕ — ДЗЕНЬ ПАЧАТКУ ВАЙНЫ

*Сьвятлана Якубовіч, жонка палітвязьня Станіслава Мачалава:*

Мы хацелі пабрацца шлюбам у прыгожую дату — 22.02.2022. Але для людзей, якія сядзяць у турме, ЗАГС сам выбірае дзень росьпісу. І вось мы сталі мужам і жонкай у першы дзень вайны.

Мы не былі знаёмыя да восені 2020 году, хоць і жылі ў адным раёне. Пасьля выбараў у Гомлі пачаліся масавыя акцыі пратэсту. Многія людзі трапілі пад хапун. Затрымалі і арыштавалі на 15 дзён і Станіслава. Людзі з раёну вырашылі яму дапамагчы зь перадачамі, бо бацькі ягоныя хворыя, ледзьве перасоўваюцца па хаце. Дапамагала арганізаваць перадачу і я.

Пасьля ягонага затрыманьня і „сутак“ мы пазнаёміліся, пачалі размаўляць. Высьветлілася, што ён таксама любіць доўгія пешыя шпацыры, катаньне на ровары. У нас знайшлося шмат агульнага. Ён, як і я, любіць розныя прыгоды. Мне здаецца, мы падобныя ва ўпартасьці, сьмеласьці.

У сакавіку 2021 году мяне затрымала міліцыя, я атрымала 15 дзён арышту. Станіслаў пачаў дапамагаць маёй маці зь перадачамі для мяне. 19 сакавіка мяне вызвалілі, а 24 сакавіка затрымалі яго. Ён таксама адсядзеў 15 дзён.

Цяпер была мая чарга насіць перадачы, бо бацькі Стаса, як я казала, моцна хворыя.

З „сутак“ Станіслаў выйшаў хворы, у яго пачаліся праблемы зь ціскам. Увесь красавік ён лячыўся. У траўні яго схапілі, завялі крымінальную справу за марш, які адбыўся 20 верасьня 2020 году.

Я не магла пакінуць у такі цяжкі час ані яго, ані ягоных бацькоў. Трэба было шукаць адваката, насіць перадачы. І мне, тым больш, ён тады ўжо ня быў абыякавы. Хоць пэрыяду „кветак і цукерак“ у нас не было — мы проста не пасьпелі. Папраўдзе, такія экстрэмальныя ўмовы і паказваюць, чаго варты чалавек. Наколькі ён сьмелы, наколькі ён пасьлядоўны ў сваіх прынцыпах, адказны. Калі мы да яго затрыманьня разам бавілі час, то мне здавалася, што разам мы проста вялізная моц. Мы былі сьмелыя, лёгкія, вясёлыя, энэргічныя разам. У Стасу тады адчувалася адказнасьць, клапатлівасьць. Я адчула, што даўно чакала якраз такога чалавека. Я зь ім адчувала сябе напоўненай, цэльнай.

На судзе Станіслаў не прызнаў віны. Падчас працэсу гучалі доказы кшталту „Меў чырвоны твар і стаў у стойку“. У выніку прысуд — 3 гады калёніі.

Як ні дзіўна, мне далі спатканьне пасьля суду. Стас гаварыў, каб я не перажывала, што ён прадумаў нашу будучыню. Сказаў выбіраць самой, але прапанаваў пабрацца шлюбам. Папраўдзе, мне

раней на гэта намякала адвакатка. Яна казала: „Чаму вы ня жэніцеся?“, відаць, закідала гэта мне зь ягоных словаў. А я адказвала: „Але ён мне не прапаноўваў! Я ж ня буду сама прасіць“. Потым на спатканьні ён спытаў, ці згодная я. Першую прапанову ён напісаў у лісьце, але ліст не дайшоў. Я яго пазьней атрымала. Выйсьці замуж у турме — пра такое я дакладна ня марыла. Але калі ўжо мы так экстрэмальна пазнаёміліся, то давялося экстрэмальна рабіць вясельле. У нас мала было рамантычных сустрэч. Выйшла наадварот: мы спачатку пажаніліся, а потым, пасьля вызваленьня, будуць рамантычныя сустрэчы.

Усе клопаты пра будучы шлюб былі на мне. Трэба было сабраць шмат дакумэнтаў, пабегаць па інстанцыях. Шлюб мы хацелі мець у прыгожую дату — 22.02.2022. Але пры росьпісах у СІЗА дату выбірае ЗАГС. На 22 лютага ў іх было шмат „вольных“ шлюбаў. Таму для пяці „турэмных“ пар прызначылі дату на 24 лютага.

Прычым дзьве пары з нас былі тыя жаніхі і нявесты, якія на момант шлюбу былі абое ў турме. Яшчэ тры нявесты прыйшлі з волі, як я.

Шлюб плянаваўся на 12 гадзін. А шостай я даведалася, што пачалася вайна. Вядома, гэта быў шок. Але Стас чакаў у турме шлюбу. Я была ў ступары, не разумела, што і як цяпер рабіць.

Я рыхтавала строі для сябе і для Стаса. Хацела, каб у такі дзень абое былі прыгожымі. Для сябе знайшла вышыванку. З мужчынскай было складаней.

На той момант многія крамы з нацыянальным адзеньнем ужо не працавалі. Вышыванку знайшла ў слонімскай краме льнянога адзеньня. Замовіла.

Мне яе прыслалі. Але яна не была белай! Мне ж хацелася менавіта белую. Знайшла такую, але з зусім невялікім арнамэнтам, у адной гомельскай краме. Ледзьве яе перадала ў турму, бо чапіліся трохі — чаму вышыванка, для чаго яна тут? Я патлумачыла, што чалавек жэніцца, а вышыванка — гэта ж прадукцыя беларускага прадпрыемства. „А хто нявеста?“ — пацікавіліся яны. Калі сказала, што я, моцна зьдзівіліся, бо раней перадачы падпісвала як ад сяброўкі. Я ім адказала, што сама ў шоку. Урэшце вышыванку яны прынялі.

Яшчэ тая задача была набыць пярсьцёнкі. Я ня ведала памеру пярсьцёнка для Станіслава. Таму ён вымераў свой палец на клетачках з сшытка, даслаў мне ў лісьце. Я з тых клетачак зрабіла такі папяровы пярсьцёнак і пайшла ў ювэлірную краму прымяраць. Я лічу, што гэта пярсьцёнкі больш для заручын, чым вясельля. Урэшце, пярсьцёнкі мусіць жаніх купляць. Стас выйдзе і купіць сапраўдныя.

24 лютага ўжо ўсе ведалі, што пачалася вайна. Тым часам адміністрацыя калёніі асьцерагалася каранавірусу. Мы чакалі ў адмысловым пакоі. Жаніхоў прывялі ў масках. І яшчэ на іх надзелі амапаўскія шлемы, у якіх звычайна ходзяць „касманаўты“ — каб „надзейна“ абараніць іх ад каранавірусу. Стаса завялі ў асобны пакой, пасадзілі за краты ў гэтым шлеме. Нам далі хвілінку паразмаўляць, але нават наблізіцца да яго мне не дазволілі. І толькі пасьля росьпісу, які быў вельмі хуткім, мы абмяняліся пярсьцёнкамі і абняліся на нейкія сэкунды. Ён так і быў у гэтым шлеме „касманаўта“. Стас пазьней пісаў, што так быў ураджаны маім убраньнем, прыгажосьцю, што прасіў даслаць мне здымак у той самай вышыванцы, каб

ён мог уважліва разгледзець. Ён на тым росьпісе быў агаломшаны, у яго рукі трэсьліся.

Вясельле Стас „адзначыў“ у карцары. Яго кінулі туды на тры дні за тое, што наразаў лязом салату. Ён нават ня змог пакаштаваць большасьць усялякай смакаты, якую я яму перадала напярэдадні. Але ён кажа, што ў карцары хоць адпачыў ад храпу сукамэрнікаў і ад цыгарэтнага дыму, бо ў камэры ўсе курылі.

Дзявятага красавіка Станіслаў з гомельскага СІЗА „выбыў“. Дзе ён знаходзіцца, я ня ведала тры тыдні. У папраўчай калёніі, куды яго мусілі накіраваць, адказвалі, што такога няма. Не было яго і ў гомельскай турме.

Я пісала звароты, у тым ліку ў Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў. Гэтая невядомасьць пра ягоны лёс ажно тры тыдні была самай цяжкай за апошнія два гады. Толькі 27 красавіка ад яго прыйшоў першы ліст. Ён цяпер у калёніі „Воўчыя норы“ ў Івацэвічах. Кажа, што асвойваецца. Лісты пасьля вясельля ад яго былі сьветлыя-сьветлыя, цёплыя-цёплыя. Яшчэ на дзень шлюбу ён падрыхтаваў для мяне „валянцінку“. Але ня змог аддаць. Цяпер прыслаў у лістах. Піша, што кахае мяне і моцна сумуе. Я таксама сумую. Яму тэрмін у СІЗА ідзе дзень за паўтара ў калёніі. Я палічыла, што ў канцы 2023 году ён мусіць вярнуцца дахаты. Хацелася б, каб раней. Але што цяпер? Буду чакаць спатканьня зь ім.

24 лютага

## ЦЯГНІК З КІЕВА Ў ЛЬВОЎ

*Аліна:*

Паездка з Кіева ў Львоў была няпростай. З Кіева можна выбрацца толькі на нейкім сваім транспарце або на цягніку. Учора цягнікі ў розных кірунках скасоўвалі і адпраўлялі ў Львоў, усе яны бясплатныя. Я з 10 раніцы стаяла на пэроне і спрабавала трапіць у цягнік, зьехала толькі гадзіны ў 3-4. У адзін зь цягнікоў я не змагла ўлезьці, бо была цісканіна. Калі пад’ехаў цягнік, у людзей пачалася дзікая паніка, яны набіваліся ў вагоны, хтосьці бег па пэроне, у яго вылецелі шкляныя бутэлькі, якія я потым спрабавала сабраць, каб дзіця не звалілася, не паранілася аб аскепкі.

На вакзале было вельмі шмат чарнаскурых іншаземцаў, як я думаю, студэнтаў. Яны нахабна і жорстка сябе паводзілі, стваралі паніку і карысталіся сытуацыяй. Праз гэта я не магла трапіць у цягнік.

Мне проста пашанцавала, бо праваднiца сказала шэптам: „Не адыходзьце, мы вас забяром“.

Іншаземцам было пляваць, што стаялі дзяўчаты, жанчыны зь дзецьмі, яны штурхалі праваднiка. Паліцыі не хапала, бо на кожны ўваход па адным паліцыянце і сотня пасажыраў. Я стаяла каля вагона, і мяне натоўп ледзь не штурхнуў на рэйкі. Адну дзяўчыну мы зь іншымі жанчынамі трымалі ў паветры, бо натоўп ціснуў. А яшчэ ў гэтую шчыліну між вагонам і пэронам падалі валізкі. Людзі штурхаюцца, твая валізка падае, і ты ня можаш

яе дастаць, бо ня трапіш тады ў цягнік. А яшчэ іншаземцы пачалі крычаць: „Push!“, каб іншыя мяне штурхалі. Я думала, што мне гамон будзе, жудасна. Хтосьці яшчэ крычаў, каб усе хаваліся, і, калі людзі разьбягаліся, яны заскоквалі ў цягнік. І гэта страшна, бо калі будзе рэальная трывога, людзі не ўратуюцца.

25 лютага ў Кіеве зьмянілі маршруты амаль усіх цягнікоў і накіравалі іх на Львоў. Мой ішоў з Херсону, машыніста папярэдзілі за гадзіну, што ён едзе ў Львоў. І вось праз некаторы час мы зразумелі, што машыніст едзе старым маршрутам на поўнач, да мяжы зь Беларусьсю. У выніку мы вярталіся назад, мянялі курс і замест пяці гадзін ехалі больш за трынаццаць. Няхай сабе я, але хтосьці ехаў зь дзецьмі, з жывёламі. І вось гэтыя хлопцы-іншаземцы сядзелі ў купэ, а я, дзеці, жанчыны сядзелі ў праходзе, а некаторыя не змаглі праз іх трапіць у цягнік увогуле. Яны наагул не разумелі, што вайна і ўсе гэтыя людзі ратуюцца; хадзілі пастаянна цераз нас, каб выпіць кавы. Я пачала зь імі спрачацца, адзін зь іх пачаў пагражаць траўматам, але мяне падтрымалі іншыя жанчыны.

Мая банкаўская картка заблякаваная: па рашэньні ўкраінскіх уладаў банкаўскія рахункі грамадзян Расеі і Беларусі ва ўкраінскіх банках ня дзейнічаюць. Цяпер я маю гатоўку, таму на першыя дні грошай хопіць.

Я думаю, што наступны тыдзень тут правяду, бо не хачу, калі шчыра, выяжджаць у Польшчу, не хачу нікуды ўцякаць. І разумею, што калі ўцяку, то проста падману сябе. Таму я цяпер у Львове, у сяброў, далей буду спрабаваць дзесьці

спыніцца, скарыстаюся нейкай ініцыятывай, каб тут існаваць.

У Львове і Кіеве людзі добра разумеюць, што адбываецца і што варта рабіць. Недалёка ад нашага дома хтосьці парасклейваў пазнакі для ракет, і хлопец зь дзяўчынай хадзілі і зьдзіралі іх. Няма панікі ў самім горадзе, ёсьць разуменьне сытуацыі, што трэба рабіць. Напружаньне лунае ў паветры. Але ў Львове пакуль яшчэ жыцьцё спакойнае, бо ў апошнюю ноч у Кіеве было цяжка, я прачыніла вакно на выпадак, калі будзе выносіць шыбу ад удару ракет, каб шкло не разрэзала мне твар. Я не хадзіла ў мэтро; потым суседзі сказалі, што там не было месцаў.

У Львове мне спатрэбілася мэдычная дапамога ў шпіталі: я ўпала і пашкодзіла руку. Ад таго, што я беларуска і ваеннае становішча, гэта было даволі нялёгка. Кіраўнікі лякарні правяралі мае дакумэнты, аглядалі рэчы і толькі потым пусьцілі да лекара. Мне зрабілі здымак, агледзелі, забінтавалі акуратна руку, і гэта ўсё бясплатна. Я спытала, ці магу я неяк ім падзякаваць. А лекар адказаў: „Калі хочаце нам дапамагчы, падтрымайце войска, ёсьць розныя фонды“.

---

24 лютага

## ВАЙНА Ў АДЭСЕ ПАЧАЛАСЯ А 5-Й РАНІЦЫ

*Ірына Шарафановіч:*

Я доктар-гематоляг зь Менску. Жыву ў Адэсе са жніўня 2021 году, пераехала з палітычных

прычынаў. У Беларусі звольнілася з працы пасьля забойства Рамана Бандарэнкі.

Гэтае забойства, сьмерць маладога хлопца ўзрушыла мой эмацыйны стан настолькі, што я зразумела — гэта мая чырвоная лінія, пасьля перасячэньня якой я не магу працаваць у сваёй роднай краіне. Гэта мой асабісты страйк, асабісты пратэст. Я вельмі незалежная асоба. На той момант у мяне не было ніякіх плянаў працаўладкаваньня. Але ж ёсьць сябры, і ў сьвеце шмат такіх, як я, беларусаў.

Калі не ўдаецца быць патрэбнай на сваёй радзіме ў такі цяжкі час, я выбіраю Ўкраіну. Не сакрэт, што краіна небагатая, шмат праблемаў з мэдыцынай, таму хачу лячыць украінскіх людзей. Пачуцьцё альтруізму часам прыносіць ня менш радасьці, чым высокія заробкі. І ўрэшце — тут мора і сонца, а я так марыла пажыць на моры, а ня толькі вандраваць і адпачываць на ім.

Працую ў клініцы, ужо маю сваіх пацыентаў. Мне вельмі падабаюцца ўкраінцы: яны ветлівыя, прыязныя і свабодныя людзі. Украінцы прынялі мяне ў сваю супольнасьць, адчынілі дзьверы, як родныя, дапамаглі з жыльлём. Я не адна, са мной працуюць мае калегі зь Беларусі. Я ня вывучыла яшчэ ўкраінскай мовы, але ж гэта ніяк не адбіваецца на якасьці майго жыцьця ва Ўкраіне. Цяпер я магу сказаць: я люблю Ўкраіну! Я люблю Адэсу!

...Вайна ў Адэсе пачалася а 5-й раніцы. Я прачнулася ад моцных ракетных выбухаў. Сыгналілі машыны. Усе мы ведалі з навін пра пляны вайны, усе чакалі. Але ўсё ж адбылося нечакана жахліва, трывожна. Мне гэта нагадала ўрокі гісторыі і літаратуры. Мы раптам апынуліся а 4-й гадзіне 22 чэрвеня 1941: „Усё? Пачалося?“. Я праверыла

навіны, там яшчэ нічога не было. Ці было страшна? Было. Але ні ў кога не было панікі. Сьлёз у мяне таксама не было, у іншых — так. Але ўсе людзі зь першага дня максымальна арганізаваныя, яны прыйшлі на працу, пачалі дзень ва ўмовах ваеннага становішча.

Рашэньне — застацца ва Ўкраіне ці не — я прымала ў першы дзень вайны. Было шмат пацыентаў, шмат працы, стрэсавая сытуацыя. Людзі прыходзілі, як заўсёды, бяз панікі, але ўстрывожаныя, гэта было відаць. Ніхто з маіх пацыентаў не размаўляў пра вайну. Першая рэакцыя — адмаўленьне: хаця б не гаварыць пра гэта. Ніхто не разумеў, а што цяпер. Адзін хворы абняў мяне, дзякаваў, плакаў.

У мяне была магчымасьць паехаць у Польшчу. Але я зразумела: калі паеду з Украіны, не змагу сябе паважаць. Украіна прыняла мяне як родную — з маёй расейскай прафэсійнай мовай, з маёй беларускай нацыянальнасьцю, з маімі праблемамі і маім горам за сваю краіну. Таму цяпер мая чарга. Таксама думкі пра маіх украінскіх пацыентаў, якім я патрэбная цяпер. Адна мая пацыентка — жанчына 29 гадоў, у яе лімфома. Калі ня я, то хто? Я беларуска, я хачу быць разам з украінцамі. Хачу лячыць украінцаў. Хачу жыць тут. І гэта ня проста моцныя словы, гэта маё асэнсаванае рашэньне.

Пакуль у Адэсе абстаноўка адносна спакойная. Горад кантралююць Узброеныя сілы Ўкраіны. Часам адбываюцца выбухі, працуе супрацьпаветраная абарона, чуваць перастрэлкі. Амаль штодзень сырэны паветранай трывогі клічуць нас у бамбасховішча. Мы жывём кожны ў сваёй кватэры, ведаючы, куды бегчы ў час трывогі і бамбаваньня.

Опэрны тэатар абкладзены мяшкамі зь пяском. Гэта нібы 1941 год. Увялі камэнданцкі час з 19 да 6 раніцы. Працуюць прадуктовыя крамы, аптэкі, усе лякарні. Днём працуе транспарт. Таксама працуюць таксісты, некаторыя нават бясплатна. Украінцы вельмі салідарныя.

У клініку, дзе я працую, прывозілі параненых, ня ўсе зь іх выжылі. Наколькі ведаю, шмат параненых і ў Мікалаеве. З 25 лютага абвясьцілі, што патрэбна кроў для параненых. Чэргі ў некалькіх донарскіх пунктах Адэсы былі такія доўгія, што не відаць было канца. Мэдыкі не спраўляліся, працавалі амаль да 3-й гадзіны ночы. Я таксама была донарам. Да нас прыйшоў пажылы чалавек, доктарка спыталася, колькі яму гадоў. Мужчыну было 77. Тады яна сказала: „Дзякуй вам вялікі, але не. Дзякуй за дапамогу, але ж трэба не нашкодзіць і сабе. Беражыце сябе“. Пасьля гэтага дыялёгу людзі правялі воплескамі мужчыну, які прыйшоў быць донарам.

Страх адчуваю, асабліва ў моманты выбухаў: страшна быць адной у кватэры ўначы. Але мы на гэты момант у тыле. І разумеем, які жах адбываецца ў гарадах на лініі фронту. Я працягваю працаваць і лячыць сваіх анкахворых. Таксама арганізавалі онлайн-кансультацыі для тых, хто ня можа прыехаць у ваенны час. Сёньня пляную пачаць курс хіміятэрапіі майму пацыенту зь лімфомай. Адна думка: толькі б не перашкодзіла бамбаваньне. Але трэба рабіць што трэба, і прарвёмся.

Адчуваю і моцны сорам і боль ад таго, што дзяржава Беларусь апынулася на баку агрэсара. Мая краіна, якая перажыла Вялікую айчынную вайну, якая мела шматлікія жорсткія страты ў ба-

рацьбе з фашызмам, сама стала пляцдармам для фашызму. Так балюча, калі зь беларускіх аэрадромаў ляцяць самалёты-забойцы, калі беларускія памежнікі адчынілі браму танкам ворага. На каго? На Ўкраіну! У страшным сьне не прысьніцца. Учора ў мяне спыталіся: „Няўжо беларуская армія пойдзе ў нас страляць?..“

25 лютага беларусам і расейцам заблякавалі карты ўкраінскіх банкаў. Але за грошы мы не перажываем, гэтыя праблемы хутка вырашаюцца ў канкрэтных выпадках — наяўнасьць працы, дазволу на жыхарства. Але непрыемна сябе адчуваць грамадзянінам дзяржавы-агрэсара.

---

24 лютага

## ЗДАВАЛАСЯ, СУ-25 ЗАЛЯЦІЦЬ ДА НАС У ФОРТКУ

*Карына Пацёмкіна:*

У Бучу я пераехала незадоўга перад вайной. З пачаткам баявых дзеяньняў думалі, што ў прыгарадзе будзе спакойна. А сталася наадварот — Буча месьціцца паміж рэгіянальным аэрапортам Гастомель і вайсковай часткай.

У мяне пад вокнамі хадзілі расейскія вайскоўцы з аўтаматамі, езьдзяць БТРы. У нас выбухі зь першага дня, афіцыйна эвакуацыя немагчымая! Былі выпадкі, калі рэальна людзей расстрэльвалі.

Страшна было, калі ляцеў СУ-25, які потым зьбілі. Гэта было зусім побач — мне здалося, што ён да нас у фортку заляціць. Бамбанулі нейкі цэх. Паклалі ўсе платы ў цэнтры. У прыватныя дамы

заяжджалі, а дарогі проста ўсыпаныя гільзамі — і не з аўтамата Калашнікава, а з БТР. Бэтонная сьцяна ўся дзіравая. Дамы бяз дахаў, проста жах.

Спачатку было вельмі страшна. А потым крыху прывыкаеш. Грыміць пастаянна: не было ні дня, ні ночы, каб не грымела. Баі ідуць безупынна, толькі адзін раз гучней, другі цішэй — залежыць ад адлегласьці.

У пэўны момант сталі шукаць магчымасьцяў выехаць з Бучы за грошы.

Яшчэ ў абед адзін чалавек быў гатовы праз дзень забраць васьмярых за 2,5 тысячы даляраў. А ўвечары ён ужо хацеў 5 тысяч даляраў. Выхаду адсюль проста няма. Я пасядзела, падумала — і вырашыла дапамагаць. Працую валянтэрам у мясцовай радзе: каму прадукты паднесьці, каму лекі. Гастомель адрэзаны, туды нават інсулін людзям немагчыма падвезьці.

У мяне і маіх сяброў гісторыі прыезду ва Ўкраіну зьвязаныя з рэпрэсіямі ў Беларусі. Я актывістка з Салігорску. У канцы сьнежня 2021 году, змучыўшыся ад перасьледу, вырашыла выехаць зь Беларусі.

Беларуска-расейскую мяжу пераходзіла нелегальна, праз хмызьняк, лес, балота, якое ўжо падмерзла. Якраз у ноч пасьля Раства — з 25 на 26 сьнежня. З сабой у мяне было каля 200 даляраў, 150 давялося аддаць за дарогу.

Бегчы з краіны, дзе ідзе вайна, — гэта адно; уцякаць з краіны, дзе цябе могуць пасадзіць ні за што, — гэта іншае.

У Кіеве мяне меў сустрэць „чалавек з Салігорску“. Аднак гэтага не адбылося. Ён аказаўся падстаўным — на сувязь не выходзіў, імя і прозьвішча

яго былі несапраўдныя, зьліваў кудысьці нашыя зьвесткі. Я засталася адна, бо раней адмаўлялася ад дапамогі іншых, была перакананая, што зямляк мяне сустрэне, арганізуе начлег.

Часовы прытулак я пазьней знайшла ў доме Алены Жаркевіч, дзе жывуць беларусы-ўцекачы. Потым мы знайшлі кватэру ў Бучы, падпісалі дамову на год і заехалі. Там пазнаёміліся з Тацянай Рабцэвіч, якая таксама ўцякла зь Беларусі. Тыдзень гэтую кватэру „драілі“.

Тацяна была назіральніцай на прэзыдэнцкіх выбарах 2020 году. Яна мае чацьвярых дзяцей: дзяўчат 17 і 13 гадоў і двух хлопчыкаў-блізьнюкоў, якім па 10 гадоў. Без дачок, з гэтымі хлопчыкамі-блізьнятамі Таня ўцякала зь Беларусі нелегальна праз Расею. Іх абстралялі на беларуска-расейскай мяжы. Уявіце — яны стаялі калі куста нерухома цягам трох гадзін. Хлопчыкі жудасна спалохаліся, адзін абгадзіўся. А дзяўчаткі праз два дні яе даганялі з суправаджальнікам. Меншая дзяўчынка ў момант, калі мама ўцякала з краіны, была ў Навінках. Трапіла туды, бо за актыўнасьць маці на яе моцна ціснулі ў школе.

У мяне была магчымасьць пераехаць у Польшчу яшчэ да вайны. Але я вырашыла застацца ва Ўкраіне.

Я якраз да таго часу здала зімовую сэсію (вучуся завочна). Але падумала, што ў Польшчы будзе моўны бар’ер, будзе цяжэй працягваць вучобу. Да таго ж ва Ўкраіне больш рэальна знайсьці добрую працу — гэта лепш, чым я буду працаваць у Польшчы ў нейкім сховішчы.

Я ўжо схадзіла на гутарку — тут адкрываўся супэрмаркет дзьвярэй, беларусы прывезьлі з

сабой бізнэс. І я мела праз чатыры дні выйсьці на працу.

А 24 лютага рана-рана Таня мяне будзіць і кажа: „Карына, апранайся. Вайна“. Я пачула выбухі.

Стаўленьне да беларусаў не зьмянілася. Напрыклад, незнаёмы ўкраінец, даведаўшыся, што я беларуска, аддаў мне банкаўскую картку з грашыма, бо рахункі беларусаў ва Ўкраіне заблякавалі.

Валянтэрская праца такая. Вось заяўкі, якія мы атрымалі 3 сакавіка:

1. Заваліла людзей у суседнім доме, калі ласка, прыяжджайце.

2. У Гастомелі ў падвале 14 чалавек безь нічога (безь сьвятла, ацяпленьня, вады, ежы). Шляхі туды адрэзаныя.

3. У Ворзелі чацьвёра дзяцей у падвале, бацькі загінулі. Дапамажыце.

Вельмі ўзрушыла, калі Таня на другі дзень падняла ўсіх сваіх чацьвярых дзяцей а 5-й раніцы і пасадзіла іх у шэраг да апорнай сьцяны. Сядзець трэба было вельмі ціха, каб чуць, што адбываецца за вакном. І ніводзін зь меншых не заплакаў. У кватэры няма ацяпленьня, дзеці прастудзіліся. Тут толькі адзін цёплы падвал на ўсю Бучу. Нам адключалі электрычнасьць, сувязь. Мы содні ня ведалі, што адбываецца.

Колькі людзей загінула ці завалена ў падвалах, падлічыць немагчыма. Людзі ня могуць паехаць і разабраць завалы, пакуль тут крыху не супакоіцца. Ніхто статыстыкі заваленых і загінулых ня дасьць.

У сераду 2 сакавіка эвакуавалі два вагоны людзей з Ірпяня. Што там адбывалася, проста жах. Але з Бучы людзей немагчыма эвакуаваць.

Да таго ж вакол узарвалі ўсе масты і Буча апынулася як на высьпе. Сувязі з Кіевам няма.

Вось сэлфі, якое я зрабіла 4 сакавіка ў бамбасховішчы. Сёньня абстаноўка стала яшчэ больш небясьпечнай.

Я нікуды не паеду адсюль. Я не дзеля таго прыехала ва Ўкраіну, каб уцякаць ад Пуціна ці ад расейскіх акупантаў. Мяне Бог у цемечка пацалаваў, мяркуючы па тым, што я ўжо перажыла.

Мае сябры з Салігорску перажываюць за мяне. Хочуць прыехаць сюды, каб ваяваць. Угаворваюць усё ж неяк выехаць. Але пасьля таго, як я пабачыла Таніных дзяцей каля сьцяны і Таніны вочы, я сказала, што нікуды не паеду.

---

24 лютага

## ПАСЬЛЯ РЭПРЭСІЙ 2020-ГА ЖЫВУ Ў ЧАРНІГАВЕ

*Ганна:*

Нават пад бомбамі ва Ўкраіне адчуваю сябе больш свабоднай, чым у Беларусі. Я ўцякла сюды пасьля рэпрэсій у 2020 годзе і паўтара года жыву ў Чарнігаве. З пачаткам вайны вырашыла застацца ў горадзе, які цяпер у аблозе, каб дапамагаць людзям.

З пачатку артылерыйскіх абстрэлаў я спусьцілася ў сховішча. Думала, на чатыры гадзіны, буду там дапамагаць. Але адбыла там чатыры дні. Бо там вельмі шмат дзяцей, парадзіхі зь немаўлятамі! Каму трэба памыць дзіця, каму дапамагчы

зварыць кашу; зноў жа, арганізацыя ўсяго — прынесьці, падаць, паразмаўляць, супакоіць.

У ноч з 23 на 24 лютага я сядзела ў інтэрнэце і прачытала ў адным зь беларускіх праўладных тэлеграм-каналаў: „Рыхтуйцеся, нацыкі! Мы прыйдзем да вас а шостай раніцы!“.

Мне стала неспакойна, вядома. Я сядзела ў інтэрнэце і шукала інфармацыю пра тое, што яны напісалі. Было трывожна. І недзе ў 6:30 я адчула, што пачаўся рэальны напад. Яны прарваліся да нас праз чарнобыльскую зону. Спачатку горад проста абстрэльвалі, ішлі баі. Потым пайшлі „Грады“. Было вельмі страшна. Але 3 сакавіка нас пачалі закідваць бомбамі, вось гэтымі ФАП-500. Гэта 500-кіляграмовыя бомбы. Яны могуць разбурыць мікрараён. У нас разьбілі жылыя раёны, тэатар, кардыялёгію, радзільнае аддзяленьне. Гэта проста жах! Кідаць бомбы на радзільню! Гэта месца, дзе мусяць нараджацца людзі, а не паміраць! Маёй лютасьці не было канца. Адзінае, што цешыць, — у нас, апроч сьмерцяў, ёсьць і жыцьці. Бо за гэтыя дзесяць дзён у нас нарадзіліся дзьве трайні! Апошняя трайня была тут тры гады таму. Але жанчыны, якія толькі-толькі нарадзілі, мусяць ісьці зь дзецьмі ў падвал, у сырыя, халодныя сутарэньні!

Цяпер Чарнігаў у аблозе. Я не магу нацешыцца, як моцна згуртаваліся людзі, як яны дапамагаюць адзін аднаму.

Расейцы стралялі па ТЭЦ. Многія раёны ня маюць ацяпленьня, электрычнасьці. Але ўсе дапамагаюць адзін аднаму. Улады вельмі апэратыўна вырашаюць шматлікія пытаньні з рамонтамі ці забесьпячэньнем. Слухайце, у нас нават сьмецьце

вывозяць! Я ўжо не кажу пра вельмі добрую працу ЗСУ і тэрытарыяльнай абароны. Мяне бярэ гонар за іх. Учора тут зьбілі самалёт, пілёт катапультаваўся, але яго тут жа хутка злавілі.

Мне тужліва глядзець на разбураны горад. Усё ў шкле, руіны ад дамоў, разбомбленыя кварталы... За апошнія гады ўсе заўважылі, якім прыгожым стаў Чарнігаў. Усюды новыя ходнікі, фантаны, кветкі ўвесну і ўлетку. І цяпер вось так. Жахліва глядзець. Але гэта проста будынкі, мы гэта адбудуем. Шкада дзяцей, шкада тых, хто страціў блізкіх. У маёй знаёмай загінула ўся сям'я... Муж і двое дзяцей. Ад дома не засталося нічога — проста вырвіна. Яна хадзіла і страшна гукала там: „Дзеці, дзеці!“. Як гэта сэрца можа вытрымаць?

Нянавісьці да сябе як да беларускі я не адчула ў Чарнігаве. Я ўсім тлумачу, што ёсьць беларусы, а ёсьць лукашысты — паміж імі вялікая розьніца. Тым больш цяпер ніхто не працуе, шмат вольнага часу, днямі сядзім у сутарэньнях, то можна і пагутарыць, і патлумачыць. Украінцы, частка зь іх, пра Беларусь мелі такое ўяўленьне: „Там чыста, парадачак, Лукашэнка маладзец“. Цяпер яны мне гавораць, калі я апавядаю пра сытуацыю ў Беларусі, што яны нават не ўяўлялі, які ў нас „парадачак“ і які канцлягер. Я нават на вуліцах размаўляю зь людзьмі і тлумачу нашу сытуацыю. Я кажу, што я этнічная беларуска, але я сама пацярпела ад рэжыму і цяпер я на вашым баку, жыву з вамі і стараюся дапамагаць.

Пасьля чатырох дзён у сховішчы я прыйшла дахаты і проста звалілася на ложак. Нават бамбілі, а я спала — так моцна стамілася. Не фізычна — цяжка выносіць, што столькі малых дзетак

вымушаны сядзець па падвалах. Некаторыя людзі падаюць духам. Але я кажу, што так нельга, падбадзёрваю іх, нават жартую, каб падымаць дух. Таксама тлумачу, што калі Ўкраіна пойдзе ў Эўразьвяз, то тут усё хутка адновіцца. Калі, ня дай Бог, у Расею — тут ДНР здасца проста казкай. Стогнуць тут у асноўным „саўкі". А людзі 40-45 гадоў і моладзь і думаць ня хочуць ні пра які СССР ці „вялікую Расею". Яны жылі ў свабодным сьвеце столькі гадоў! Выбіралі ўладу, скідалі яе. Яны ня хочуць у кабалу.

Я кантактую зь беларусамі, якія жывуць у Беларусі. Мне яны кажуць: „Мы табе зайздросьцім. Ты, хоць Чарнігаў у аблозе, але ў вольнай краіне. А мы тут сядзім і баімся слова сказаць". А я ім кажу: „Мне вас не шкада. Бо вы «хатаскрайнікі» і ня выйшлі ў 2020-м". Я ўцякала ад турмы за мяжу яшчэ да выбараў, бо па мяне прыйшлі, а мне ад блізкай сваячкі ляцела ў сьпіну: „Я буду галасаваць за Лукашэнку!". Я крыкнула: „Ды галасуй ты за каго хочаш!". Цяпер сваякі мне тэлефануюць, каб перадаць нейкія плёткі, што нібыта дзецям ва Ўкраіне раздалі зброю, адчынілі турмы — і гэтую прапагандысцкую лухту яны хочуць данесьці да мяне!

Я буду і далей дапамагаць украінцам. Склаўшы рукі немагчыма сядзець. Адна наша беларуска, якая тут, хадзіла выкопваць шыны, зь якіх раней рабілі „ўпрыгажэньні" ў дварах. Цяпер усё ідзе на абарону. Людзі, якія не ў тэрытарыяльнай абароне, займаюцца гуманітарнымі пытаньнямі, будуюць барыкады і разьліваюць „кактэйлі Молатава". Усе згуртаваныя, ніхто не скарыўся.

24 лютага

## ЗАХРАСЬЛІ Ў ПІЛІПАВІЧАХ

*Леся-Стэфанія Міхалевіч:*

Мы з маім хлопцам Алегам захрасьлі ва ўкраінскай вёсцы Піліпавічы каля Барадзянкі. Мы ўцяклі сюды ад перасьледу на радзіме. Алега пасадзілі на „суткі“ за пратэсты. Падчас допытаў супрацоўнік КГБ сказаў, што можна „прысесьці“ на некалькі гадоў, і пералічыў, што яны могуць дзеля гэтага прыдумаць.

Мы прынялі рашэньне выехаць з краіны. Неўзабаве майму каханаму прапанавалі працу ў Кіеве, акурат па яго спэцыяльнасьці. Да Ўкраіны мы абое заўжды мелі самыя цёплыя пачуцьці, ён з задавальненьнем пагадзіўся. Уся мая вучоба праходзіла ў рэжыме онлайн праз ковідныя абмежаваньні, таму я скарысталася магчымасьцю і паехала зь ім. Адразу ўладкавалася на працу ў кавярню, адпрацавала там восем месяцаў. Неўзабаве да нашай маленькай сям'і далучылася хаскі Лея.

24 лютага, у першы дзень вайны, я прачнулася каля сёмай раніцы ад размовы суседзяў па кватэры.

У кватэры, якую мы наймалі ў Кіеве, быў свабодны пакой, і мы пэрыядычна запрашалі да сябе беларусаў, якія мелі патрэбу ў жытле на першы час у эміграцыі. Я пачула, як яны сказалі: „Пуцін напаў на Ўкраіну“. Перш за ўсё я раззлавалася на сябе, што ўжо даўно хацела чыпаваць сабаку для магчымага выезду за мяжу, але дагэтуль не

зрабіла. У сацсетках было некалькі аднолькавых паведамленьняў ад розных знаёмых: „Леся, як вы?“ і „Пачалося“. Дома ўсе сутаргава гарталі навіны і спрабавалі прыдумаць плян дзеяньняў. Цягам некалькіх гадзін абаіх нашых суседзяў у кватэры ўжо не было — адзін зь іх паехаў у Польшчу, другі — да сям'і ў Беларусь. Мы з Алегам ведалі, што выяжджаць з Украіны ў найбліжэйшыя дні ня будзем.

Нават на выезьдзе з двара, дзе мы жылі, утварыўся вялізны затор, таму мы вырашылі, што спрабаваць выехаць з Кіева ў першы дзень няма сэнсу.

Мы скаапэраваліся з суседам, зь якім разам выгульвалі сабак, зьезьдзілі ў вялікі гіпэрмаркет і адну зь нешматлікіх аптэк, што яшчэ працавалі. Закупляліся, я б сказала, без асаблівага фанатызму, асабліва харчамі. Чамусьці здавалася, што хутка ўсё павінна скончыцца.

Ужо на наступную ноч я пачула выбухі на вышыні 14-га паверха і зразумела, што ў Кіеве заставацца небясьпечна.

Раніцай мы нейкім цудам выклікалі таксоўку па максымальным тарыфе, схапілі валізку з дакумэнтамі, лекамі і кормам для сабакі і паехалі на лецішча да сяброў. Атрымалася, што мы выехалі за гадзіну да першай паветранай трывогі ў Кіеве. Саміх сяброў у вёсцы не было, бо на той момант гэтая сям'я з дваімі дзецьмі ўжо ехала ў Івана-Франкоўск. Мы спыніліся ў іхных сваякоў у вёсцы Піліпавічы, што ў Барадзянскім раёне. Вось цяпер мы тут зь цешчай нашага сябра і ейнай сяброўкай. Акрамя нашага сабакі, у цудоўных бабуль, што нас прытулілі, тут яшчэ два сабакі, два каты і хамячок.

Сытуацыя ў Піліпавічах вельмі цяжкая. Тут ёсьць сем'і, у якіх скончылася ежа. Шмат уцекачоў затрымаліся тут. Мясцовыя аказваюць усю магчымую падтрымку адно аднаму, але з кожным днём сытуацыя ўсё горшая. Барадзянка, наш райцэнтар, зьнішчаная. Расейскія войскі ці то са злосьці, ці то са страху суткі абстрэльвалі жылыя дамы. У горадзе катастрофа. У многіх навакольных мястэчках стаяць расейцы. Да нас даходзяць толькі чуткі, змрочныя чуткі. У Макараве, другім блізкім райцэнтры, ідуць баі. Горад пераходзіць з рук у рукі. Сёньня ён, як мне вядома, акупаваны. Клаўдзіева, найбліжэйшы да нас горад, вольны. Аднак рэсурсы гораду вычарпаныя; усе, хто мог выехаць, паехалі і працягваюць выяжджаць.

У Піліпавічах зусім няма ні электрыкі, ні ацяпленьня. Неўзабаве ўзьнікнуць складанасьці зь пітной вадой.

На шчасьце, мы ў вёсцы і ваду для побытавых патрэб можна набраць з калодзежа. Каб падтрымліваць хоць якую сувязь з вонкавым сьветам, некаторыя людзі карыстаюцца генэратарамі. Дзякуючы генэратару, які ўключаецца на гадзіну ці паўтары, мы маем магчымасьць зарадзіць тэлефоны і набраць пітной вады ў суседзяў, якім гэты генэратар і належыць. Але паліва павінна днямі скончыцца і мы застанёмся зусім бяз сувязі і безь пітной вады.

Фізычна я пакуль у парадку, хоць ночы без ацяпленьня, калі тэмпэратура даходзіць да мінус 10 градусаў, даюць пра сябе знаць.

Маральна зьнясілела ад спробаў знайсьці магчымасьць выехаць зь Піліпавічаў, дзе становіцца ўсё небясьпечней. Стамілася ад вайны, ад выбухаў і няпэўнасьці. Зранку гатовая рабіць

усё, што трэба, каб пазбавіцца думак пра падзеі: гатую, прыбіраю, чытаю кніжкі, па магчымасьці камунікую з блізкімі. Увечары заўжды складана і вельмі хочацца дамоў.

Харчы ў нас пакуль ёсьць, але неўзабаве могуць скончыцца. Дзякуй бабулям, якія мелі запасы крупаў, мукі, яек і якія ўсё ж такі з году ў год робяць хатнія нарыхтоўкі — гэтым у асноўным і сілкуемся. У самой вёсцы сытуацыя з харчамі складаная: паліцы ў крамах зусім пустыя, хлеб у якасьці гуманітарнай дапамогі прывозілі адзін раз і на ўсіх яго, відавочна, не хапіла.

Пажылым людзям складана: ціск, сэрца, хранічныя захворваньні. На пачатку тыдня суседка хадзіла пешкі ў суседнюю вёску, каб хоць нешта купіць там, але аптэка была зачыненая. Як і ўсе крамы, бо прадаваць, пэўна, ужо няма чаго. Ці будзе пітная вада, цалкам залежыць ад працы генэратара, паліва для якога амаль не засталося.

З намі дзеляцца ежай: бульбай, тым самым хлебам, што аднойчы прывозілі, мэдыкамэнтамі, калі ёсьць такая магчымасьць. Хацелася б самім дапамагаць таксама, і мы стараемся: мой хлопец уступіў у тэрытарыяльную абарону вёскі, развозіў лекі параненым, стараўся знаходзіць у хаце ўсё, у чым у жыхароў была патрэба. Я прапаноўвала дапамогу ў мясцовай краме на момант, калі там яшчэ былі нейкія прадукты. Але паколькі мы грамадзяне краіны-агрэсара, нават калі да нас ставяцца прыхільна, усё адно адчуваецца насьцярожанасьць. І жыхары так ці інакш трымаюць дыстанцыю.

Мы ня можам эвакуавацца зь Піліпавічаў, бо гэты пункт у любы момант можа стаць эпіцэнтрам падзей, у віры якіх усе населеныя пункты навокал.

Калі расейскае войска разьбіваюць, салдаты ўцякаюць у навакольныя лясы, адкуль пасьля страляюць па машынах мірных жыхароў. Гэта адна з прычын, чаму да нас у пэўны момант не даехала нават гуманітарная дапамога і чаму мы нават тэарэтычна ня можам пешкі дайсьці да трасы і сесьці ў эвакуацыйны аўтобус, які едзе з Кіева: і мы маем усе шанцы не дайсьці, і аўтобусы такім маршрутам цяпер ня езьдзяць. Мы прапаноўвалі грошы, каб нас адвезьлі хаця б да суседняй вёскі, адкуль у нас ёсьць тэарэтычная магчымасьць неяк выбрацца, але людзі нічога ня могуць за гэтыя грошы прапанаваць — проста няма паліва, а потым, пры ўсім жаданьні, нічога ня змогуць за іх купіць.

Учора мы даведаліся, што людзі з суседняй вёскі зьбіраюць свае машыны ў калёны штук па дзесяць, каб выехаць з акупаванай тэрыторыі.

Па дарозе расейцы ў іх забіраюць і разьбіваюць тэлефоны, ноўтбукі, але праехаць, у тэорыі, можна. І мы ўчора зьбіраліся неяк заплянаваць, каб сёньня ранкам паехаць. Праблема ў тым, што гэтая калёна выяжджае а 7-й раніцы, максымум а 8-й. Але даехаць да калёны мы ня можам — няма паліва, нават за грошы нас не дакінуць. І пешкі пайсьці ня можам, бо камэнданцкі час да 7 раніцы, а ісьці туды больш за гадзіну. Адпаведна, мы выходзім, калі камэнданцкі час яшчэ дзейнічае, і тады нас нават свае могуць прыстрэліць, а пасьля ніхто нават разьбірацца ня будзе, якой халеры мы выйшлі ў такі час. І вось атрымліваецца, што варыянт такі быццам ёсьць, але рэалізаваць яго немагчыма.

24 лютага

## ХАЧУ ВЯРНУЦЦА Ў ХАРКАЎ

*Алеся Абозная:*

Я нарадзілася на Магілёўшчыне, але ўжо 20 гадоў жыву ва Ўкраіне, маю ўкраінскі пашпарт. Працую сямейным і дзіцячым псыхолягам, карэкцыйным пэдагогам. У Харкаве маю ўласную студыю творчасьці і псыхалёгіі зь беларускай назвай „Калі ласка“. Выхоўваю 12-гадовага сына Барыслава і да 24 лютага вяла спакойнае жыцьцё.

І раптам... Мне пазванілі раніцай а сёмай, сказалі: „У нас пачалася вайна“, а я адказала: „Вы жартуеце“. І расказалі, што ўжо чуваць выбухі, страляніна. Гэта быў шок, а мне трэба на працу. Я не разумела, што такое вайна, бо я ніколі не жыла ва ўмовах вайны. Харкаў на мяжы з Расеяй, і нас абстрэльвалі з боку Белгараду. У наступныя дні ўсё толькі пагаршалася, пачалі яшчэ больш страляць і бамбіць, і я ўжо бачыла ўсё гэта сама.

Дом, дзе я жыву, каля белгарадзкай шашы. Я наўмысна пайшла туды, каб на ўласныя вочы пераканацца, што адбываецца.

Там ужо стаяла спаленая расейская тэхніка. Я падышла да вайскоўцаў і спыталася: „Хлопцы, што тут адбываецца?“ А яны кажуць: „Вось расейская тэхніка“. Я спытала: „А як вы зразумелі, што гэта расейцы?“ І мне паказалі машыну, сказалі, што яна з Мурманску, там ляжалі нумары. Відаць, кіроўца яе кінуў, бо ня ведаў, куды ехаць. І так ня раз было. Кідаюць танкі і ўцякаюць. Я бачыла расейскіх салдатаў, але яны былі мёртвыя.

Я жыву ў раёне Пяціхаткі. У гэтым раёне месьціцца Харкаўскі фізыка-тэхнічны інстытут. Менавіта сядзібу навучальнай установы расейская армія выбрала сабе як цэль.

Інстытут цалкам разбамбілі і падпалілі. Я на ўласныя вочы бачыла, як гарэў будынак. Пазьней абстралялі дзіцячую лякарню, школу, стралялі па дамах. І з кожным днём усё больш і больш. Калі цяпер прайсьціся па нашым раёне, то палова будынкаў ня мае вокнаў. Ляцяць „Грады“, відаць нават было, як зьбіваюць самалёты. Усё гэта адбываецца на нашых вачах. Я жыву на восьмым паверсе. Усё выбухае, трэба ўцякаць у падвал, бо калі сядзець на восьмым паверсе, то вялікая імавернасьць, што загінеш.

Расейцы такімі абстрэламі стараюцца дэмаралізаваць насельніцтва гораду, каб мірныя жыхары паўплывалі на вайскоўцаў, каб тыя здалі Харкаў. Але гэтага ня будзе. Мы ня хочам, каб Харкаў стаў часткай Расеі.

Функцыянаваньне гораду моцна парушанае. У нас жыхарам, якія апынуліся ў цяжкой сытуацыі, дапамагаюць валянтэры. Яны забясьпечваюць прадуктамі, лекамі, дапамагаюць старым людзям.

Пасьля пачатку вайны я ўжо мела зносіны са сваякамі ў Беларусі. Яны гавораць, што мы тут замбаваныя. Нават сястра мая так кажа. Праўда, частка сваякоў прызнае, што я маю рацыю, бо яны жывуць у горадзе недалёка ад мяжы, куды кожныя 30 хвілін прылятаюць самалёты, і яны на ўласныя вочы бачаць расейскую вайсковую тэхніку. І гэтыя танкі потым ідуць на нас. Я вельмі баюся, што ва Ўкраіну пойдуць і беларускія салдаты. Я хачу, каб беларусы ня страцілі адэкватнасьці толькі таму,

што яны скажона ўспрымаюць інфармацыю. У маёй студыі ў Харкаве вісіць беларускі дзяржаўны сьцяг, беларуская назва і тэкст гімну. Мне будзе вельмі сорамна, калі беларусы далучацца да расейцаў.

Падобныя размовы ў мяне былі і з расейцамі. Яны даводзілі, што такім чынам помсьцяць за „спаленую Адэсу“, прэвэнтыўна атакуюць, каб Украіна не напала на Расею, або спрабуюць перашкодзіць Украіне стварыць ядзерную зброю.

Ну гэта ж нейкі абсурд. Пачынаюць гаварыць, што я замбаваная, што мы тут нацысты. Слухайце, я дзесяць гадоў не гляджу тэлевізар, увесь час працую. Харкаў — гэта Ўкраіна, але гэта расейскамоўны горад. Я сама расейскамоўная, не размаўляю па-ўкраінску, і ніколі да мяне ніхто не прыйшоў і не сказаў: „Алеся, пераходзь на ўкраінскую мову“. Я ежджу на розныя сустрэчы ў заходняй Украіне, выходжу ў залю і кажу: „Я размаўляю з вамі па-расейску не таму, што я не хачу размаўляць на ўкраінскай, а таму, што я яе ня ведаю“. І ўсе пераходзяць на расейскую мову, нават калі камусьці было складана. Ані разу ў жыцьці мяне ва Ўкраіне не папракнулі за расейскую мову.

У аўторак мы з сынам прыехалі з Харкава на захад Украіны. Складана было даехаць нават да вакзала, бо ішлі абстрэлы. Цяжка было таксама сесьці на цягнік, які ў выніку ехаў аб’ездамі, каб ня трапіць пад бомбы.

Майму сыну 12 гадоў. Спачатку ён быў у шоку, але зь цягам часу стаў разумець, што гэта праўда, і нібыта зь сябрам зьбіраўся нават на вайну, але яму ўсяго 12. Падлеткам цяпер вельмі складана, гэта моцна ўплывае на псыхіку. Яны разумеюць,

што яны нешта павінны зрабіць і ня робяць. Яны моцна закрываюцца. Як псыхоляг магу сказаць, што праз некаторы час у іх будуць сур'ёзныя наступствы. Ня толькі для падлеткаў, але і дарослых, і маленькіх.

Я хачу вярнуцца ў Харкаў, калі ўсё скончыцца і там ізноў будзе бясьпечна. Але сумняваюся, што канфлікт міне хутка.

Вельмі шмат сьмерцяў. Харкаў зьнішчаны. Як пасьля гэтага ўкраінцы будуць ставіцца да расейцаў? У маім раёне забілі дваццаць чалавек, толькі на сёньня. Як пасьля такога расейцы прыйдуць і мы будзем абдымацца? Сёньня гэтае пытаньне нават не абмяркоўваецца. Расея прынесла нам столькі сьлёз, гора. Як пасьля такога яна будзе братам? Але Ўкраіна выстаіць. Мы будзем бараніцца да канца.

---

27 лютага

## УСІМ ПАЧАЎ ЗАПРАЎЛЯЦЬ АМАП*

*Антон:*

Мяне схапілі яшчэ 17 лютага. КГБ правёўператрус, забралі тэхніку, дапыталі. За рэпост „экстрэмізму“ я атрымаў 13 сутак. Думаю, што гэта было прэвэнтыўнае затрыманьне перад так

* *27 лютага больш за 800 чалавек затрымалі за ўдзел у антываенных акцыях у Беларусі. Пакараньне для большасьці было стандартнае — 15 дзён арышту.*

званым рэфэрэндумам, бо я ўжо трапляў пад затрыманьні ў 2020 годзе. Разам са мной у камэры сядзелі праграмісты — за нібыта „дробнае хуліганства“. Людзей масава затрымлівалі па такой схеме: выклікалі на прафіляктычную гутарку да ўчастковага, складалі пратакол за „дробнае хуліганства“ і адпраўлялі на „суткі“.

У камэры, разьлічанай на чатырох чалавек, сядзелі ад 10 да 16 затрыманых. Матрацаў, бялізны не было, ноччу падымалі на „пераклічкі“.

27 лютага мы пачулі шум. Прыехалі аўтазакі. Канвой у ізалятары „самаліквідаваўся“. Усім пачаў запраўляць амап. Людзей заводзілі ў калідор і моцна білі. Мы чулі страшныя крыкі адтуль. Білі, напрыклад, за тое, што „няправільна“ стаялі ў стойцы. У камэры на чатырох іх было па дваццаць чалавек. Да нас іх ня кінулі. У нас толькі быў адзін моцна пабіты чалавек — усе ногі і ягадзіцы сінія былі пасьля візыту губазіку. Ён адмовіўся запісвацца ў „палонным“ відэа.

*Дзяніс:*

27 лютага я прагаласаваў на сваім участку і вырашыў прагуляцца са знаёмымі па праспэкце Незалежнасьці. У жанчын на сумачках былі маленькія жоўта-блакітныя стужкі.

Ня ведаю, ці гэта было прычынай затрыманьня. Я шчыра не зьбіраўся на акцыю, бо ўжо быў на „сутках“ і не хацеў туды зноў. Але каля нас спыніўся мікрааўтобус, выскачылі амапаўцы і нас павезьлі спачатку ў Цэнтральны, адтуль у Партызанскі РУУС. На мяне склалі пратакол. Нібыта я крычаў „Не — вайне“ і „Не — канстытуцыйнаму

рэфэрэндуму“. На судзе выступаў „штатны сьведка“ — міліцыянт з Партызанскага пастарунку, які чуў нібыта, што я крычаў. Ён сьведчыў на мноства людзей. Я атрымаў 15 дзён арышту. Пакараньне адбываў у Жодзіне.

Прымалі нас там даволі жорстка, білі. Але не скажу, што моцна. Больш каб прыстрашыць. Размаўлялі яны мацюкамі. Крычалі на нас featuresрознае. У тым ліку і „Дзе вы былі восем гадоў, калі нашых людзей забівалі на Данбасе?“. У камэры на чатырох нас было 16 чалавек — роўна ў чатыры разы больш. Камэра была 12 квадратных мэтраў. Значыць, на чалавека не было і мэтра. Натуральна, ані перадач, ані падушак, бялізны, матрацаў. Не было нават туалетнай паперы. Ваду пілі з-пад крана.

4 сакавіка адзначаецца Дзень беларускай міліцыі. Не прапусьцілі сьвята і канвойныя.

Яны сьвяткавалі так: сярод ночы выцягвалі людзей з камэр (тых, якія ці абураліся раней, ці скардзіліся, ці проста ім не падабаліся), адводзілі ў душ і білі там. Да нас уварваліся ноччу, паклалі тварамі ў падлогу, бегалі па нас, тапталіся, білі. Але было адчуваньне, што рабілі гэта не на ўсю моц, а так, быццам адпрацоўвалі ўказаньне зьверху. Крычалі, абражалі… Такое адчуваньне было, што гэта нейкая калгасная бойка.

Людзі ў камэры адрозьнівалася ад тых, з кім я сядзеў у 2020 годзе за ўдзел у акцыях. Каля трэціны было выпадковых. Тыя, хто выходзіў з тралейбуса, ішоў у кіно, трапіў выпадкова ў месца „зачысткі“. Яны далёкія ад палітыкі. Сваё затрыманьне ацэньвалі як няшчасны выпадак. Пасьля „сутак“, сказалі, што будуць больш пільнымі ці

зьедуць з краіны. Былі ў нас людзі, якіх мы называлі „фатографамі“. Гэта тыя, хто сфатаграфаваў бюлетэнь, а старшыня камісіі, пачуўшы, што тэлефон шчоўкнуў, выклікаў міліцыю. Была група тых, каго ўзялі яшчэ да рэфэрэндуму. Гэта работнікі паліграфічных фірмаў — на іх перад рэфэрэндумам была аблава, шукалі тых, хто можа рабіць улёткі. Была група, каго ўзялі за кветкі ля ўкраінскай амбасады. Былі тыя, каго ўзялі сем'ямі — мужа з жонкай, братоў, маці і сына.

У мяне склалася ўражаньне, што з трох групаў канвойных, якія кожныя тры дні зьмяняліся, толькі адна група была надта жорсткай: не давалі сядзець на ложках, абражалі, білі. Астатнія былі, здаецца, адэкватнымі. Дазвалялі нават адчыніць вакно, давалі паперу. Першая група, самая жорсткая, была ў масках. Дзьве астатнія бяз масак, яны паводзілі сябе нармальна.

*Віктар:*

27 лютага я прагаласаваў у менскай школе. На бюлетэні пакінуў надпіс, але рабіў гэта не дэманстратыўна.

Можа быць, у камісіі нехта заўважыў, ня ведаю. Але да мяне падышлі двое ў цывільным і павезьлі мяне „пагутарыць“. У пастарунку склалі ліпавы пратакол, што я крычаў — нават ня там, дзе мяне затрымалі, — „Жыве Беларусь“, „Слава Украіне“ і „Не — вайне“. Першую ноч я правёў на Акрэсьціна ў камэры, дзе на шэсьць месцаў было 14 чалавек. Прычым там было шмат сьмецьця і клапы. На другую ноч, пасьля суду, нас запхнулі ў камэру сорак чалавек! Там правялі ноч — і нас павезьлі на Жодзіна.

Я атрымаў 15 сутак. У камэры ў Жодзіне, разьлічанай на восем чалавек, сядзелі 32. Ні матрацаў, нічога. Жалезныя нары, халодная падлога з пліткі. Стаялі, сядзелі, спалі па чарзе. Туалетную паперу далі адзін раз. Другі раз у якасьці яе далі газэту „СБ. Беларусь сегодня“. Канвойныя былі ў балаклавах. Калі ім нехта не падабаўся, выводзілі ноччу і білі. Ім не падабаліся тыя, хто абураўся; не падабаліся тыя, хто меў пафарбаваныя валасы ці быў спартоўцам або выхаваным чалавекам. Яны і маральна зьдзекаваліся, і білі. Прымушалі прысядаць, скакаць. Неяк нас павялі ў душ — 60 чалавек на чатыры кабінкі з адным кавалачкам мыла. Вада была халаднаватая. Мы там таўкліся, аж раптам канвойны адчыніў душ і заліў нас газам. Ён нічога не тлумачыў. Можа быць, мы шумелі і яму не спадабалася. У людзей пякло ў вачах, яны кашлялі, некаторыя атрымалі апёкі.

У міліцыянтаў ужо разьвілася нейкая клясавая нянавісьць да затрыманых. Сябе яны лічаць прывілеяванай кастай. Лічаць, што ім усё дазволена. Яны б’юць людзей ад асабістай непрыязі, гэта такі „мусорской беспредел“. Нам было цяжка, бо мы ня ведалі ніякіх навін. Але разумелі: калі б на вайне адбылося нешта такое, што іх парадавала б, то яны б абавязкова данесьлі гэта нам, каб пазьдзекавацца. Яны стараюцца зламаць чалавека, прынізіць — для іх гэта задавальненьне. Але мы ўсьміхаліся, падтрымлівалі адзін аднаго, а яны моцна на гэта злаваліся.

Пасьля адбыцьця „сутак“ людзі недалічыліся сваіх рэчаў. Хто вопраткі, хто — ноўтбука. Іх не было ў апісаньні рэчаў, іх проста скідалі ў пакеты. Потым людзі ўжо сваіх рэчаў не вярнулі.

28 лютага

## У ПРАТАКОЛЕ НАПІСАЛІ: „КРЫЧАЛА «НЕ — ВАЙНЕ!»“

*Натальля Дуліна:*

Меркавалася, што 28 лютага ў Менску адбудзецца акцыя супраць вайны ва Ўкраіне. Мы хацелі сабрацца на Прывакзальнай плошчы. Мая сяброўка, якая працуе побач з вакзалам, сказала, што ўсё вакол абкладзена ціхарамі. Я купіла квіток да Маладэчна, адразу заўважыла шмат ціхароў. Каля мэтро стаялі аўтазакі і бусы. І тут мы бачым, як гэтая „чорная зграя“ схапіла хлопчыка. А ў мяне ў такія хвіліны зьяўляецца нейкая лютасьць і я не магу ўжо сябе кантраляваць, мой інстынкт самазахаваньня не працуе. Я пачала крычаць, каб яго адпусьцілі, схапілася за дзьверцы буса. І мяне, і маю знаёмую адвезьлі ў Заводзкі пастарунак.

У пратаколе было напісана, што я стаяла ў натоўпе, крычала „Не — вайне!“ і „Слава Ўкраіне!“. Я, натуральна, запярэчыла, што гэта няпраўда. І напісала, як усё было папраўдзе. Супрацоўнікі пачалі правяраць у затрыманых тэлефоны. Хто яны — звычайныя міліцыянты з РУУС ці з губазіку — я не зразумела.

Яны паводзілі сябе вельмі нахабна, такі сьцёб у іх быў: мне сказалі, маўляў, „вы ўжо на заходзе свайго жыцьця“, „а ці не стаіце вы на ўліку ў псыхіятра?“ Я, вядома ж, адказвала ім адпаведна, з выклікам. Нейкая разьюшанасьць мяне тады зноў накрыла. У РУУСе запыталіся, у каго ёсьць

квіткі на цягнікі. У мяне якраз квіток быў, да Маладэчна, бо мой муж знаходзіцца ў Вялейцы. Але гэты квіток мне не дапамог. Наадварот, калі яны зайшлі ў сваю базу і пабачылі, што я раней ужо затрымлівалася, пачалі іранізаваць, што я апрыёры вінаватая.

Потым затрыманых павезьлі ў Цэнтар ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсьціна. У камэры на дваіх разьмясьцілі 17 чалавек. Ракавіны ў камэры не было, замест яе — сьметніца, кран тырчаў са сьцяны. Было вельмі нязручна бяз ракавіны, калі трэба выліваць ваду ў прыбіральню.

Было вельмі горача. Спалі на падлозе. Звычайна да суду людзей ня кормяць, нібыта яшчэ ня ставяць на „довольствие“. Праўда, і грошай за ўтрыманьне ў гэтыя дні не бяруць. Суд адбыўся толькі на трэці дзень. Уявіце, проста на падвоканьні ў калідоры стаяў ноўтбук. Судзьдзя запытаўся: „Навошта вы ўмешваліся ў працу супрацоўнікаў міліцыі?“ — „Я грамадзянка Беларусі, дзяржаўныя органы служаць народу, і я як прадстаўніца народу маю права ведаць, як яны працуюць“.

Сьведка быў у капюшоне і масцы. Ён нічога ня памятаў: ні дзе я была, у якім натоўпе, хто быў побач са мной. Судзьдзя нават не зрабіў перапынку, каб падрыхтаваць рашэньне, адразу вынес вырак — 15 сутак.

Потым палітычных перавялі ў іншую камэру, разьлічаную ўжо на шасьцярых, але пастаянна людзей дабаўлялі. Колькасьць насельнікаў даходзіла да 25. У гэтай камэры таксама была душагубка, „кармушкі“ часта не адчынялі, дыхаць было цяжка. Кінулі нам у камэру „коціка“ — знакамітую бамжыху Алу Ільлінічну, якую часьцяком

падсялялі да палітычных. Але ўсе дзяўчаты былі вельмі адукаваныя, эрудыткі, клясныя! Як прынята ў палітычных, мы сьпявалі, гулялі ў гульні, размаўлялі.

З намі сядзела прафэсарка філялёгіі з БДУ Ала Кожынава. Мы зь ёй чыталі лекцыі дзяўчатам па мове, літаратуры. Хтосьці рабіў агляд кніг. Мне гэта нагадала, як Дзьмітрый Ліхачоў, калі быў у турме, таксама чытаў зэкам лекцыі. Усе дзяўчаты былі вельмі прыстойныя, цікавыя, людзі розных прафэсій.

Сярод пэрсаналу былі розныя людзі: і жорсткія, злыя, і спачувальнікі. І так званыя „прадольныя“, якія кожныя 15-20 хвілін павінны глядзець у вочка камэры, таксама былі розныя.

Быў і адзін сумнавядомы пэрсанаж, Яўген Урублеўскі. Яшчэ да суду ў адной жанчыны моцна балела галава, яна папрасіла таблетку; хтосьці папрасіў туалетнай паперы. Дык ён так раззлаваўся, пачаў хаміць. Потым Урублеўскі вывеў гэту жанчыну ў іншы пакой і ўдарыў галавой аб сьцяну. Я біла рукамі ў дзьверы, адбіла далоні. Я яму адпаведна адказала, бо не магла стрымацца. Ён і на мяне замахваўся, але побач былі іншыя супрацоўнікі, дык да ўдару справа не дайшла. Страшны, бязьлітасны чалавек.

Большасьць супрацоўнікаў нас ненавідзела, яны страшэнна раздражняліся, калі бачылі, што мы іх не баімся. Адна супрацоўніца нібыта і спачувала, але вельмі моцна лаялася матам. Доктарка таксама жудасна лаялася. Мы прасілі кнігі; нам тлумачылі, што кнігі ёсьць, але нам яны „не паложаны“. У іншых затрыманых былі матрацы, бялізна, прагулкі, душ. У палітычных — нічога.

Кожную ноч а 2-й і 4-й гадзіне палітычных абавязкова будзілі, была пераклічка. Паколькі ў камэры было 26-27 чалавек, выслухаць кожную ў „прадольных“ не хапала цярпеньня і пераклічку яны спынялі. Перадачы забароненыя, родныя маглі перадаць толькі рэцэптурныя лекі. Са сродкаў гігіены выдавалі толькі туалетную паперу і сьмярдзючае мыла, і то зь перабоямі.

У мяне і ў 2020 годзе, калі я сядзела, і цяпер вельмі балелі ногі. Я прымала абязбольвальныя таблеткі і рабіла практыкаваньні. Штодня хвілін па 40. Ахоўнік пачаў чапляцца. Я кажу: „Вы хочаце, каб у мяне быў прыступ?“. Ён адказвае: „А мне ўсё роўна“.

Ёсьць у ЦІПе адна раздатчыца ежы, якую называюць „шалёная малочніца“. Калі ёй задаюць пытаньні, яна адкрывае зяпу — і панеслася! Яна раўла безь перапынку. Аднойчы, калі нас пераводзілі з камэры ў камэру, яна недалічылася адной лыжкі. Нібыта мы вярнулі пасьля абеду 24, а павінна быць 25. Яна ўчыніла нам такі канцэрт! Прыйшоў прадольны і нас папярэдзіў, што калі ня знойдзецца гэтая лыжка, нашу камэру заліюць хлёркай. Лыжка потым знайшлася, але „асадачак застаўся“.

Я змагалася за правы, часам гэта шкодзіла. Мяне перавялі яшчэ ў адну камэру, там былі 24 чалавекі. Потым некаторых пачалі выпускаць, і, калі засталося 15, мы жартавалі, што нас так мала!

На 8 сакавіка нам зрабілі „сюрпрыз“. Спачатку, магчыма, у супрацоўнікаў ізалятара была запарка і яны не забралі ў зьняволеных верхнюю вопратку. А на жаночае сьвята ўсе курткі і паліто забралі. Я, ужо навучаная горкай практыкай ранейшай

адседкі, апранала ўсё на сябе, пад адзеньнем хавала каробачку зь лекамі.

У апошні дзень у нас выпадкова адчынілася акно, удзень было сьвежае паветра. А потым стала вельмі холадна. Самі зачыніць мы яго не маглі, прасілі супрацоўнікаў, але тыя не зачынілі. Уначы ўсе папрастуджваліся. Я выйшла вельмі хворая, з тэмпэратурай, катарам. Ня ведаю, ці гэта звычайная прастуда, ці омікрон — я ніколі не хварэла на каранавірус.

Цяпер хачу сабрацца зь сіламі і ўсё ж напісаць скаргу ў органы нагляду, у пракуратуру, хоць і разумею, што гэта бессэнсоўна. Але нельга трываць зьдзекі, нельга ўцягваць галаву ў плечы. Яны павінны разумець, што такія рэчы не застаюцца без увагі. Трэба пісаць, бо гэта ж сапраўдныя катаваньні! Пакараньне — гэта абмежаваньне волі, але да нас ставяцца, як да жывёлаў. Гэта ўжо не пакараньне, а гвалт.

Мяне забівае і маральны аспэкт. Яны нас проста ненавідзяць! На адной з акцый падыходзіць да мяне адзін сілавік і кажа: „Я б гэтых усіх бандэраўцаў задушыў. А ты пачвара“. У іх прамытыя мазгі, яны прызвычаіліся, што ім усе падпарадкоўваюцца. Яны шалеюць ад таго, што мы, нягледзячы ні на што, захоўваем чалавечае аблічча.

І яшчэ адзін момант: нягледзячы на нашу безабароннасьць і наша маўчаньне, мы павінны навучыцца адстойваць свае правы, пастаяць за сябе. Пакуль мы нічога ня можам зрабіць, зьмяніць; беларусам бракуе сьмеласьці, рашучасьці. Магчыма, гэта наша нацыянальная рыса. Але ня хочацца мірыцца з гэтым.

28 лютага

# Я АДЧУВАЎ АГІДУ, АЛЕ ГЭТА БЫЛА НАША ПРАЦА

*Андрэй:*

Я працаваў доктарам у Мазыры. Свае ўцёкі зь Беларусі плянаваў з 2020 году. Але калі Расея распачала вайну супраць Украіны, пытаньне стала яшчэ больш актуальным. Асабліва калі Расея пачала наступ на Ўкраіну з паўднёвага парога Беларусі.

Я быў вымушаны лячыць параненых расейскіх вайскоўцаў. Зьехаць адразу ня мог, бо спатрэбіліся месяцы, каб знайсьці найлепшы маршрут. Парадамі мне дапамаглі грамадзкія арганізацыі і беларуская дыяспара за мяжой.

Мазыр у лютым нагадваў вайсковую базу. Па вуліцах каталася расейская вайсковая тэхніка, па мясцовых крамах і барах бадзяліся расейскія вайскоўцы. Вайсковыя вучэньні павінны былі завяршыцца 20 лютага, але адміністрацыя нашага шпіталя падоўжыла загад аб бясплатным лячэньні расейскіх салдатаў да 10 сакавіка.

Яны, відаць, думалі, што да таго часу вайна скончыцца. За першыя дні вайны расіяне выкарысталі ўсю наяўную ў горадзе кроў для пераліваньня.

Раніцай 24 лютага, у першы дзень баявых дзеяньняў, нас сабралі ў пакоі для нарад, загадалі пакінуць 250 ложкаў для расейцаў, спыніць усе заплянаваныя апэрацыі і адправіць беларускіх пацыентаў, якіх толькі маглі, дадому. Тады нас

папярэдзілі, што мы ня маем права распаўсюджваць інфармацыю пра расейскіх вайскоўцаў. Нам прыйшлося даць падпіску аб невыдаваньні, забараніўшы перадаваць любыя фатаграфіі, дакумэнты. Я бачыў мясцовых супрацоўнікаў КГБ, якія хадзілі па калідорах шпіталя.

Улады Мазыра прыклалі шмат намаганьняў, каб утаіць інфармацыю пра колькасьць параненых расейскіх вайскоўцаў і тыпы траўмаў, якія яны атрымалі. Але мне ўдалося ўпотай скапіяваць рэнтгенаўскія здымкі дзясяткаў вайскоўцаў, якія лячыліся ў Мазырскай гарадзкой лякарні.

Тое, што я ўзяў з сабой гэтую частку архіва, магло выклікаць у мяне праблемы з судом за шпіянаж. І я вывозіў флэшку з дакумэнтамі ў цацачным тэлефоне сваёй дачкі.

Сканы ўключалі імёны і ўзрост салдатаў, многім зь якіх было ад 19 да 21 года.

Найбольшую хвалю параненых прывезьлі ў мазырскі шпіталь у першыя гадзіны 28 лютага. Пасьля званка аб прыбыцьці вайскоўцаў лекары сабраліся ля ўваходу ў рэанімацыйнае аддзяленьне і чакалі. Неўзабаве пачалі ехаць аўтобусы з паранымі вайскоўцамі. Расейскія салдаты заносілі іх унутр на насілках, кідаючы ля ўваходных дзьвярэй.

Лекары хутка ацэньвалі траўмы салдатаў, малюючы на іхных ілбах лічбы з прыярытэтнасьцю, сартавалі іх і адпраўлялі на апэрацыю.

У той жа дзень мясцовая тэлевізія выпусьціла сюжэт, у якім сьцьвярджалася, што шпіталь працуе ў звычайным рэжыме.

Папраўдзе ж шпіталь быў запоўнены салдатамі. У некаторых адсутнічалі вочы, іншым патрабавалася ампутацыя. Яны прыбылі з гангрэнай,

раздробленымі канцавінамі; некаторыя былі паралізаваныя, адзін страціў частку мозгу, другі — ніжнюю сківіцу. Некаторыя зь іх на працягу некалькіх дзён насілі жгуты, каб спыніць кроў, іх целы былі ўсеяныя кулямі і аскепкамі. Параненых, якім патрабаваліся апэрацыі, было больш, чым апэрацыйных сталоў.

Я сфатаграфаваў кулю, якую дастаў з шыі параненага расейскага салдата.

Многія з расейцаў ваявалі ў памежных раёнах. Я лячыў расейскіх дэсантнікаў і спэцназаўцаў, пацярпелых падчас няўдалага штурму гастомельскага аэрадрому. Яны былі прафэсійнымі забойцамі. Трэба было іх лячыць, гэта была наша праца. Я адчуваў агіду да ўсяго гэтага. Але мне як лекару не дазволена адчуваць агіду.

Таксама ў мазырскім шпіталі лячыўся расейскі генэрал-маёр Сяргей Ныркоў, які атрымаў цяжкую траўму ў жывот у Чарнобылі. Але большасьць пацярпелых — маладыя, неспрактыкаваныя вайскоўцы і салдаты тэрміновай службы.

У пачатку сакавіка ў Мазырскую гарадзкую лякарню кожны дзень дастаўлялі ад 40 да 50 пацярпелых расіян, як на канвэеры. Большасьць зь іх прыбылі ў цёмны час сутак ці раніцай на зялёных расейскіх вайсковых аўтобусах і машынах хуткай дапамогі.

Расіяне таксама спрабавалі даставіць у лякарню загінулых. Яны ня ведалі, што зь імі рабіць.

Цяпер я са сваёй сям’ёй у адной эўрапейскай краіне і больш ня думаю, ці могуць мяне адправіць на вайну санітарам. Замест гэтага я засяродзіўся на здачы нацыянальных мэдычных экзамэнаў, каб зноў лячыць людзей у новай краіне.

3 сакавіка

## VILLA SAN MARINO

*Добраахвотнік Дзяніс „Кіт“ Прохараў:*

Мне 26 гадоў. Мой пазыўны — Кіт. Гэта ад марской жывёлы, а не ад ката (па-ўкраінску „кот“ — „кіт“). Мне падабаюцца вялізныя, спакойныя кіты, а мой любімы колер — сіні, так склалася.

Разам зь Ільлём „Літвіном“ Хрэнавым мы вучыліся ў Аўтамэханічным каледжы ў Менску, сябравалі. „Літвін“ першым перабраўся ва Ўкраіну, а празь нейкі час да яго далучыўся і я. Разам служылі ў палку „Азоў“, потым там жа былі інструктарамі. Удзельнічалі ў баях за Мар'інку.

Яшчэ да пачатку вайны мы з хлопцамі выдатна разумелі, да чаго ўсё ідзе, за некалькі дзён да агрэсіі абдумвалі варыянты, куды можна далучыцца. Зразумела, галоўным варыянтам быў „Азоў“, бо нас там шмат хто ведаў, а яшчэ гэта адзін з найбольш баяздольных палкоў.

На правах больш дасьведчаных байцоў мы ўдзельнічалі ў стварэньні беларускай роты „Азова“, але толькі гэтым нашы абавязкі не абмяжоўваліся. Абодва ўвайшлі ў выведную роту „Азова“, у першую штурмавую групу.

Фактычна мы праводзілі выведку боем. Нашу групу закінулі на апэрацыю ў Бучу Кіеўскай вобласьці, дзе ішлі жорсткія баі з расейскай арміяй.

Наша група адправілася туды пешшу, дайшлі да Ворзеля. Задачай было замацавацца на трасе і трымаць абарону, калі праціўнік павядзе зброю каля нас, каб акружаць Бучу. На той момант ЗСУ

давалі ім там фаеру, таму расейцы перакідвалі сілы.

У выніку так і атрымалася, што сілы расейскай арміі паехалі якраз той дарогай, дзе знаходзілася рота „Азова“.

Пра наша знаходжаньне там ня ведаў ніхто, бо мы прыйшлі пешшу, бяз тэхнікі, безь нічога. Той кантакт, які адбыўся, быў абсалютна нечаканым для праціўніка. Але і мы чакалі, што будзе максымум 10-20 адзінак тэхнікі; магчыма, з такімі сіламі мы б справіліся. Ужо ў шпіталі ад аднаго з камандзіраў я дазнаўся, што пасьля таго, як мы спалілі некалькі адзінак тэхнікі і далі першы бой, высьветлілася, што яны падцягнулі асноўную калёну — 70 адзінак.

Ня трэба быць вайскоўцам, каб зразумець, наколькі нераўназначныя сілы былі ў праціўнікаў: 30 пехацінцаў супраць 70 танкаў, БТРаў, артылерыі. Калі паўстаў выбар, адступаць ці прымаць бой, быў улічаны той фактар, што шляхі адступленьня праходзілі праз месцы, якія проста абстрэльваліся тэхнікай суперніка. Група прыняла рашэньне трымаць абарону, а для гэтага замацавалася ў сьценах гатэлю Villa San Marino.

На сайце гатэлю напісана: „Знаходзячыся ў Villa San Marino, можна зь лёгкасьцю зьняць стрэс, расслабіцца, дасягнуць душэўнага камфорту і раўнавагі. Сваім гасьцям гатэльны комплекс дае магчымасьць аддацца моднай інтэлектуальнай гульні ў більярд і цалкам абстрагавацца ад паўсядзённых клопатаў. Па завяршэньні партыі ў більярд можна адпачыць за келіхам віна і натхніцца на новую гульню“.

Цяпер ад гатэлю засталіся адны руіны. Калі мы там замацаваліся, то праціўнікі адкрывалі артабстрэл па нас: яны бамбілі з танкаў, з артылерыі, білі прыцэльна. Пасьля ўдару артылерыі мы зайшлі ў будынкі. Яны, шчыра кажучы, зусім кардонныя — прабіваюцца чым заўгодна. Але кухня, дзе мы трымалі абарону, выстаяла.

Ужо пасьля першага абстрэлу сярод нас было многа „трохсотых“. Так на вайсковым жаргоне называюць параненых салдатаў, якіх неабходна вывезьці зь месца баявых дзеяньняў. Сярод параненых быў і адзін беларус, якому пасьля ампутавалі нагу.

Пасьля першых „трохсотых“ я бегаў паўсюль з крыкамі „Літвін, Літвін!“. Ніхто яго ня бачыў, ніхто не адгукаўся. Я ня мог проста так кінуць яго, мы ваявалі разам, ён як брат мне. На той момант я разумеў, што існуе два варыянты — ці ён ужо „двухсоты“, ці „трохсоты“, але галоўнае было яго знайсьці.

Мы ўсе перайшлі ў галоўны будынак гатэльнага комплексу, другі паверх якога на той момант ужо гарэў пасьля абстрэлу.

Я забег у агонь, дыхаць не магу, крычу, ніхто не адгукаецца. Выбягаю на двор і бачу, што „Літвін“ ляжыць проста ля ўваходу. Цела было досыць цэлым, яго не разарвала, але ўжо быў бледны. Папрасіў хлопцаў дапамагчы адцягнуць яго ў больш зручнае месца, каб чакаць эвакуацыйную групу. Я спадзяваўся, што зможам забраць усе целы.

Пасьля камандзіры прынялі рашэньне выклікаць транспарт, каб забраць параненых, дастаткова хутка прыехалі мікрааўтобусы.

Мы загрузілі „трохсотых“. Тыя, хто застаўся, у тым ліку я, сталі чакаць другой эвакуацыйнай брыгады на „брані“. Хлопец з пазыўным „Маўглі“, далей ён стане адным з камандуючых, папрасіў мяне, каб я сядзеў у адным з дамкоў комплексу і вызіраў транспарт, які будзе нас забіраць.

У выніку я пачуў гул, сяджу радасны, але праз нейкі час зразумеў, што гул з таго месца, дзе завязаўся бой, і ён усё бліжэй і бліжэй. Я паварочваю галаву і бачу зялёныя БМП-2 зь літарай V на борце. Я разумею, хто гэта, зрываюся, крычу, што нас акружаюць. Пасьля гэтага пачынаецца другая фаза абстрэлу.

Эвакуацыйныя машыны сапраўды пад'ехалі да гатэлю, але не змаглі забраць байцоў, бо на той момант яны былі ў акружэньні тэхнікі праціўніка.

Мы не маглі ніяк выбегчы, і яны, натуральна, зьехалі. Было разуменьне, што ўсё, нам трэба даваць бой; вораг таксама разумеў, што мы жывыя. Умацавалі сэктары, унутры быў нейкі бар, дзе мы ўзялі абарону. Разумелі, што задачай было датрываць да цемры і спадзявацца на кантакты з ЗСУ.

Праціўнік прыняў рашэньне страляць усім цяжкім — танкамі, РПГ, БТР, артылерыяй. Будынак максымальна склаўся, а потым пачалася зачыстка. Яны закінулі пяхоту да нас. Мы разабралі сэктары і чакалі.

Мы доўга не стралялі ў тых, хто зьявіўся ў будынку, аж да таго моманту, пакуль не атрымалася разглядзець расейскія апазнавальныя знакі на форме. Спачатку праціўнікі спрабавалі зайсьці ў кухню гатэля праз асноўны ўваход, а потым з тылу, і абедзьве спробы былі адбітыя.

Мне нават давялося пачуць, як адзін з расейскіх салдатаў крычаў: „Дабіце мяне!“. Калі ў нас быў першы шчыльны кантакт і нас спрабавалі застрэліць з усіх бакоў, то адзін мой знаёмы стаў каля ўваходу, разумеючы, што зараз пабягуць праціўнікі. Калі адзін з нападнікаў пабег са ствалом, то пабрацім узяў ствол у адну руку, а ў другой трымаў нож, якім забіў суперніка. Калі мы далі бой і паклалі двух там, двух там, яны крыху адступілі і прымянялі лягічную тактыку: адвялі тэхніку і сталі бамбіць — зноў танкі, зноў РПГ. Спробаў „выкурыць“ менавіта пяхотай больш не было. У гэты момант мы аказвалі ўсялякую дапамогу ўсім „трохсотым“ і трымалі сэктары колам.

Не разумею па сёньня, як нам атрымалася выжыць у гэтым пекле.

Камандзір аддаў загад, каб не было ніякага гуку, трываем да цемры, а там будзем рухацца. Выжывем — выдатна, паспрабуем уратавацца ў цемры; ня выжывем — рады быў знаёмству, усе малайцы. „Маўглі“ сказаў, што наладзіў сувязь з артылерыяй і выклікае абстрэл па нас. Мы кажам, натуральна, няхай б’юць па нас, бо расейцы могуць абаср*цца — гэта адзіны шанец іх спалохаць. Гэтая фраза магла быць ня менш эпічнай за „Русский корабль, иди...“, калі „Маўглі“ выйшаў і сказаў: „Я выклікаў артабстрэл на нас“. Мы ні сэкунды не вагаліся. Больш за тое, кожны радаваўся такой магчымасьці.

Першы абстрэл мясцовасьці ўкраінскай артылерыяй прымусіў нейкую частку тэхнікі праціўніка адысьці ад гатэлю.

Мы былі зьдзіўленыя, што выжылі. Гэтая кухня павінна стаць мэмарыялам; невытлумачальна,

колькі яна вытрымала. Я нагадваю, што ўвесь час гарэў другі паверх, мы не разумелі, дзе менавіта полымя. Калі высоўваліся групай, то полымя падыходзіла да першага паверху. Мы своечасова вырашылі рухацца, бо рана ці позна нас бы выціснула адтуль агнём.

Байцам удалося зьвязацца з войскамі, якія маглі нас выцягнуць у бясьпечнае месца. Нам назвалі пункт, дзе будзе чакаць аўтобус.

Тая дарога ўжо належала праціўніку: стаяла тэхніка, нехта прасочваў мясцовасьць. Мы прынялі рашэньне, што спачатку ідуць тыя, у каго ёсьць прыбор начнога бачаньня, каб праверыць шлях. Потым яны вяртаюцца — чакаем іхнага аналізу і шанцаў, ці зможам мы выжыць.

Калі яны вярнуліся, то прапанавалі яшчэ раз выклікаць артылерыю на нас; чакаем рэакцыі, а пасьля рухаемся. Гэта ўжо была глыбокая ноч. Артылерыя працуе, снарады прызямляюцца куды трэба, але гуку тэхнікі і пяхоты няма. Мы разумеем, што гэта наш шанец.

Яшчэ да выхаду з гатэльнага комплексу я атрымаў раненьне рукі.

Гэта быў адзін са стрэлаў ці танка, ці РПГ, калі я трымаў сэктар. Да таго я ня ведаю, якім цудам у мяне нічога не пацэліла. У адзін момант мы з хлопцамі сьціснуліся ў кучу і бачылі, як над намі пралятаюць „трасэры“ (трасэрныя кулі). Я ў нейкі момант разумею, што ў мяне ля галавы круціцца „трасэр“; я нават не разумеў, ці я паранены, ці не. Усё ў пыле, крыві.

Гэта было, калі група знаходзілася яшчэ за барнай стойкай, раненьне ж было атрымана ўжо на кухні.

Я лічыў, што знаходжуся ў параўнальнай бясьпецы, бо стаю за керамічнай сьценкай і пару выбухаў ужо перажыў. У нейкі момант, калі я браў сэктар, у калідор прыляцела нешта буйное, я адвярнуўся ў правы бок, і ўсё трапіла мне ў левую руку. Крычу, што я „трыста“, перабінтоўваю сабе руку, спрабую заціснуць жгуты-турнікеты. Адзін не заціскаецца, тады я разумею, што ў кішэні ў мяне пашпарт. Перада мной стаіць хлопец, я нават ня ведаю ягонага імя, скідваю яму ў торбу пашпарт. Думаю: выжывем, дык знойдземся. Тады ўжо нармальна заціснуў, нібыта кроў не ішла. Узяў зброю ў адну руку і трымаў далей сэктар.

Ужо пасьля таго, як мы выбраліся з Villa San Marino і былі ў шпіталі, мне прыслалі здымак пашпарта: ён быў наскрозь прабіты асколкам, як і правы кіроўцы.

Ужо пасьля ўласнага раненьня я стаў сьведкам трагічнай гісторыі на кухні гатэлю. Са мной быў цяжка паранены ў нагу хлопец. Мы наклалі „турнікет“, паклалі на бок. Парамэдык у нашых шэрагах усіх падбадзёрваў. Тым ня менш хлопцу станавілася ўсё горш і горш, ён „выцякаў“ (гэта такі наш слэнг, калі зь цела выцякае кроў разам з жыцьцём).

Зь пітнога на кухні было толькі безалькагольнае піва і нейкая тэкіла, якія знайшлі ў бары.

Я спрабаваў яму даваць гэтае піва і падбадзёрваць, сьціскаў ягоную руку. Вакол цемра, яму страшна; я прашу, каб сьціскаў маю руку, па сіле адчуваў, ці ён адключаецца. У нейкі момант я разумею, што хватка слабне непапраўна. Калі чалавек „выцякае“, то ў яго адбываюцца апошнія

перадсьмяротныя канвульсіі, ён пачынае торгацца. І я адчуў гэтыя канвульсіі...

Пакуль ён яшчэ быў у прытомнасьці, мне заставалася толькі сказаць: „Сябра, ня бойся, ты паў сьмерцю храбрых, Вальхала цябе чакае“. Я спрабаваў яго духоўна падбадзёрыць — гэта быў максымум, які я мог зрабіць, бо вакол цемра, крывішча, поўны трэш. Хлопец, на жаль, „выцек“.

З гатэлю змаглі выбрацца 11-13 чалавек, я па гэты момант яшчэ не магу дакладна палічыць тых, хто застаўся жывым.

Да гэтага моманту ў мяне было адно ўсьведамленьне, што мы гінем, і нічога больш. Калі мы выйшлі ў двор, адчынілі весьнічкі, перасеклі бронемашыну, якая нас падпільноўвала, толькі тады ў нас у вачах зьявілася надзея, што мы зможам дайсьці. Далей усё было, як у кіно, мы цягнулі параненых. Прайшлі 500 мэтраў, але нам кажуць, што мала, бо выклікалі ўдар „Граду“, а ён б’е шырока па плошчы. Прашу параненага хлопца, якому дапамагаю, дабрацца да аўтобуса, трымацца.

На другой пяцісотцы „выцек“ адзін з нашых камандзіраў, мой добры знаёмы „Стралок“. „Выцек“ проста на вачах у хлопцаў. Ён быў паранены ў пахвіну, мы яго забінтавалі, ён стабільна ляжаў пад коўдрай. Калі толькі пачалі несьці, то ён адразу сказаў: „Хлопцы, не“. Яго паклалі пад кустом, запомнілі месца. Астатнія „трохсотыя“ трымаліся.

Ісьці давялося праз тэхніку праціўніка, якую мы пастаянна бачылі; давялося затыкаць раты параненым, бо любы гук мог выдаць іхнае месцазнаходжаньне і стаць фатальным.

Першая радасьць была, калі ўбачылі новыя твары, — гэта былі два хлопцы, якія сустракалі

нас з аўтобуса, яны павінны былі нас забраць. Прайшлі яшчэ крыху да бусіка, радаваліся як ня ведаю хто, зацягнулі параненых. Завялі аўтобус ды паехалі бяз фараў да найбліжэйшага шпіталя.

Такога не бывае нават у кіно. Да апошняга ніхто ня верыў, што зможа застацца жывым, а тым больш атрымаецца выцягнуць параненых пабрацімаў.

Бясконца шкада ўсіх хлопцаў, якія палі. Але іхняе разуменьне сытуацыі было 100-адсоткавым. Яны разумелі, куды ідуць, кожны ведаў, што яго можа чакаць гібель. Нікога з нас гэта не турбавала.

Безумоўна, родныя і блізкія загінулых будуць тужыць, нават я бядую, але, ведаючы хлопцаў, асабліва „Літвіна“, думаю, што яны ганарацца тым, што загінулі за свабоду і цэласнасьць Украіны. „Літвін“ хацеў бы, каб яго не аплаквалі, а ганарыліся. Я ведаю гэта на 100%, бо перад тым, як заехаць на баявое, абмяркоўвалі ўсё гэта.

Настрой быў такім, што мы ўсе воіны, гэта наш шлях і мы па-іншаму ня можам. Гэта трэба разумець і на гэтым акцэнтаваць увагу. Мы не пакутнікі, мы воіны. А воіны хочуць не шкадобы, а каб ганарыліся за іх.

У шпіталі ў мяне знайшлі тры аскепкі ад снарада ў руцэ. Адзін атрымалася выцягнуць, а вось яшчэ два, больш глыбокія, пакуль так і застаюцца ў целе. Ці прыжывуцца, ці выйдуць самі. Прапанавалі мне застацца ў лякарні. Былі спачатку ў адной, дзе прааперавалі. У другой пасялілі, абсьледавалі. Нас паклалі з хлопцамі зь першай партыі „трохсотых“, з намі быў камандзір „Пятруха“, усе

радасныя, што разам. А потым кажуць, пераводзяць у Віньніцу. Мы адмовіліся.

Жонка знайшла для мяне лекара побач з маёй базай у Кіеве, цяпер я зноў дапамагаю ствараць беларускую роту і ежджу на перавязкі ў шпіталь.

Калі прыехалі ў лякарню, то не было да канца разуменьня, што адбылося. Толькі потым пачулі падрабязнасьці. Было цікава пачуць, што, паводле дадзеных выведкі, з намі мела справу „кадыраўская банда“ і сілы спэцназу РФ. Падчас бою я ўжо зразумеў, што супраць нас былі не баязьліўцы, якія заблудзілі і кудысьці едуць, а арганізаваныя байцы, якія мэтанакіравана нас зьнішчалі. Салдаты тэрміновай службы ўжо ўцяклі б з таго месца. Калі я гэта ўсё пачуў, то парадаваўся, што мы з мужыкамі маем „вялікія яйцы“.

Ні я, ні іншыя вэтэраны першай кампаніі на Данбасе ніколі не сутыкаліся з такімі выпрабаваньнямі.

Ільля „Літвін“ Хрэнаў вельмі крэатыўны малады чалавек, цяпер я даведаўся, што ён іграў на піяніна, жонка скінула відэа. Таленавіты ва ўсім быў. Галоўная ягоная якасьць — вясёлы характар. Нават у роспачнай сытуацыі „Літвін“ быў такім бясстрашна-пазытыўным. Калі нехта гаварыў, што ўжо гамон, то ён адказваў: „Лухта, затое ў нас ёсьць тое і тое“.

„Літвін“ быў чалавекам справы, які мала гаварыў, але шмат рабіў. Калі нічога ня рухаецца, то ён проста ішоў і вырашаў справы, знаходзіў хлопцам адзеньне, скажам. Ён не чакаў, што нехта для нас дамовіцца, а сам ішоў і рабіў. Зьнік на паўдня — потым прывозіць прыцэлы. Ён заўжды ведаў, куды і навошта ідзе, гэта цудоўная якасьць. Ён клясна

разраджаў атмасфэру сваім гумарам, жартаваў зь сябе, не зь сябе. Пастаянна сьмяяўся.

Ён быў вельмі аддany ідэі чалавек. Мне нават здавалася, што „Літвін“ ужо патух і яму нецікавая вайна, аднак гэта была падманка. Калі прыйшоў момант, то ён першым узяў зброю і першым быў у шэрагах. А мне здавалася, што ён цалкам у цывільным жыцьці, плянуе пераезд. Але, як толькі адбылася агрэсія, ён адразу быў у форме, прасіў РПГ. Ён імгненна з цывільнага жыцьця перайшоў да ідэі.

---

5 сакавіка

## ПАД АКУПАЦЫЯЙ У МЕЛІТОПАЛІ

*Алесь:*

Я нарадзіўся ў Беларусі, жыву ў Мелітопалі. Ад суботы гэты горад (150 тысяч жыхароў) у Запароскай вобласьці захоплены расейскай арміяй.

Усё банальна проста і вельмі страшна. Пачаліся бамбаваньні, стралялі пераважна па вайсковых аб’ектах, але я, папраўдзе, баюся гаварыць, што канкрэтна абстрэльвалі. У нас гавораць, што тэлефоны праслухоўваюцца і гэта можа быць небясьпечна. Тэлефоны потым нібыта могуць заблякаваць, таму людзі баяцца размаўляць. Але лухта, што стралялі выключна па вайсковых аб’ектах. Снарады ня раз траплялі і ў звычайныя дамы, у прыватны сэктар, зносілі дахі, разбуралі. Але, на шчасьце, ня так, як у Харкаве.

У горадзе жыцьцё застыла. Надзвычайнае становішча ад 18:00 да 7:00. У гэты час нельга нікуды выходзіць. Транспарт не працуе, на працу ня ходзім. Крамы працуюць, але цэны касьмічна растуць. Пачак цыгарэтаў, які раней каштаваў 20 грыўняў, цяпер можа быць і 100, і 150 грыўняў.

Пакуль расейцы нікога не чапаюць, маю на ўвазе мірнае насельніцтва. Але ўжо свае займаюцца марадэрствам. Разьнесьлі ў пух і прах крамы „АТБ“, ёсьць у нас такая сетка гандлёвая. Цягалі адтуль прадукты. Цяпер, каб купіць хлеб, трэба стаяць з раніцы да абеду ў чарзе. У дзяржаўныя крамы пакуль завозаў ня было, нават ня ведаю, што будзе. Пакуль ёсьць запасы — жывём, а што будзе далей, ня ведаю. Заробак прыйшоў 24 лютага, калі пачалася вайна, але зьняць гэтыя грошы ўжо ніхто не пасьпеў. Банкаматы і банкі не працуюць.

Ці ёсьць у горадзе ўкраінская армія, я ня ведаю, мы мала куды выходзім. Тэлевізар не працуе, бо тэлевежу разбамбілі. У нас людзі гавораць, што і беларуская армія напала на нас, але мы нічога ня можам даведацца. Пакуль тут езьдзяць танкі зь літарай Z. Але абстрэлы ў раёне аэрадрому ўсё роўна працягваюцца, нават часта. Выбухі, аўтаматныя чэргі. Праўда, апошнія дзьве ночы было спакайней. З гораду выехаць немагчыма. Кажуць, што расейцы выпускаюць, але нібыта нашы ўкраінцы далей не прапускаюць. Але як і што, ня ведаю.

У горадзе жывуць вельмі розныя людзі. Ёсьць і такія, хто за Расею. Але мітынгі былі супраць расейцаў, людзі выходзілі з голымі рукамі і пасылалі расейскіх салдатаў на тры літары. Аднаму

чалавеку салдат нібыта ў нагу стрэліў. Але што гэта ўжо дасьць? Мы ўжо ў акупацыі, у тыле. А што будзе, Бог яго ведае. Сам я за Ўкраіну, я тут пражыў 40 гадоў. Жылі хоць і небагата, але самі сабе. Пэнсіі невялікія, заплаціш за камуналку і лекі, то мала што застаецца. Многія выяжджалі ў Польшчу, Нямеччыну, Чэхію. Але мы былі самі па сабе, з голаду ніхто не паміраў. А цяпер прыйшлі гэтыя, усё разбамбілі. Навошта? Расейскамоўных яны так бароняць? У нас тут усе людзі размаўляюць па-расейску, і ніхто ніколі нікога не чапаў за гэта.

---

10 сакавіка

## НАЙСТАРЭЙШЫ ВЯЗЕНЬ АКРЭСЬЦІНА

*Алесь Цыркуноў:*

Затрымалі мяне амаль анэкдатычна, але для нашай краіны гэта стала звычайнай справай. Дзясятага сакавіка я прыйшоў на суд да Алеся Пушкіна паслухаць абвінавачаньне, але ў выніку судзілі ўжо мяне самога. У чым заключаліся абвінавачаньні? Пры ўваходзе непасрэдна ў залю паседжаньня на маім адзеньні супрацоўнікі заўважылі некалькі значкоў — Таварыства беларускай мовы, з выявай мастака Альфрэда Ізідара Ромэра, а таксама невялікую Пагоньку, на якой напісана „Героям слава“.

Гэтага было дастаткова для затрыманьня. Тое самае адбылося зь Віталём Борысам, у якога была

вокладка для пашпарта з выявай Пагоні. У адміністрацыйным пратаколе аб правапарушэньні было запісана, што я затрыманы за бел-чырвона-белую сымболіку, а таксама за тое, што размаўляў па-беларуску.

На судзе былі нейкія мітычныя асобы, якія сьведчылі пра маё страшнае зладзейства. Я запытаўся: „Што бел-чырвона-белае ёсьць у Пагоні?“ Але для іх гаварыць пра Пагоню — гэта як Сатану дакрануцца да Бога. „А чаму вы мне пішаце, што размаўляў па-беларуску? Гэта ўжо нейкі генацыд. Можа, пачнём адлоўліваць тых, хто размаўляе па-беларуску?“ У судзе адказваюць: „Мы ня супраць беларускай мовы, нічога такога, але сьведка так сказаў, то так і запісана“.

Мяне вымусілі падпісаць паперу, што ў несанкцыянаваных акцыях болей удзельнічаць ня буду, у іншым выпадку гразіліся наступны раз зрабіць прысуд стражэйшым.

Зь імі спрачацца — як са сьценкай. А дзе тая акцыя была? Не было нічога. Як няма забароны на значкі, на Пагоню. Адкуль можа быць судзімасьць? Яны самі плячыма толькі паціскаюць, рукамі разводзяць, але нічога ня кажуць.

У ізалятары на Акрэсьціна я прабыў 13 сутак з 15. На двое апошніх мяне адправілі ў Магілёў, разам са мной туды павезьлі яшчэ чатыры аўтазакі з затрыманымі.

На Акрэсьціна мо было нават трошку мякчэй, чым у Магілёве. Сытуацыя дастаткова напружаная, калі чалавек ня звык да такога стаўленьня і ўмоваў. Мы падлічылі, што на чалавека ў камэры было прыкладна 0,6–0,7 мэтра квадратнага, у Магілёве — увогуле 0,5. Сядзець на ложках бы-

ло нельга. Калі хочаш, то сядзі на падлозе. Калі ноччу захочаш падрамаць, то на падлозе шчыльна кладзесься, а таксама на ложках вальтом. Але дзе там пасьпіш? Праз кожныя 2-3 гадзіны праверка: называйце прозьвішча, імя. У канцлягерах, думаю, такіх дурных праверак не было. Быццам нехта ўцячэ адтуль. У Магілёве, калі нават пяць хвілін прайсьціся, то чапляюць кайданкі на рукі. У дзьверы ў дзірку выстаўляеш, табе іх так надзяваюць і здымаюць. Як нейкіх злосных рэцыдывістаў вадзілі, мяне ў тым ліку.

Ніякай бялізны для палітычных не было. Немагчыма было нават абутак падкласьці пад галаву, бо яго забіралі пры ўваходзе ў камэру. За такое разьмяшчэньне яшчэ патрабуюць па 16 рублёў за дзень утрыманьня.

Ежа была вельмі кепская, некаторыя нават нічога і ня елі. Быў з намі ў камэры адзін грамадзянін Расеі, які выступаў супраць вайны, дык ён толькі кісялёк піў, больш нічога.

Мне было 73 гады (сёньня споўнілася 74), я на той момант быў найстарэйшым вязьнем на Акрэсьціна.

Мяне асабіста ня білі — магчыма, бо ўжо сівы ўвесь. Яшчэ да суду адзін опэр кажа: „Чаго ты, стары, сюды лез?“ Кажу, што нікуды ня лез, я прыйшоў паслухаць на суд. „Ну што, наслухаўся?“ — адказваюць мне.

А ў камэры амаль кожны быў пабіты. Адбывалася гэта ў асноўным яшчэ пры затрыманьнях. У самой камэры нікога ўжо ня білі.

Віталя Борыса, якога затрымалі разам са мной, білі пры мне, прычым бяз дай прычыны. Кажуць: „А ну задзяры рукі, тварам да сьценкі стань“ —

і як урэжуць па рэбрах. На мяне: „Адвярніся, чаго глядзіш“. Вельмі зьверскія замашкі. Сагнецца чалавек, то ззаду зноў умажуць. Я б сказаў, што падыходы SS. Калі ім ветліва, спакойна адказваюць, то іх яшчэ больш раздражняе, бо ім трэба нагнаць на цябе страху.

Розныя людзі былі, у кагосьці знайшлі пры вобшуку паперчыну „Не — вайне“ ці ў тэлефоне выяву супраць вайны. Было некалькі чалавек, якія размаўлялі па-беларуску. Былі тыя, каго злавілі за ўдзел у акцыях 2020 году. Адзін быў эканаміст, моцна пабіты: затрымалі пры выхадзе з дому, уламілі з усіх бакоў, укінулі ў машыну і павезьлі. Перажываў, што на працы ніхто ня ведае, дзе ён.

У зьняволеньні я захварэў на каранавірус, хоць адчуваю сябе няблага, аднак тэст быў станоўчы. Там у камэры больш за палову людзей кашляла, чхала. У мяне ў самога былі прастудныя працэсы, два дні сіпеў толькі, як зьмій. І цяпер троху застаецца, але дома ёсьць і вада гарачая, і лекі, і харчаваньне належнае. Дні праз тры буду на нагах, як належыць.

Я ўпершыню трапіў на „суткі“. Для творчага чалавека такі досьвед можа быць нават карысны — пабачыць сыстэму знутры, а ня толькі па аповедах і чутках.

Атрымаў допінг для творчасьці — такія тэмы ўзьнікаюць для карцін, што ў звычайным жыцьці на розум бы не прыйшлі ніколі. Я лічу, што паказваць жахі рэчаіснасьці не зусім трэба. Народ і так напалоханы. Каб не атрымалася такога, як было ў Міхаіла Савіцкага, які імкнуўся паказаць жахі Бухэнвальду. А ў нас сёньня Бухэнвальд на волі. Дык у Савіцкага быў адваротны эфэкт:

замест таго, каб людзі спасьцігалі мастацтва, яны баяліся яго глядзець. Трэба шукаць новыя формы і падыходы да твораў.

11 красавіка

## ЯК БЕЛАРУСЫ СТАЛІ ІЗГОЯМІ

*Дзьмітры Сьмірноў:*

Я працаваў журналістам у Tut.by, які ўлады закрылі ў траўні 2021 году. Мне і маёй жонцы Ірыне, фінансаваму мэнэджару выданьня, цудам удалося пазьбегнуць арышту.

Мы вырашылі не выпрабоўваць лёс і зьезьдзіць у невялікі адпачынак у Кіеў. Узялі ўсяго два заплечнікі, торбу і паехалі, як мы тады думалі, на месяц. А літаральна праз некалькі дзён каманду Tut.by арыштавалі. Жонцы заблякавалі ўсе рахункі, і мы зразумелі, што калі вернемся, то, хутчэй за ўсё, нас таксама арыштуюць. Таму вырашылі застацца ў Кіеве.

Ірына адкрыла ў сталіцы Ўкраіны ІП (стала індывідуальнай прадпрымальніцай), а я хутка знайшоў працу ва ўкраінскім СМІ, бо тады многія кампаніі ў знак салідарнасьці прапаноўвалі працу былым супрацоўнікам Tut.by. Мы атрымалі часовы ДНЖ і ўжо зьбіралі дакумэнты на пастаянны дазвол на жыхарства (мой бацька родам з-пад Жытоміра), разумеючы, што ў блізкай пэрспэктыве ў Беларусь мы ня вернемся.

Але гэтая вайна перакрэсьліла ўсе пляны.

У 5:30 раніцы я прачнуўся ад выбуху. Як цяпер я разумею, гэта была зьбітая ракета, якая ляцела ў аэрадром. Раніцай мы ўбачылі, як суседзі арганізавана выходзяць з заплечнікамі і валізкамі са сваіх дамоў. Украінцы былі гатовыя да гэтага. Там нават дзецям у школах раздавалі памяткі, што

з сабой узяць, калі раптам пачнецца вайна. Я ж у гэта ня верыў да апошняга. Увечары 23 лютага мы зь сябрам сядзелі ў кавярні і я яго супакойваў, што ўсё будзе добра. А на наступны дзень убачыў на фота пабітую шыбу гэтай самай кавярні... Нам патэлефанавалі сябры і сказалі, што ёсьць магчымасьць выехаць у Польшчу. Мы зноў сабралі тыя ж два заплечнікі і торбу і ўжо другі раз пакінулі свой абжыты дом.

Па дарозе да мяжы ўздоўж усёй трасы было шмат валянтэраў, якія частавалі ўцекачоў кавай, гарбатай, бульбай, яйкамі, шашлыкамі. У школе, дзе мы з жонкай спыніліся на начлег, мясцовыя жыхары таксама зрабілі хатнюю кухню і накармілі першай, другой стравай і кампотам.

Салідарнасьць з уцекачамі, незалежна ад нацыянальнасьцяў, была вялізная. Але на мяжы нам давялося ўпершыню сутыкнуцца зь іншым стаўленьнем.

Памежнік, даведаўшыся, што я беларус, паставіў мяне ў канец самай доўгай чаргі і сказаў: „Едзь да свайго Лукашэнкі. Скажы дзякуй, што ўвогуле прапусьцім“. Я паказваў свой ДНЖ, пасьведчаньне, што я журналіст украінскага СМІ. Не дапамагло. Было азьвярэньне да беларусаў.

Тады ж мы даведаліся, што ўсе рахункі грамадзян Беларусі, нават зарплатныя карткі тых, хто пасьпеў атрымаць ДНЖ, ва Ўкраіне заблякавалі.

З аднаго боку — гнаны ўцякач, з другога — злыдзень. Але за што? Розьніца паміж намі і такімі ж уцекачамі-ўкраінцамі толькі ў тым, што яны першы раз за год страцілі свой дом, а я — ужо другі раз.

У Польшчы мая жонка паспрабавала адкрыць рахунак у банку, але атрымала адмову: супра-

цоўнік банку паведаміў, што ейны „ўзровень пагрозы“ складае 8 з 10.

Яна расплакалася і выбегла. І потым пыталася ў мяне: „За што? У мяне заблякавалі рахункі ў Беларусі, закрылі рахункі ва Ўкраіне, цяпер не даюць адкрыць у Польшчы. Што я зрабіла? Што працавала ў незалежным СМІ, што двойчы кідала свой дом?“. Вось так беларусы зь сяброў раптоўна ператварыліся ў пагрозу „8 з 10“. У пачатку сакавіка мне ўсё ж удалося адкрыць рахунак, бо ня ўсе банкі ў Польшчы адмаўляюць беларусам.

З усяго перажытага за апошнія паўтара года гэтае адчуваньне сябе ізгоямі стала найбольш балючым.

Маё сумленьне чыстае. Мне сорамна за беларускую ўладу, але я зь ёй сябе не асацыюю. Тым ня менш я разумею, што ў Кіеве ў найбліжэйшы час беларусам будзе вельмі складана. Я прыняў рашэньне звольніцца з украінскага СМІ. Мяне ніхто не прымушаў, рэдактар усё разумее і падтрымлівае. Але я не хачу, каб потым ім казалі: вось, маўляў, у вас беларус працаваў. Не атрымаецца цяпер беларусам і ўкраінцам размаўляць так, як да 24 лютага. Ды і потым, мусіць, таксама. Украінцы вернуцца дадому. У мяне ж, хутчэй за ўсё, такога шанцу ня будзе. Таму што пастаянна падсьвядома будзеш думаць, што да цябе ставяцца ня так, як раней, а гэта цяжка. Зь Беларусі мяне вырвалі, як зуб, з коранем і крывёй. Там у мяне засталася дачка ад першага шлюбу, мама, да якіх я не магу прыяжджаць. У Кіеве я пусьціў новыя карані, захацеў застацца — і мяне зноў вырвалі.

Пакуль жыцьцёвыя пэрспэктывы няясныя і стан прыгнечаны, мы з жонкай вырашылі жыць сёньняшнім днём.

У нашай здымнай кватэры ва Ўроцлаве ёсьць памяшканьне зь дзьвюма сьценамі, якія адгароджваюць нас ад вуліцы, мэталічныя ралеты на вокнах і падземная паркоўка ў доме. І гэта ўсё, што мне цяпер трэба. Мой узровень плянаваньня сёньня — купіць тушаніны ў падземны гараж. Гэта бяз жартаў.

*Станіслаў Салавей:*

За ўдзел у пратэстах супраць фальсыфікацый выбараў і гвалту я двойчы быў арыштаваны, адседзеў адміністрацыйны арышт, а потым са мной не падоўжылі кантракту. Да таго ж я быў адным з арганізатараў незалежнага прафсаюзу мэдыкаў, а таму сур'ёзна баяўся за сябе і сваіх калегаў.

Вельмі вымотвала ўсьведамленьне таго, што я магу трапіць у турму, што могуць быць катаваньні, каб прымусіць раскрыць актывістаў прафсаюзнага руху. Даходзіла да таго, што я трэнаваўся супрацьстаяць гэтым катаваньням. У мяне ёсьць фобія: я баюся ўтапленьня. Я ведаў, што сілавікі часам ужываюць катаваньне, апускаючы галаву чалавека ў ваду. І я проста мэтадычна вучыўся затрымліваць дыханьне як мага даўжэй. Да вясны 2021 году ў мяне быў гатовы аварыйны чамадан на чужой кватэры на выпадак экстраных уцёкаў. А к лету я ўжо паўсюль насіў з сабой зубную шчотку, бялізну на выпадак арышту.

Але арышту ўдалося пазьбегнуць: у 2021 годзе я пакінуў Беларусь і пераехаў ва Ўкраіну. Сёньня

працую ў клініцы ў Адэсе. Я акушэр-гінэколяг. Калі пачалася вайна, вырашыў застацца ў атакаванай краіне, каб дапамагаць украінцам у іхнай барацьбе.

У мяне ёсьць дазвол на жыхарства, ёсьць папера, дзе напісана, што я супрацоўнік клінікі, якая працягвае працаваць падчас вайны. Але ці будзе гэтага дастаткова вайсковаму патрулю? Ці будуць яны слухаць тлумачэньні чалавека з пашпартам краіны, з чыёй тэрыторыі да іх ляцяць ракеты? Патрульных наўрад ці зацікавіць тое, што я змагаўся з рэжымам Лукашэнкі. Але я ўсё роўна зраблю гэты крок у ноч і пайду. Крок за крокам трэба пераадольваць свае страхі, калі ведаеш, дзеля чаго гэта ўсё.

Страх і маўчаньне многіх маіх калег падчас пратэстаў у Беларусі сталі зьвёнамі аднаго ланцуга, якія прывялі да гэтай вайны. Некаторыя мае калегі-мэдыкі ў Беларусі і сёньня пасьцяць фатаздымкі з чыноўнікамі Лукашэнкі, нібыта нічога не адбываецца.

Расейцам давядзецца прайсьці доўгі шлях усьведамленьня таго жаху, які робіць іх армія, і раскаяньня ў гэтым. Гэта і будзе сапраўдная дэнацыфікацыя, якая і пакладзе сапраўдны канец гэтай вайне. А многім беларусам давядзецца доўга вучыцца гонару і самапавазе, бо бяз гэтага жыць зусім брыдка.

*Таццяна Гацура-Яворская:*

У дні беларускіх пратэстаў я вывозіла параненых з вуліц, аб'яжджала лякарні і апытвала пацярпелых. Мяне арыштавалі ў красавіку 2021 году

праз крымінальнае абвінавачаньне ў арганізацыі беспарадкаў. Калі вярнулася зь СІЗА, даведалася, што майго мужа (грамадзяніна Ўкраіны) пабілі і разам з малалетнім сынам дэпартавалі зь Беларусі, а мне забаранілі выезд з краіны. Я ня бачыла сям'ю год. Знаходзячыся пад сьледзтвам, я зноў выйшла пратэставаць на вуліцу 27 лютага 2022 году — на антываенны марш у цэнтры Менску — і была затрыманая. Пасьля допыту мяне адпусьцілі дадому. У сакавіку, калі ўжо ішла вайна, мне ўдалося нелегальна, таемным шляхам пакінуць Беларусь і прыехаць да сям'і ва Ўкраіну.

За тыдзень вайны я зразумела, што не магу ня быць зь сям'ёй у гэтай бядзе. І, вядома, не магу ня быць яшчэ адным салдатам на ўкраінскім фронце ў гэтай нашай агульнай вайне. Таму што зараз зрынуць рэжым Лукашэнкі магчыма толькі пасьля перамогі Ўкраіны.

Цяпер мы зь сям'ёй жывём у горадзе Драгобыч Львоўскай вобласьці.

Я адчуваю вялікае напружаньне ад невядомасьці і небясьпекі. Тут пакуль няма баявых дзеяньняў, але кожную ноч паветраныя трывогі. Мы вырашылі не ўцякаць у падвалы, выдалілі аплікацыю на тэлефоне, таму што яна раве ноччу і будзіць. Лепш выспацца, чым марнаваць нэрвы на пастаянныя перабежкі ў сховішчы. Але шмат хто ў горадзе ўжо сьпіць у падвалах сваіх дамоў.

Да беларусаў тут насьцярожанае стаўленьне, асабліва да мужчын, іх узмоцнена правяраюць. Многія беларусы сёньня адчуваюць віну за тое, што адбываецца ва Ўкраіне, але сама я яе не падзяляю.

Я хутчэй адчуваю моцную прыкрасьць за позьняе прасьвятленьне грамадзтва. Усе гэтыя гады кіраваньня Лукашэнкі многія беларусы, ды і ўкраінцы, задавалі пытаньне, што дрэннага ў дыктатуры: маўляў, чысьціня, добрыя дарогі, чым вы не задаволеныя? Цяпер да многіх дайшло, чым страшная дыктатура. Дыктатары могуць разьвязаць вайну — і людзі ня змогуць на гэта ніяк паўплываць.

Таксама я катэгарычна ня згодная з абвінавачаньнямі ў баязьлівасьці, якія гучаць у адрас беларусаў.

На антываенны марш у Беларусі 27 лютага выйшла шмат людзей — я, шчыра, гэтага не чакала. Я ўбачыла, што, нягледзячы на няспынныя з 2020 году рэпрэсіі, у беларусах захоўваецца пратэставы патэнцыял: людзі не баяцца ні „сутак“, ні амапу і гатовыя выходзіць за каштоўнасьці. Украінцы не разумеюць, што быць беларусам у Беларусі — гэта як быць украінцам у „ДНР“ ці „ЛНР“. Або як быць сёньня праўкраінскім актывістам у Херсоне, дзе крадуць людзей. У такім стане беларусы жывуць з жніўня 2020 году. Таму ўсе, хто там сёньня, ніяк не баязьліўцы. Для мяне гэта самыя мужныя і прынцыповыя людзі, якія робяць усё, што ў іхных абмежаваных магчымасьцях.

Пачуцьцё віны лепей замяніць на пачуцьцё адказнасьці: „Мы павінны рабіць усё, што можам, каб выпраўляць сытуацыю“. Сама я цяпер разам зь беларускай дыяспарай Італіі і Беларускім фондам мэдыцынскай салідарнасьці зьбіраем сродкі для закупкі сыстэм вакуўмнай апрацоўкі ран для параненых украінскіх салдатаў.

12 красавіка

## ПРЫГЛЯДАЮ ЗА КАЦЯНЯТАМІ

*Добраахвотнік Наўковіч „Лахвіч“ Аляксандар:*

На момант пачатку вайны я быў у Польшчы, куды зьехаў ад рэпрэсій у Беларусі. Спрабаваў трапіць ва Ўкраіну, каб далучыцца да вайскоўцаў, але мяне не прапусьцілі праз мяжу.

Пасьля стаў шукаць шляхі, каб трапіць на вайну. Зьвязаўся зь Беларускім домам у Варшаве. Не адразу, але атрымаў дазвол на ўезд ва Ўкраіну. Разам са мной ехалі і іншыя беларусы-добраахвотнікі. Прычым ня толькі з Польшчы, але і з ЗША і Нідэрляндаў. Ад беларускай дыяспары ў Чэхіі мы атрымалі амуніцыю, 15 камплектаў рыштунку.

Калі трапіў у падрыхтоўчы цэнтар на тэрыторыі Ўкраіны, адчуў такую палёгку і асалоду ад жыцьця! Бо я апынуўся там, дзе мусіў быць. Калі з тэрыторыі Беларусі пайшлі танкі ва Ўкраіну, паляцелі ракеты, мяне сорам і віна проста зжыралі. Я мусіў даказаць, што беларусы і лукашысты — розныя людзі. На пераходзе дзяўчына-памежніца зьдзівілася, што мы едзем ваяваць за Ўкраіну. Яна нам па-добраму пачала ўсьміхацца. Падзякавала нам за тое, што мы прыехалі. Ад гэтага ў мяне трохі прайшла параноя, што нас, беларусаў, цяпер увесь сьвет узьненавідзеў.

У войску я не служыў. Працаваў аніматарам і экскурсаводам. Пра ваенныя дзеяньні ведаю з рэканструкцыі і захапленьня рыцарствам. Ну яшчэ быў інструктарам у ціры, таму няблага страляю.

У Кіеве я быў на ахове бамбасховішча ад дывэрсантаў. Там былі цывільныя. Яны ведалі, што мы беларусы. Віталіся з намі, размаўлялі, дзякавалі. Не папікалі, што мы з краіны-агрэсара. Можа, гэтыя байкі пра нянавісьць украінцаў да нас нехта знарок запускае, каб накручваць людзей і сеяць між намі варожасьць. Мяне адпусьціла. Мы раней з украінцамі жылі ў адной дзяржаве, і вораг у нас адзін — Расея. Было паразуменьне і з украінскімі вайскоўцамі. Яны сказалі, што спачуваюць нам, што ў нашай краіне такое дзеецца, але не было такога, што мы вінаватыя. Ніхто не казаў мне, што я тут лішні ці што беларусы благія.

З забесьпячэньнем у батальёне ўсё добра. Сучаснай зброі, амуніцыі дастаткова, ёсьць вялікая дапамога ад валянтэраў.

Ворага ёсьць чым біць — маем добрыя пераносныя зэнітныя ракетныя комплексы, мінамёты. Зброі хапае.

Сам я трапіў у разьлік ПЗРК.

Быў пасьля вызваленьня ў Бучы і Ірпяні на „зачыстцы“. Тады яшчэ не пасьпелі сабраць целы забітых. Людзі, якія зьбіралі трупы, проста раўлі, падымаючы рукі да неба, біліся галавой аб плот. Трупаў было вельмі шмат. Там было пекла. Людзі расказвалі, як расейцы на іх вачах забівалі людзей, гвалтавалі. Глядзіш такім людзям у вочы — там такая пустата і пытаньне: „Як жыць далей?“. Людзі жылі мірна, нікога не чапалі, пакуль не прыйшлі яны. Гэта быў першы такі момант у маім жыцьці, калі нянавісьць перакрывае ўсе пачуцьці і маеш толькі жаданьне помсьціць. Ніякай літасьці да ворагаў.

Пра складанасьці ў службе скажу жартам, што цяжкасьці ёсьць зь фізычнай падрыхтоўкай, бо я тоўсты. Але я выцягваю, я ўсё-ткі ў баявой роце, здароўя бегаць з ПЗРК мне хапае, дам рады ўсяму.

Я бачу вялікую колькасьць людзей, якія падобныя да мяне ў думках і меркаваньнях. У нас могуць быць розныя палітычныя погляды, мы размаўляем, спрачаемся часам. Разважаем, якой павінна быць Беларусь у будучыні. Бо любыя рэжымы — гітлерызм, пуцінізм ці лукашызм — гэта блага. Нас аб'ядноўвае тое, што наша краіна ў небясьпецы і ўжо два гады яна плача. І толькі мы, беларусы, адказныя за яе лёс.

З павагай і захапленьнем успамінаю пра свайго камандзіра, беларуса „Кіта". Ён нас ня толькі вучыў страляць, тактыцы і мэдыцыне. Ён расказваў, як ён сам быў на вайне, бо ён ваюе з 2015 году. Ён разважліва і разумна ставіцца да кожнага байца. Ён для мяне прыклад на вайне. Мы, беларусы, ня можам мець пазыцыі „мая хата з краю". Бо, каб не Расея, мы былі б вольнай, цывілізаванай краінай.

Я ўдзельнічаў у пахаваньні беларускіх добраахвотнікаў „Тэрора" і „Літвіна", якія загінулі на вайне. Для сапраўдных ваяроў загінуць у баі — найлепшая сьмерць. Я паганец і веру, што яны цяпер з багамі. Сам я сьмерці не баюся, яна для мяне як сястра. Калі прыйдзе, я яе абдыму. Сьмерць ня страшная, яна ўсіх нас не абміне, усіх нас чакае. Але лепшую сьмерць яшчэ трэба заслужыць. Мяне натхняе тое, што я змагаюся супраць сусьветнага зла.

Неяк ехалі па Кіеве на адкрытым пікапе. Каля нас спынілася машына цывільных, і дзеці нам перадалі лісты з добрымі пажаданьнямі. Дзеці

на нас спадзяюцца, яны нам вераць — і ты хочаш ня хочаш, а мусіш быць моцным.

У вольны час я вяду інстаграм, а таксама прыглядаю за кацянятамі, кармлю іх. З жывёламі я знаходжу супакой і адпачынак. Люблю ранішні час, узыход сонца. Як паганец я адчуваю кантакт з багамі. Прыгожыя краявіды, багі — гэта дае мне моц.

Пасьля вайны хачу пазнаёміцца з добрай дзяўчынай. Купіць хату ў вёсцы, мець сям'ю і гаспадарку. Толькі пакуль няясна, будзе гэта Ўкраіна ці Беларусь.

Пасьля вайны будзе магчымасьць застацца ва Ўкраіне. Вядома, я марыў бы жыць у вольнай Беларусі. Калі я вярнуся дахаты, то хачу, як раней, працаваць аніматарам для дзяцей, расказваць ім пра рыцарства, пра шляхту, беларускія традыцыі. На пытаньне, Украіна ці Беларусь, я адкажу тады, калі „Картаген будзе разбураны“ (маю на ўвазе Крэмль).

---

12 красавіка

## БІЛІ НАГАМІ, АБЛІВАЛІ ВАДОЙ

*Вольга Рытус:*

Да 2020 году ў мяне быў свой бізнэс у Менску. Падчас прэзыдэнцкіх выбараў я вырашыла быць незалежнай назіральніцай і стала сьведкаю фальсыфікацыяў. Пасьля масавых затрыманьняў грамадзян стала весьці свой TikTok, дзе публікавала відэа пратэстаў і біцьця беларусаў. Мае пу-

блікацыі набіралі дзясяткі і сотні тысяч праглядаў. Я не хавала сваіх поглядаў у сацыяльных сетках, рабіла таксама перапосты матэрыялаў, запісвала відэа, у якіх выказвала сваю пазыцыю супраць дыктатуры і вайны ва Ўкраіне.

Мяне затрымалі 12 красавіка 2022 году паводле арт. 342 КК („Групавыя дзеяньні, якія груба парушаюць грамадзкі парадак") — за ўдзел у пасьлявыбарных пратэстах у 2020 годзе. Дома ў мяне застаўся 12-гадовы сын. Пасьля затрыманьня павезьлі ў губазік.

Ужо на выхадзе з машыны адзін зь сілавікоў ударыў мяне ў галаву і сказаў, каб я глядзела ў падлогу. У кабінэце ён выцяў мяне яшчэ раз — і я ўпала. А ўжо далей пачаліся ўдары нагамі. У адзін момант зайшоў у кабінэт мужчына, з выгляду адэкватны чалавек (як высьветлілася, ён ускрываў мой тэлефон). Спытаў у калег, што тут адбываецца, я ўжо падумала аб прамяні надзеі і сказала, што ў гэтым месцы б'юць людзей. Тады ён узяў мяне за валасы і выцягнуў з кабінэту, цягаў па калідоры. Я не магла ўявіць, што такое можа быць у 2020 годзе ў цэнтры Менску.

Яны паспрабавалі запісаць пастановачнае відэа са мною нібыта з „прызнаньнем віны". Але выціснуць зь мяне „прызнаньне" ім не ўдалося. У відэа, якое змантавалі на фоне дзьвярэй, уставілі „нарэзкі" з допыту. На ім я кажу толькі, што мой заробак складае 500 рублёў і што я маю BMW 2013 году выпуску.

На відэа я была з мокрымі валасамі, бо на мяне вылілі літар вады. Я ляжала на падлозе. І, каб прывесьці мяне ў прытомнасьць, адзін з супрацоўнікаў ліў на мяне ваду з бутэлькі.

Пасьля допыту мяне завезьлі на Акрэсьціна, дзе я правяла дзесяць дзён у нечалавечых умовах. Далей было СІЗА на Валадарскага. Там упершыню пасьля затрыманьня мяне звадзілі ў душ. Пасьля Акрэсьціна „Валадарка“ здалася санаторыем. У СІЗА я правяла тры месяцы. Сядзела ў адной камэры з галоўнай рэдактаркай Tut.by Марынай Золатавай.

Чацьвёртага ліпеня суд Фрунзэнскага раёну Менску прызнаў мяне вінаватай у злачынстве паводле ч. 1 арт. 342 КК і прысудзіў 3 гады абмежаваньня волі без накіраваньня ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Мяне вызвалілі ў залі суду, а праз месяц я ўцякла зь Беларусі.

---

21 красавіка

## БЫЛО ЎСЁ ЗАСЫПАНА ТРУПАМІ

*Добраахвотнік Юры „Хмель“ Гарупа:*

На вайне ва Ўкраіне я ад 2014 году. Раней быў у шэрагах „Правага сэктару“, але 24 лютага знаходзіўся дома ў Хмяльніцкім і ня змог даехаць у свой батальён. Таму далучыўся да батальёну Каліноўскага.

У канцы красавіка атрымаў моцнае раненьне: пашкоджаны рука, нага, мачавік. Цяпер у шпіталі ў Мікалаеве.

Я нарадзіўся ў Берасьцейскай вобласьці, у Іванаве. Рос у вёсцы; яна была вялікая, але ж вёска, таму ні ў якіх апазыцыйных структурах ня быў. Скончыў Пінскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Па

спэцыяльнасьці „заатэхнік“ у мяне не атрымалася папрацаваць. Адправілі па разьмеркаваньні, пабыў там месяц, але з такім заробкамі, як там плацілі, ну гэта сьмешна. На тыя грошы можна было купіць штаны і майку, і ўсё. Паехаў на заробкі ў Польшчу.

З тым, што не адпрацаваў, былі, вядома, праблемы. У нейкі прыезд дадому мяне злавіла міліцыя, пасадзілі ў СІЗА ў Баранавічах. Далі тры гады „хіміі“. Пакараньне адбываў у Пінску, працаваў на „Пінскдрэве“. Але ў адзін дзень уцёк адтуль.

Я проста пайшоў на працу ранкам, але не дайшоў. Ускочыў у цягнік да мяжы. Калі прыбываеш на „хімію“, то ў цябе забіраюць пашпарт, а я сказаў, што пашпарт згублены. У мяне была адкрытая віза. Спрабаваў трапіць у Польшчу, думаў, што праскачу, але ня лёс. Узялі проста на мяжы. Потым мне за гэта далі 2,5 года калёніі, сядзеў у Наваполацку. Нармальна ўсё, там час хутка праляцеў, я малады быў тады яшчэ, весела было. Выйшаў у 2010 годзе, тады зноў зьехаў у Польшчу.

Працаваў на будоўлі, фасады рабіў. Будавалі супэрмаркеты Biedronka. Жыў у гарадку Груец недалёка ад Варшавы. Абодва разы працаваў у той самай фірме. Мяне і цяпер туды запрашаюць, але, пакуль вайна, я ва Ўкраіне. Узровень жыцьця, вядома, моцна адрозьніваўся. Па сёньня памятаю, як зь першага заробку купіў сабе тэлефон „Матарола“, а таксама яшчэ шмат грошай заставалася на жыцьцё. Я быў вельмі ўражаны Польшчай.

У Беларусь цягнула, вядома. Там жа сям’я — дзьве сястры, мама. На жаль, цяпер я зь імі зусім не кантактую. Яны за Лукашэнку, ім усё падабаецца. Я для іх фашыст, эсэсавец. Мне сястра сказала,

што наш дзед ваяваў супраць Бандэры, а я ваюю разам з Бандэрам. Мама таксама адмовілася са мной размаўляць. Спачатку было крыху непрыемна, але потым звыкся. Мая сям'я ўжо ва Ўкраіне. Я ж ваяваў у складзе „Правага сэктару", а для іх гэта як чырвоная ануча для быка. Маўляў, мы тэрарысты, забойцы, дзяцей ямо. Я дадаваў родных у фэйсбуку, яны мяне там заблякавалі.

Першая жонка мая была родам з гораду Адзінцова пад Масквой, мы зь ёй пазнаёміліся ў Польшчы. Працавала ў нашай фірме ў кол-цэнтры. Ну як жылі? Працавалі ў Польшчы, а потым на месяц-два ехалі ў Адзінцова. Разьвяліся зь ёй у 2013 годзе.

Ва Ўкраіну я паехаў, калі адбылася анэксія Крыму. Прыехалі разам зь сябрам зь Віцебску (не хачу называць ягонага імя), ён быў у Францускім замежным легіёне, прайшоў шмат гарачых пунктаў, мы ў добрых стасунках зь ім па сёньня. Працавалі разам, жылі ў адной кватэры. Ён сабраўся ехаць на вайну, і я загарэўся ехаць зь ім. Ва Ўкраіне ён ужо пайшоў у батальён „Айдар", а я ў „Правы сэктар". Мяне ў „Айдар" не ўзялі, бо туды бралі толькі з баявым досьведам, а я нават у арміі не служыў. А ў „Правым сэктары" была вучэбка. Быў ужо на Данбасе, але месяцы 1,5-2 мяне не адпраўлялі на баявыя дзеяньні, былі пастаянныя трэнінгі.

У першую кампанію ў асноўным працавалі кулямёты, артылерыя. Цяпер нашмат страшней, чым тады было. Блізкіх баёў шмат, аж да нажавых даходзіць. Шмат артылерыі. Такая вайна, што сядзіш-сядзіш у акопе — бац, і табе прыляцела, не пашанцавала. Я часта думаю пра падзеі ў Ірпяні, Бучы. Я не разумею, адкуль у гэтых расейскіх кан-

трактнікаў столькі нянавісьці і злосьці? Я быў там 3 красавіка, проста страшна. Было ўсё засыпана трупамі, прычым мірных грамадзян, з завязанымі вачыма, рукамі... Зразумець гэта немагчыма.

Да 2022 году я, у прынцыпе, увесь час быў на вайне. Тры-чатыры месяцы на фронце, а потым месяц дома. Стараўся доўга ня быць, бо прывыкаеш да вайны, страчваеш інстынкт самазахаваньня, забываесься сагнуцца, калі нешта побач выбухае. А так пабыў дома зь сям'ёй — паехаў са сьвежай галавой назад. Я прыехаў дадому 27 сьнежня, на Новы год, хацеў рамонт рабіць. Плянаваў нават да 3 траўня быць у Хмяльніцкім, да свайго дня нараджэньня. Але 24 лютага прачынаюся, адкрываю інтэрнэт, гляджу, што адбываецца. На наступны дзень скокнуў у цягнік і паехаў у Кіеў. Спрабаваў прабіцца ў Данецкую вобласьць, але мне сказалі, што там усё перакрыта. З нашымі хлопцамі з „Правага сэктару“ сувязі не было. Тады пабачыў, што фармуецца беларуская рота пры „Азове“. Патэлефанаваў Арцёму „Ванішу“ Войнічу, ён: „Так, прыяжджай“. Так я там апынуўся.

Там адразу было чалавек 20-25, у асноўным спрактыкаваных. Усе разумелі, што да нас едзе моладзь неабстраляная. Неўзабаве пачаліся трэнаваньні, каравулы. Хлопцы сталі разумець, што мы на вайне. Шчыра кажучы, я ня верыў, што атрымаецца сфармаваць нават роту, а тут ужо дайшло да палка. І колькасьць ахвотнікаў не зьмяншаецца. Хапае людзей, якія яшчэ не паверылі гэтаму... вусатаму. Я да яго стаўлюся, як усе беларусы. Калі і вярнуся на радзіму, то толькі на танку, каб зрабіць краіну свабоднай.

21 красавіка атрымалі загад выйсьці на пазыцыю ў Мікалаеўскай вобласьці. Там было поле, мы праходзілі праз палівальныя бэтонныя каналы працягласьцю 600-700 мэтраў. Пасадкамі мы мусілі прайсьці каля сямі кілямэтраў. Наша група з васьмі чалавек складалася цалкам зь беларусаў, а за намі ішлі літоўцы з Замежнага легіёну. Мы прайшлі мэтраў сто, як убачылі над намі дрон „Арлан“. Амаль адразу пачаўся абстрэл артылерыяй. Мы якраз пераходзілі праз гэтую бэтонную канаву — нас гэта ўратавала, мы там схаваліся. Спачатку працавалі мінамёты, а потым выехала БМП, якая біла па нас каля гадзіны. Потым паўкасэты „Граду“ прыляцела каля нас, а другая паўкасэта — за намі.

Гэта ўсё працягвалася ад пятай ранку да паловы на дзясятую. Мы плянавалі дачакацца цемры і ўжо потым рухацца. Калі адзін іхны дрон садзіўся, то адразу ж уздымаўся іншы. Зьбіць магчымасьці яго не было, бо латалі высока.

Па рацыі нам перадалі, што тая пазыцыя, зь якой па нас білі, зьнялася зь месца, таму нам можна было рухацца. Мы ўсталі і ішлі кароткім перабежкамі, пэрыядычна страляючы; міны прыляталі кожныя хвілін пяць. Дронаў над намі ўжо не было. Да пазыцыі мы не дайшлі мэтраў 800. Выйшлі з пасадкі на голае поле.

Расейцы нас, відавочна, чакалі, бо выпусьцілі ўсіх нас з пасадак: першым ішоў наш камандзір групы „Тарэна“, а замыкаў „Дзядзька“. Як толькі апошні чалавек выйшаў, то адбыўся ўдар з танка. У мяне над галавой узарваўся першы снарад. Зачапіла руку і галаву. На руцэ перабітыя нэрвы, не працуе некалькі пальцаў. Я паваліўся, стаў накід-

ваць турнікет, бачу, што кроў сьвішча, пасекла твар. Падпоўз да мяне наш парамэдык, які спрабаваў мне дапамагчы. У гэты ж час адбыўся другі выбух, літаральна за паўтара мэтра ад маіх ног.

Жгут-турнікет выкарыстоўваецца для спыненьня крывацёку, паранены сам можна яго накласьці і закруціць нават адной рукой.

Міна разрываецца, мне прылятае ў жывот і галаву, а парамэдыку адрывае пальцы. Паспрабавалі адпаўзаць, але быў моцны абстрэл. На турнікеце я напісаў час раненьня 10:40, а абстрэл адбываўся да 13:00. Калі завялася рацыя, то паведамілі, што ў нас двое „трохсотых“, а потым даведаліся, што параненыя таксама „Булак“ і „Тарэна“. Чацьвёра з васьмі. Было прынята рашэньне, што нас будуць эвакуаваць. Ня памятаю, ці прыкрыла наша артылерыя, бо ўжо пачынаў непрытомнець ад вялікай страты крыві.

Хто мог далей перасоўвацца, пайшлі на пазыцыю, а нас стала эвакуаваць група літоўцаў, якая ішла сьледам. Яны несьлі мяне каля 5 кілямэтраў; былі абстрэлы, але я слаба гэта памятаю, бо рэдка прытомнеў.

Прачнуўся я ўжо ў Мікалаеве. Там мне сказалі, што разарвала цалкам левую сьценку мачавіка, выдалілі частку страўніка, раздробленая тазавая косьць зьлева, перабітыя нэрвы на правай руцэ, разрыў бубеннай балоны правага вуха, а таксама разрыў сятчаткі правага вока і кантузія.

Ужо пачаў крыху чуць на вуха. Вока бачыць, але кепска, але абяцаюць, што адновіцца зрок. З нагой — косткі мне сабралі, зафіксавалі, зьнялі лянгету. Цяпер ужо спрабую хадзіць з мыліцамі, распрацоўваць нагу. Пра руку сказалі, што паль-

цы будуць працаваць, але кепска. Адчувальнасьць адновіцца праз нейкі час. Нармальна, буду жыць. Мяне цяпер пераводзяць на рэабілітацыю ў Хмяльніцкі, а праз пяць месяцаў будуць рабіць новую апэрацыю на страўнік. Калі вайна да гэтага часу ня скончыцца, то ў лістападзе-сьнежні вярнуся на фронт.

Калі шчыра, я адчуваў, што плыву. Некалькі разоў адключаўся. Калі адзін з разоў ачуўся, то, памятаю, балела галава, ляжаў у позе эмбрыёна і моцна захацеў курыць. Ляжаў, курыў і думаў, што гэта мая апошняя цыгарэтка. Калі ля ног разарвалася міна, то я апрытомнеў і падумаў: „Гэта ўжо ўсё ці яшчэ не?“ Калі думаю, значыць, яшчэ ня ўсё. Гэта маё першае раненьне.

Жонка плача, крычыць. Была ў мяне ў шпіталі, шмат плакала. Кажа: „Здавалася, я ўжо прывыкла, але да такога прывыкнуць немагчыма“. Дачка мне сказала: „Ты герой“.

6 траўня

## НЕ ПАДЗЯЛЯЮ ЗАХАПЛЕНЬНЯ САЛІДАРНАСЬЦЮ БЕЛАРУСАЎ

*Вольга Гарбунова:*

Я ня ўпэўненая, што ў мяне атрымалася захавацца. Няма плянаў, няма пачуцьцяў, няма жаданьняў. Напэўна, упершыню са мной такая гісторыя. Я атрымала новую прафэсію, выйду на новую працу, буду сыходзіць раніцай, вяртацца ўвечары, клапаціцца пра дачку, класьціся спаць — і гэта новы для мяне досьвед. Я абавязаная ўладкавацца на працу — такія ўмовы абмежаваньня свабоды без накіраваньня, абавязаная знаходзіцца ўвесь астатні час дома, і я так і пляную рабіць. Ці вернецца ў мяне жыцьцё? Напэўна, час пакажа, але ў мяне такое адчуваньне, што, нават калі ня вернецца, мне будзе „ок“ з гэтым. Я ўсё адно не адматаю ўсё назад, не адмяню нічога, і я адчуваю, што не магу ад сябе нічога патрабаваць і чагосьці чакаць.

Мая задача зараз — несьці адказнасьць. Гаворка ідзе як і пра „законы гэтага часу ў гэтай краіне“, так і пра маю дачку.

Шчыра кажучы, я так і не зразумела, што мяне ва ўсім гэтым раніла больш: тое, што было ў СІЗА, ці тое, што было па другі бок агароджы. У мяне шмат складаных і супярэчлівых думак пра салідарнасьць беларусак і беларусаў.

Я не падзяляю ўсеагульнага захапленьня. Мне вельмі не хапіла асабістай салідарнасьці са мной там і пасьля выхаду зь СІЗА. Гэта вельмі балюча, калі самы блізкі чалавек, у якім ты ўпэўненая, як

у сабе, і ведаеш, што ён не пакіне цябе адну ў бядзе, як бы адносіны ні складваліся, на самой справе проста зьнікне адразу ж пасьля твайго затрыманьня; паверыць у тое, што яго гэта не датычыцца цяпер, і прыме рашэньне „рухацца далей“. І ты адчуваеш сябе вінаватай, адчуваеш сябе цяжарам для блізкіх там, а калі выходзіш, сутыкаесься з тым, што стала нязручнай і тут. Гэта вельмі раніць, калі іншы чалавек піша пра цябе камусьці: „Мне шкада, што ты зь ёю размаўляеш, гэта яна недагаварыла, а ня ты“. У гэты момант унутры бурыцца нешта вельмі базавае. Давер да сьвету, ці што.

Таксама адно з агенцтваў ААН не знайшло ў сабе сьмеласьці напісаць для суду на мяне характарыстыку пасьля дзесяці гадоў плённага супрацоўніцтва.

Ведаючы, што мне пагражаюць гады калёніі: „Ну вы ж усё разумееце...“. Ці прыйшоў хоць адзін чыноўнік на суд па ліквідацыі „Радзіславы“ і ці сказаў: „Высокі суд, гэта нейкая памылка, я працую зь імі амаль 20 гадоў, які экстрэмізм? Яны днямі і начамі толькі і займаліся, што аказаньнем дапамогі жанчынам“. Не, на судзе не было аніводнага чалавека ў абарону прытулку — ні ад МУС, ні ад ААН, ні ад Менгарвыканкаму. Гэта вось усё прыклады такой салідарнасьці людзей, якія будуць весьці сур’ёзныя размовы на кухні і посьціць пра важнасьць падтрымкі ў сацсетках роўна да таго моманту, пакуль салідарнасьць не наступіць на іх асабістыя інтарэсы — адносіны, працу, прасоўваньне па службе, ілюзію спакою і бясьпекі. Я бачу вельмі шмат такіх людзей цяпер.

Пры гэтым я ўдзячная людзям, якія заставаліся побач са мной у гэты „цёмны час“.

Людзям, якія не давалі нікому забыць рознымі спосабамі пра мяне і „Радзіславу“, пісалі мне лісты, характарыстыкі для суду, падтрымлівалі маю сям'ю, хадзілі на пахаваньне майго бацькі замест мяне. Гэта былі ня толькі мае сяброўкі і знаёмыя, але і кліенткі сховішча, незнаёмыя мне людзі ці нават людзі, якім я прынесла калісьці боль. Яны знаходзілі ў сабе сілы, знаходзілі час; не шкадуючы, інвэставалі ў мяне, змагаліся з уласным страхам, хоць і чулі толькі цішыню ў адказ. Я спадзяюся, што гэтых іншых людзей больш, чым першых. Але час пакажа. Мне здаецца, што тое, з чым я выйшла, — гэта страта сябе. Ня ведаю, дзе я сябе пакінула і зь якой прычыны. Проста нейкая апатыя, і я сабе дазволіла гэта адчуваць. Нашмат горш было б, калі б у мяне не было апатыі, а была б мая нястрымная энэргія. А як з усім гэтым жыць далей, незразумела. І тады я выбіраю тое, што ўва мне ёсьць. Калі яно са мною зараз адбываецца, значыць, так таму і быць.

Я фэміністка, актывістка, былая кіраўніца арганізацыі „Радзіслава“, якая дапамагае жанчынам, пацярпелым ад хатняга гвалту.

Мяне затрымалі 9 лістапада 2021 году і да суду зьмясьцілі ў СІЗА № 1 Менску. Пасьля затрыманьня я амаль два тыдні трымала галадоўку. Мае блізкія некалькі дзён ня ведалі, дзе я. Адвакату не далі ніякай інфармацыі пра гэта, а допыт мяне праводзіўся без прысутнасьці адваката.

6 траўня судзьдзя Сяргей Шаціла абвінаваціў мяне ў „арганізацыі і падрыхтоўцы дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак“ паводле

ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэксу, пасьля паўгода зьняволеньня пакараў 3 гадамі „хатняй хіміі“ і вызваліў з-пад варты.

---

13 траўня

## ПЕРШЫЯ ДНІ Я СПАЛА

*Ганна Матуляк (з фэйсбуку):*

Ужо тыдзень я ў Вільні.

Першыя дні я спала. Засынала надзіва рана і без усякіх дапаможных захадаў у выглядзе поўнай цемры, цішы і мэлясону. Спала моцна, бязь дзічы ў снах. Больш за тое, ледзь прытулюся ці займу зручную паставу, адразу сон тут як тут. Дыхалася вольна, лёгка і нават радасна. Весялілася і нават рагатала, іншы раз як прыпадачная. Я адчувала прыемнае запавольваньне — не хацелася тысячы і аднаго праекту і шмат карыснае працы. Зьявіліся сілы і жаданьне гуляцца зь Вікай, чытаць і проста жыць нейкім звычайным чалавечым жыцьцём.

А праз тыдзень усё зламалася. Рэзка і моцна. Як быццам хтосьці там унутры скамандаваў: „Тут нібыта ўсё выдатна, бясьпечна і камфортна. Яна ўжо выспалася, крыху прызвычаілася. Давай, адчыняй шлюзы“ — і на мяне вылілася ўсё тое, што перажываць, быўшы там, няма сіл. У целе слабасьць і апатыя, цяжка дыхаць, быццам пліта бэтонная на грудзях. Настрой адпаведны — нічога ня хочацца, нічога ня радуе, усё тлен. Адзінае жаданьне — ляжаць і па магчымасьць быць у адключцы. Учора мне сьніліся затрыманьне і суд. Мае,

натуральна. Сёньня ўсю ноч я ўцякала і хавалася ад перасьледу. Гляджу ў каляндар — і апошнія два тыдні тут здаюцца жахліва малымі і кароткімі.

Злосьць. Прыкрасьць. Расчараваньне. І толькі адно пытаньне: „Якога хрэна?“ Я проста целам адчуваю гэтую тону болю ўсярэдзіне, гэтыя тоны сьлёз. Якія хочацца так прыглушыць трохі: „Ану не раскісай, нам дадому хутка. Ня трэба гэта ўсё даставаць і распакоўваць. Невядома, колькі там у табе гэтага «дабра». Таму давай закінемся рэсурсікам, пакуль тут, а дома вернемся да звычайнага жыцьця“.

Толькі вось галасіць хочацца ад усьведамленьня таго, што дому ў мяне больш няма. Ёсьць сьцены маёй любімай кватэры, уладкаваны побыт, рэчы. Ёсьць такі самы ўладкаваны офіс. І людзі. Якіх з кожным днём робіцца ўсё менш. І, напэўна, упершыню я так моцна перажываю, што ў мяне скралі маё жыцьцё. Так, менавіта так. Скралі. Я не змагу быць шчасьлівай у сваёй кватэры, у якой я кожную хвіліну чакаю званка ў дзьверы. Я не змагу быць шчасьлівай на сваіх вуліцах, думаючы пра тое, што скруціць мяне могуць у кожны момант. Я з жахам думаю пра тое, у якую школу пойдзе мая дачка і што яна там будзе чуць і бачыць.

Але самае агіднае тое, што ні ў адной кватэры сьвету я цяпер ня буду шчасьлівай. Ніводная, нават самая прыгожая вуліца ў хоць якім кутку плянэты ня будзе радаваць мяне доўга: толькі хвілінна, у моманце, але ня больш. А самая лепшая школа для дачкі ня выкліча ўстойлівага адчуваньня задавальненьня і правільнасьці таго, што адбываецца. І цяпер, адсюль, гэты разлом бачыцца найярчэй. Я, як і многія мае суайчыньнікі, пра-

цягвала падмацоўваць ілюзію, што „вось-вось — і ўсё будзе добра“. Мы бясконца абменьваліся з мужам думкамі, што дарогі назад няма, што гэта канец і ён блізкі. Што мы гатовыя да хоць якой эканамічнай ж*пы, калі гэта канец дыктатуры. Але не. Дакладней, я ня ведаю. Колькі яшчэ гадоў мы будзем марудна апускацца на дно, перш чым зможам адштурхнуцца ад яго? А гэта гады майго актыўнага жыцьця.

Мне сёньня раптам упершыню стала сябе вельмі шкада. Фактычна, яшчэ і двух гадоў не прайшло, а па адчуваньнях гэтае пекла доўжыцца ня менш за пяць. А гэта значыць, што я скарачаю сваё жыцьцё вось гэтым усім, што, здаецца, асабіста для мяне ўжо страчвае ўсякі сэнс. У кожнага ёсьць мяжа, і мая блізка. Я магу перажыць хоць якую фінансавую ж*пу, але не адсутнасьць свабоды. Праблемы з жыльлём, працай, кар'ерай, але не мазгі, якія павінны фільтраваць, што гаварыць і пісаць. Бо тады давядзецца фільтраваць і думкі. „Як бы чаго ня выйшла“.

І вось я сяджу тут і гляджу на разьбітыя ночвы свайго жыцьця, і гэта вельмі балюча. Хочацца скруціцца ў клубок і плакаць. І чакаць, што прыйдзе нехта вялікі і абдыме. І скажа, што ўсё будзе добра. Скажа, куды ісьці і што рабіць, каб было добра. Але ніхто ня прыйдзе. Бо ты і ёсьць той вялікі. І можна паляжаць і паплакаць. Пашкадаваць сябе, вядома. А потым устаць і пайсьці. І рабіць выбар, нагадваючы сабе пра тое, што шмат чаму ў жыцьці ты ўжо дала рады. Дасі рады і цяпер. Галоўнае — не здавацца. І калі-небудзь я зноў буду шчасьлівай. Ня важна, у якой краіне. Я абяцаю сабе, што буду рабіць усё для гэтага.

А пакуль гора і жалоба.

Па тым жыцьці, якое было і якога ўжо ня будзе ніколі.

---

16 траўня

## У БАІ СТРАЦІЎ НАГУ

*Добраахвотнік Аляксей „Псыхоляг“ Назараў:*

Я беларус. Нарадзіўся і жыў увесь час у Менску. Працаваў на розных будаўнічых аб'ектах. Пачынаў вучыцца ў Вышэйшым радыётэхнічным каледжы па спэцыяльнасьці „праграміст“.

Ва Ўкраіну прыехаў у канцы 2014 году. Перад тым я пазнаёміўся з хлопцамі, якія бралі ўдзел у падзеях на Майдане, частка зь іх была ўжо ў „Азове“. Я прыехаў да іх, каб атрымаць крыху больш інфармацыі знутры. Прыкладна тады ж і захацеў там застацца. Мяне вельмі натхніў Майдан у свой час. Мне тады здалося, што хоць адна краіна СНД зможа заваяваць незалежнасьць ад Расеі, стварыць вольную краіну.

Датуль з Украінай мяне нічога ня зьвязвала. Я амаль нічога ня ведаў пра гэтую краіну. Ніякіх сымпатый і прывязанасьцяў да Ўкраіны ў мяне не было, як і сваякоў адсюль.

Я трапіў у „Азоў“ ужо да сваіх, да беларусаў, якія там былі. У іх была магчымасьць стварыць вучэбна-трэнавальны лягер у Кіеве, дзе рэкруты праходзілі першы этап падрыхтоўкі перад палком. Дастаткова хутка стаў адным з інструктараў у „Азове“. У ваенным пляне гэта быў паўактыўны

пэрыяд, калі наступальных дзеяньняў ужо не вялося, але ішла абарона Шырокіна. Пэрыядычна езьдзілі на баявыя выезды.

У памяці дакладна засталося ўсё. Вайна і вайна. Такіх жорсткіх калатнечаў, як у гэтую вайну, тады не было. Блізкіх кантактаў, блізкіх баёў я тады ня бачыў.

Пазыўны „Псыхоляг“ зьвязаны з маёй прафэсійнай дзейнасьцю. Я праводзіў апытаньні тых, хто прыбываў у полк, допыт быў даволі шырокі, скрупулёзны. Складаў пэўны псыхалягічны партрэт чалавека. І ўжо на падставе ў тым ліку маіх характарыстык мы прымалі рашэньне, ці падыходзіць нам чалавек. Калі ўзьнікалі нейкія спрэчныя моманты, скажам у біяграфіі, то я зь імі разьбіраўся.

Тут ня столькі прафэсійныя веды. Проста я такі чалавек, які мае да гэтага схільнасьць. Калі груба сказаць, то мне цікава дазнавацца пра людзей.

Калі пайшоў з „Азова“, то шмат дзе працаваў. І ахоўныя фірмы, і будаўнічая дзейнасьць, і рамонт кампутараў. Так ці інакш сувязь з „Азовам“ падтрымліваў увесь час. Канкрэтна мне было няцяжка. Ніякіх сур'ёзных псыхічных стрэсаў у мяне не было праз вайну. І я, і мае сябры ня мелі праблем з уліваньнем у цывільнае жыцьцё.

24 лютага 2022 году... Я тады жыў на правым беразе Дняпра ў Кіеве, а прачнуўся ад таго, што пачуў, як узарвалася ракета на левым беразе. Разам з жонкай сабралі рэчы, ката, выйшлі з дому. Жонка з катом паехалі ў адно месца, а я ў іншае. У нас з хлопцамі з „Азова“ ўжо быў плян, як мы будзем дзейнічаць. Пачалі фармаваць баявыя роты зь людзей, якія ўжо былі ў „Азове“ раней.

Яшчэ на фазе „менскіх дамоўленасьцяў“ мне было ясна, што Расея гэтага так не пакіне. Мне здаецца, вярхі расейскай улады моцна адарваныя ад рэальнасьці. Яны думалі, што зойдуць ва Ўкраіну, як у Крым, дзе іх будуць сустракаць кветкамі. Думалі, што хуценька паставяць кіраўнікам краіны Медзьведчука. Але такіх настрояў ва Ўкраіне ніколі не было. Яны не ўспрымаюць Украіну і Беларусь як дзяржавы. Іх ідэя-фікс — адрадзіць СССР з Расеюшкай на чале.

Ад моманту аднаўленьня вайны нашы баявыя роты зь ліку больш падрыхтаваных людзей, вэтэранаў, езьдзілі па вобласьці, выконваючы розныя заданьні. Але да непасрэдных баёў справы тады не даходзілі. Мы былі і ў Гастомелі, і на аэрадроме Васількоў. У Васількове была высадка расейскага дэсанту, але яна была нешматлікая і яе атрымалася хутка змагчы бяз нашага ўдзелу.

Трэцяга сакавіка я атрымаў раненьне. Нас адправілі ў Бучу, дзе на месцы мы павінны былі зразумець сытуацыю: дзе нашы войскі, дзе праціўнік, што належыць нам, што ім, колькасьць войскаў. У нас быў выведны ўзвод у складзе 25 чалавек. З намі быў Дзяніс „Кіт“ і Ільля „Літвін“. Ільля быў першым нумарам гранатамётчыка, „Кіт“ — другім. А я быў другім нумарам кулямётчыка-ўкраінца.

Гэта быў край Бучы, дарожная разьвязка. Калі мы прыбылі туды, то сталі чакаць калёну расейскай тэхнікі, назіралі за ёй праз оптыку, карэктавалі па іх нашу артылерыю. Нашай задачай было прыняць першую калёну, уступіць зь імі ў бой. А пасьля непрацяглага бою адысьці, бо

выведная рота проста фізычна не магла весьці працяглы бой.

Падрыхтавалі месца для адбіцьця атакі калёны, распрацавалі маршрут адступленьня. Але расейская калёна аказалася ў некалькі разоў большая, чым мы чакалі. Там было восемдзесят адзінак тэхнікі і адзін ці два батальёны пяхоты.

Яны паехалі па тыльным баку дарогі, цалкам нас адрэзаўшы. Калі нашы сталі працаваць па калёне, то падбілі першую тэхніку гранатамётамі, у мяне завязаўся бой зь пяхотай, якая стала высаджвацца з „Уралаў“. Я зьнішчыў некалькі адзінак тэхнікі і некалькі праціўнікаў.

Мы прыкрывалі кулямётамі адыход нашай групы ў гатэльны комплекс Villa San Marino. Рацыі ўсе „накрыліся“, я пабег дакладваць камандзіру пра бой, які ў нас завязаўся. Камандзір прыняў рашэньне, што мы знаходзімся ў акружэньні, таму мусім заняць кругавую абарону.

Калі закрывалі ўсе сэктары, то па нас сталі працаваць з танка. Калі прыляцеў першы снарад з танка ў дом, дзе мы знаходзіліся, сьмяротна параніла „Літвіна“. Я дапамагаў іншаму параненаму таварышу, накладаў турнікет, аглядаў яго, прыводзіў у стабільны стан. Тады я яшчэ ня ведаў, што Ільля таксама паранены.

Дом быў „кардонна-шкляны“, таму нам давялося выносіць параненых і шукаць больш трывалае ўкрыцьцё, заставацца там было небясьпечна. Танк працаваў з адлегласьці менш як кілямэтар. Як толькі мы выйшлі на вуліцу з мэтай перамяшчэньня, адбыўся другі стрэл з танка. Гэты стрэл параніў каля дзесяці чалавек, у тым ліку мяне.

Мне амаль цалкам адарвала нагу. Я прысеў, паглядзеў характар пашкоджаньняў, наклаў турнікет, каб не памерці ад страты крыві, і пачаў паўзьці ў бясьпечнае месца. Не працавала паўнавартасна левая рука, яна была перабітая, толькі некалькі пальцаў рухаліся.

Калі б страціў прытомнасьць, то, думаю, там бы і застаўся. Гэта зусім не варыянт — непрытомнець. Мне крыху дапамаглі адпаўзьці. У больш бясьпечным месцы я запісваў відэа на тэлефон, бо не разумеў, ці атрымаецца выбрацца адтуль. Гэта былі, мабыць, разьвітальныя відэа. Чакаў разьвязкі сытуацыі, спрабаваў камунікаваць зь людзьмі, ці вывезуць нас адтуль.

Камандзіры прынялі рашэньне аб эвакуацыі. Самых цяжкапараненых пагрузілі ў бусікі, і нам удалося адтуль выехаць, бо ўтварылася маскавальнае для нас укрыцьцё: гарэла падбітая расейская тэхніка, і мы схаваліся ў дымавой завесе.

Фізычнага болю я тады не адчуваў. Мабыць, мозг у той момант выкінуў столькі адрэналіну, што змог увесь боль заглушыць.

Што страціў нагу, я зразумеў яшчэ ў той момант, калі стаў сябе аглядаць, чаму я не магу ўстаць зь зямлі. Убачыў, што нага вісіць на шматках скуры, а зрэз ад танкавага аскепка прайшоў роўна па каленным суставе. Такое ўжо не рэстаўраваць. Частка костак паляцела ў невядомым кірунку, частка — трапіла ўнутр. Тое, што заставалася ад нагі, было ня вельмі эстэтычнае. Я разумеў, што гэта ўжо нельга прышыць.

Калі я толькі ачуўся пасьля ампутацыі, то найперш спытаўся, дзе цяпер хлопцы, ці засталіся яны жывыя. На наступны дзень дазнаўся, што

зь імі ўсё нармальна. Я разумеў, у якой сытуацыі засталіся, быў уражаны, што яны 12 гадзін яшчэ трывалі бой. Звычайна ў такіх сытуацыях ніхто не выжывае.

У мяне была ампутацыя ў кіеўскай лякарні, зачышчалі рэшткі касьцей. Сфармавалі з нагі куксу, стабілізавалі мой стан, рабілі пераліваньні крыві, плязмы, давалі антыбіётыкі. У другой лякарні ўжо потым рабілі перавязкі і кропельніцамі ўводзілі ў арганізм розныя мінэралы. Калі стан стабілізаваўся, то пачаў займацца рэабілітацыяй для далейшага пратэзаваньня — гэта падрыхтоўка цяглiц і зьвязак. Для мяне як для чалавека, які апошнія сем гадоў займаўся спортам актыўна, гэта было прасьцей зрабіць. У мяне ампутацыя была вышэй калена — гэта складаная сыстэма пратэзаваньня. Шмат залежыць ад чалавека, гатовы ён прайсьці праз усе этапы болю ці не.

Фантомныя болі былі. Гэта вельмі непрыемная штука. Гэта ня нейкая там псыхасаматыка, а сапраўдны фізычны боль, які суправаджае цябе на працягу доўгага пэрыяду часу. У мяне яны засталіся да гэтай пары. Першы час было нясьцерпна, таму я ўвесь час быў пад апіятамі, пад марфінам. Урэшце нават апіяты перасталі дапамагаць, таму я вырашыў зь іх зьлезьці, каб цалкам не губіць арганізм.

Боль адчуваецца на месцы, дзе была нага. Гэта так. Віды болю ва ўсіх індывідуальныя. Нехта адчувае, як яму выкручваюць нагу, хтосьці — як яе рэжуць. У мяне было адчуваньне, што на месцы адарванай канцавіны нейкі згустак чыстага болю: я ня мог бы сказаць, ці гэта галёнка, ці калені. Гэта ныючы пастаянны боль, які не спыняецца.

Пасьля я далучыўся да батальёну Каліноўскага. Структуру зрабілі мае сябры, зь якімі я правёў усе гады ва Ўкраіне. У мяне і думкі не было, каб ня быць зь імі. Я адразу разумеў, што хопіць ляжаць на шпітальным ложку, а трэба дапамагаць хлопцам з арганізацыяй.

Думак, што для мяне вайна скончылася, у мяне не было. Я ж жывы, усё ў парадку. Мозг цэлы, значыць, шмат чым дапамагчы магу. Страта адной нагі — гэта ня так страшна. Гэта не канец жыцьця. Так, ёсьць нейкія абмежаваньні, але гэта ня ставіць крыж на вайсковай ці спартовай кар'еры.

Пакуль перасоўваюся з мыліцай, ужо адной. Паставілі пратэз, дык трэба паступова ўваходзіць у рытм. Праз пару тыдняў мне замест мэханічнага паставяць электронны. Згінаньне на месцы калена цяпер будзе адбывацца не за кошт мэханічных намаганьняў, а пасьля пад'ёму сьцягна.

У батальёне быў выдатны настрой. Да нас едуць тыя, хто разумее, чаму яны тут і чым могуць займацца. Усе праходзяць этап падрыхтоўкі, і па выкананьні заданьняў вызначаем роты, куды іх можна адправіць. Да нас далучаюцца і цывільныя спэцыялісты: мэдыйнікі, лягісты.

Пакуль Украіна не пераможа ў гэтай вайне, свабоды ў Беларусі ня будзе. А Ўкраіна пераможа, калі ўсе будуць прыкладаць патрэбныя намаганьні. У нас кожны разумее, дзеля чаго ваюе; у расейцаў гэтага няма. Плюс Украіне зараз дапамагае ўвесь сьвет — патэнцыял для перамогі вялізны. Калі пераможа? На гэта адказаць не магу. Думаю, нас яшчэ чакаюць да перамогі кроў, пот і сьлёзы.

29 траўня

## ВЯРТАНЬНЕ БАЦЬКІ

*Лявон Халатран:*

Хвілінка сымбалізму: я правёў на „хіміі“ роўна 342 дні паводле артыкулу 342.

І я проста быў абавязаны зьняць працяг сагі „Вяртаньне бацькі“. Пачатак я зьняў, калі вярнуўся дамоў пасьля СІЗА перад адбыцьцём „хіміі“*.

У мяне часта пытаюцца пра маё ўзьяднаньне з сынам. І я хачу сказаць пару слоў пра гэта. Вядома ж, у галаве сустрэча малявалася зусім інакш, напэўна, паводле лякалаў фільмаў. Насамрэч аказалася так, як можна паглядзець на відэа. Я жудасна адвык ад яго, а ён адвык ад мяне, хоць Яня часта размаўляла зь ім пра тату, чытала мае лісты. Але візуальны вобраз — гэта іншае. Таму, нечакана пабачыўшы мяне, ён разгубіўся і ня ведаў, што рабіць. Я ня стаў засмучацца (гэта заўсёды слушнае рашэньне).

Пазьней, ужо за сталом, я спытаўся ў яго, хто ж падарыў яму такія прыгожыя налепкі (а гэта я іх прыслаў), далей дыялёг быў такі:

— Гэта тата мне прыслаў!

— А я хто?

— Ты іншы тата.

— А колькі ў цябе татаў?

— Два (паказвае два пальцы).

— А хто другі тата?

---

* Пачатак сагі друкаваўся ў папярэдняй кнізе гэтай сэрыі „Галасы Беларусі 2021“.

— Другі з барадой, а ты з вусамі (паказвае бараду і вусы на сваім твары).

Словам, у Мікі адбыўся невялікі рассынхрон, які нівэляваўся праз пару дзён.

Што я хачу сказаць: людзі адвыкаюць адзін ад аднаго і прывыкаюць адзін да аднаго. Але такімі зьняволеньнямі і рознымі турмамі дзяржава наносіць моцны ўдар па сем'ях, які можа іх разбурыць. Бо я быў там усяго паўгода, а што адбываецца пасьля некалькіх гадоў?

Прыкол нашай сытуацыі ў тым, што шмат адукаваных людзей, публічных людзей, разумных людзей пройдуць праз судовую і пэнітэнцыярную сыстэму і пачнуць пра гэта гаварыць. Пра тое, што там адбываецца. Вось жа ўся гэтая дзікасьць была і раней, проста мы ўсе думалі, што ў турмах сядзяць наркаманы, забойцы і прастытуткі (ну і зладзеі, вядома). Але пра гэта асобна.

Беражыце сябе і сваіх блізкіх, у нас усё абавязкова атрымаецца!

---

30 траўня

## ГЭТА БЫЛО МІКРАПЕКЛА

*Добраахвотнік Дзяніс „Ваўкалак“ Урбановіч:*

Частка палку Каліноўскага ўдзельнічала ў спэцапэрацыі Генштабу Узброеных сілаў Украіны (ЗСУ). Беларусаў было каля 60 чалавек, дэталі задачы расказваць пакуль не магу. Скажу толькі, што ўсё было выканана намі на 100 адсоткаў. Ахвяраў у нас няма, усе вярнуліся жывыя. Гэта было на

мяжы Мікалаеўскай і Херсонскай абласьцей. Мы дапамаглі Ўзброеным сілам Украіны прасунуць фронт на дзевяць кілямэтраў. Я быў старшы адной з груп беларусаў, якая стала на перадавой.

У баях раненьні атрымалі двое беларусаў — я і яшчэ адзін хлопец, які ня хоча называць свайго імя. З другім беларусам усё ў парадку, яму аскепак ад снарада трапіў у жывот, але жыцьцёва важныя органы закранутыя не былі.

У мяне кантузія сярэдняй ступені цяжкасьці. Калі мы выканалі задачу, то пры адступленьні па нас пачалі весьці агонь. Я па сёньня не разумею, з чаго па нас стралялі. У выніку за мэтар ад мяне разарваўся ці снарад, ці міна. Кажуць, што мне пашанцавала моцна, бо магло пасекчы аскепкамі, а ў мяне ўсяго толькі кантузія. Выцягваў мяне адтуль пад абстрэламі іншы маладафронтавец, Сяргей Пальчэўскі.

Я памятаю толькі момант выбуху, а потым ужо ачомаўся ў шпіталі. Адразу ў мяне ня чула левае вуха, моцна балела галава, ванітавала, праз парушаную каардынацыю ня мог прайсьці ў дзьверы. Цяпер адчуваю сябе лепш, але рэабілітацыя яшчэ патрэбная.

У баі беларускія добраахвотнікі ўзялі ў палон трох расейскіх салдатаў.

Пры выкананьні апэрацыі расейскія салдаты не аказвалі ніякага супраціву. Яны былі ў шоку ад таго, што адбываецца, таму нават не адбіваліся. У асноўным за іх працавалі самалёты і артылерыя. Гэта было такое мікрапекла з бамбаваньнем, зь зямлёй, якая калацілася пад нагамі. Мы зачышчалі іхныя пазыцыі. Залазілі ў акопы, бліндажы. У адным з бліндажоў сядзелі трое расейскіх сал-

датаў, у іх нават не было зброі. Вывелі, завязалі рукі. Іхныя дакумэнты (пашпарты, ваеньнікі) былі ў мяне, але згубіў пры кантузіі. Гэта зусім маладыя яшчэ хлопчыкі.

Я ўдзельнічаў раней у ваенных апэрацыях, але гэтая была самай маштабнай, дзе давялося быць.

Беларусы зарэкамэндавалі сябе вельмі добра. Мы былі адзінай групай, якая вярнулася без „двухсотых“, у астатніх, на жаль, па дзьве-тры страты. Усе хлопцы вялікія малайцы.

Расейскія прапагандысцкія тэлеграм-каналы пачалі распаўсюджваць інфармацыю, што імі быў знойдзены труп аднаго з хлопцаў з палку Каліноўскага. Але гэта фэйк.

Усе на месцы, усе жывыя, якраз нядаўна размаўляў з камандзірам. У палон нікога з нашых ня бралі. Мабыць, такая помста за гэтую апэрацыю. Расейцы проста ўцякалі, мы ўсё гэта чулі па радыёперахопах, яны моцныя толькі ракетамі і артылерыяй. Калі б у нас таксама былі ў палку танкі, то, магчыма, прасунуліся б яшчэ далей.

Мой пазыўны „Ваўкалак“, я быў не адзіным маладафронтаўцам, які браў удзел у гэтай апэрацыі. Таксама ўдзельнічалі Сяргей „Ваяр“ Пальчэўскі, Віталь „Вітушка“ Трыгубаў, Алег „Альгерд“ Аўчыньнікаў, „Оскар“.

3 чэрвеня

# У ПАЛЬЧАТКАХ ПАД ВІДЭАЗАПІС ВЫЦЯГНУЛІ 130 ЭЎРА

*Натальля Дуліна:*

Як выкладчыца італьянскай мовы, я маю ў Італіі шмат сяброў. Яны захацелі мне дапамагчы, ведаючы, што падчас папярэдніх арыштаў у мяне канфіскоўвалі тэлефоны і аргтэхніку.

Прапаноўвалі перадаць грошы: ці на картку, ці праз плацежныя сыстэмы. Я аднеквалася. Маўляў, не, дзякуй; пажартавала, што потым ДФР будзе мной цікавіцца, што за „лялькаводы“ мне перадаюць сродкі. Потым мне напісалі, што брат адной са знаёмых зьвяжацца са мной. Трэцяга чэрвеня малады чалавек патэлефанаваў і прапанаваў сустрэцца ў гандлёвым цэнтры „МОМО“ ў пэўны час.

Я сустрэлася з тым чалавекам, ён перадаў ключ ад камэры захоўваньня, дзе ляжыць падарунак ад італьянскіх сяброў. Паколькі я вярталася са спартовай залі, адчыніла тую ячэйку, убачыла падарункавы пакецік, ня стала нават туды зазіраць, пакінула свой заплечнік. І вырашыла прагуляцца па гандлёвым цэнтры: зайшла ў адну краму, накіравалася ў наступную. І тут пачалася сапраўдная спэцапэрацыя.

Да мяне падышоў „таварыш“ і кажа: „Натальля Алегаўна, прайдзёмце“. І павёў мяне менавіта да той ячэйкі, забраў заплечнік і падарункавы пакет. Папрасіў прайсьці да машыны. Сьледчы надзеў гумовыя пальчаткі, пачалі здымаць відэа. Ён

урачыста адкрывае пакет, там каробачка цукерак, а ў канвэрце — эўрыкі!

Выцягвае купюры: дзьве па 50 эўра і тры па 10. У суме 130 эўра. Мяне пачалі дапытваць: „ А што гэта такое?“. Патлумачыла, што працую з італьянцамі, яны перадалі падарунак.

Але гэта было фэерычна, як вымалі з канвэрта ў пальчатках пад відэазапіс 130 эўра! Адкуль яны даведаліся? Напэўна, тэлефон праслухоўваюць.

Можа, я такі кліент, якога можна пастаянна закрываць і выконваць плян? Але апошнім разам было вельмі сьмешна. У рэйтынгу ўсіх абсурдных рэчаў я на першым месцы.

Мяне павезьлі ў Заводзкі пастарунак, і там быў працяг „апытаньня“ пад відэазапіс. Міліцыянты пыталіся, як я стаўлюся да таго, што адбываецца, якая ў мяне пазыцыя. Я адказала, што не хачу зь імі нічога абмяркоўваць. Мне аддалі грошы і тэлефон.

„Чаму вы не захацелі зьехаць у Італію?“ — запыталіся. Я адказала, што, маўляў, няма настрою з прычыны таго, што адбываецца ва Ўкраіне і Беларусі. „Дык у нас у Беларусі ўсё стабільна, усё добра“. На што я адказала, што, маўляў, у вас усё добра, а ў нас — не. „Што вас зьвязвае з Украінай?“ — пытаецца міліцыянт. Я адказваю: „Сумленьне“. Ён даў мне параду: „Ня трэба нічога пісаць у фэйсбуку“. Тыя сілавікі зьехалі.

Потым мяне павезьлі ў дзяжурную частку і паказалі пратакол: „Размахвала рукамі, нецэнзурна лаялася, паводзіла сябе агрэсіўна“ — артыкул 19.1 („Дробнае хуліганства“).

Чалавека, зь якім я сустракаліся ў гандлёвым цэнтры, таксама затрымалі — я яго сустрэла ў дзяжурцы. На яго склалі такі ж самы пратакол,

за дробнае хуліганства. Мы абое напісалі, што з пратаколам не згаджаемся, віны не прызнаём.

Суткі нас пратрымалі ў гэтай дзяжурцы, потым павезьлі ў ІЧУ на Акрэсьціна.

Мы так званыя „кантрольныя“, то бок палітычныя. Суткі я правяла зь пітушчымі жанчынамі. Зь імі цяжка, яны вельмі гучныя, пастаянна крычаць. Палітычныя спрабуюць дапамагчы адно аднаму, падзяліцца рэчамі, а тут, наадварот, кожны цягне сабе.

На наступны дзень мяне зноў прывезьлі ў пастарунак, дзе адбываліся суды. У асноўным рэальным хуліганам давалі штрафы ў дзьве базавыя велічыні ці максымум трое сутак. А мне і чалавеку, якога затрымалі са мной, прысудзілі па 15 дзён арышту. Цяпер вельмі перажываю за чалавека, які ні ў чым не вінаваты, а на Акрэсьціна яшчэ і захварэў.

На судзе я настойвала, каб выклікалі сьведку з выдуманым імем Міхаіл Крамараў.

Маўляў, я лінгвіст і добра запамінаю галасы, гэтага чалавека там не было! Сьведка ў суд так і не зьявіўся. Я запатрабавала паказаць відэазапіс — адхілілі. Судзьдзя Анастасія Осіпчык вынесла прысуд — 15 сутак. Я запярэчыла, што доказаў няма. Мне яна адказала, што я не павінна задаваць пытаньні судзьдзі.

Мяне агаварылі з мэтай пасадзіць. І вось я тут (як у нас была прымаўка ў камэры: „І вось я тут“).

У ЦІПе я трапіла ў камэру № 6, якую сядзельцы называлі „палатай № 6“. Там сядзелі шмат палітычных і „карусельшчыц“. Хто сядзеў, той ведае: гэта тыя, каго перазатрымліваюць па некалькі разоў. Некаторыя сядзелі па 60 дзён. Дык

вось я ў траўні адседзела свае 15 сутак, потым 23 дні прабыла на волі. Адна жанчына, зь якой я сядзела мінулым разам, дагэтуль адбывала свае пакараньні — ну проста нон-стоп. Яна выйшла на волю толькі 15 чэрвеня!

Мне пашанцавала: за 23 дні, што я была на волі, арыштанты дзякуючы настойлівай грамадзянцы Ізраілю дамагліся, каб усіх бяздомных апрацавалі ад паразытаў.

Зноў сядзела зь легендарнай бяздомнай Алай Ільлінічнай. А таксама з Настай Карнацкай, якую затрымалі разам з выдаўцом Андрэем Янушкевічам на адкрыцьці кнігарні „Кнігаўка". Са студэнткай-выдатніцай, якая вучыцца на 5 курсе юрыдычнага факультэту, у якой павінна быць абарона дыплёму. Студэнтка вельмі прасіла, каб яе адпусьцілі з адвакатам на абарону, але гэтага ёй не дазволілі.

Па маіх назіраньнях, у асноўным людзі сядзяць за рэпосты (артыкул 19.11), за „адзіночныя пікеты", за „непадпарадкаваньне" і „хуліганства".

Адна дзяўчына камусьці пераслала артыкул зь „Зеркала" пра падаражэньне маршрутак. Яе пасадзілі. У многіх знаходзяць нейкія фатаздымкі з маршаў 2020 году. Паводле адміністрацыйных артыкулаў іх затрымаць нельга — выйшаў тэрмін даўнасьці, таму іх бяруць адразу па крыміналцы: спачатку на 10 дзён, каб пасьпець сфармуляваць абвінавачаньне, а потым перавозяць у СІЗА, на „Валадарку". Па палітычных, мабыць, ёсьць плян. Ім важна саджаць, рабіць выгляд, што яны працуюць.

Гэтым разам умовы ўтрыманьня былі больш камфортныя — максымум 12 чалавек у двух-

меснай камэры. Матрацаў і пасьцельнай бялізны па-ранейшаму не было, двойчы за ноч будзілі — а 2-й і 4-й.

Але пэрсанал гэтым разам быў даволі спакойны. Нават вядомы, раней „буйны“, супрацоўнік ЦІПу Яўген Урублеўскі паводзіў сябе цішэй вады, ніжэй травы. Магчыма, таму, што ў сакавіку нас было вельмі шмат, бралі за антываенны мітынг, яны былі раззлаваныя і на нас зрываліся. А тут была больш стабільная і спакойная абстаноўка.

У апошнія дні нам наагул прынесьлі пасту, шампуні, пракладкі — адбылося нешта неймавернае.

„Чаму ты не зьяжджаеш?“ Я не хачу рабіць ім на руку. Хтосьці павінен заставацца! Я ж не небясьпечная, я толькі гавару, што думаю.

Ну не хачу я ехаць! І мяне абурае, што хтосьці вырашае за мяне, што мне рабіць.

Можа, я такі кліент, якога можна пастаянна закрываць і выконваць плян? Я застаюся рэалісткай пасьля пяці затрыманьняў. Успамінаю анэкдот пра аптыміста і пэсыміста. Пэсыміст кажа, што горш ужо ня будзе. А аптыміст пярэчыць: „Будзе, будзе“.

---

7 чэрвеня

## СЁНЬНЯ Я КЛАДУСЯ НА АПЭРАЦЫЮ

*Кацярына Ваданосава:*

Сёньня я кладуся на апэрацыю. Мне будуць выдаляць ракавую пухліну малочнай залозы. Мне 36 гадоў. Другі раз замужам, гадую дваіх дзяцей. Цяпер жыву ў Беластоку.

Я б не хацела ня бачыць, як растуць мае дзеці. Мне здаецца, гэта самы страшны від катаваньня. Літва, Украіна, Польшча. За год дзеці памянялі тры школы з рознай мовай навучаньня.

Восем месяцаў таму ў мяне пачало „падцякаць“ з цыцкі, зьявілася псэўдалактацыя. Аднак было не да таго праз сытуацыю ў краіне. Аднойчы ноччу моцны боль прымусіў мяне зразумець — трэба да лекараў. У Беларусі паставіць дыягназ мне ня здолелі, дый не пасьпелі — трэба было зьяжджаць. Таму да нядаўняга часу я дакладна ня ведала, наколькі сур'ёзны мой стан.

У Беларусі гэта цэлы квэст — дайсьці да мамоляга. У Польшчы абсьледаваньні занялі тры тыдні. Пра дыягназ я ў той жа дзень шчыра напісала ў Facebook.

Я з шэрагу тых людзей, якім становіцца лягчэй, калі яны выгаворваюцца, каму „на людзях і плакаць лягчэй“. Мне было значна цяжэй, пакуль я не магла нікому нічога сказаць, калі не да канца было вядома: яно ці не яно. Некалькі тыдняў было вельмі блага. Калі напісала пост, стала лягчэй.

Мае блізкія баяліся, што калі я зраблю розгалас, то нехта парадуецца. Але нэгатыўных камэнтароў было толькі два, і яны, відавочна, ад „ботаў“. Але ж былі тысячы і тысячы паведамленьняў падтрымкі. Гэта як мэга-супэр-пупэр-дзень народзінаў.

Мы ўсе жылі абсалютна ў неадэкватным стане, калі здавалася, што вакол толькі цемра, страх, боль. Ты ня маеш права быць слабой, ня маеш права адчуваць свой уласны дробны асабісты боль. Ты мусіш не здавацца, падаваць прыклад, быць моцнай. Як мне сказала лекарка, гэта арганізм пачаў сам сябе есьці. У маёй сям'і ніхто

не хварэў на анкалёгію. Гэта зьявілася на фоне падзей у Беларусі.

Я была засмучаная тым, што мне напісалі дзясяткі жанчын, якія перажываюць падобнае пасьля 2020 году. Наколькі моцна мы не даём выхаду эмоцыям, унутранаму болю і скіроўваем яго на аўтадэструкцыю.

Я вельмі моцна перажываю. Кожны новы палітвязень — гэта вялікі боль. Цяжка вытрымаць усё, што на нас навалілася.

Калі б не прыйшлося бегаць ад амапу на маршах, чакаць званка ў дзьверы штодня, атрымліваць пратаколы, выслухоўваць пагрозы па тэлефоне, што дзяцей накіруюць у прытулак, а мяне ў турму; калі б не прыйшлося страчваць любімую працу, перажываць уцёкі, кідаць разам зь дзецьмі ўсё сваё жыцьцё, а потым мяняць адну краіну, другую краіну, трэцюю, пераходзіць пешкі мяжу зь дзецьмі бязь візаў, хавацца ў бамбасховішчах...

Мы за апошні год перажылі тое, што людзі перажываюць за жыцьцё. Усім беларусам патрэбен доўгі адпачынак. На ўзьбярэжжы закапаць ногі ў пясочак і пальцамі ног перабіраць. Але спакой нам толькі сьніцца. Няма часу. У мяне адна праца, другая праца, абавязкі. Я вельмі шмат хачу пасьпець. А пятай ранку ў маёй галаве пачынаюць працаваць шасьцярэнькі.

Жаданьне шмат зрабіць зьявілася падчас першага дэкрэту. Я працавала тады на дзьвюх працах, карміла па два гады кожнае сваё дзіця. Звычка, што ты мусіш усё пасьпець, выпрацавалася тады.

Пра сьмерць я задумваюся даволі часта зь дзяцінства. Калі памёр мой тата, мне было чатыры гады. Пасьля здарылася шмат сьмерцяў у маёй

сям'і. Канечнасьць жыцьця я разумею даўно. Хлопцы з майго гурту пыталіся: „Каця, а ў цябе ёсьць песьні не пра сьмерць?“

Я сьмерць успрымаю як частку жыцьця. Яна мяне ня страшыць, але гэта сумны факт, яго цяжка прыняць. Зараз для мяне самая страшная думка — што будзе з маімі дзецьмі, калі са мной нешта здарыцца?

Да дыягназу я была гатовая маральна. Доктарка паведаміла дыягназ і выйшла з кабінэту, дала мне хвілінку з гэтым пабыць. Потым прыйшла другая доктарка і павяла мяне на абсьледаваньне. Прыйшла дадому, а там дзеці, зь імі трэба ўрокі рабіць. У мяне не было часу адрэфлексаваць.

Прыкладна раз на дзень мяне прабівае, я пасяджу паплачу, а потым іду па справах. Я люблю паплакаць, пашкадаваць сябе, але мяне выратоўвае, што ў мяне вельмі мала часу на гэта. Калі вайна пачалася, нам трэба было тэрмінова нешта вырашаць (тады мы былі ў Кіеве). І ты сьвядома не даеш сабе шанцу задумацца: ах, якая я няшчасная. Ты думаеш, як вывезьці дзяцей. Сябар мне тады сказаў: „Каця, як ты мяне дастала! Ты супэржанчына!“

Калі б мне дазволілі, я б хадзіла ў карункавых сукеначках і вышывала кашулечкі. Мне цікава столькі ўсяго! Я магу ў тэлепраграме „Хай так“ запісваць трэшовыя навіны і рагатаць з Рагозіна і Шайгу, прыйсьці дадому, уключыць лайтовы фольк 1960-х і сядзець пад яго вышываць або сярэднявечныя літаркі пісаць і знаходзіць у гэтым велізарнае задавальненьне. Гэта ўсё я.

Зранку калі прачынаесься і думаеш: „Блін, зараз дзяцей падымаць, сьняданкам іх карміць, у школу

іх везьці, апранаць (а зіма, мароз), ганяць іх, каб зубы пачысьцілі“. Страшная такая.

Пасьля дыягназу муж мяне падтрымаў. Ягоная маці перажыла падобны дыягназ, ён падышоў цьвяроза. Не было такога: „Уй ты мая бедненькая, я цябе пашкадую“. Я адчула, што ён са мной, сядзеў са мной у чарзе. Ён сказаў, што гэта ўсё трэба прайсьці, што гэта не сьмяротна, каб я была гатовая да таго і таго. Я разумею, што буду ванітаваць і лысая буду хадзіць.

Сыну я не сказала, бо яму 8 гадоў і наўрад ці ён зразумее. Дачка мая ведае. Дзеці ў мяне загартаваныя. Яны перажылі столькі ўсяго: сыход таты, калі сыну было 3 гады, а дачцэ 6, выезд зь Менску, выезд з Украіны. Дачка настроена вельмі аптымістычна і нават не дапускае думкі, што мама чагосьці ня вытрымае. Можа, часьцей стала мяне абдымаць.

Мае дзеці ніколі не называлі мяне „мамачка“: я мама. Любоў у нашай сям’і не выяўляецца „коцікамі“, „лапачкамі“, „зайчыкамі“, у мяне гэта выклікае сьмех.

У нас падтрымка, сумесныя справы, абавязковае ўлічваньне інтарэсаў кожнага. Нягледзячы на мой дзікі распарадак дня, я мушу перад сном пачытаць Яну кніжку. Любоў — гэта калі ты хочаш праводзіць з гэтымі людзьмі ўвесь час, які магчыма.

Я ніколі не стварала сабе куміраў. Вельмі паважаю сваю маму, якая выгадавала мяне і брата адна ў 1990-х, якая ахвяравала сваім жыцьцём дзеля нас. Але я б не хацела паўтараць ейны шлях, класьці сябе на алтар служэньня сваім дзецям.

У мяне вельмі сьветлы вобраз майго таты, але, магчыма, таму, што я вельмі кепска яго памятаю.

Я звычайна пляную на гады. У мяне ўсё было распляванава: калі я купляю машыну, калі адкладаю грошы на домік, калі кветачкі рассаджваю.

Першы раз мае пляны паламаліся, калі я засталася адна зь дзецьмі ў 2017 годзе: муж пайшоў ад мяне ў дзень народзінаў сына. Здарылася настолькі нечаканая рэч, пра якую я падумаць не магла. Тады я зразумела, што можна спадзявацца толькі на сябе.

Але 2020 год мне паказаў, што нават такія пляны рабіць ня вельмі стратэгічна. Мы толькі скончылі рамонт; я зрабіла ўсё так, як хацела. Пасьля гэтага я зразумела, што плян можа быць хіба такі: паехаць у IKEA купіць накрыўку або паехаць струны памяняць на гітары.

А потым здарылася вайнушка, і я зразумела, што нават гэтага ня варта плянаваць. Цяпер я думаю жыць, як гаварыла мая бабка: „Трэба жыць, як набяжыць“.

Самае каштоўнае, што пакінула дома — лецішча, якое ствараў мой дзед. Адчуваньне дома, нават ня сам дом. Мне не хапае адчуваньня, што я магу будаваць сьвет такім, як я хачу. Мы зараз цягаемся па здымных кватэрах, я не магу нават крэсла замяніць на тое, якое мне падабаецца.

Яшчэ мне вельмі не хапае прыроды. Мы ў Беларусі кожныя выходныя, нягледзячы на надвор’е, сядалі ў машыну і кудысьці ехалі. Мой сын называў гэта: „Глядзець нейкіх разваленых“.

Калі дасьць мне Бог вярнуцца ў Беларусь, я куплю сабе хату на Нёмне. Буду кожны дзень

на бераг выходзіць і спачатку, пэўна, плакаць, а потым проста глядзець і думаць: „Якое шчасьце!“

Нядаўна я выйшла ў маленькі беластоцкі парк, села вышываць, а ў мяне над галавой засьпяваў салавей. Я расплакалася.

Калі цяжка, я маю ўяўнага сябра. Я была вельмі хваравітым дзіцем, у школе мяне цкавалі, мне там было дужа цяжка. У 15 гадоў у мяне была спроба самагубства. Вялікую частку дзяцінства я правяла дома адна. Я ўяўляла сябе гераіняй кніжак, прыдумляла дыялёгі.

Цяпер мне гэта таксама вельмі дапамагае. Я магу падумаць: „Каця, калі б ты была на месцы таго і таго, хто б цябе атачаў і што б ты яму сказала?“ Тады я думаю: „У мяне яшчэ ўсё нармальна, а ў таго чалавека ўсё было значна горш“.

Чаму я шмат апраўдваюся? Гэта зьвязана з папярэднім досьведам. Пра дзяцінства я ўжо казала. Вельмі траўматычным было маё першае замужжа, пастаянны падсьвядомы аб'юз з боку мужа, бо мне „больш за ўсіх трэба“. Табе цягам сямі гадоў уліваюць у вушы, што ты нічога ня вартая. Ты адчуваеш сябе непаўнавартаснай не таму, што ты нечага ня ўмееш, а таму, што нешта ўмееш. Гэтае адчуваньне застаецца дагэтуль, хоць я спрабую яго вырваць. Магчыма, гэта адна з прычын, чаму мой арганізм пачаў займацца аўтадэструкцыяй.

Я столькі ўсяго перажыла. Я ніколі ня думала, што мы дакоцімся да такой рэальнасьці. У ёй ёсьць адзін велізарны плюс — яна зрабіла нас настолькі моцнымі, што ў нас няма іншага варыянту, акрамя як выжыць і зрабіць так, каб нашае жыцьцё залежала ад нас.

Надзея мая ўва мне. Што тое, што ўжо зроблена, ня зьнікне; у тым, што дзеці мае вырастуць нармальнымі людзьмі.

---

9 чэрвеня

## ДЗЯКУЙ ЗА МОВУ

*Вікторыя:*

Я жыву ў Менску, маю двое дзяцей, раней працавала доўлай, цяпер шукаю новую працу. Яшчэ дзесяць гадоў таму пачынала пісаць па-беларуску ў сацсетках, але спроба аказалася няўдалаю — былі і папрокі ў недасканалым валоданьні моваю, і непрыняцьце ў сям'і.

Я тады была актыўнай удзельніцай жаночага форуму і паспрабавала там пісаць па-беларуску. Мяне так „зашэймілі" за русізмы, памылкі і сумесь тарашкевіцы і наркамаўкі, што я зноў перайшла на расейскую. Дадаў мне няўпэўненасьці і муж. Ён расеец, які большасьць жыцьця пражыў у Беларусі. І ён вельмі грэбліва ставіўся да беларускай мовы. Гаварыў, што гэта мёртвая мова, і падсьмейваўся зь мяне. Гэта не дадавала мне ўпэўненасьці. Я тады была маладзейшая і слабейшая. Таму пераход на мову адбыўся значна пазьней. Але я заўжды з радасьцю пераходзіла на беларускую мову, калі зьяўляўся нехта, з кім можна было паразмаўляць. І гэта было цудоўна і прыемна.

Галоўным штуршком для пераходу на беларускую мову сталі падзеі 2020 году. Тады пачала пісаць на дзьвюх мовах. Спачатку на беларускай

мове, а потым давала пераклад на расейскую. Але гэта было вельмі нязручна. Канчаткова я перайшла на родную мову, калі пачалася агрэсія Расеі ва Ўкраіне. Гэта было нейкае азарэньне. Мне ўжо было ўсё роўна, што падумае муж, як адрэагуюць бацькі, ці прымуць беларускамоўную маму дзеці. Я проста зразумела, што хачу захаваць беларускую мову. А ёсьць толькі адзін спосаб гэта зрабіць — пачаць размаўляць самой.

Увогуле беларускую мову я „ўсмоктвала“ зь дзяцінства, гледзячы беларускую тэлевізію, слухаючы радыё, удзельнічаючы ў здымках „Калыханкі“. Можна лічыць, што я расла ў беларускамоўным асяродзьдзі, нягледзячы на тое, што ў сям'і ў мяне размаўлялі па-расейску. Потым была школа, дзе мова давалася мне лёгка. Але пасьля школы я беларускай зусім не карысталася, акрамя выпадкаў, калі сустракала каго-небудзь беларускамоўнага. І атрымлівалася гэта вельмі ненатуральна. Не было лёгкасьці. Я пыкала і завісала амаль на кожным слове.

Азіраючыся назад, я аналізую, чаму баялася карыстацца беларускай мовай. Асяродзьдзе ў мяне было расейскамоўнае. Муж лічыў мову мёртвай. І ў той час гэта былі актуальныя для мяне прычыны, каб размаўляць па-расейску. Мне патрэбна было дарасьці да таго стану, калі мне стане ўсё роўна, што скажа муж, як ён будзе жартаваць, як я буду кантактаваць зь іншымі людзьмі. І патрэбны былі нейкія абставіны, якія падштурхнулі б мяне да пераходу на родную мову. Хто ж ведаў, што гэтымі абставінамі стануць рэвалюцыя і вайна!

Перайсьці на беларускую мову было складана псыхалягічна. Было складана зьвярнуцца да вы-

падковага чалавека па-беларуску. Напрыклад, у чарзе, ці да касіра, ці да чалавека ў транспарце. Зьяўлялася дзіўная няўпэўненасьць: ці зразумеюць мяне? Ведаў і слоў хапае, бо я ўжо амаль два гады пісала па-беларуску. Слоўнікам досыць часта карыстаюся. Мне падабаецца пазбаўляцца русізмаў і знаходзіць прыгожыя і смачныя беларускія словы. Гэта такая асалода — імі карыстацца. Можна сказаць, што я зьбіраю калекцыю з такіх слоў. Асабліва радуе, калі я нешта гавару і словы самі прыходзяць у галаву, нібыта памяць продкаў іх мне дасылае.

Паступова мянялася і стаўленьне ў сям'і да беларускай мовы. Як я ўжо казала, муж дрэнна ставіўся да беларускай мовы, але калі ў канцы лютага я паставіла яго перад фактам: я буду размаўляць па-беларуску, нягледзячы на тое, як ты да гэтага ставісься, ён гэта моўчкі прыняў. Сусьветныя падзеі і на яго паўплывалі таксама. Ён некалькі разоў пажартаваў, а цяпер толькі падказвае мне нейкія словы, калі я раптам русізмы ўжываю.

А вось з бацькамі было больш складана. Мама мне сказала, што на роднай мове трэба гаварыць ад сэрца, а не з палітычных прычын. Зь ёй мы доўга размаўлялі, і я растлумачыла, што я менавіта ад сэрца і гавару і ішла да гэтага шмат гадоў. Тата прыняў прасьцей. Ён украінец. І я спыталася ў яго, ці будзе ён мяне разумець, калі я буду гаварыць па-беларуску. Ён адказаў, што будзе. Дочкі паставіліся па-рознаму. Старэйшай падабаецца і самой паразмаўляць са мной на трасянцы. А малодшая крыху зьдзекуецца і часам кажа, што не разумее мяне. Вядома, калі ёй выгадна мяне не разумець. ☺

Пасьля пераходу на родную мову я крыху баялася рэакцыі людзей. Асабліва страшна было запытацца ў маладога вайскоўца ў аўтобусе, ці выходзіць ён. Але былі і вельмі прыемныя рэакцыі. Некалькі разоў мне выпадковыя людзі казалі: „Дзякуй за мову!“ Бывае, што пытаюцца, як доўга размаўляю па-беларуску і чаму вырашыла перайсьці на беларускую. Яшчэ мне вельмі падабаецца, калі чалавек, зь якім я размаўляю, сам пачынае пераходзіць на беларускую мову. І я бачу, што яму падабаецца гэта. Ён можа забываць нейкія словы, але ён проста зьзяе ад задавальненьня.

У „Сямнаццаці імгненьнях вясны“ выведніцу выдала тое, што яна, нараджаючы дзіця, крычала на роднай — расейскай — мове. Для мяне расейская больш „родная“, па сутнасьці. На ёй я за жыцьцё размаўляла значна больш. Але ў стрэсавай сытуацыі, калі трэба хутка нешта сказаць, я ўжо раблю гэта па-беларуску. Такім чынам, можна ўжо сказаць, што я пачала думаць па-беларуску.

Галоўнае, не баяцца памылак і русізмаў. Заняцца паляваньнем на прыгожыя беларускія словы, шукаць іх і дадаваць у свой слоўнікавы запас. Дзекаць, цекаць, джэкаць і гэкаць з асалодай. ☺ І яшчэ вы абавязкова сустрэнеце тых, хто скажа вам дзякуй за мову, і вы адчуеце адзінства з гэтымі людзьмі. Вам усьміхнуцца з асаблівай пяшчотай. Вам адкажуць па-беларуску, і гэта будзе тое самае адчуваньне, якое было ў нас у 2020-м.

*Алена:*

Я блогерка, і, калі пачалася вайна, паўстала праблема, як пісаць далей. Мая тэма далёкая

ад палітыкі, я ніколі не хацела рабіць свой блог шырокім і пісаць пра ўсё на сьвеце; я хацела, каб быў вузкі профіль. Некалькі тыдняў я нічога не пісала, а ў нейкі момант пачала пісаць у блогу па-беларуску. І гэта адразу прыхіліла для мяне шмат чытачоў, быў вельмі добры водгук.

Раней, калі я вяла блог па-расейску, знаходзіліся людзі, якія папракалі: што ж вы робіце, тут такое адбываецца, а вы пра сваё пішаце. А як не пісаць? Я гэтым грошы зарабляю, я не магу не пісаць, гэта мая праца. Як толькі я перайшла на беларускую мову, гэтая праблема адразу зьнікла.

Я вучыла беларускую мову ў школе, і пераход з расейскай на беларускую адбыўся досыць лёгка. Я пэрыядычна карыстаюся слоўнікам і электронным перакладчыкам. Часам не адразу знаходжу патрэбныя словы і лічу гэта натуральным.

Беларуская мова зрабіла мяне багацейшай. Але цяпер здараецца, што і на расейскай мове нейкае слова шукаю, бо не магу беларускае слова на расейскую перакласьці. Напрыклад, не магу знайсьці аналяг па-расейску слову „замінаць“. Мне здаецца, што ў расейскай мове няма слова, якое так добра будзе азначаць гэты працэс.

Што да беларускамоўнага асяродзьдзя, то ёсьць два бізнэсы, зь якімі я супрацоўнічаю на беларускай мове. А таксама ёсьць вясковыя беларускамоўныя блогеры, зь якімі я кантактую. Дарэчы, назіраю, што, як толькі людзі пераяжджаюць жыць на вёску, вельмі хутка становяцца беларускамоўнымі.

Празь беларускую мову я здабыла новых кліентаў. Раней беларуская мова была для некаторых як мова фрыкаў, маглі неадэкватна рэагаваць.

Цяпер усё зьмянілася... З нэгатыўнымі рэакцыямі не сутыкалася ніводнага разу. Мабыць, не хаджу туды, дзе гэта можа быць. Сторыс я раблю толькі па-беларуску, а вялікія пасты часам пішу яшчэ па-расейску. Паступова лепей уваходзіць у мову.

Мая парада навічкам — не пакідаць расейскую мову, а мець дзьве мовы. Гэта робіць нас багацейшымі, як і тая ж ангельская мова. Можна ведаць некалькі моваў, гэта не азначае выкінуць адну зь іх у сьметніцу. Я не лічу расейскую няроднай мовай. Зь дзяцінства я на ёй размаўляла і думала. Зь нейкіх глябальных матываў дзяржаваў гэтая мова была мне родная, а не беларуская. Што ж я ўжо зраблю? Так атрымалася, я тады не выбірала нічога. Зараз я выбіраю дзеля ўнутраных матываў беларускую мову ў якасьці роднай, але адмаўляцца ад расейскай не лічу добрай ідэяй. Цяпер я магу нармальна гаварыць і пісаць на дзьвюх мовах.

*Паша Цеплата:*

Я мянчук, актывіст, валянтэр, цырульнік, у 2021 годзе быў вымушаны выехаць зь Беларусі ва Ўкраіну, а адтуль у Польшчу, калі пачалася вайна. У лістападзе 2021 году вырашыў гаварыць і пісаць у сацсетках па-беларуску.

Складана сказаць, чаму я прыняў такое рашэньне. Я жыў ва Ўкраіне, краіне, якая пакутуе ад расейскай агрэсіі, я адчуваў гэта. І, хоць ніхто ніколі не забараняў ва Ўкраіне гаварыць па-расейску, гэта ўсё адно ўплывала. Мяне выгнала з маёй краіны ўлада, якая трымае курс на інтэграцыю з Расеяй, якая забівае родную мову, аддае краіну пад акупацыю. Таксама я жыў са сваёй белару-

скамоўнай сяброўкай, і гэта стала важнай часткай таго, што я перайшоў на беларускую мову.

Мой так званы „бацька“ (бяру ў двукосьсе, таму што ён вельмі нядобры чалавек) нарадзіўся ў Казахстане і ўсё маё жыцьцё, пакуль я не абарваў камунікацыю, гаварыў, што беларуская — гэта сапсаваная расейская мова, як і ўкраінская; што такой мовы няма і быць ня можа, і да таго падобнае.

У мяне ў школе былі ўрокі беларускай мовы, але іх вяла ня самая прыемная для мяне настаўніца. І разам з устаноўкамі „бацькі“, што „мы татары, і ўвогуле беларуская мова ня мова“, мне было неактуальна яе вучыць. Але, як аказалася, памяць нешта зафіксавала, і цяпер я больш-менш свабодна размаўляю, што для мяне вельмі дзіўна, папраўдзе.

Раней я практычна не сустракаў людзей, якія гаварылі б па-беларуску. Думаю, гэта вельмі моцна залежыць ад атачэньня. І ў маім такіх людзей не было… Я ганаруся тым, што размаўляю па-беларуску. На жаль, пакуль не магу гаварыць па-беларуску заўсёды, бо, калі стамляюся, бывае нялёгка думаць, падбіраць словы.

Граматыкі і правілаў ніколі ня ведаў і ня ведаю дагэтуль. Гавару выключна паводле адчуваньняў. Калі пішу пасты ці паведамленьні і ня памятаю словаў, карыстаюся цудоўным ботам у Telegram, „Белазар“ называецца. Як жа я рады, што ёсьць людзі, якія зрабілі яго. Гэта так моцна дапамагае.

Рэакцыя на маю беларускамоўнасьць выключна пазытыўная.

Аднойчы ўкраінскамоўная дзяўчына проста напісала мне: „Я дзякую табе за тваю беларускую

мову“. Гэта было вельмі прыемна. І я пачаў думаць па-беларуску. А яшчэ мая партнэрка сказала мне, што я пачаў гаварыць у сьне па-беларуску!

Самае галоўнае — гэта пачаць. У мяне было так. Я спачатку пачаў пісаць па-беларуску як магу. Калі чагосьці ня ведаў, карыстаўся дапамогай „Белазара“. Потым пачаў гаварыць па-беларуску, але толькі калі на твары была маска (таму што сорамна было, ня ведаў, як я кантралюю мініку, і ўвогуле было вельмі няёмка). А потым яно неяк само пайшло.

---

25 чэрвеня

## НЯСКОНЧАНЫ РАСПОВЕД

*Іван „Брэст“ Марчук (за дзень да гібелі на фронце):*

Я родам зь Берасьця. Мне 28 гадоў. Спачатку вучыўся ў школе з ухілам у мовы, але потым бацькі зразумелі, што ў мяне больш фізыка-матэматычны ўхіл, таму перавялі мяне ў адпаведную школу. Далей для разьвіцьця сваіх ведаў я паступіў у клясу агульнаадукацыйнага ліцэю, таксама зь фізыка-матэматычным ухілам. Па сканчэньні школы паступіў у Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт інфарматыкі і радыёэлектронікі на спэцыяльнасьць „Інжынэр па тэлекамунікацыях“. Там я правучыўся два гады. Чаму два? Бо ясна зразумеў для сябе яшчэ на першым курсе, што гэта не маё.

Мной заўжды кіраваў дух прыгодаў, а таксама ў мяне было абвостранае пачуцьцё справядлі-

васьці. На гэта бацькі казалі, што да дабра такое пачуцьцё не давядзе і лепш памаўчаць. Не атрымліваецца маўчаць (*сьмяецца*). Цяпер усё прыходзіць да нейкай лягічнай разьвязкі, таму я ва Ўкраіне, дзе паставіў усё на кон, знаходзячыся ў небясьпецы як з боку КГБ, гэтак і з боку ворагаў-расейцаў.

Да фанацкіх арганізацый, якія былі прадстаўленыя ў Берасьці, я ставіўся ня вельмі сур’ёзна. Я бачыў хлопцаў з гэтага асяродзьдзя, разам стасаваліся, вучыліся. Мне не падабалася, што яны шмат п’юць, а таксама не падтрымліваюць нейкай добрай ідэі, а проста вядуць хуліганскі лад жыцьця. Што тычыцца апазыцыі, то, шчыра кажучы, я ня бачыў нейкіх структур, якія б мелі сілу і займаліся рэальнымі справамі. Кажу гэта ня ў крыўду камусьці, магчыма, я тады проста гэтага не заўважаў.

З 2015 году я апынуўся ў зоне АТА ва Ўкраіне. А як было не паехаць? Ужо тады было зразумела, у якое рэчышча гэта пойдзе. Былі спадзяваньні, што гэта ўсё не перарасьце ў нешта поўнамаштабнае. Але ўжо тады АТА было высакароднай справай у абароне братоў ад неправамернай агрэсіі. І ўжо тады было зразумела, што Расея спрабуе ўсталёўваць на тых тэрыторыях незразумелы рэжым, дзе творыцца беззаконьне.

Магчыма, я больш сэнтымэнтальны чалавек, таму і ў памяць найлепш уразаюцца нейкія кранальныя моманты, якія прымушаюць проста ўсё разрывацца ўнутры, выклікаюць неймаверны прыліў эмоцый. Ведаеце, гэты момант душэўнасьці, стасаваньне між людзьмі, калі ты проста перанасычаны эмоцыямі. Такіх momantaў у звы-

чайным жыцьці не сустрэнеш. Гэта моманты духоўнай блізкасьці між людзьмі. Гэтыя моманты... Блін, гэта вельмі складана... Больш за ўсё, калі я прыехаў у зону АТА, мяне захапіла і зьдзівіла тое, як людзі гатовыя ахвяраваць сабой (але нічога не патрабуюць узамен) дзеля ўласнай краіны. Як людзі дапамагаюць адзін аднаму. Чужы чалавек заўжды гатовы табе дапамагчы, ведаючы, што ты адпраўляесься на перадавую. Ці на перадавой ніхто табе нічога не шкадуе, дзеляцца чым заўгодна.

У параўнаньні з АТА цяпер маштаб зусім іншы. Тады не было такога, каб усё вакол выбухала, каб працавалі адначасова і артылерыя, і авіяцыя, і танкі, і пяхота. Узровень ворага цяпер зусім ужо іншы.

Трэба сказаць, што ў 19 гадоў я апынуўся ў францускім Замежным легіёне. У момант, калі вырашыў рызыкнуць. Падчас летніх канікулаў ва ўнівэрсытэце я паехаў у Францыю, купіўшы звычайную турыстычную пуцёўку. Я шмат пра гэта думаў — гэта было ўзважанае рашэньне. Я два гады гарэў гэтай марай. Я зразумеў, што праца інжынэрам — гэта не маё, я хачу быць вайскоўцам.

У Парыжы я пайшоў проста на вэрбавальны пункт, дзе мяне чакала мноства тэстаў, адбораў. Праз два тыдні мяне ўзялі. Чатыры месяцы было „вучэбкі", а потым баявы полк. Была выдатная падрыхтоўка, цяпер гэта вельмі прыкметна. Гэта дапамагае мне захоўваць жыцьці хлопцаў і дзейнічаць максымальна граматна...

1 ліпеня

## У МЯНЕ РАК

*Кацярына Пытлева:*

У мяне рак. Так што сёньня пачынаецца і мая асабістая вайна. Гэта быў найцяжэйшы месяц чаканьня пацьверджаньня і абсьледаваньняў, месяц прывіднай надзеі на цуд, што ўсё ж няма.. Але цуду ня здарылася.

Я ўсё жыцьцё ведала, што так, хутчэй за ўсё, будзе. Усё ж такі пяць выпадкаў раку грудзей па мамінай лініі. І я рыхтавалася да гэтага.

Напярэдадні рэвалюцыі я праходзіла кансультацыі і абсьледаваньні, каб прэвэнтыўна выдаліць грудзі (двайная прэвэнтыўная мастэктамія, як у Анджэліны Джалі), але не пасьпела... Давялося выяжджаць, а тут у мяне доўгі час не было статусу, які дазваляў бы гэта зрабіць. І вось вынік.

Ніякіх сымптомаў у мяне не было, падазрэньне на хваробу зьявілася падчас звыклага самаабсьледаваньня. Заўсёды шукаю чагосьці добрага ва ўсім гэтым жорсткім, што адбывалася са мной у жыцьці, знайшла і тут. Я радая, што я тут, а не ў Беларусі, улічваючы, якія цяпер у краіне чысткі ў сыстэме аховы здароўя. Так што ўсё выявілася ў вельмі правільным месцы і ў правільны час, калі ў мяне ўжо зьявілася страхоўка, а гэта ўжо нямала. У мяне 2-я стадыя; на шчасьце, мэтастазаў не знайшлі і пухліна не агрэсіўная, так што шанцы добрыя. Што тут яшчэ скажаш...

Я спадзявалася, што гэты гробаны сэрыял зь бясконцымі выпрабаваньнямі ў маім жыцьці

скончыўся, але не. Так што чарговы раз уключаю сталёвыя яйцы. Ну а далей, як і з нашай перамогай, — рабі, што можаш, там, дзе ты ёсьць. Так і пераможам.

---

14 ліпеня

## БЫЛО Б ПРАСЬЦЕЙ, КАБ МЫ БАЧЫЛІ ПЕРАД САБОЙ ЗЬВЯРОЎ

*Зьміцер Дашкевіч (апошняе слова ў судзе):*

Канечне, я разумеў, што мяне чакае, але тое, што я пачуў ад пракурора, гэта вышэй за разуменьне дабра і зла.

Ісус даў нам уладу адпусьціць грахі чалавеку ці пакараць. Які павінен быць грэх, што маці чацьвярых дзяцей, немаўляткі неданошанага, просяць пасадзіць у турму?

Я часам задаю сабе пытаньне, што думаюць гэтыя людзі, што імі кіруе, калі просяць выносіць прысуды. Было б прасьцей, калі б мы бачылі перад сабой зьвяроў. А так яны ходзяць, усьміхаюцца. Сьледчыя, якія пішуць гэтыя справы, просяць прабачэньня, усьміхаюцца, цукеркі носяць на закрыцьцё справы.

Летась да мяне падышла дзяўчына са сьлязамі на вачах. Кажа: „Вось даведалася, што вы тут стаіце, прыйшла папрасіць прабачэньня за тату“. Я не зразумеў, пра што яна гаворыць. Кажа: „Тата мой у 2004 годзе даў вам 14 сутак, памятаеце?“ А я вельмі добра запомніў, таму што гэта быў адзіны выпадак, калі мне 14 сутак давалі. І вось

праз 17 гадоў да мяне падышла дачка судзьдзі і сказала: „Прабачце майму тату“. Напэўна, адзін з самых шчымлівых момантаў за гэтыя больш чым 20 гадоў. Я не пасьпеў у яе запытаць, але, напэўна, яна размаўляла з татам, тата думаў пра гэта ўсе гады. Даючы мне 14 сутак, выразна разумеў, што ён робіць беззаконьне. Нават 14 сутак, хоць у той момант я ня вельмі засмуціўся б і 14 гадамі. А тут паўтара года мы просім матулі зь немаўляткам на руках. У свой час да вас падыдуць вашыя дзеці і скажуць: „Мама, Дашкевічам-злачынцам па паўтара года?“ Напэўна, толькі тады адбудзецца асэнсаваньне.

Што адбываецца зараз, немагчыма зразумець. Калі падчас арышту мяне білі пры маёй жонцы цяжарнай і казалі: „Что говорит этот человек? Пусть говорит нормально. Пусть нормально разговаривает“. Калі везьлі ў машыне, гэты губопавец сказаў: „Я б цябе зьнішчыў толькі за тое, што ты дзяцей вучыш“. Я кажу: „Паслухай, што я раблю ня тое?“ Ён: „Ну вось лісты пішаце, мы пазнаходзілі там лісты, далучылі да крымінальнай справы“. Знайшлі лісты, якія дзеці нашыя пісалі Марыі Калесьнікавай: „Маша, мы молімся за цябе, мы любім цябе“. Вось гэта злачынства — дзеці пішуць лісты палітвязьням.

Калі мяне арыштоўвалі на Акрэсьціна ў крымінальнай справе, таксама губопаўцы сьмяяліся: „Жонка будзе нараджаць у турме“. Я думаў, што гэта самы страшны дзень у маім жыцьці, але сёньня, напэўна, яшчэ страшнейшы.

Настачка, прабач мне, што я цябе ў гэта ўцягнуў. Ня мог уявіць ніколі, што такое можа з намі адбыцца. Я ўвесь час разважаў, што я нясу гэты

крыж, але я ня мог падумаць у страшным сьне, што я ўскладу гэты крыж на цябе. Даруй мне, што я так мала думаў пра цябе. Я кахаю цябе і малюся за цябе і за нашых дзетак, за неданошанага Даніільчыка нашага (*плача*). Ты сьвятая жанчына. Я ня ведаю такіх. Даруй, што я падвёў цябе.

Я не разумею, што адбываецца. Людзі з вышэйшымі юрыдычнымі адукацыямі лічаць, што злачынца — гэта той, хто супраць гвалту выйшаў, а ня той, хто робіць гвалт. Злачынцамі яны лічаць таго, хто хоча праўды, а не таго, хто кажа: „Временами не до законов“. Спадзяюся на Божую волю, хоць я не разумею, што адбываецца, скажу вам так.

У тым, што такая сыстэма ня можа існаваць, няма сумневу. Я проста зычу вам, судзьдзі, пракуроры, падумаць пра душу сваю. Я заўсёды кажу на судах (хоць гэта, напэўна, і бессэнсоўна): Ісус Хрыстос кажа — што ты дасі за душу сваю, калі прыйдзе дзень суду справядлівага? Што ты дасі за душу сваю, калі будзе суд сапраўдны? Сапраўдны суд. Вы назвалі сябе судом. Бог называе сябе судом. Імя Бога — судзьдзя. І я адказваю: прыйшоў судзьдзя і судзіў мяне справядліва за тое, што выйшаў 23-га зь дзецьмі і раздаваў буклеты „Малітва за Беларусь“, Бібліі раздаваў.

У дзень сапраўднага суду вы нічога не дасьце за сваю душу. І дай Бог, каб вашы дзеці праз 17 гадоў ці праз 17 месяцаў, ці вы самі прыйшлі і сказалі: „Прабач“. І, бачыць Бог, не жадаю нікому з вас зла. Адзінае, каб вы трошку задумаліся, што вы робіце, ці ёсьць нешта, што б вы не зрабілі, калі вам загадаюць, ці ёсьць для вас нейкія межы.

14 ліпеня

## ПРЫЕМНА ВАЯВАЦЬ СА ЗЛОМ

*Добраахвотнік Зьміцер „Ліс“:*

Я звычайны беларус. Родам зь Берасьцейскай вобласьці. З 14 гадоў зацікавіўся ідэямі нацыяналізму. Мая бабуля была старшынёй мясцовай суполкі БНФ, дэпутаткай мясцовага савету. Менавіта бабуля найбольш займалася маім выхаваньнем. Маёй першай кнігай быў „Адкуль мой род“ Уладзімера Арлова. Здаецца, гэта шмат пра што гаворыць.

Я вучыўся ў абласным ліцэі на гістарычна-грамадазнаўчым профілі, цікавіўся гісторыяй Беларусі. Пасьля школы паступіў на гістфак БДУ, але сышоў адтуль яшчэ да першай сэсіі, бо палічыў, што гэта не маё. У хуткім час мяне забралі ў войска.

Я роўна тыдзень праслужыў у памежных войсках, але ўдала „саскочыў“ у шпіталь і праз два месяцы мяне камісавалі. Я ня супраць быў служыць у войску, нават рыхтаваўся да паступленьня ў Вайсковую акадэмію на факультэт унутраных войскаў, хоць лупцаваць людзей ніколі не хацеў. Але тады мяне забракавала мэдкамісія, а вось для самога войска я раптоўна ўжо падыходзіў. Але ў рэальнасьці ніякага беларускага войска не існуе. Усё па-расейску, сьпяваюць нейкія дурныя расейскія песьні, нават вайсковага білета не існуе на беларускай мове. Калі мяне камісавалі, гэта было палёгкай.

Нейкі час я папрацаваў мантажнікам у „Эўраопце“, але доўга не ўтрымаўся — лічыў гэтую

працу рабскай. У 2020 годзе ўключыўся ў рух за справядлівыя выбары і перамены, хоць нікога з палітыкаў тады не падтрымліваў.

Удзельнічаў у сутыкненьнях зь міліцыяй, маршах, акцыях пратэсту, потым у партызанскім руху. У асноўным у сваім горадзе. У Менск прыяжджаў 15 лістапада, калі была акцыя на „плошчы Перамен“.

Мяне затрымлівалі ў родным горадзе некалькі разоў, яшчэ было пару няўдалых спробаў. Агулам паводле адміністрацыйных пратаколаў і ў крымінальных справах я адседзеў 40 дзён. Мяне затрымлівалі 18 верасьня ў рамках крымінальнай справы за сарваны сьцяг, пратрымалі тры дні, яшчэ тры дні ў адміністрацыйнай справе, але ў выніку далі штраф. Нават запісалі тады відэа з маім удзелам, але я там сказаў, што не раскайваюся ў зробленым, тады такія відэа таксама выкладвалі.

У траўні 2021 году мяне затрымліваў „забойны аддзел“ зь Берасьця ў справе пашкоджаньня маёмасьці. Затрымлівалі мяне тыя ж людзі, што раней затрымлівалі Аўтуховіча. Свой дзень нараджэньня я сустракаў у ІЧУ. Моцна псыхалягічна ціснулі, але ў іх нічога не было на мяне, таму давялося выпускаць. Літаральна празь дзень мяне ўжо затрымлівае губазік, яны працавалі па партызанскім руху ў нашым горадзе.

Дзесьці зь лютага 2021 году публічных акцый пратэсту больш ня ладзілі, а актывісты перайшлі да больш радыкальных дзеяньняў — зрывалі сьцягі, потым іх падпальвалі, ламалі шыльды ў дзяржаўных установах, псавалі камэры відэаназіраньня, раскідвалі газэты і ўлёткі, а потым

дайшло да пашкоджаньняў „Табакерак“ і апорных пунктаў міліцыі.

У адным з такіх пунктаў працаваў мой колішні сябра дзяцінства, які потым двойчы мяне афармляў пры затрыманьнях. Закідвалі яйкамі будынак раённай газэты. На наш невялікі дзесяцітысячны горад мы сарвалі за пару месяцаў 15 сьцягоў. Тады было шмат затрыманьняў у горадзе, мяне затрымлівалі на вачах у малодшай сястры. Пагражалі, што заб’юць і павесяць. Мяне затрымліваў той самы супрацоўнік губазіку, які браў Міколу Дзядка. Я тады прыдурваўся: „А якія партызаны? Пра што вы?“ У мяне досыць дзіцячы твар, таму мог сабе такое дазволіць.

Мяне адвезьлі ў берасьцейскі ІЧУ, па дарозе працягвалі біць, а там кінулі ў „прэс-хату“. Там мне адразу сталі пагражаць згвалтаваньнем, але ў рэальнасьці зэкі там былі слабаватыя. Я адразу кінуўся ў бойку зь імі. Хутка мяне выцягнулі з камэры, на калідоры я працягваў махацца зь мянтамі, але іх было болей, мяне скруцілі і ўкінулі ў „стакан“ мэтар на мэтар. Тады мяне таксама ўсё ж не закрылі ў крымінальнай справе.

Пасьля чарговага вызваленьня я зразумеў, што мушу паехаць з краіны. Тады я зьвязаўся з фондам „Дапамога“ ў Літве, а таксама зь яго кіраўніцай Натальляй Калегавай. Месяц быў на кансьпіратыўнай кватэры не ў сваім горадзе, а 29 чэрвеня 2021 году нелегальна перасек беларуска-літоўскую мяжу. На той час у мяне не было нават пашпарта — забралі пры адным з затрыманьняў. Толькі праз некалькі месяцаў дакумэнт перадалі ў Літву праз знаёмых.

Тры месяцы я жыў у Літве, падаўся там на ўцякацтва. Але маёй мэтай было паехаць ва Ўкраіну і падпісаць кантракт з Узброенымі сіламі. З таго часу я ішоў да гэтай мэты. У верасьні я прыляцеў у Кіеў, кастрычнік рыхтаваў дакумэнты, мяне правяралі. А зь лістапада я служу. Накіравалі мяне ў звычайную мэханізаваную брыгаду.

Брыгаду досыць хутка адправілі на поўдзень Украіны ў Мікалаеўскую вобласьць, бліжэй да Крыму.

Да вайны заробак быў чыста на жыцьцё — 350 эўра. За знаходжаньне ў Мікалаеўскай вобласьці дакідвалі яшчэ 200 эўра. З пачаткам вайны заробак трошку паднялі — да 400 эўра, а разам са знаходжаньнем у зоне баявых дзеяньняў я атрымліваю 3500 эўра — гэта не сакрэт, адкрытыя дадзеныя. Я шмат што купіў за свае грошы — трымаюся думкі, што салдату рыштунак купляе дзяржава, а рыцар набывае яго сабе сам. Трэба адпавядаць вобразу найміта (*сьмяецца*). Таксама далі пад'ёмныя — 300 эўра. Цікава, што гэтыя грошы — больш за 600 эўра — прыйшлі на другі дзень вайны, я адразу перавёў палову дзяўчыне. Я доўга жыць не зьбіраўся, а з сабой у магілу іх не забярэш.

За некалькі тыдняў да пачатку вайны нашу брыгаду адправілі ў Алешкі Херсонскай вобласьці. Там былі нават кавярні, мы туды хадзілі харчавацца, нічога асаблівага не чакалі. Я да канца ня верыў у вайну. За пару гадзін да пачатку вайны мы паехалі пад Крым, тады ўжо было ясна, што Пуцін паехаў кукухай. Мы былі за 15 кілямэтраў ад лініі разьмежаваньня. Пастаяў у каравуле, павартаваў тэхніку, у нас былі беларускія „МАЗы“.

А 5 гадзіне я прачнуўся, адкрыў інтэрнэт, тады і пачуў прыходы артылерыі. Чытаю, што ідуць бомбавыя ўдары. На ўсю Херсонскую вобласьць там быў толькі батальён марпехаў і наша напалову ўкамплектаваная брыгада. Я падышоў да камандзіра: „Што робім?“ — „Пакуль чакаем“, — быў адказ. Пайшоў яшчэ гадзіну паспаў. Прачнуўся ад таго, што прыляцела некалькі крылатых ракет. Бачылі, як залятаюць сюды расейскія зьнішчальнікі СУ, якія працавалі па пазыцыях марпехаў.

Ужо ў першы дзень вайны ў Алешках брыгада вяла бой з групай салдатаў з Буратыі, якія на БМП адбіліся ад агульнай калёны. Быў забіты адзін украінскі жаўнер, а таксама чацьвёра буратаў. Сам я ў першы дзень нават не страляў, бо не было такога, каб праціўнік апынуўся блізка ад мяне. Быў я і каля Антонаўскага моста ў Херсоне, калі там адбываліся баі.

Быў сьмешны выпадак. Сабраліся разам, стаім ля шашы. Пад’яжджае потым да нас адзін мужык, як потым высьветлілася, мясцовы бізнэсовец, які якраз трасамі займаўся. І адразу нам: „Дзякуй Богу, што вы прыйшлі, а то гэтыя ё*ныя бандэры ўжо закалябалі“. Яго хутка скруцілі, троху памялі бакі. Я ня біў, бо сябе нават да „бандэраў“ залічыць не магу (*сьмяецца*). Ноччу на „брані“ прыехалі ў Сьнегуроўку Мікалаеўскай вобласьці, моцна замерзьлі па дарозе. На наступны дзень былі ў Мікалаеве, горад проста вымер, людзей амаль не было. Ноччу прачнуліся ад ракетнага ўдару, які быў за 200 мэтраў ад нас.

Брыгада адышла далей у тыл, а я выконваў заданьні ў выведцы. Маёй задачай было скідаць дадзеныя пра перамяшчэньні расейскіх калён з

тэхнікай і выводзіць на іх артылерыйскія ўдары. Адным з самых складаных заданьняў лічу працу ў вёсцы між Южнаўкраінскам і Вазьнясенскам у Мікалаеўскай вобласьці.

Мы працавалі ў гэтым сяле яшчэ да прыезду праціўнікаў. Расейцы адразу „вызвалілі“ сяло ад газу, сьвятла, водаправоду, тэлефоннай сувязі. Шукалі, ці ёсьць тут людзі з тэрытарыяльнай абароны. Я асабіста наводзіў артылерыю на танкавую калёну. Праз нейкі час расейцы паставілі на выездах блёкпасты, таму мы ніяк не маглі адысьці. Хаваліся на гарышчы, як у „Сотнікаве“. Жывымі ім здавацца ніхто не хацеў. У выніку праз колькі дзён нас адвезьлі на „Жыгулях“ да ракі, а там перавозілі на драўляным чоўне. У мяне быў з сабой толькі аўтамат і некалькі магазынаў патронаў. Цяпер гэтая вёска вызваленая, яна ўжо вельмі глыбока ў тыле.

Наша брыгада працягвае стаяць на пазыцыі на поўдні Ўкраіны, прарываў у нашым кірунку няма, але і наступы праціўніка адбіваць удаецца. Сам я двойчы ўдзельнічаў у эвакуацыі пяхоты, раз цягнуў два кілямэтры забітага салдата.

Загінуў — гэта нармальна. Але я б не хацеў трапіць на фатаздымкі ў расейскіх тэлеграм-каналах. Па людзях пытаньняў няма, ва ЗСУ цяпер трапіць ня так проста. Хіба што ў полк Каліноўскага ідзе пастаянны набор, але гэта іншая структура. Я быў у іх у гасьцях, калі яны былі ў Мікалаеве. Пасьпеў пазнаёміцца з „Волатам“. Зь ім было магчыма дамаўляцца. Бачыце, забілі „Волата“, забілі „Брэста“ — старыя камандзіры не бераглі сябе, пазбаўляюць выдатных прафэсіяналаў.

У сваёй брыгадзе я адзіны беларус. Па нацыянальнай прыкмеце мяне ніхто ня троліць.

Мяне не пужае амаль нічога, я нармальна перажываю абстрэлы, яны дадаюць адрэналіну, але я хутка адыходжу. Мне не падабаецца толькі нейкая няпэўнасьць, неарганізаванасьць. Пачуцьцё выкананай задачы — самае прыемнае, што ёсьць на вайне. Тое, як ставяцца людзі да цябе. Прыемна ваяваць са злом за нашы ідэалы.

---

15 ліпеня

## УСЁ ЖЫЦЬЦЁ НЕНАВІДЖУ СУСЕДКУ

*Галіна (з фэйсбуку):*

Усё жыцьцё ненавіджу суседку. Ненавіджу!!! Не вітаюся!!!

Учора яны патэлефанавалі і прызначылі нам на адзін час — 9:00.

Я не разумею, што агульнага паміж мной і суседкай. Антываенныя перапосты? Так, антываенныя перапосты. Суседка адседзела, аказваецца, 7 сутак. За антываенныя карцінкі.

Я раніцай пайшла на допыт, яна адключыла тэлефон. Бо ранішняя зачыстка ў нашым доме. Мой тэлефон у часе ператрусаў прыйшоў у непрыдатнасьць, а што ў суседкі, я ня ведаю. Я восем гадоў адмаўляю суседку нада мной. Бо яна мяне залівае, бо яе тоўсты сын тупае, бо яе тоўсты муж і яе другі тоўсты сын увесь час тупаюць, бо яна

сама тупае суткі напралёт, уся гэтая сям’я толькі і робіць, што тупае, і я не разумею, як можна так у пачатку ночы ТУПАЦЬ!!! Як можна днямі і начамі тупаць!!! І вось цяпер толькі яна прыйшла. І сказала: „Нас выклікалі. У сэнсе цябе і мяне. Я адседзела, ты заплаціла“. Ня думаю, што яна ведае пра... Ня ведае яна ніякага „Рэпартажу зь пятлёй на шыі“. Гэты сын тупае ўсе гады, яна залівае мяне ўсе гады, і вось яна адседзела „суткі“ за „супраць вайны“!!! Яна адседзела сем сутак. Ніхто нават не даведаўся ў пад’езьдзе.

Я думала, я адна супраць вайны ў гэтым б*дзюшніку. А аказваецца, я і С., якая залівае мяне ўсе гады, супраць вайны ў гэтым б*дзюшніку.

І спыталася С., сказаўшы: „Прабач, што прыйшла, на фоне васьмігадовай вайны з табой. Галя, ты хадзіла да іх раніцай?“

Я думала, яна ня ведае, як мяне завуць.

„Так, хадзіла“. — „А я не пайшла, я адключыла тэлефон“.

„Мама, калі ты і яна, калі ты і цёця С., зь якой ты ў контрах усё жыцьцё, па адным абвінавачаньні, значыць?..“ — „Так, — кажу. — Значыць, сэнс за намі. За мной, цёткай С. і антыфашысцкім рухам сьвету. Так пераможам“.

Ну вось як, Госпадзе, вось як дзьве антыфашысткі, усяго дзьве на ўвесь невялікі горад, супраць якіх нешта заведзена, апынуліся ў адным доме? Кватэра над кватэрай. Дзе я і дзе С.? С. увогуле не чытае кніжак. Яна проста нармальная жанчына. Гэта я ненармальная з усімі кніжкамі, якія чытаю, а С. — нармальная!!!

„Калі табе страшна, грукай у столь. Швабрай“, — сказала яна зараз, адыходзячы. За пару хвілін да

таго, як я вырашыла, што ўключу комп і раскажу пра С. Пра яе маленькую мужнасьць пасярод вялікага... гораду.

„С., мы хатнія гаспадыні? Як сястра Рэмарка?“ — „Так, як сястра Рэмарка, я пра яе ў «Аднаклясьніках» чытала. Рэмарк — гэта нейкі пісьменьнік, так? А яго сястра была супраць вайны?“

Так, яго сястра была супраць вайны. Абавязкова пагрукаю ў столь.

„Мама, шчыльнасьць кватэра пад кватэрай — ня так ужо дрэнна“, — сказала дарослая дачка.

P.S. Калі я прыехала жыць у Полацак, з другога паверху вытыркнулася жахлівая С. і сказала: „Сталічная, мы не дамо табе...“. Цяпер мы разам, сталічная і мясцовая, вытыркнулі хатнегаспадыньскія швабры і сказалі „Zло, мы не дамо табе...“

Учора на стопе мой менскі кіроўца сказаў: „Нас здала правінцыя“...

Вельмі цяжка выстойваць у правінцыі. Калі нас пару хатніх гаспадыняў на ўвесь горад.

---

19 ліпеня

## ПАШПАРТ ВАСІЛЯ ЗАСТАЎСЯ Ў МЯНЕ

*Алена Гергель, удава Васіля Парфянкова:*

У сьнежні 2014 году Васіль выйшаў з калёніі ў Горках, а літаральна праз два тыдні зьехаў ва Ўкраіну. Добрая знаёмая Васіля, рэжысэрка Воль-

га Мікалайчык, перадала яму кантакты людзей у Кіеве, якія дапамогуць яму ўступіць у добраахвотніцкі батальён. Васіль вельмі хацеў трапіць у шэрагі „Правага сэктару“, але ўзьнікалі пэўныя бюракратычныя пытаньні, таму запісаўся ў батальён АУН, каб хутчэй паехаць на фронт.

Калі афармляліся дакумэнты, нашы валянтэры адвялі Васіля ў легендарнае ў Кіеве месца — кавярню „Купідон“. Яшчэ з часоў Майдану там сустракаліся валянтэры, актывісты, часта свае вершы чытаў Сергій Жадан, была такая літаратурна-вайскова-валянтэрская тусоўка. І я там таксама часта бывала. Наша агульная знаёмая Тацяна падвяла Васіля да мяне і кажа: „Знаёмцеся, гэта беларус, ён прыехаў да нас ваяваць“.

Знаёмства адбылося ў Сьвяты вечар, 6 студзеня 2015 году, напярэдадні праваслаўных Калядаў.

Усе былі занятыя сваімі справамі: нехта нешта прывёз, хтосьці штосьці забраў, а ён такі сьціпленькі, самотны-самотны сядзеў у куточку. Калі пабачыла гэта, то падышла, стала распытвацца ў яго, чаму прыехаў сюды. Ён мне расказваў пра Жызьнеўскага, як яму ў турме паведамілі пра сьмерць Міхася, зь якімі эмоцыямі гэта ўспрыняў. Яны былі знаёмыя яшчэ па УНА-УНСО. Казаў, што ў камэру прыйшоў камэндант з газэтай, маўляў, во яшчэ аднаго вашага забілі. Васіль так разьюшыўся, што хацеў ударыць таго работніка турмы. Сьмерць Жызьнеўскага — гэта была адна з прычын для яго хутчэй ехаць ва Ўкраіну.

З таго моманту мы пачалі стала стасавацца паміж сабой. На наступны дзень — 7 студзеня — разам несьлі кветкі да францускага пасольства

пасьля страляніны ў рэдакцыі часопіса Charlie Hebdo.

Ён быў у такой сіненькай шапачцы з украінскім трызубцам, якую яму падарылі, і потым зь ёй не разьвітваўся шмат гадоў. Яна і цяпер ляжыць у нас дома. Ён узяў мой нумар тэлефона. Пачалі званіць адно аднаму, цікавіліся, як справы. Ён мне набіраў зь Пескаў, куды паехаў на баявыя. Фактычна вось так цэлы год і размаўлялі, час ад часу бачыліся, калі ў Васіля была ратацыя і ён прыяжджаў у Кіеў, хадзілі кудысьці разам.

Ці не найважнейшым момантам у нашых адносінах стала раненьне Васіля ў верасьні 2015 году. Мне трэба было ехаць у Львоў хрысьціць дачку сяброўкі, і ніяк не магла да яго ў адэскі шпіталь трапіць. А мне так хацелася паехаць да яго! Я зьвязалася з адэскімі валянтэрамі, якія мяне супакойвалі, што булён Васілю зварылі, дагледаюць яго. Потым расказваў мне, што да яго столькі людзей прыходзіла, а ў яго ўсё баліць, вакол усё ходзяць людзі, нешта расказваюць, дзеці малюнкі паказваюць, а яму хацелася проста паляжаць і каб перастала балець. І так я да яго тады і не паехала. Шмат гадоў за гэта сябе грызла. Калі ён прыехаў у Кіеў, то і ён разумеў, і я разумела, што проста так для нас гэта ня скончыцца. Ну вось тады мы і пачалі сустракацца.

Я родам з Кіева. На момант знаёмства з Васілём шмат рабіла ў валянтэрскім кірунку, потым пачала рэалізоўвацца ў тактычнай мэдыцыне, уступіла ў арганізацыю „Білі берети“.

Нават у пэрыяды, калі грошай было небагата, ён заўжды імкнуўся мяне сустрэць аднекуль з кветачкай, з ружай стаяў. Я не скажу, што ён быў

надта рамантычны, але адчувалася, што каханьне ў ім гарыць.

Пажаніліся мы толькі 30 ліпеня 2021 году. Раней гэта зрабіць было немагчыма праз юрыдычныя складанасьці.

Пытаньне легалізацыі беларусаў — гэта складаная рэч, усе беларусы тут ведаюць гэта. Бывае, што адна міграцыйная служба просіць даведку ў другой міграцыйнай службы, і такая даведка робіцца тры месяцы. Апошняе, чаго мы чакалі, — гэта „Дазволу на міграцыю“. Пасьля яго можна ўжо прасіць сталы від на жыхарства альбо падавацца на грамадзянства. Мы ўсё зрабілі, чакалі год, а ў выніку прыйшла адмова. Дэпартаваць яго не маглі паводле закону, бо ён быў добраахвотнікам, але фактычна ён стаў нелегалам. А чаму была адмова? Бо беларускія спэцслужбы падалі яго і іншых хлопцаў-добраахвотнікаў дакумэнты ў Інтэрпол, нібыта іхныя пашпарты нядзейныя, бо былі згубленыя. І наша міграцыя нічога з гэтым не магла зрабіць.

Спачатку Васіль нават ня ведаў, чаму яму адмовілі. Зьвяртаўся да дэпутатаў Рады, тыя адпраўлялі запыт у Офіс прэзыдэнта, а ўжо адтуль накіроўвалі зноў у міграцыйныя службы. Васіль нават наймаў юрыста, каб зьвесткі пра яго былі выключаныя з базы Інтэрполу.

Пакуль ён яшчэ легальна знаходзіўся ва Украіне, то мы пажаніліся, каб у выпадку чаго ў яго былі нейкія правы. Можна сказаць, што гэта быў не рамантычны, а прагматычны ўчынак. У Васіля было толькі беларускае грамадзянства. Пашпарт ягоны застаўся ў мяне.

Я ніколі не ўгаворвала яго ня ўдзельнічаць у вайне, так пытаньне ў нашай сям'і нават не магло стаяць. Інакш бы не былі разам. Мы ва ўсім былі аднадумцамі. Апроч каханьня, мы былі яшчэ і найлепшымі сябрамі. Багата хто яго не разумеў, магчыма, хтосьці лічыў яго дзіваком, але я заўжды разумела ягоныя ўчынкі і матывы гэтых учынкаў.

Нягледзячы на тое, што Васіль ужо восем гадоў жыў ва Ўкраіне, Беларусь для яго ўсё адно заставалася на першым месцы.

Усе думкі былі пра Беларусь, адзначаў беларускія сьвяты, Дзень Волі. Так, натуральна, ён трошку асыміляваўся. Мог сказаць „паляниця“ без акцэнту і „дякую“ бязь дзеканьня, але ўвесь час думаў пра Беларусь. Хацеў хутчэй вярнуцца і гуляць па вуліцах Менску.

У жыцьці Васіль выкарыстоўваў тры мовы: беларускую, украінскую і расейскую.

Моўнае пытаньне для нас ніколі не было актуальным. Патрыятызм — гэта ня мова, а ўчынкі. Ёсьць шмат украінскамоўных людзей, якія зьехалі сёньня і іх не хвалюе, што адбываецца ў іх краіне. Я нядаўна чытала сыну Мілану верш па-беларуску і пытаюся: „А ты разумееш беларускую?“ — „Натуральна“, — адказвае. „Што такое „помнік“?“ — „Пам'ятник“, — кажа. Магчыма, пэўных слоў не зразумее, але ўвесь кантэкст выдатна.

У нас нарадзіліся сын Мілан і дачка Саламея. Таксама разам з намі жыў мой старэйшы сын Любамір.

Так атрымалася, што апошнім часам я больш працавала, а Вася займаўся побытам і дзецьмі. Адводзіў іх у школку, садочак, на курсы, на футбол. Усе прагулкі былі на ім. Гатаваў таксама ён

у асноўным. Дзеці кажуць, што ніхто так ня ўмее смачна гатаваць амлет і блінцы, як тата. Прыбраць нешта ў хаце, зрабіць якую палічку — усё было на ім.

Што тычыцца працы, то тут былі пэўныя праблемы. Васіль доўгі час працаваў у фірме, якая займалася пераездамі офісаў, кватэраў. Аднаго разу, калі перавозілі боўлінг, Вася сарваў сабе сьпіну. Пасьля гэтага доўга лячыўся, яму выдалялі міжхрыбетную грыжу. Вяртацца да фізычнай працы ўжо ня мог.

Ён працаваў разам са мной — гэта быў маніторынг СМІ, магла быць пра нейкую палітычную кампанію замова ці пра запраўкі. Замоўцам трэба было штодня ведаць, што пра іх пішуць СМІ і ў сацсетках. Я даўно там працую, то дапамагла яму асвоіцца. Гэта было не зусім легальна, але працу ён заўжды меў. Атрымлівалася ў яго вельмі добра, хоць гэта была і ўкраінская мова.

Ад пачатку вайны 24 лютага 2022 году Васіль адразу далучыўся да свайго батальёну АУН. Удзельнічаў зь імі ў баях у Кіеўскай вобласьці. У красавіку, калі Кіеўшчына ўжо была вызваленая, ён прыйшоў у батальён імя Кастуся Каліноўскага.

Ён жа такі вельмі нецярплівы, хацеў хутчэй усё. Пайшоў у Каліноўскага, бо яны ўжо ехалі на заданьні: спачатку ў Мікалаеўскую вобласьць, а потым ужо Севераданецк. Штовечар, а калі і ранкам, тэлефанаваў. Саламея вельмі любіла размаўляць з татам у такія моманты. Таксама штомесяц ён да нас заяжджаў на дзень-два. Перад апошнім заданьнем мы правялі тры дні разам. Яны тады прыехалі зь Севераданецку, пазваніў, кажа: „Мы едзем“. Адказваю: „Клясна, буду варыць боршч“.

Апошнюю размову мы мелі 25 чэрвеня, напярэдадні таго заданьня. Ён мне сказаў, што „гуляем на базе, ямо чурчхелу, якую прывезьлі валянтэры“. Пытаўся ў мяне, з чаго яна зробленая. Марылі неяк разам зьезьдзіць у Грузію, на мора. Ён мне нічога не казаў, што нешта плянуецца. Магчыма, і не хацеў, каб я хвалявалася.

На вайне пачуцьцё трывогі і страху за роднага чалавека прысутнічае заўжды. Ты ня можаш зьмяніць ходу падзей. Я была ўпэўненая ў Васілю, што ён ведае, як аказаць дапамогу параненаму, як накласьці на сябе жгут. Я ведала, што ён ня будзе рабіць ніякіх глупстваў. Але ў той дзень усё было супраць іх. Хіба толькі вельмі хуткая эвакуацыя магла б дапамагчы ім выжыць, але такой магчымасьці не было.

Спадзяваньняў, што Васіль жывы, у мяне не было ўжо пасьля сюжэту на беларускай тэлевізіі, дзе паказалі фатаздымкі Васіля зь месца бою. Я не маленькае дзіця, бачу, што была крытычная страта крыві, якую своечасова не спынілі. З плямы на назе відаць, што там вельмі шмат крыві выцекла. Магчыма, рука не крытычна параненая, а вось з нагой усё кепска. Што тычыцца твару, то мэдыкі мне патлумачылі, што ён упаў на кроў, а ня снайпэр працаваў па ім.

У Менску ў Васіля засталася старэнькая маці. Ня так даўно дзяржаўныя каналы паказалі відэазапіс зь ёй, у якім яна асуджае дзейнасьць сына.

Мама Васіля па сёньня да канца не ўспрымае ўсё. Яна літаральна ў дзень нашай размовы патэлефанавала на нумар Васі. Пытаецца: „А дзе Вася? Зь ім можна паразмаўляць?“ Кажу, што не. Яна ўвесь час плача. Яна і да гэтага званіла, прасіла

прабачэньня ў сына за тое відэа, ён казаў: „Мама, няма за што выбачацца. Я сам сказаў гаварыць што заўгодна, абы адчапіліся ад вас“.

Я патлумачыла дзецям, што тата загінуў і яны больш не пабачацца.

Вадзіла дзяцей да псыхоляга. Хлопцы трымаюцца, яны старэйшыя. А дачка Саламея ходзіць цэлы дзень з фота Васіля, плача шмат. Пытаецца ў мяне: „А можа, мы ўсё ж яшчэ калісьці пабачымся з татам?“. Мы хадзілі знарок на магілкі, каб дзеці бачылі, якія далей будуць нашы стасункі з Васілём. Там цяпер вельмі шмат сьвежых магіл. Вельмі цяжка. Пойдзем яшчэ да псыхоляга, ім трэба выгаварыцца. Мне выпісалі антыдэпрэсанты, я яшчэ трымаюся на нейкіх рэсурсах унутраных, але гэта ня значыць, што мяне не накрые заўтра ці пасьлязаўтра.

*Васіль Парфянкоў загінуў 26 чэрвеня каля Лісічанску Луганскай вобласьці.*

---

21 ліпеня

## ДА МАІХ БАЦЬКОЎ ПРЫЙШОЎ ГУБАЗІК

*Юля А. (з фэйсбуку):*

Пазаўчора да маіх бацькоў прыйшоў губазік. Кожны беларус сьціскаецца ў кропку, калі чытае гэтыя сем літар. Ты таксама зараз сьціскаесься, я ведаю, як пару сэкундаў перад гэтым сьціскалася я, набіраючы гэтае слова на клявіятуры.

Дакладней кажучы, яны прыйшлі па брата на гэты раз. Зь мінулагаператрусу прайшоў роўна год. Затрымалі маму, затрымалі тату, затрымалі Ігара. Затрымалі тых, каго я люблю. Маму выцялі па галаве. Я ня ведаю, ці біў хто-небудзь калі-небудзь да гэтага маю маму па галаве. Яна запісала „пакаяннае“ відэа, і яе адпусьцілі. Цяпер у яе шмат справаў — памяняць выбітыя дзьверы, пакарміць ката, які трэці дзень ня есьць і сядзіць пад канапай, перадаць тату пігулкі (іх прымаюць), перадаць рэчы (іх не прымаюць), ня плакаць, ня плакаць, ня плакаць, не забывацца паесьці.

Тату і брата ўчора судзілі — па 15 дзён арышту кожнаму.

Я стараюся пісаць без эмоцыяў, проста дыстыляваныя словы. Дакладней, я і не магу пісаць з эмоцыямі, мяне зноў як быццам спаралізавала: спаралізавала палову мозгу, спаралізавала язык, спаралізавала руку, спаралізавала пясьць. Спаралізавала час вакол мяне. Мае эмоцыі нікому не патрэбныя, мае эмоцыі не цікавыя нікому, улучна са мной самой. Пяшчотныя людзі назавуць гэта абясцэньваньнем, а я заўсёды ср*ць хацела на пяшчоту, на абясцэньваньне, на гэтую вашу бясконцую псыхатэрапію, на этыку, эстэтыку (у тым ліку і гэтага тэксту).

Нянавісьць і любоў ня маюць дна.

Я хачу, каб фэйсбук кожны год нагадваў мне пра гэтую публікацыю, нават нягледзячы на тое, што я і так ніколі пра гэта не забуду.

22 ліпеня

## СУМУЮ ПА ДОТЫКАХ

*Паўліна Скурко (з фэйсбуку):*

У нас з Андрэем сёньня першае дзесяцігодзьдзе шлюбу. Дамовіліся пачаць сынхроннае сьвяткаваньне аб 11-й, у час росьпісу.

Летась у гэты дзень і час яму нарэшце (пасьля 13 дзён на Акрэсьціна) выставілі абвінавачаньне ў сплаце камуналкі па няправільных тарыфах (цікава будзе паслухаць зь першых вуснаў, як гэта адбывалася; па аповедах сукамэрнікаў, Андрэй тады ад тэмпэратуры і кашлю ледзь хадзіў і сядзеў). Назаўтра яго перавялі на „Валадарку“ (о, як я тады цешылася, што магу перадаць перадачу! І дагэтуль удзячная мэдчастцы, што яму далі ложак, матрац і падушку, што ён змог адляжацца, што яго ўратавалі). І пачаўся наш марафон.

На гэтай фотцы ён катае мяне на лодцы — вязе ў зарасьнік чароту глядзець ныркоў. Я на другім месяцы цяжарнасьці, мне ўвесь час трохі млосна, і вось Андрэй штовечар прыдумляе нам пасьля працы ўсякія радасьці і „адвлячэньні“. У той дзень, помню, апісваю я ў бібліятэцы Эвангельле XVII стагодзьдзя, а Андрэй піша, маўляў, прыдумаў нам прыгоду на вечар. І я радасная купляю па дарозе запакаваныя бутэрброды ў „Белсаюздруку“ (гэткія ж, як у Вільні на вакзале, такая ў мяне прыемная асацыяцыя). Адчыняем у машыне вокны, каб я перажыла паездку, і выпраўляемся.

Сёньня чытала нашы перапіскі мінулых гадоў. З тыднёвай канфэрэнцыі ў Ольштын пішу, як су-

мую. Ён піша, як сумуе. А прайшло два дні ☺. Як мы перажылі гэты год і два тыдні?..

Самым цяжкім сёньня здаецца год безь фізычнага кантакту. Калі Андрэя забіралі з дому год таму, мы пацалаваліся, і я не магла ўявіць, што наступны год я нават не змагу да яго дакрануцца. Я не магу сфармуляваць, чаму гэта так важна, але бяз дотыкаў вельмі цяжка. Усе сустрэчы за гэты год былі праз шкло.

Адзіны раз, калі між намі было ня шкло, а паветра — суд. Праходзячы міма клеткі, я ўсьміхалася, пасылала паветраныя пацалункі, гаварыла словы любові. Цяпер думаю: чаму не прасунула руку, чаму не дакранулася?.. Гэтага нельга рабіць, але прыкра, што мне нават не прыйшло гэта ў галаву! Мой апошні дотык да мужа — 8 ліпеня 2021 году. Ды і тады… Сьвядомасьць не дапускала, што расстаньне можа так зацягнуцца. Было горача, Андрэй быў увесь мокры, я прынесла са спальні майку пераапрануцца. Канечне, каб мы ведалі, што наперадзе, стаялі б у абдымку ўвесь час, пакуль джэнтэльмэны афармлялі вынікі свайго візыту.

Сумую па дотыках і сумую па адчуваньні шчасьця, калі мы разам і калі разам з усяго сьмяёмся.

Але менавіта ўспамін пра гэта адчуваньне і дае пакуль сілы перажываць гэтыя пякельныя выпрабаваньні, гэта расстаньне.

Што пісаць пра Андрэя. Я ўжо пісала: я страшэнна шчасьлівы чалавек, і трыццаць гадоў свайго жыцьця жыву ў гэтым шчасьці бесьперапынна. У гэтым заслуга бацькоў і апошнія дзесяць гадоў — Андрэя.

Андрэй фантастычны. Калі б ён ня быў маім мужам, я б хацела і шукала такога. Нядаўна падумала, што баюся і не хачу паміраць не таму, што баюся сьмерці, а таму, што не хачу, каб гэтае наша вясёлае шчасьце некалі канчалася.

(Замест дотыкаў у нас лісты, фота і ўспаміны. Андрэй сёньня, напэўна, глядзіць на мяне такую, вясновую, на фотцы з нашым абрыкосікам, які сёлета ўпершыню зацьвіў.)

---

23 ліпеня

## СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ?.. НЯ ВЕЛЬМІ ЛЮБЛЮ ГЭТЫ ТЭРМІН

*Эдуард Бабарыка (лісты з турмы):*

Увесь сакрэт у сэнсах, якія я знаходжу ў сваім бестэрміновым зьняволеньні. Турма можа быць месцам, якое крадзе жыцьцё, а можа стаць унікальнай магчымасьцю для разьвіцьця сябе. Прычым у абодвух выпадках турэмная камэра будзе заставацца маленькім пустым пакоем, ізаляваным ад вонкавага сьвету. Дарэчы, гэта справядліва для кожнай жыцьцёвай сытуацыі: мы бачым тое, што хочам бачыць.

Апошнія два гады сталі самым інтэнсіўным пэрыядам з гледзішча стварэньня сябе на ўсіх узроўнях: фізычным, інтэлектуальным, эмацыйным, маральным, асобасным.

Думкі пра справядлівасьць... Шчыра кажучы, я ня вельмі люблю гэты тэрмін. Па-першае, бо гэты тэрмін вельмі шырокі. Гэта пра справядлівы абмен

„ты — мне, я — табе“? Ці пра годнасьць і адплату „вока за вока“? Ці пра справядлівае разьмеркаваньне „мы дзялілі апэльсін“?

Па-другое, справядлівасьць — гэта заўсёды пра суб’ектыўную ацэнку сытуацыі кожным з бакоў. А гэта тоіць у сабе небясьпеку.

Прывяду просты прыклад. Адбыўся канфлікт. „Умоўная ахвяра“ заўсёды перабольшвае атрыманыя страты, а „ўмоўны крыўднік“ гэтыя страты заўсёды прымяншае. Гэта псыхалягічны факт. Ахвяра, безумоўна, хоча аднавіць сваю суб’ектыўную справядлівасьць і наносіць у адказ удар, які другім бокам будзе ўспрыняты як празьмерны і залішні. Ахвяра і крыўднік мяняюцца месцамі. Запускаецца сьпіраль гвалту, якая праз некалькі ітэрацыяў будзе мець катастрафічныя наступствы. Вось вам і „справядлівасьць“. Небясьпечна.

Тэорыя гульняў, якая займаецца ў тым ліку падобнымі „задачамі“, пераканаўча даказвае, што найбольш устойлівая і эфэктыўная стратэгія павінна ўключаць у сябе магчымасьць „даруваньня“, якое разрывае тое самае замкнёнае кола з удараў у адказ. „Даруваньне“ і прынцып „Не рабі іншаму таго, чаго ня хочаш, каб рабілі табе“ дазваляе збудаваць больш здаровыя і стваральныя адносіны, чым сьляпое падпарадкаваньне ўнутранаму пачуцьцю справядлівасьці.

24 ліпеня

## ДРАНІКІ НА ПЕРАДАВОЙ

*Добраахвотнік Аляксей „Рыжы“ Аўдзей:*

Нарадзіўся я ў вёсцы Заастравечча Клецкага раёну. Мне 23 гады. Займаўся ўсім пакрыху. Спрабаваў сябе як кухар, спрабаваў як праграміст. Але нідзе сябе пакуль не знайшоў. Кухарам працаваў зусім ня доўга: калі мне занятак вельмі падабаецца, то ня вельмі ўспрымаю яго як працу. Заўсёды падабалася штосьці цікавае прыгатаваць, кагосьці накарміць.

Фірмовая страва — дранікі. Я іх часта гатую, яны простыя ў прыгатаваньні. Калі я ў кагосьці ў гасьцях, то заўжды прапаную прыгатаваць дранікі. З мукой ці без мукі, залежыць ад бульбы, ад колькасьці крухмалу. Калі трэба гусьцейшая маса, то муку ўсё ж трэба дадаць.

Там на відэа, дзе я на фронце гатую дранікі, насамрэч гэта першы падобны досьвед. У асноўным жа стараюся паболей на заданьні хадзіць. Тут жа выдалася вольная хвілінка, прыехалі да ўкраінскіх вайскоўцаў, яны кажуць, што ў іх ёсьць бульба. А я якраз захварэў. Кажу, магу прыгатаваць дранікі. У выніку стаяў і смажыў іх шэсьць гадзін. Трэба ж было ўсіх накарміць.

Раней любіў чытаць па-беларуску. І гэтыя пасіўныя веды засталіся. Толькі пачаў аднаўляць працэс размоваў па-беларуску, таму часам складана гэта рабіць.

У падзеях 2020 году я стараўся актыўнічаць. Разам з групай людзей рабілі самыя розныя акцыі:

і адкрытыя, і ня вельмі. Вешалі геліевыя балёнікі, псавалі „Табакеркі“, адзін раз атрымалася нават зрабіць а-та-та міліцэйскай машыне (*сьмяецца*). Я а 4-5-й ранку, калі ўсе спалі яшчэ, выходзіў з балёнчыкам фарбы і маляваў на „Табакерках“. Аднойчы ўбачыў міліцэйскую машыну, якая стаяла без нагляду, напісаў на ёй „3%“ і „Ты хутка сядзеш“. Не лавілі, толькі аднойчы сур'ёзна давялося ўцякаць. Але ў мяне заўжды быў з сабой запасны камплект адзеньня. Я забягаў кудысьці, хуценька пераапранаўся і выходзіў. Так я проста прайшоў міма тых хлопцаў, якія мяне перасьледавалі.

У шэсьцях удзельнічаў яшчэ да прэзыдэнцкіх выбараў. Мяне ўпершыню затрымалі 14 ліпеня 2020 году, калі арыштавалі Віктара Бабарыку. Мяне тады нават на „суткі“ не пасадзілі, ноч пратрымалі ў спартзалі, нават ня білі нікога, проста выпусьцілі. З таго моманту я ўдзельнічаў у адкрытых акцыях, а вечарамі рабіў свае справы. Але самыя важныя для мяне падзеі 9-11 жніўня, тады можна было нешта зрабіць. Я прыхільнік больш радыкальных мэтадаў, сам гэты таварыш ня сыдзе.

Застаўся нават фатаздымак з падзей ля „Рыгі“ 10 жніўня. А адзінаццатага мяне затрымалі з заплечнікам, дзе была манціроўка, каска, рэсьпіратар — поўны фарш. Мне за гэта моцна дасталася. Ноч трымалі ў гаражах, у мяне была майка з Пагоняй, мяне моцна мурыжылі за гэта. Але з таго моманту мне пачало шанцаваць: атрымалася трапіць не ў аўтазак да Жодзіна, а ў машыну хуткай дапамогі.

Тады я ўбачыў магчымасьць нешта зьмяніць. Мне 23 гады, Лукашэнка ж кіруе ўжо 28 гадоў,

я ніводнага году безь яго ня жыў. Не лічу, што гэта нармальна. Я пабачыў шанец і паспрабаваў ім скарыстацца.

На Дзень Волі ў 2021 годзе адбыўся такі прыліў патрыятызму, вырашыў выказаць салідарнасьць з тымі, хто хоча пераменаў, а асабліва з тымі, хто сядзіць за гэтае жаданьне. Нядаўна пабачыў на гэтых „Сливах", што на мяне заведзеная крымінальная справа. Па шчырасьці, перастаў за гэтым сачыць. Але я на той момант ужо быў у Польшчы, мне было абыякава.

Дзень 24 лютага я сустракаў у чаканьні. Я тады быў у Грузіі, стаў актыўна сачыць за навінамі пасьля „гістарычнай" лухты ад Пуціна пра „ЛНР" і „ДНР". З таго моманту я зразумеў, што гэта здарыцца вось-вось. Украіна за восем гадоў стала нашмат мацнейшай, здарыўся такі прыліў патрыятызму ў людзей, я разумеў, што яны проста так свайго не аддадуць.

Паколькі беларусам усе шляхі, апроч Польшчы, былі закрытыя, то давялося чакаць візы ў Тбілісі цэлы месяц. Грузіны з сабой ня бралі, бо ў мяне пашпарт краіны-агрэсара. Прыехаў 28 сакавіка. У Варшаве адразу пайшоў на пункт прыёму. Там спыталі, калі я гатовы ехаць, адказаў, што хоць зараз. Мне кажуць: „Калі пасьпеюць праверыць цябе спэцслужбы ўкраінскія, то паедзеш заўтра". Я пераначаваў у знаёмага і паехаў адразу ва Ўкраіну. Дзесьці тыдзень ці два я правёў у вучэбцы, а потым мяне ўжо перавялі на баявы кірунак у Мікалаеў. Потым наша рота і частка іншай трансфармавалася ў батальён „Волат".

Той месяц, які я рабіў дакумэнты ў Грузіі, актыўна займаўся спортам. Разумеў, што „фізуха“ павінна быць лепшай, чым была.

Пра баявыя заданьні… Са значнага — гэта наступ у Херсонскай вобласьці, калі ён ішоў па вялікай лініі фронту. Быў у Севераданецку два тыдні. Гэтая вайна, папраўдзе, не падобная да той, што паказваюць у фільмах. Гэта найперш вайна артылерый. Я часта бываю ў першых шэрагах, але стралковы бой у мяне пакуль здараўся тройчы.

Калі шчыра, я думаў, будзе нашмат страшней, вялікі прыліў адрэналіну. Галава пачынае працаваць у некалькі разоў хутчэй, бо ад гэтага залежыць тваё жыцьцё. Я ня ведаю, як гэта патлумачыць словамі, але гэта такі адрэналінавы кураж, мне спадабаліся адчуваньні.

Перад наступам у Херсонскай вобласьці было адчуваньне, што хтосьці ня вернецца з бою. Такое гаварылі, бо для большасьці гэта была першая сур'ёзная апэрацыя, прычым адразу наступальная. Нам сказалі, што будуць вялікія страты, але дзякуючы граматным дзеяньням нашых камандзіраў, як Іван „Брэст“, і падпалкоўніку ГУР у нас не было ніводнага „двухсотага“ і ўсяго некалькі „трохсотых“.

„Брэст“ мяне вельмі ўразіў. Па-першае, як лідэр, здольны весьці за сабой, ён заўсёды ішоў наперадзе, забіраў усіх параненых. Па-другое, ён не па гадах мысьліў. Некаторыя так ня здольныя думаць і ў сталым узросьце. Ён шмат аналізаваў і дакладна даносіў сваю інфармацыю. Харызматычны, разумны, адукаваны, толькі добрыя ўспаміны засталіся. Ваня, мы па табе сумуем і за цябе адпомсьцім. Астатніх палеглых таксама ведаю.

„Сябро“, „Атам“ — гэта мне як браты. Моцнага шоку не было, бо тут дух сьмерці гуляе заўжды блізка, у любы момант можаш ці ты „кончыцца“, ці твае пабрацімы. Было вельмі шкада, такога баявога камандзіра ў нас болей проста няма. Мы разумелі, што яны зрабілі ўсё, што ад іх залежала. Мы зь ім бралі ў палон расейцаў, Іван хацеў проста спаліць акопы ворагаў, але там мы знайшлі трох „бомжыкаў“. „Брэст“ вырашыў іх не забіваць, а папоўніць абменны запас. Я іх потым ахоўваў. У душу ім не зазірнеш, але, здаецца, яны ўсё разумеюць, проста хацелі падзарабіць грошай.

Украіна пераможа, гэта пытаньне часу і паставак заходняй зброі. Калі так адбудзецца, то рэжым Пуціна ці падзе, ці моцна пачне хістацца. А гэта значыць, што і па пазыцыях Лукашэнкі будзе ўдар.

Пасьля вайны… У мяне былі праблемы з пошукам сябе; магчыма, хацеў бы прысьвяціць сябе на час вайсковай справе. Я калісьці вучыўся ў кадэцкім, але мне не спадабалася, а цяпер вельмі зайшло. Ад беларускай арміі я заўжды „касіў“, бегаў, не разумеў, як вытрымаю ў тым дурдоме.

---

26 ліпеня

## ГУЛЬНІ З ПАЦУКАМІ

*Марына Адамовіч, жонка Міколы Статкевіча:*

Я яго адчуваю кожную хвіліну і кожнае імгненьне, але мне страшна хочацца яго абняць, прытуліцца да яго. Я вельмі веру, што гэтае адчуваньне, яно нас не пакіне. Як я звычайна адчуваю

небясьпеку, калі яму там дрэнна, як і ён, тое самае. Ісьці разам, разам выгульваць нашага сабачачку, ехаць доўга побач. Мы вельмі любім падарожнічаць. Любім доўгія-доўгія шпацыры.

Самы страшны час для сваякоў палітвязьняў прыходзіць тады, калі прысуд уступае ў сілу і іх этапуюць у калёнію або ў турму — які там лёс выпаў. Усе папярэднія два зь лішнім гады ты меў штодзённы занятак. У цябе была справа падтрымаць твайго роднага. Ты бясконца зьбіраў перадачкі, вазіў іх, выстойваў чэргі. І так вось дзень за днём працякала тваё жыцьцё. Чакаў лістоў, пісаў лісты. Падтрымліваў тых, каго ты можаш падтрымаць, хто апынуўся ў такім жа становішчы першы раз у жыцьці. Бывала вельмі балюча, бо многія людзі, якія ўпершыню сутыкнуліся з вось гэтай сытуацыяй, з сытуацыяй гвалту, іншы раз казалі, не падумаўшы: „Ну а што табе, ты ж прывыкла“. Прывыкнуць да гэтага абсалютна немагчыма. Наадварот, твае веды, тваё разуменьне таго, як гэта можа быць, яны дабаўляюць зусім не спакою, зусім не прыемных эмоцый. Але пры гэтым у цябе ёсьць яшчэ і іншыя веды — як можа быць цудоўна, калі нарэшце родныя вяртаюцца. Калі нарэшце ты можаш яго абняць. Жыцьцё адразу ўзрываецца фаервэркам эмоцый, і ўсе фарбы, якіх ты ня бачыш гадамі, яны ашаламляльныя.

Апошняе спатканьне, калі дакумэнты пра тое, што прысуд набыў моц, прыходзяць у СІЗА. І тады чалавек, калі ён пасьпявае, бо дакумэнты могуць прыйсьці і ў той жа вечар могуць этапаваць, дык вось, калі ён пасьпявае, ён яшчэ мае шанец убачыць свайго роднага. І мы, вядома, проста тупа дзяжурылі пад СІЗА, чакаючы гэтай інфармацыі.

І ты, вядома, у першую ж хвіліну гэтай магчымасьцю карыстаесься. Гэта заўсёды страшна, калі ты там стаіш у чарзе з чатырох гадзін, а то яшчэ і зусім зь вечара, і ты ня ведаеш, ці тут ён яшчэ, ці ты атрымаеш гэтае спатканьне, ці там прыйшлі гэтыя дакумэнты, ці не прыйшлі. Я некалькі разоў стаяла ў гэтай чарзе ноч, і потым аказвалася, што дакумэнты яшчэ не прыйшлі.

Так што я бачыла Мікалая ў сярэдзіне чэрвеня яшчэ ў гомельскім СІЗА. Этапавалі іх літаральна праз пару дзён.

Ты сядзіш у такой шкляной загарадцы на вельмі вузенькай лавачцы, вельмі нязручнай, да таго ж яна стаіць бокам да гэтага вакна. А з другога боку праз прагал добры, па якім пэрыядычна можа прайсьціся супрацоўнік, за кратамі таксама, за яшчэ адным шклом, але ўжо ў клетцы мэталічнай, у рэальнай абсалютна мэталічнай клетцы, прыблізна кшталту такіх, якія мы зараз назіралі на судзе ў Горадні над Мікалаем Аўтуховічам і так званай групай Аўтуховіча, сядзіць твой блізкі, і вы можаце бачыць адно аднаго праз гэтыя дзьве шыбы, праз краты, вы можаце размаўляць толькі праз тэлефон. Гэтыя тэлефонныя апараты, яны настолькі старажытныя, быццам з 50-х гадоў яны ў гэтай сыстэме так і засталіся.

Фізычна вельмі цяжка, бо стаіць гоман. Але калі прыходзіць твой родны, ты ўжо больш нікога ня чуеш і ня бачыш. Там заўсёды адначасова шмат людзей.

Калёнія асаблівага рэжыму — гэта, па сутнасьці, турма ў калёніі. Людзі знаходзяцца ў камэрным утрыманьні ня менш за трацiну вызначанага ім тэрміну. Я атрымала першае афіцыйнае паведам-

леньне, што Мікалай знаходзіцца ў Глыбоцкай калёніі і што зьмена рэжыму пакараньня можа адбыцца пасьля 29, здаецца, лістапада 2029 году. То бок яны разьлічваюць яшчэ на такую доўгую сваю будучыню.

Дык вось, ён знаходзіцца цяпер у камэры, гэта па рэжыму, гэта мы не гаворым зараз пра ўсе тыя спосабы ўціску, які цяпер усе палітычныя зьняволеныя зазнаюць. У яго можа быць толькі адна перадача і дзьве бандэролькі на год. У яго можа быць адно так званае доўгатэрміновае спатканьне і два кароткія. У першыя ж дні ім аб'яшчаюць вымовы, іх робяць экстрэмістамі, схільнымі да ўцёкаў, да нападаў і г.д. Навешваюць усякія бірачкі. І потым ён ужо, скажам так, страціў права на спатканьне і на гэтую адзіную перадачу. Быў накіраваны ў ШЫЗА. Хаця там ужо якая розьніца, камэра і камэра, здаецца. І ён лічыць, што наўрад ці выйдзе па заканчэньні ўсяго гэтага тэрміну, што працяг будзе.

Камэра мае тры нармальныя крокі ў даўжыню, як піша Мікола, і мэтар у шырыню. Ёсьць нары, якія прышпільваюцца да сьцяны ўдзень. Ёсьць вакно, яно на ўзроўні зямлі. Паўпадвальнае памяшканьне такое. Але можна, дзякуй Богу, пісаць лісты.

Мікола піша, што ўжо адаптаваўся да малых памераў сваёй камэры, у яго ж шклянка заўсёды напалову поўная. Піша, што затое ўсё пад рукой. На прагулкі яго адтуль не выводзяць. Хаця паўгадзіны прагулкі на дзень яму абавязаныя даваць. Тлумачаць тым, што прагулачныя дворыкі рамантуюцца. Усе адразу, я так падазраю. То Мікола, каб кампэнсаваць адсутнасьць фізычнай нагрузкі, дзьве гадзіны на дзень ходзіць па сваёй

камэры. Ну і яшчэ ён зьмяніў структуру сваіх штодзённых фізычных практыкаваньняў. Бо ў такой камэры, шырынёй мэтар, нават махнуць рукой праблематычна. Піша, што мусіў прыдумаць новыя практыкаваньні.

З забаваў у яго цяпер ёсьць гульні з пацукамі. Пацукі прыходзяць да вакна камэры і чакаюць ад яго пачастункаў. „Гаспадарка“ налічвае ўжо цэлую пацучыную сям'ю.

„Уваход у аконную нішу з боку галоўнай пацучынай магістралі зараз вельмі лёгкі. І спачатку па ежу наведваўся адзін тоўсты і важны пацук, які, не павітаўшыся і не папрасіўшы, проста правяраў, ці паклаў я яму што-небудзь за краты. Не дачакаўшыся і каб казырнае месца не прападала, гэты пацук прывёў туды дзевачку. Заляцаньні скончыліся скандалам, і да мяне стала наведвацца толькі гэтая дзевачка — ахайная, зь белымі бакамі і чорнай сьпінай. Яна і віталася, і прасілася, але я трымаўся, пакуль тая не прывяла з сабой сваё дзіцятка. Прыйшлося паддацца гэтай цынічнай маніпуляцыі. Цяпер яны прыходзяць пастаянна“.

У мяне зараз ня будзе магчымасьці зрабіць харчовую перадачу для Міколы. У яго, паводле рэжыму, адна такая перадача на год. Ёсьць яшчэ рэчавая, якой ня могуць пазбавіць. Яна належыць любому вязьню, незалежна ад рэжыму. Бліжэй да халадоў я паспрабую яму перадаць цёплыя рэчы за краты. Вопратку, сродкі гігіены. Цыгарэты нельга толькі, бо гэта ўжо ў харчовую перадачу ўваходзіць. Але Мікола ня курыць, а ў адзіночцы каму ён іх будзе мяняць?

Мікалай, апрача ўсяго іншага, цяпер у паласатай робе. Гэта, даруйце, вельмі нагадвае вязьняў

фашысцкіх канцлягераў. То бок гэта таксама такая адметнасьць асаблівага рэжыму. Ён, вядома, не бяз гумару. Прыслаў мне паштовачку зь медзьведзяняткам у маечцы, якая імітуе расфарбоўку пчол, і напісаў: цяпер недзе вось так. Ведаеце, любыя перакананьні каштуюць роўна столькі, колькі чалавек гатовы за гэта плаціць.

1 жніўня

## ТЫЯ, ХТО ЗАСТАЕЦЦА

*Людміла:*

Да 2020 году я ўвогуле не цікавілася палітыкай. Але і прыхільніцай улады не была. У 2020-м я вельмі спадзявалася, што нарэшце наступяць перамены. Таму з мужам актыўна ўдзельнічала ў пратэстах.

Цяпер я думаю, што, можа быць, варта тады было браць зброю. Але, па-першае, яе ў нас няма. Па-другое, тады б нас прыйшлі забіваць расейцы, я так думаю.

Мой муж трапляў на „суткі". Пасьля гэтага мы думалі пра магчымасьць зьехаць. Сябры нават знайшлі нам працу і жытло ў Кіеве. Але мы перадумалі. І я, і мой муж маем пажылых і хворых бацькоў, якім патрэбны дапамога і дагляд.

Мы вырашылі заставацца. Бацькі — гэта адно. Другое — калі наша войска сюды прыйдзе (я маю на ўвазе полк Каліноўскага), трэба, каб нехта іх сустракаў, карміў, дапамагаў ім! Мы спадзяёмся вельмі, што яны будуць тут.

Пасьля 24 лютага я пачала размаўляць на беларускай мове дома і на працы. Я спалохалася, што мяне залічаць суайчыньніцай Пуціна, таму перайшла на родную мову. Блізкія мяне падтрымалі. На працы ня ўсе ставяцца добра. Мне часам страшна, што на мяне данясуць ці паскардзяцца кліенты. Але я працягваю размаўляць. Былі сутычкі невялікія, калі кліенты гаварылі, што не

разумеюць беларускай мовы. Але, паўтаруся, большасьць разумее.

Мне і цяпер страшна бачыць міліцыянтаў на вуліцы. Я працягваю чысьціць перапіскі ў Telegram, стараюся нічога не пісаць у сацыяльных сетках.

На пачатку вайны мне патэлефанавала знаёмая з Кіева, сказала, што „ня трэба нас вызваляць ад нацыстаў“. Мне было жудасна гэта чуць. Яна не разумела нашай рэчаіснасьці, што мы жывём у двайной акупацыі. Але потым я ёй патлумачыла пра нас. Мы знайшлі паразуменьне.

Мне непрыемна, што ў горадзе ёсьць людзі, мае суседзі, якія падтрымліваюць „спэцапэрацыю“. Але яны дакладна нікуды ня дзенуцца і ня зьедуць. Адзін мяне абражаў, называў „бандэраўкай“. Ён ня мае адукацыі, нармальнай працы, падтрымлівае Лукашэнку — ну куды ён зьедзе?

У маральным пляне мне цяжка ад таго, што кіраўніцтва падтрымлівае ўладу. Але я разумею, што іншых на такія пасады і ня ставяць. Яны ходзяць на ўсе мітынгі, махаюць там сьцягамі чырвона-зялёнымі і хочуць, каб мы таксама такое рабілі. Пакуль яшчэ гвалтам не прымушаюць.

*Ганна:*

Я не была прыхільніцай улады да 2020-га, але актыўнага ўдзелу ў пратэстах ня брала. Я неаднаразова працавала на выбарах і ведала пра фальсыфікацыі. Таму веры ўладзе не было. У 2020 годзе пачала актыўна хадзіць на акцыі, на нядзельныя і жаночыя маршы.

Не магла застацца ў баку, калі бачыла гэты гвалт і зьдзекі. Уяўляла, што на месцы пабітых людзей маглі быць мае дзеці ці я. Я проста не магла маўчаць. Хадзіла на маршы. Але дома былі малыя дзеці, таму доўга, да канца і хапуну, не затрымлівалася. Можа быць, таму я ня трапіла пад затрыманьні. Пазьней удзельнічала ў „партызанскім“ руху. Потым ужо ні ў чым. Таму што не было магчымасьці аб’ектыўна: некага затрымалі, іншыя выехалі з краіны.

Мне пашэнціла. Была аблава на групу, якая арганізавалася ў закрытым чаце. У той вечар я не змагла прыйсьці на сустрэчу і пазьбегла затрыманьня.

З мужам мы абмяркоўвалі, і ня раз, магчымасьць зьехаць. Тым больш нам было б прасьцей, чым многім. Муж працуе ў IT-сфэры, ім прапаноўвалі рэлякацыю. Многія ягоныя калегі паехалі. Але мы засталіся. Па-першае, я заўсёды хацела жыць у Беларусі. Калі і ехаць куды, то ці адпачыць, ці трохі папрацаваць. Я люблю сваю краіну, не хачу нікуды ехаць. Па-другое, у нас тут добры дом, агарод. Мы ў 2020 годзе завялі сабаку. Праўда, вагаліся. Думалі, а раптам давядзецца ўцякаць за мяжу. Па беларускіх мерках у мужа добры заробак. За мяжой мы выдаткавалі б шмат грошай на арэнду жытла, прычым не такога вялікага дома, як у нас. Цяпер яшчэ ката завялі.

Муж працуе ў прыватнай фірме, таму на яго ня ціснуць ідэолягі, не прымушаюць хадзіць на парады ці яшчэ куды. Калі будзе ну зусім блага, калі раптам Беларусь уступіць у вайну, можа быць, мы па-іншаму загаворым. Ня будзем тады думаць

пра свае яблыні ў садзе, агарод. Але пакуль мы маем прастору для манэўру.

Непрыемна бачыць хлусьню і распальваньне нянавісьці, якія ліюцца з тэлевізара. Беспакарана сеюць нянавісьць, абражаюць людзей, хлусяць пра вайну ва Ўкраіне — вось моцна гэта мяне злуе. Зь некаторымі сваякамі мы трохі „скасавалі“ стасункі, бо яны падтрымліваюць вайну. Але наш асяродак — гэта даволі маладыя, „прасунутыя“ людзі — не падтрымлівае вайну.

Я ня думаю, што людзі, якія застаюцца, мусяць апраўдвацца. За што? За тое, што я жыву на сваёй радзіме? Наогул я ня бачу расколу паміж беларусамі, якія зьехалі і якія засталіся. Наадварот, бачу, людзі пішуць, што тыя, хто застаўся, — сапраўдныя героі. Ёсьць непаразуменьні, але я больш разуменьня бачу паміж намі.

*Алег:*

Я працую юрыстам. Удзельнічаў у 2020 годзе ў маршах пратэсту. Пад затрыманьне ня трапіў. Такі лёс.

Да 2020 году я праўда хацеў пераехаць. Пасьля — наадварот, хачу заставацца. Прынцыпова. Я вырашыў, што я патрэбен Радзіме. Калі ўсе зьедуць, то хто тут застанецца? Імавернасьць, што па мяне прыйдуць, ёсьць. Але Віктар Бабарыка ня зьехаў, Маша Калесьнікава, Максім Знак ня зьехалі. У Бабарыкі нашмат больш, чым у мяне, было магчымасьцяў выехаць і нармальна жыць. Мяне, у прынцыпе, нічога не трымае. Я магу сабрацца за пяць хвілін і паехаць. Але я веру ў непазьбежнасьць перамен. Ведаеце, калі ты стаіш на скале

і яна дрыжыць, табе здаецца, што вось-вось нешта адбудзецца, — і такое адчуваньне ў мяне цяпер.

Сярод маіх сяброў і блізкіх няма „ябацек“ ці тых, хто падтрымлівае вайну. Тых, хто падтрымлівае вайну, я сустракаю толькі ў рэклямных публікацыях у сацыяльных сетках, яны там камэнтары пішуць. Можа быць, у мяне спэцыфічны асяродак, але як ёсьць.

*Ірына:*

Да 2020 году ня ўдзельнічала ў актыўнай дзейнасьці. Але не была прыхільніцай улады і ніколі не галасавала за Лукашэнку. У 2020 годзе я адчула, што нешта можа зьмяніць, калі ўбачыла масы людзей на вуліцах гораду. Я хадзіла на маршы, затым удзельнічала ў партызанскім руху. На мяне з кампаніяй зрабілі данос. Ноччу на партызанскай акцыі на нас напаў амап. Мне ўдалося ўцячы. Пазьней я прачытала пра данос на „Чорнай мапе Беларусі“ і даведалася, што ў міліцыю патэлефанавала суседка.

Я застаюся ў Беларусі. Па-ранейшаму чышчу перапіскі, калі выходжу з дому. Прымаю меры бясьпекі розныя. Раней пісала шмат лістоў нашым палітычным. З пачаткам вайны лісты перасталі перадаваць. Таму стараюся дапамагаць сем’ям палітычных вязьняў, зьбіраю грошы, перадачы. Больш я ня ведаю, чым дапамагчы. Яшчэ дапамагалі ўкраінскім уцекачам, перадавалі прадукты ва ўкраінскія памежныя вёскі, калі гэта было магчыма, вясной. Калі пачалася вайна, па нашым горадзе паехалі калёны тэхнікі, танкі, паляцелі над галавой самалёты — эмацыйнае жаданьне

было зьехаць. У мяне быў проста жудасны стан. Але ў мяне маці старая, сын у школе вучыцца. Я адказная за іх.

Па маіх назіраньнях, у горадзе стала больш прыхільнікаў Расеі і Пуціна. Нават было непрыемнае расчараваньне, што людзі, якія былі за пратэст, сталі падтрымліваць Пуціна ў гэтай вайне. Я была проста ў шоку! Зразумела, я спыніла зь імі стасункі. Але мае сябры, блізкае атачэньне — адэкватныя людзі. У мяне ёсьць надзея на перамены ў нашай краіне, безумоўна. Яны зьвязаныя з канцом вайны ва Ўкраіне.

---

12 жніўня

## Я ІМ КАЖУ: НЯ ТРЭБА МНЕ ПРАЦУ ПАДКІДВАЦЬ

*Анастасія „Север“ Махамет, парамэдык:*

Я нарадзілася ў Івацэвічах Берасьцейскай вобласьці. Мой тата вайсковец. Таму разам зь ім мы падарожнічалі па вайсковых частках, а ўжо ў маім дзесяцігадовым узросьце пераехалі ў Менск. Пасьля школы я паступіла ў Барысаўскі мэдычны каледж, груба кажучы, зьехала да бабулі. Па сканчэньні вучобы тры гады працавала ў менскай радзільні № 1. Аднак у выніку вырашыла паступаць у мэдычны ўнівэрсытэт, які ўдала скончыла. Інтэрнатуру праходзіла ў Магілёўскім абласным анкалягічным дыспансэры.

Паступаць праз шэсьць гадоў пасьля школы ва ўнівэр — гэта тая яшчэ задачка. Але мне вельмі хацелася — і я гэта зрабіла!

2020 год. Я была ў кампаніі моладзі, якая стварыла першы студэнцкі незалежны прафсаюз у Беларусі — гэта быў прафсаюз БДМУ на базе Свабоднага прафсаюзу беларускага. Спачатку я была намесьніцай старшыні, а потым старшынёй прафсаюзу. І „сьвяціла тварам“, і судзілася супраць унівэру, і супраць Міністэрства аховы здароўя. Натуральна, іншую пратэставую дзейнасьць даводзілася хаваць, хоць я ўдзельнічала ў маршах. Зрэшты, мне здаецца, што ўсе і так усё разумелі, пагатоў у мяне на руцэ тату з арнамэнтам, нібыта выпадкова падобнае да бел-чырвона-белага сьцяга. Нават супрацоўнікі КГБ у мяне пра гэта пыталіся, а я адказвала, што гэта сымбаль агню, якія яшчэ пратэсты.

У сакавіку 2021 году ў „Імагуру“ быў сход прафсаюзаў, я была сярод затрыманых. Мяне дапытваў КГБ у Ленінскім РУУС. Іх найбольш цікавіў мой тэлефон. Хаця я, калі туды ішла, разумела падобны сцэнар, таму на тэлефоне абсалютна нічога не было. Скончылася ўсё размовай, дзе 90% інфармацыі, якую я выкладала, былі нейкія „левыя“ рэчы, альбо я казала, што нічога ня памятаю. Вэрбаваць не спрабавалі, хоць многія знаёмыя з гэтага дзівіліся. Магчыма, таму, што ў мяне ў тэлефоне не знайшлі ніякіх пратэставых чатаў.

Я не займалася пратэставай дзейнасьцю. Да 2020 году мне здавалася, што незадаволеных людзей вельмі мала. Я спрабавала ачалавечыць маленькае атачэньне вакол сябе. Мне здавалася, што ў большых аб’ёмах нешта рабіць сэнсу няма, бо нібыта ўсіх усё задавальняла.

На сытуацыю паўплываў каранавірус. Каранавірус і стаўленьне да яго раззлавалі людзей.

Памятаю, сядзела на карантыне, у маім атачэньні трое людзей зь цяжкай пнэўманіяй, а нам расказвалі, што каранавірусу няма. Гэта, мякка кажучы, раздражняла.

Аб пратэстах я напісала цэлую кнігу. Спачатку гэта былі гісторыі людзей пасьля маршу 16 жніўня 2020 году. Дапісала кнігу ўжо ва Ўкраіне, пісаць у Беларусі чамусьці не ўдавалася. Героі выдуманыя, але гісторыі рэальныя. Усё адбывалася насамрэч, але з рознымі людзьмі. Я даўно пішу пад псэўданімам „Александр Верт“, кніга ў вольным доступе.

Я не хацела выяжджаць. І да гэтай пары ня ўпэўненая, што пагроза арышту для мяне была. Але былі нейкія непрыемныя званочкі: я заўважыла сачэньне; упэўнена, што хтосьці прыходзіў у маю кватэру, калі мяне там не было. Я баялася падставіць кагосьці. Шмат хто казаў, маўляў, калі яго арыштуюць, то ён нічога ня скажа. Я ў такое ня веру. Ніколі нельга даць такой гарантыі. Хто яго ведае, якія ў іх будуць мэтады і як ты будзеш на гэта рэагаваць. Зь цяжкасьцю я прыняла рашэньне выехаць з краіны. Цяпер аб гэтым не шкадую, бо апынулася на сваім месцы.

Выяжджала праз Расею. Выехала цягніком у Маскву, а там села на маршрутку і даехала да Кіева, у лістападзе 2021 году такое яшчэ было магчыма. Пад Кіевам у мяне добрая сяброўка, я пражыла ў яе ўсю зіму. Я была на этапе легалізацыі дыплёмаў. Напярэдадні вайны гаварылі зь сяброўкай, што яна, хутчэй за ўсё, будзе, але ўсё абмяжуецца Луганскай і Данецкай абласьцямі. Я яшчэ сказала, што бамбіць Кіеў — гэта занадта па-вар'яцку ў XXI стагодзьдзі. Урэшце стаю я 24 лютага на гаўбцы і думаю: „Ну ні храна ж сабе!

Як такое можа быць?“ Але потым я палічыла, што ўсе пратэсты і ўся дзікасьць у Беларусі, той сюр, які ў нас адбываўся, — своеасаблівая прышчэпка, таму і да гэтага вар'яцтва можна адаптавацца хутчэй.

24 лютага зь сяброўкай і яе дачкой мы ад'ехалі далей ад Кіева, тады абвясьцілі камэнданцкі час на тры дні, а як толькі ён скончыўся, я паехала ў найбліжэйшы вайсковы камісарыят, а пасьля пайшла ў тэрабарону мэдыкам. Пад канец сакавіка я перайшла тады яшчэ ў батальён Кастуся Каліноўскага. Яны шукалі мэдыка, а я тут побач, да мяне толькі на машыне пад'ехаць.

Так атрымалася, што я шмат цікавілася ваенна-палявой хірургіяй. Шмат чытала спэцыяльнай літаратуры. Тэарэтычных ведаў у мяне было дастаткова, але даводзілася нешта падвучыць, нешта адкрыць для сябе. Я працую на эвакуацыі, не аказваю дапамогу проста на полі бою. Таксама шмат каго вучу, арганізавалі курсы, як аказваць дапамогу, прабачце, „з г*на і палак“. Не было жгутоў, дык мы рэзалі роварную гуму, каб было хоць нешта. А цяпер мы ўжо нават можам носам круціць, што вось гэты турнікет ня дужа надзейны. Выйшлі на іншы ўзровень, магчымасьцяў стала больш. Шмат хто стаміўся ад вайны, гэта цікава назіраць па лякарнях. Калі лякарня блізка ад лініі фронту, там цябе гатовыя на руках насіць, нават калі табе тое ня трэба. Калі ж ад'яжджаеш кілямэтраў за дваццаць, то на цябе могуць глядзець у такім стылі: „А што ты тут забыў?“. Ёсьць цяжкасьці, але ўсё разьвязваецца.

Першыя мае параненыя былі лёгкімі, хлопцы з кантузіямі; хто дакладна, нават не запомніла. Бы-

ло шмат дробязяў. Нават здаралася, што хтосьці з байцоў парэзаў палец, і мне яго таксама прывозілі. Я часта на іх сваруся, што „трохсоцяцца“ (раняцца) на нейкай лухце на базе. Схадзіць у Северадането, вярнуцца цэлым, а потым парэзацца пры зборы чарэшняў. Ты дурненькі, ці што? (*Сьмяецца*)

Першы сур’ёзны выпадак — гэта гібель „Волата“ (Паўла Суслава). Потым мы высьветлілі, што ён атрымаў раненьне, не сумяшчальнае з жыцьцём, але доўга быў у прытомнасьці. Калі „Волат“ трапіў да мяне, у яго ўжо спынілася сэрца; нейкім цудам яго завялі, адвезьлі ў лякарню яшчэ з пульсам. Нават пачалі апэрацыю, але сэрца спынілася паўторна. Там ужо і не спрабавалі больш, бо бачылі маштаб пашкоджаньняў. Гэта „Брэст“ тады эвакуаваў на пікапе „Волата“, я таксама ехала зь імі ў кузаве. Нас абстрэльвалі па дарозе, над намі лятаў „Арлан“, такая вось гісторыя была. Але я тады не заўважыла нічога, мне расказалі пасьля.

„Волат“ — тая постаць, якую цяжка ня вылучыць. Ён часта даваў вельмі важныя кароценькія камэнтары. Многія пагаджаюцца, што ён быў такім „бацем“ батальёну, хаця і быў усяго толькі камандзірам першай роты. Пару дзён зь ім у адным акопе давалі болей, чым два месяцы „вучэбкі“. Пасьля яго гібелі шмат што было пад пытаньнем. У той момант для мяне нават было нечакана, як праявіў сябе Ваня „Брэст“. Ён рэальна змог стаць камандзірам, аб’яднаў людзей, гатовых рассыпацца ад разгубленасьці.

Я была на эвакуацыі той групы, дзе загінуў і „Брэст“, літаральна за кілямэтар ад іх. Чула большасьць іхных перамоваў праз рацыю. Так атрымалася, што нашы хлопцы трапілі ў тыл пра-

ціўніка. На жаль, сіла ворага была нашмат большай. Галоўны герой гэтай гісторыі — „Тромблі“ (Ян Дзюрбейка), бо застаўся зь імі. Быў момант, калі „Тромблі“ мог пайсьці, але гэта значыла кінуць параненых. Я давала яму па рацыі мінімальныя парады аб першай мэдычнай дапамозе. Гледзячы на фота, я думаю, што Іван быў яшчэ жывы на той момант, калі іх знайшлі. Хутчэй за ўсё, яго проста застрэлілі. Ён быў без прытомнасьці дакладна. Ёсьць два здымкі з загінулым „Брэстам“. На першым відаць, што яго яшчэ ніхто не чапаў: ёсьць гадзіньнік, аптэчка, падсумак. На твары шмат бруду, але не відаць крыві пад вокам. А на другім здымку нічога гэтага няма. І на гэтым фота ў яго на твары кроў, якая цячэ ці то са скроні, ці то з вуха. Ня выключана, што быў кантрольны стрэл у галаву, ніхто не правяраў, ці быў ён жывы.

Таксама мы прыйшлі да высновы, што „Сябро“ (Васіля Парфянкова) дакладна застрэлілі. Ён быў такім чалавекам, які ня даўся б у палон, ён дастаў бы гранату, але ня здаўся б, тут без варыянтаў.

З Вадзімам „Папікам“ Шатровам я кантактавала мала, але гісторыя ў тым, што мы ехалі ў адным аўтамабілі з базы на тое заданьне. Так атрымалася, што ў нас быў кепска замацаваны пандус для вазочка і ён увесь час спрабаваў зваліцца на „Кляшча“ (Сяргея Дзёгцева, цяпер ён у расейскім палоне). Усю дарогу „Клешч“ ваяваў з гэтым пандусам, а „Папік“ рагатаў, што ў „Кляшча“ свая вайна. Я гэта так ярка запомніла, сьмяяліся з гэтага ўсю дарогу.

„Сябро“... Яго па сёньня ў нас усе цытуюць. Ён вельмі радыкальны чалавек. Але было вельмі шмат сьмешных выпадкаў зь ім, зь яго фразамі,

зь яго інтанацыяй. Хлопцы спрабуюць і сёньня яе перадаць, нібыта ён з намі. Напрыклад, характэрна гаварыў: „Ды гэта ўсё г*но“.

Васіль „Атам“ Грудовік. На апошнім заданьні з намі быў украінец, вельмі падобны абліччам да „Атама“, было немагчыма паверыць. Калі краем вока бачыш, то думаеш, што гэта „Атам“. Вельмі дзікая сытуацыя. Пагатоў з „Атамам“ самае складанае становішча, бо няма здымка ягонага цела. Упэўнена сказаць, што яго больш няма, вельмі цяжка. І гэта цісьне. У бытавых пытаньнях ён быў вельмі мяккім і добрым, гатовым усё аддаць. А ў баявых умовах ён зусім іншы, гатовы першым ісьці ў бой, дзяжурыць на пазыцыі па сем гадзін, калі гэта патрэбна. Неяк у ім гэта ўсё спалучалася. У яго былі такія няпростыя адносіны з адным пабрацімам, пастаянна „бадаліся“ між сабой. Помню, перад тым заданьнем мы спыніліся на запраўцы. І другі хлопец кажа: „Ну ты ж ненармальны, «Атам». «Север», скажы, што ён ненармальны“. — „Не, ён нармальны“, — адказваю. Яшчэ абняла яго. Ён так сьмешна радаваўся гэтай фразе, пабег купіў мне цукерку вялікую. Я так сьмяялася зь яго ў той момант, Госпадзе. Чалавек, які бегаў зь вялізным кулямётам і пытаўся ў „Брэста“: „А можна мне наваліць?“. І як гэта можа спалучацца ў адным чалавеку, я ня ведаю.

Цяжка было ўсім. У той момант спачатку быў поўны ступар. Нам давялося цалкам пераструктураваць увесь батальён. Я вырашыла, што да 5 ліпеня ня буду прымаць рашэньня, што мне рабіць далей, бо была ў аглушаным стане. Тады яшчэ не было ні фотак, нічога, яны лічыліся зьніклымі бязь вестак. Я разумела, што з такімі траўмамі „Брэст“ мог выжыць. 5 ліпеня было рандомнай

датай, але менавіта ў гэты дзень зьявіліся здымкі Івана. Я зразумела тады, што не магу сысьці, ня маю права. Проста не дарую сабе.

Мёртвым быць ня страшна, страшна за тых, хто побач. Калі цябе заб'юць, ты наўрад ці ад гэтага засмуцісься.

Наконт „у вайны не жаночы твар" у мяне не было праблемаў. Хаця я чула, што „Волат" нібыта быў супраць жанчын на вайне. Хаця я асабіста гэтага не заўважала. Я мэдык, я непасрэдна не займаюся вайной. Ведаю, якую работу яны выконваюць, і мне цяжка ўявіць, што такое рабілі б жанчыны. Гэта фізычна цяжка. І трэба мець вельмі вялікую вытрымку.

Я вельмі лёгка да ўсяго прызвычайваюся. Лёгка сплю ў падвалах. Жылі ў Севераданецку два тыдні ў падвале, усе з такім „выдатным" пахам, што пасьля гэтага гатовыя дараваць адно аднаму ўсё, калі мы трывалі гэты смурод. Яны мяне вельмі берагуць, падкормліваюць салодкім. Я ня здольная есьці столькі салодкага, колькі яны мне прыносяць. Кожны зь іх верыць, што жыцьцё будзе ня тое, калі не прынясуць мне цукерак. Пры гэтым кажуць: „Калі што, ты ж жыцьцё нам будзеш ратаваць". Я на гэта адказваю, што не хачу працаваць і ня трэба мне працу падкідваць.

Гэтага шчанюка я забрала падчас апошняй задачы. Назвала „Шэры". Каля нашай базы былі сука і шасьцёра шчанятак, адзін зь якіх запаў мне ў душу. Я забірала яго як звычайнага дварняка, а мне цяпер кажуць, што гэта заходнесібірская лайка. Здаецца, я завяла вялікага паляўнічага сабаку (*сьмяецца*). Вельмі часта бяру яго з сабой на заданьні, ён спакойна езьдзіць у машыне эвакуацыі.

30 жніўня

## КАЛІ ЁН ВЫЙДЗЕ, Я НА КАЛЕНА СТАНУ

*Ірына Чарняўка, жонка Паўла Мажэйкі:*

30 жніўня Паўла забралі. Адначасова прыйшлі зь ператрусам і да ягонага бацькі, якому пад 70 гадоў.

Пазванілі сваякі Пашы, што забралі дзеда з хаты. Дзед даглядаў унукаў. Дзяцей 13 і 6 гадоў самых пакінулі дома. Яны перапужаныя.

Сувязі з Паўлам на той момант ужо не было. Ягонага бацьку адпусьцілі позна ўвечары, але той нічога ня мог расказаць, бо даў падпіску аб невыдаваньні. У наступныя дні прайшла сэрыя ператрусаў у сваякоў зь вёсак. Мы зь некаторымі нават ніколі ня бачыліся, я не падазравала, што такія людзі існуюць. Яны пасьля тры дні плакалі, бо для іх гэта быў шок.

Чаму Павал паехаў у Беларусь? Ён ня бачыў для сябе такой магчымасьці, што ён выяжджае з краіны назаўсёды. У Беларусі хворыя бацькі, абавязкі, якія трэба выконваць.

Калі „Белсат" прызналі экстрэмісцкай арганізацыяй, ён ужо не супрацоўнічаў зь „Белсатам". Павал працаваў на „Белсаце" ад пачатку існаваньня каналу. Гэтае мэдыя дало яму максымум творчай рэалізацыі. Ён вёў першае ток-шоў „Госьць «Белсату»", ток-шоў „Два на два", стварыў і вёў праект „Intermarium" — праграму, якая стала падзеяй рэгіянальнага маштабу, бо паказвала гісторыю

з фокусам на Беларусі. У 2020 годзе праграма спынілася праз каранавірус і рэвалюцыю.

Усе, хто даведваўся, што ён едзе ў Беларусь, прыходзілі ў жах. „Ты ж разумееш, што там канцлягер фармуецца? Чаму ты думаеш, што ад цябе адчапіліся са «справай Пушкіна»“?

Гэта была вельмі важная для яго пазыцыя, што ён не эмігруе. Ён адмаўляўся ад усіх прац і праектаў, якія вымагалі ягонай прысутнасьці толькі за мяжой, дзеля магчымасьці езьдзіць у Беларусь.

Павал ведае сваю радаслоўную да XVII стагодзьдзя. Яны заўсёды былі сяляне, зь Беларусі, у многіх пакаленьнях. Пазбавіць яго радзімы — я ня думаю, што ён бачыў такую пэрспэктыву, нават калі гэта каштуе вось столькі. Да канца ён, вядома, ня верыў у затрыманьне.

Калі Павал упершыню прыехаў да дзяцей у Польшчу, амаль год ня бачыўшыся, было невядома, дзеці яго пазнаюць ці не, асабліва маленькі. Я Нінцы сказала: „Прыедзе вельмі важны госьць, давай прыбярэм у хаце“. Нінка ня любіць прыбірацца: „Нейкі госьць прыйдзе, я ня буду прыбірацца“.

Званок у дзьверы. Я кажу: „Нінка, ідзі прывітайся з госьцем“. Нінка такая незадаволеная ідзе да дзьвярэй: „Прывітаньне“, пасьля глядзіць на яго: „Тата!“. Малы таксама пазнаў яго хутка.

Першы час пасьля затрыманьня ніякай інфармацыі не было. У чым ён быў? Адкуль яго забралі? З хаты? З вуліцы? Можа, яго ў споднім паднялі. Галоўнае — дзе ён? Вось ноч прайшла. Ён увогуле паеў? Ён мае адзеньне? Яго білі ці не? Раптам яго пабілі, паламалі яму рэбры, і ты ніяк ня можаш дапамагчы. Можа быць, выбівалі прызнаньні? Можа быць, зьдзекаваліся пры затрыманьні?

У нас правяліператрус. Былі скінутыя кніжкі і вопратка ў нашай кватэры, у вёсцы таксама ўсё было перавернута. Кнігі, відавочна, перабралі ўсе. Уся вопратка, бялізна, забаўкі дзіцячыя выкінутыя з шафаў. З матрацаў садралі прасьціны, матрацы самі расшпілілі, вытрасьлі шуфляды, разварушылі дакумэнты. Хіба што забралі швэдар з Пагоняй, бо ня можам яго знайсьці.

У 2021 годзе я адразу ведала, што зь ім, калі ён ішоў даваць тлумачэньні ў пастарунак. Калі ён не вярнуўся пасьля дзьвюх гадзін, адвакат уключыўся ў працэс. Генпракуратура тады адразу выпусьціла прэс-рэліз. А тут ты нічога ня ведаеш. Павал трэці раз ехаў у Беларусь за год. Звычайна дома быў трывожны кошык з прадметамі на выпадак затрыманьня. Гэтым разам яго не было. Відаць, Павал ня верыў, што яго затрымаюць.

Так, я была злая на яго. Ён паехаў адзін раз, другі, трэці. Мажліва, ён мог адчуваць сябе з кожным разам ва ўсё большай бясьпецы. Але калі дапусьціць думку, што могуць затрымаць, то падумай, што будзе рабіцца з тваёй сям'ёй у наступныя 20-30 гадзін? З тваімі справамі? Зь людзьмі навокал?

Ты пачынаеш злавацца: няўжо былі такія важныя справы, каб туды ехаць? З другога боку, ты думаеш, ён у сябе дома, там ягоныя продкі. Чаму цяпер хтосьці мае выгнаць яго зь ягонай зямлі? І я гэта разумею, хоць мне гэта нязручна. Цяпер ніякай злосьці я ня маю. Я разумею, што ў дачыненьні да маёй сям'і адбываецца тэрор.

Тут справа не ў геройстве ягоным. Калі б ён падазраваў, што за ім сочаць, то пэўна не паехаў бы ў Беларусь. Хаця, калі пачыналася „справа

Пушкіна“, Павал знаходзіўся ў Польшчы і вярнуўся ў Беларусь.

Мы ў сытуацыі тэрору жывём усе 20 гадоў. Гэты апошні год, калі мы сябе зь дзецьмі пачуваем у бясьпецы, разумеем, што нам ніхто ня выламіць нагой дзьверы, разумеем, што мы можам проста размаўляць па тэлефоне, калі няма небясьпекі, што ў цябе забяруць дзяцей.

Калі Павал здолеў некалькі разоў прыехаць на месяц-два — гэта і былі адзіныя спакойныя месяцы па-за тэрорам за ўвесь час нашага сямейнага жыцьця.

Кошт такой пазыцыі: мець магчымасьць езьдзіць у Беларусь. „Над маім лунае лёсам Беларусь мая“.

Пару месяцаў у фокусе нашай увагі было, а як дзеці, а якія ім курсы, якія таленты ў іх праяўляюцца, як іхныя сябры, куды паехаць падарожнічаць, што нам разам паглядзець, ці займацца ў гэтай школе ці той, як сабраць шафу, купіць фіранкі, што прыгатаваць на вячэру. А потым твой фокус зьмяшчаецца на іншае. Ты гэтак жа сама займаесься курсамі і вячэрамі, але тло твайго жыцьця — гэта ГУЛАГ як частка тваёй сям'і.

Калі я пісала ліст да Паўла, запыталася ў Нінкі, што яна хоча запытацца ў таты. Яна доўга хадзіла, потым вярнулася: „Якія кніжкі па палітыцы і гісторыі ён мне параіць чытаць?“. У ёй гэта таксама варыцца. Я не хаваю ад сваіх дзяцей, што адбываецца. Гэта немагчыма схаваць.

Мы дваццаць гадоў разам, аднак дагэтуль афіцыйна не расьпісаныя. Нашы сямейныя адносіны пачыналіся, калі Паўла першы раз накіравалі на „хімію“ за „паклёп“ на Лукашэнку.

Можна мяне прадставіць як „маці ягоных дзяцей“, я паўсюль у іх так праходжу, у „Жёлтых сливах“.

Калі Пашу пасадзілі на 72 гадзіны, ён даведаўся, як жыць у турме. Мне падабаецца адаптыўнасьць Пашы. Калі яго закрылі 20 гадоў таму, у яго не было нейкіх асаблівых пантоў, што ён журналіст, яго несправядліва пасадзілі. Ён адразу зразумеў свой юрыдычны статус, ён просты чалавек і ня ставіў сябе вышэй за астатніх.

У 2021 годзе ён даведаўся, як стрыгчыся, як купляць тавары ў краме, якое адзеньне патрэбнае, як даюць спатканьні. Кажа: „Я зразумеў, як нам пажаніцца“.

Я яму кажу: „Навошта нам жаніцца ў турме? Давай зараз сходзім у ЗАГС, нас адразу расьпішуць, улічваючы нашыя абставіны“. А ён кажа: „Ай не, а раптам мяне не пасадзяць“. Мы вельмі рагаталі з гэтай імгненнай рэакцыі.

Калі ён цяпер выйдзе, то я яму пярсьцёнак ужо падрыхтую, на калена стану. Сукенку я сабе прыглядаю, шчыра сказаць.

---

31 жніўня

## ГІСТОРЫЯ „ЗМОВЫ“

*Аляксандар Фядута (апошняе слова ў судзе):*

Перадгісторыя „змовы“ — стварэньне двума беларускімі эмігрантамі, Дзьмітрыем Шчыгельскім і Юрасём Зянковічам, Youtube-каналу з дурацкай

назвай „Сиреневенький бесперспективняк“ у красавіку 2020 году. На якім яны „мачылі“ беларускую ўладу даволі груба, часам у хамскіх выразах.

Рана ці позна гэта павінна было прыцягнуць увагу нашай глыбока ранімай улады. Улічваючы тое, што Зянковіч бываў на радзіме і валодаў тут нерухомасьцю, яго ўзялі ў распрацоўку, праўдападобна, мяркуючы, што за ім нехта стаіць. Па-гатоў два балбатуны ў сваіх перадачах упарта прасоўвалі ідэю, што бяз войска любая спроба зрынуць Лукашэнку, застаючыся ў рамках заканадаўства, прапанаванага Лукашэнкам, падпісанага Лукашэнкам і якое выкарыстоўваецца Лукашэнкам у інтарэсах Лукашэнкі, немагчымая і бессэнсоўная.

Аднойчы незнаёмы чалавек скінуў мне паведамленьне, дзе прапанаваў сустрэцца. Як гаварылася ў фільме „О бедном гусаре замолвите слово“: „Вы взялись помогать жандарму“. — „Но это ведь наши жандармы“. У фільме ў шчырасьць такой пазыцыі не паверыў нават жандар. Але мы ня ў фільме, а ў жыцьці. У людзей розныя матывы. Я ў шчырасьць сьведкі Жураўскага і яго гатоўнасьць дапамагаць верыў бесьпярэчна.

Першая сустрэча Зянковіча з Жураўскім адбылася ў Менску ў канцы жніўня, другая ў Горадні 12 верасьня. Менавіта з таго дня варта адлічваць гісторыю „змовы“, лідэрам якой чамусьці лічыцца Юрась Зянковіч. З праслуханых тэлефонных размоваў вынікае, што менавіта Жураўскі ініцыюе большасьць размоў, патрабуе ад Зянковіча адказу, але ў таго няма ані грошай, ані пляну дзеяньняў. Гэта праблема „калектыўнага Жураўскага“ — бяз гэтых двух складнікаў ніякай змовы не выхо-

дзіць. Усё, на што хапае магчымасьцяў Зянковіча, — дастаць з асабістых ашчаджэньняў 5 тысяч даляраў і выдаць іх на бягучыя расходы.

Супрацоўнік КГБ, у задачу якога ўваходзіла адміністраваньне аднаго з найбольш радыкальных чатаў, перасылае Зянковічу плян „Цішыня“ — адзіны дакумэнт, у якім дакладна сфармуляваны плян забойства Лукашэнкі, а той перасылае яго Мікалаю Аўтуховічу і Івану Жураўскаму. Але Аўтуховіч адразу бачыць у гэтым правакацыю і адмяжоўваецца.

Плян забойства „першага“ сапраўды быў, пры гэтым аўтара гэтай крывавай фальшыўкі ніхто не шукае. Дзеля Рамана Пратасевіча ледзь не збанкрутавалі ўсю беларускую авіяцыю, а тут цішыня. Можна скласьці слоўны партрэт. Нават не імітуюць пошукаў — бо раптам знойдуць?

Жураўскага тым часам чакае расчараваньне: амбіцыі Зянковіча, яго незадаволенасьць трэцяраднай роляй у апазыцыі не даюць яму дамовіцца з аніводнай уплывовай эміграцкай структурай. У выніку ў адваката толькі 16 тысяч даляраў і 3 тысячы беларускіх рублёў. Уяўляеце, колькі крыві можна праліць на гэтыя грошы? Чынгісхан адпачывае.

Становіцца ясна, што Зянковіч — пустышка. І ўсё ж позна адмяняць правакацыю — ужо паднялі ФСБ Расеі, ужо папярэдзілі Лукашэнку. „Пустышку“ бяруць. Каб не апраўдвацца, Пуціну дакладваюць аб раскрыцьці „крывавай змовы пад кіраўніцтвам ЦРУ“. Пуцін верыць і нават расказвае пра гэта свайму амэрыканскаму калегу. У адказ — непаразуменьне: пра „змову“ ня ведаюць ні ў ЦРУ, ні ў Дзяржддэпартамэнце, ні ў апараце самога прэ-

зыдэнта ЗША. Пуцін аказваецца ў ролі клоўна, а таму і арганізатарам няма куды адступаць — за імі Масква. Калі ўсё правалілася — афіцыйнаму Менску не пазайздросьціш.

Ніводная з раздрукавак з чатаў і размоў не зьмяшчае нічога, што можна назваць „фактам“. Няма імёнаў заходніх ці расейскіх палітыкаў і функцыянэраў спэцслужбаў. Няма сьведчаньняў аб сустрэчах каго-небудзь са „змоўшчыкаў“ з высокапастаўленымі беларускімі палітыкамі і вайскоўцамі.

Фядута гатовы пісаць палітычныя дакумэнты і пляны, але там крыві няма.

Усё гэтае расьсьледаваньне паказала грамадзтву — улады баяцца неляяльнасьці войска. Жураўскі пайшоў на пэнсію, хоць яму служыць і служыць. Ці значыць гэта, што армейскія афіцэры не цярпяць побач з сабой раскрытага агента „жандараў“, нават калі гэта „нашы жандары“?!

Дык ці была змова — не падмацаваная ні грашыма, ні плянамі і вайсковымі сувязямі? Я ў яе верыў, значыць, удзельнічаў у ёй сьвядома. Чаму ж я ў ёй удзельнічаў? Сьледзтва ўпарта навязвае суду вэрсію аб нізкіх матывах. Бо менавіта гэтая вэрсія выгадная прапагандыстам. Але не даказаны ніводзін зь нізкіх матываў. Якое распальваньне варожасьці? Працытуйце хоць адну маю фразу. Але ні сьледзтва, ні хто іншы не прыводзіць анічога. Іначай, думаю, я б адказваў за такія словы ў судзе нашмат раней.

Спадар абвінаваўца дазволіў сабе паіранізаваць зь мяне, спытаўшы, ці не высокія матывы сталі прычынай маіх дзеяньняў. Але гэта так! Я мог бы ўзяцца, напрыклад, выпраўляць сыстэму

адукацыі і падрыхтоўкі цяперашніх кадраў. Я нават не аб памылках у пратаколах, якія сьледчы ў маёрскіх пагонах мусіў выпраўляць.

Ужо пры выстаўленьні мне першых абвінавачаньняў я мусіў у пісьмовай форме агаварыць, што не магу прыняць іх у поўным аб'ёме, бо там сьцьвярджаўся мой намер парушыць Канстытуцыю, прынятую на… рэфэрэндуме 1994 году! Нават студэнт 2-га курсу юрыдычнага факультэту ведае, што першы рэфэрэндум у Рэспубліцы Беларусь адбыўся ў 1995 годзе, а тую Канстытуцыю прыняў яшчэ Вярхоўны Савет БССР. І такое трызьненьне ад маёра КГБ у асабліва важных справах Акуліча паўтаралася тройчы!

Бязграматная фармулёўка качуе ў зваротах да розных інстанцый больш за сем разоў. Уражаньне, што начальнік Сьледчага ўпраўленьня КГБ Беларусі палкоўнік Самбук падпісвае дакумэнты, не прытомнеючы.

Адбылася адмоўная сэлекцыя кадраў, лаяльнасьць вышэйшая за прафэсіяналізм. Прайшла трансфармацыя з сыстэмы аховы права ў сыстэму аховы праваахоўнікаў. Цяпер як індульгенцыя фраза „Часам не да законаў", якую вымавіў Лукашэнка, прызначаючы генэральным пракурорам Андрэя Шведа. І ніводзін з прысутных ня выйшаў на знак пратэсту супраць настолькі яўнага парушэньня, закліку. Хоць пазьней за такія ж словы асуджалі той жа канал „Сиреневенький бесперспективняк".

З экранаў ліецца характарыстыка іншых народаў у стылі „укрошвайн", а пракуратура не заўважае яўнага распальваньня варожасьці.

Я паверыў у змову, бо хацеў у яе паверыць. Сумленны чалавек ня мог не абурыцца тым, што адбываецца ў краіне. Гэта зразумеў нават Юры Караеў, які выбачыўся за „празьмерны гвалт“. І гэта каштавала яму пасады. Гэта зразумеў і Іван Наскевіч, пры якім яўныя выпадкі гвалту хаця б фіксаваліся. І гэта таксама каштавала яму пасады. Мітрапаліт Павал наведаў ня толькі шпіталь з амапаўцамі, але і людзей, якіх тыя амапаўцы білі. І гэта каштавала яму пасады патрыяршага экзарха Беларусі.

Калі ні закон у выглядзе Сьледчага камітэту, ні Бог у выглядзе Царквы не спынілі грамадзянскае вайны, што пачалася ў краіне, хтосьці ж павінен быў стаць на яе шляху?! Калі ўся праваахоўная сыстэма краіны стала сыстэмай аховы праваахоўніка ад права, дык яна павінна аднавіцца. Няхай нават і шляхам беззаконьня цягам месяца. Гэта лепей, чым два гады, якія мы ўсе жывём без закону.

Паводле тэлефоннага апытаньня ў 2020 годзе, за Лукашэнку гатовыя былі прагаласаваць толькі 26%. Пры гэтым нельга забываць пра ўзровень страху. Прафэсар Вардамацкі патлумачыў паводзіны грамадзтва тым, што многія рэспандэнты баяцца выказвацца адкрыта або называюць той варыянт, за які іх тэарэтычна ня будуць перасьледаваць. Пакватэрнае апытаньне, праведзенае за паўтара месяца да выбараў, было яшчэ больш яскравае — за Лукашэнку толькі 15%. І вы хочаце, каб пры такой рэальнай падтрымцы я паверыў Ярмошынай і яе звыш 80%?!

Сацыёлягі былі шчырыя, Акадэмія навук, акадэмік Гусакоў прызнаў гэта ў дакумэнце, але

там вырашылі не паўтараць шлях прафэсійнага самагубцы прафэсара Коршунава і не апублікавалі зьвестак. У адказе на афіцыйны запыт, аднак, ілгаць яны ня сталі.

Легітымная ўлада не праводзіць таемна ад народу інаўгурацыю, законна выбраны прэзыдэнт ня бегае з аўтаматам без ражка. Лукашэнка баіцца настолькі, што нават у год, які ён сам абвясьціў „Годам нацыянальнага адзінства“, толькі раскручвае махавік рэпрэсій. Лічбы спадара адваката: больш за мільён чалавек удзельнічаў у 6200 вялікіх і малых акцыях. І ня трэба суцяшаць сябе, што людзі выходзілі за грошы. За іх могуць стаяць на пікетах. Тут жа нават пад страхам сьмерці выходзілі. Людзі пратэставалі і пасьля гібелі Аляксандра Тарайкоўскага, пасьля выкраданьня і гібелі Рамана Бандарэнкі, і пасьля гібелі ад салдацкай кулі — што прызнана — берасьцейца Шутава, перад якім я вінаваты, бо ня памятаю ягонага імя, але думаю, што берасьцейцы памятаюць і шануюць яго імя.

Я думаю пра гэтых людзей, пра іх вочы, пра іх усьмешкі, якія асьвятлялі мне камэру, пра іх дапамогу і падтрымку. І вымушаны прызнаць, што ўдзельнічаў у змове, нават калі гэта была правакацыя палкоўніка Жураўскага і містыфікацыя генэрала Тэртэля.

І апошняе... Высокі суд. Я зьвяртаюся да вас. У вялікага кінарэжысэра Стэнлі Крамэра ёсьць фільм „Нюрнбэрскі працэс“. Ён не пра „вялікі «Нюрнбэрг»“, дзе судзілі злачынцаў вайны, канцлягераў і прапаганды. Ён пра адзін зь дзясяткаў працэсаў, на якім судзілі судзьдзяў. Спэнсар Трэйсі „судзіць“ Барта Ланкастэра. Герой Ланкастэра,

выбітны юрыст, выслухаўшы паказаньні тых, каго ён асуджаў на лягеры, турмы і нават на кастрацыю за парушэньне законаў аб „чысьціні расы“, суцяшае сябе, маўляў, ён выконваў закон.

2 верасьня

## ДОЎГА ШУКАЛІ АДСТРАЛЯНЫЯ ГІЛЬЗЫ

*Анастасія Папковіч:*

Мой муж працаваў інкасатарам у „Белгазпрамбанку“. 31 жніўня 2022 году ён звольніўся, і мы плянавалі пераехаць у Польшчу. Аднак 2 верасьня ў кватэру да нас прыйшлі сілавікі. Мяне тады таксама затрымалі, але ў выніку адпусьцілі. Цяпер я ў бясьпецы. Магу гаварыць.

Калі ў пакой уварваліся два сілавікі ў поўным рыштунку з аўтаматамі і чатыры чалавекі ў чорнай форме, мы з мужам нават не пасьпелі адзецца пасьля сну.

Акрамя нас, у пакоі начаваў наш пітбуль, ён пачаў брахаць на незнаёмых людзей. Адзін зь сілавікоў стрэліў у сабаку з аўтамата.

Сабака не нападаў, ён проста спалохаўся і пачаў гаўкаць. І яны страляюць у сабаку. Муж забірае сабаку, каб ён не пабег на іх, і кладзецца на яго. Сілавікі страляюць ужо другі раз, у мужа. Я пачула, як ён крычыць: „Не-не, не страляйце. Я зараз прыбяру сабаку“. Я паглядзела, што ў сабаку яны пацэлілі.

Першая куля параніла сабаку ў пысу. Другая прайшла міма сабакі і Яна. Пасьля страляніны двое сілавікоў у рыштунку доўга хадзілі па пакоі і шукалі адстраляныя гільзы.

Мужу дазволілі вывесьці сабаку на балькон. Я толькі ўбачыла, што той увесь у крыві. Муж зразумеў, што прыйшлі па яго, і ён проста лёг на

падлогу і склаў рукі за галаву. Гэтыя, якія былі ў чорным, адразу пачалі крычаць: „Ляжаць, ня рухацца, ня тузацца, нікуды не глядзець! Дзе тэлефоны?“ Тэлефоны на стале ляжалі. Яны ўзялі ў мужа, пачалі пытаць пароль. Ён яго назваў, сказаў пароль ад Telegram, але, як толькі яны ўвайшлі ў Telegram, ён у мужа „вылецеў“. Мой тэлефон проста разблякавалі, але не палезьлі далей.

Пасьля гэтага нам дазволілі апрануцца. Яна адвялі ў іншы пакой і доўга білі. Сілавікі абвінавачвалі яго, што гэта ён нешта зрабіў з Telegram на тэлефоне, і пыталіся, каму ён пісаў апошняе паведамленьне. Гэтыя ж пытаньні пазьней задавалі і мне.

Я кажу, што ён тэлефона ў рукі ня браў, вы ж усё бачылі. Яны яго вельмі доўга білі. Мне пагражалі, але не чапалі. У мужа засталіся дзеці ад першага шлюбу, якія жылі з былой жонкай. Але яны думалі, што гэта мае дзеці, і абяцалі забраць іх у прытулак, а мяне пасадзіць на дзесяць гадоў. Потым пачаўся ператрус. Сілавікі да мяне падыходзілі і казалі пастаянна: „Ну што, твой муж фашыст? Значыць, і ты таксама фашыстка, выходзіць?“ У мяне ёсьць тату. Пачалі пра тату пытацца. Гэтым людзям складана было растлумачыць, што гэта руны, а ня свастыка.

Падчас вобшуку з нашай здымнай кватэры канфіскавалі тэхніку. Пасьля нас вывелі на вуліцу. Я ў гэты момант заўважыла, што муж моцна пабіты. Удваіх нас адвезьлі ў частку ўнутраных войскаў на Маякоўскага. Там мне сказалі чакаць у альтанцы на вуліцы і рыхтавацца да размовы. На маю просьбу патэлефанаваць бацькам сілавікі адказалі: „Калі нам спадабаецца з табой размова,

то патэлефануеш, а калі не спадабаецца, то ніхто ня будзе ведаць, дзе ты“.

Потым мяне паклікалі ў гэты будынак. І там у першым кабінэце я ўбачыла мужа. Ён ляжаў на падлозе ў кайданках. Мяне завялі ў іншы кабінэт. Там сьледчы кажа: „Ну, расказвай, як вы зьбіраліся ехаць ва Ўкраіну“. Я спрабавала растлумачыць, што мы ў Польшчу зьбіраліся, што ў нас там ужо нават дом арандаваны і мы ў дамову арэнды ўпісаныя. Навошта нам ва Ўкраіну? Мне пачалі тлумачыць, што ў мяне муж адбіты, ён фашыст, ён супраць дзяржавы, у яго няправільныя думкі, што ён будзе за гэта сядзець вельмі доўга. І ўвогуле ён зьбіраўся ехаць наймітам, а я павінна была ехаць туды мэдсястрой. Я кажу, што ў мяне мэдычнай адукацыі нават няма. Яны: „Ну валянтэрам бы пайшла“.

Пасьляператрусу на здымнай кватэры сілавікі паехалі па месцы прапіскі Яна, дзе жылі ягоныя бацькі. За 20 хвілін да прыезду сілавікоў да іх прыйшоў Алесь, старэйшы брат Яна. Ён зайшоў адведаць бацькоў і прынёс ім прадукты.

Алесь зьбіраўся ехаць у Польшчу разам з намі. Калі ў кватэру да бацькоў прыйшлі сілавікі, яны перш за ўсё спыталі ў Алеся: „Ты таксама зьбіраесься зьяжджаць?“. Пасьля сьцьвярджальнага адказу пачалі біць яго пры бацьках.

Я яшчэ калі сядзела ў гэтай вайсковай частцы, гляджу — Алесь. Але ж падумала, што, можа, паказаньні нейкія прывезьлі даваць. Брат Яна ўсё ж. Пасьля прыгледзелася, а Алесь у кайданках сядзіць. Відавочна, ня сьведчаньні прыйшоў даваць. Мой муж, напэўна, больш небясьпечны, таму што

ў мужа кайданкі былі за сьпінай зашпіленыя, а ў Алеся сьпераду.

Пасьля працяглай гутаркі аб тым, што я „яшчэ маладая, хачу сапсаваць сабе жыцьцё“ і гэтак далей, мяне адпусьцілі дадому. На выхадзе з пастарунку мне „параілі“ нікуды ня ехаць, нікому нічога не расказваць, таму што „цябе мы таксама закрыем“.

Муж цяпер у СІЗА КГБ. Думаю, што затрыманьне можа быць зьвязана зь ягоным вайсковым мінулым.

Высьветлілася, што да хлопца, у якога мы жылі, на працу на завод прыйшлі супрацоўнікі КГБ і пачалі ўсіх правяраць. І яму сказалі, маўляў, здай каго-небудзь, інакш мы цябе прыцягнем за пратэсты ў 2020-м. Ну і вось ён сказаў, што ў мяне ёсьць сябар, які ў мяне жыве, ён хадзіў на пратэсты, а зараз зьбіраецца пераяжджаць у Польшчу. А муж у мяне адслужыў у спэцназе ў Мар'інай Горцы. Ён працуе восем гадоў інкасатарам, гэта значыць умее страляць. Ён у мяне выступаў на спаборніцтвах па боксе. Поўны пакет пагроз. А яшчэ зьяжджаць зьбіраўся.

У жніўні 2022 году Яна прызналі найлепшым інкасатарам „Белаграпрамбанку“.

У пачатку верасьня там затрымалі як мінімум дзесяць інкасатараў. Работнікі банку расказалі, што іх затрыманьне можа быць зьвязанае з абразай Лукашэнкі ва ўнутраным чаце інкасатараў.

У нас з мужам адно ад аднаго ніколі ніякіх сакрэтаў не было. І я ведаю, што такога чату інкасатараў не існуе. Ад адвакатаў стала вядома, што мужа і ягонага брата Алеся падазраюць у грубым парушэньні парадку. У тэлефоне Алеся

сілавікі знайшлі фота з пратэстаў, дзе ён са мной і братам стаіць на праезнай частцы. Ці мае Ян дачыненьне да справы інкасатараў „Белгазпрамбанку“, невядома.

---

6 верасьня

## КОЖНАЕ МЕРКАВАНЬНЕ ПАВІННА ПАВАЖАЦЦА

*Марфа Рабкова (апошняе слова ў судзе):*

Мы жывём у эпоху перакручаных ісьцін: дабро караецца, зло праслаўляецца, паняцьце свабоды звужаецца да межаў уласнай сьвядомасьці, пры гэтым урываюцца і ў гэтую зону, выкарыстоўваючы артыкул 13 Крымінальнага кодэкса, так званы „намер“. Думказлачынства цяпер не існуе дзесьці ў антыўтопіях, а квітнее ў беларускай рэчаіснасьці.

Усё сваё жыцьцё я пражыла пры кіраваньні Лукашэнкі. Я нарадзілася і вырасла ў межах гэтай сыстэмы. Вы навешваеце на мяне бірку экстрэміста, сьцьвярджаеце, што я зьяўляюся „дэструктыўным элемэнтам“, „азлобленай“, што я „згубіла свае карані“. Але я такая ж частка грамадзтва, як і вы ўсе.

Маё адрозьненьне толькі ў тым, што я называю рэчы сваімі імёнамі і не магу на іх не рэагаваць. Гвалт — гэта гвалт, рэпрэсіі — гэта рэпрэсіі, а вайна — гэта вайна. І іначай быць ня можа. Мне сорамна, калі дарослыя і адукаваныя людзі закрываюць свае вочы і вушы, супакойваюць сваё

сумленьне, ня ўдумваюцца ў тую дзейнасьць, якой займаюцца.

Колькі трэба адвагі, каб не рабіць дрэннага? Колькі трэба мужнасьці, каб у межах сваёй сфэры ўплыву дзейнічаць паводле агульначалавечых канонаў? Што трэба для таго, каб спыніць ланцуг распачатага зла? З чым мы ўсе застанёмся, калі ўсё скончыцца? Што мы будзем гаварыць сваім дзецям і ўнукам? Што вы пакінеце пасьля сябе ў гэтым сьвеце? Пытаньні, адказы на якія вы трымаеце перад самімі сабой і будучыняй, а яна кожную сэкунду прымінае нас да сябе.

Я не прызнаю віны ні па адным выстаўленым абвінавачаньні. Лічу іх цалкам сфабрыкаванымі, абсурднымі, выдуманымі супрацоўнікамі губазіку. Калі ў краіне няма арганізаванай злачыннасьці, відаць, яе трэба стварыць. Дзеля таго, каб апраўдаць існаваньне цэлага ўпраўленьня, якое ў апошняе дзесяцігодзьдзе маштабна пашырылася і дазваляе сабе такія мэтады працы, якія хутчэй нагадваюць дзеяньні гестапа, а не супрацоўнікаў, пакліканых абараняць людзей.

Я таксама не лічу вінаватымі тысячы людзей, якія пакутуюць у турмах нашай краіны. Кожны чалавек мае правы, кожны чалавек зьяўляецца асобай, кожнае меркаваньне павінна паважацца, а жыцьцё і свабода зьяўляюцца найвышэйшымі і абсалютнымі каштоўнасьцямі.

Гуманізм, справядлівасьць, эмпатыя, разьвіцьцё, адказнасьць за тое, што адбываецца вакол нас, — гэта вехі, на якіх стаіць будучыня. Адмаўляючы іх, вы адмаўляеце саму будучыню, якая ў кожным разе надыходзіць, яна непазьбежная.

Будучыня — гэта зьмены, бо прагрэс — гэта заўжды рух і імкненьне наперад. Беларускі народ заслугоўвае годнага ўзроўню жыцьця, паважлівага стаўленьня да сябе, захаваньня правоў кожнага чальца грамадзтва, дзяржавы, якая будзе працаваць дзеля народу, а не насуперак яму.

Хачу падзякаваць свайму цудоўнаму мужу, сваёй маме, усёй сваёй сям'і, сябрам і блізкім, калегам, адвакатам, а таксама ўсім неабыякавым беларусам і беларускам за дапамогу і салідарнасьць на гэтым цярністым шляху зьняволеньня. Дзякуй, што не забываеце мяне і застаяцеся са мной.

Я бачыла столькі добрых і сьветлых твараў, я бачыла столькі сапраўдных людзей, што ўпэўненая: мы абавязкова ўсё пераадолеем, па-іншаму проста быць ня можа. Штораз, калі мы дапамагаем адно аднаму, клапоцімся, працягваем руку ўзаемадапамогі, выказваем салідарнасьць, калі наша сэрца не глухое да чужога болю, мы набліжаем надыход нашай будучыні, нашай Беларусі. Не адчайвайцеся і верце ў сябе, у свае сілы! Праўда на нашым баку!

---

7 верасьня

## ЛЮБЛЮ ГЭТАГА ХЛОПЦА

*Марына Шыбко, жонка Аляксандра Фядуты:*

А ў нас новага тое, што сёньня бачылася з АІФам (Аляксандрам Іосіфавічам Фядутам), было спатканьне праз шкло, прыйшоў час убачыць „змоўшчыка“ (амаль праз 17 месяцаў) ня ў клет-

цы суду, а хоць праз шкло. Ну што магу сказаць… Рыхтуецца да перасылкі і калёніі, таму пастрыгся яшчэ карацей; рэшта зубоў уражвае; з кіёчкам, але досыць бадзёры і задаволены (напэўна, таму што сёньня ў іх лазьневы дзень). Чакае кнігі з крамы і дазволу аддаць мне рукапіс, бо сьледчы так і не дазволіў (вельмі доўга вывучае). Усім перадаў прывітаньне і падзяку тым, хто падтрымаў на судзе, усім пажадаў здароўя і волі. (Ну пасьля прысуду — 10 гадоў пазбаўленьня свабоды — на волю ня хутка). Злуюся на гэтага „змоўшчыка“, але ЛЮБЛЮ гэтага хлопца. Дай Бог нам усім сілаў…

---

8 верасьня

## МОЖНА ЖЫЦЬ? НУ-НУ*

*Дар’я Лосік, жонка Ігара Лосіка:*

Першае наша зь Ігарам працяглае спатканьне цягнулася суткі. Я прыехала ў Наваполацак раніцай 6 верасьня. Пэрсанал калёніі паставіўся да мяне падкрэсьлена ветліва, ніякіх прэтэнзій не прад’яўляў. Далі асобны пакой, кухня была агульная з памяшканьнямі, дзе праходзілі сустрэчы з роднымі ў іншых вязьняў. Усе памяшканьні былі адрамантаваныя, у добрым стане.

Ігар перад сустрэчай пісаў у лістах, што калі нам дадуць доўгатэрміновае спатканьне, то гэтыя

* Журналіста Радыё Свабода Ігара Лосіка за яго прафэсійную дзейнасьць асудзілі на 15 гадоў турмы. Ягоную жонку Дар’ю, якая публічна выступала за вызваленьне мужа, за гэта раніцай 18 кастрычніка арыштавалі.

суткі ён будзе максымальна пазытыўны, ніякіх сумных думак ня будзе дапускаць. Каб не сапсаваць ніводнай хвіліны нашай зь ім сустрэчы. Ігар быў у добрым настроі. Упершыню больш як за два гады нам удалося пабыць хаця б суткі разам. І гэта ўжо добра. Я гэтаму вельмі рада.

Ігар расказаў, што ніякага прэсінгу на яго ў калёніі па стане на раніцу 7 верасьня не аказвалі. Усё спакойна. Ходзіць на працу, як і хадзіў. Шэсьць дзён на тыдзень праца, раз на два тыдні тэлефанаваньне родным. Умовы адрозьніваюцца ад СІЗА хаця б тым, што пасьля працы можна выйсьці на сьвежае паветра і крыху парухацца там. Маральна яму там лягчэй, чым у СІЗА.

Узмоцнены рэжым прадугледжвае два працяглыя спатканьні на год. Акрамя гэтага, адміністрацыя калёніі яшчэ можа дазволіць тры кароткія спатканьні на год пры ўмове, што вязень іх не пазбаўлены. Працяглае спатканьне можа быць і на 2-3 дні, гэта ўжо вызначае адміністрацыя.

Да пліты ў калёніі Ігар мяне не падпусьціў. У лістах казаў, што калі будзе працяглае спатканьне, каб я ні ў якім выпадку ня везла з сабой таго, што трэба гатаваць. Каб не марнавала час на кухні. Склаў цэлы сьпіс з фастфуду, які трэба прывезьці. Сказаў, што даўно гэтага ня еў. Там былі піца, сушы, чызбургеры. Кава, гарбата, штосьці з салодкага.

Самым складаным для мяне было выходзіць з калёніі пасьля спатканьня і разумець, што засталося вельмі моцнае адчуваньне — усё самае важнае і дарагое для мяне ў гэтым жыцьці засталося ў тым пакоі.

Ну вось, Ігар ужо не (зусім) у каменным мяху, можа выходзіць на паветра. Дазволілі тэлефанаваць, дазволілі доўгія спатканьні, зьявілася куча дробных побытавых справаў — усё гэта як бы настройвае цябе на тое, што „можна жыць“. Так можна жыць — з пэўнымі абмежаваньнямі, але ўсё адно разам. Так можна жыць усе гэтыя доўгія гады. У сэнсе жыць, а не змагацца за вызваленьне. Вастрыня твайго змаганьня быццам прытупляецца. Пагатоў ад цябе тут нічога не залежыць. Залежыць толькі ад волі рэжыму ці ад яго даўгавечнасьці. Але насамрэч я ведаю, што так жыць нельга.

9 верасьня

## НЕ, ДРУЖА, „БАРАДА“ ЎЖО ЗАНЯТЫ

*Добраахвотнік Уладзімер „Лысы“ Лаўранюк:*

Я некалькі месяцаў правёў на вайне. Быў камандзірам аддзяленьня ў палку Кастуся Каліноўскага. Удзельнічаў у баявых апэрацыях, звольніўся праз траўму калена.

Я мянчук. Мае бацькі і бабулі таксама зь Менску. Жыў на Паўднёвым Захадзе разам з бацькамі. Мае бацькі і продкі калісьці жылі ў Траецкім прадмесьці. У 1980 годзе іх перасялілі ў новы раён. На Паўднёвым Захадзе ёсьць некалькі дамоў, куды шмат людзей перасялілі з Траецкага.

У 2020 годзе 9 жніўня прыехалі ў цэнтар разам зь сябрам, які цяпер у палку Кастуся Каліноўска-

га, Сашам „Лахвічам“. Спачатку былі на Нямізе і пайшлі пешшу ў бок стэлы. Калі ішлі, то чулі выбухі, бегалі мянты, мноства аўтазакаў. У людзей добры настрой, белыя стужачкі, бчб-сьцягі, усё пачыналася вельмі мірна. Беспарадкі пачыналі толькі мянты, калі прыяжджалі кудысьці. Злачынцаў у Беларусі сёньня вельмі лёгка знайсьці, яны ходзяць у аднолькавай форме і служаць у адной установе.

У той дзень 9 жніўня я паверыў у перамогу, калі па нас пачалі страляць гумавымі кулямі, закідвалі сьвятлашумавымі гранатамі. Мы скандавалі: „Міліцыя з народам“, пачалі будаваць барыкады з таго, што было. Прыехаў нават вадамёт. Былі дымавыя гранаты, тады мы пачалі адступаць. Быў такі момант, калі з дыму выбягае хлопец зь дзяўчынай на плячы, у яе з галавы цячэ кроў, пад нагамі выбухаюць пэтарды. Гэта было так гераічна. Я стаяў з адкрытым ротам. І ў гэты момант падбягае да мяне хлопчык і працягвае яблык: „Вазьмі“. У мяне проста сьлёзы ў той момант зьявіліся. І я зразумеў, што з гэтым народам буду змагацца да канца.

Двойчы мяне амаль затрымалі, а трэці раз ужо вялі пад рукі людзі ў форме і ў цывільным. Вялі ў аўтазак, але нешта паміж сабой сталі спрачацца. У выніку спачатку адзін адпусьціў, потым — другі. І я неяк ціха назад-назад — і сышоў ад іх. Гэта ўжо была лякальная акцыя ў Малінаўцы, мы там зьбіраліся традыцыйна „на Зубры“. На „сутках“ я ня быў, проста ўсё рабіў правільна.

Мне хацелася заставацца да перамогі. Але ў 2021 годзе сябры скінулі мне спасылку на сайт Сьледчага камітэту, там было фота са мной, дзе мы ідзём у счэпцы. Мы ішлі зь сябрам у другім

шэрагу, а першы шэраг — шэсьць хлопцаў — усе ўжо сядзелі. Я трапляў пад артыкул „Арганізацыя масавых беспарадкаў“. Я зразумеў тады, што наступным буду я.

З таварышам мы пайшлі ў турагенцтва. Хоць у мяне віза была, але прынялі рашэньне ў Эўропу ня ехаць, бо было страшнавата. Вырашылі афармляць выезд на аздараўленьне ва Ўкраіну. Атрымалі пуцёўкі ў Львоўскую вобласьць, заставалася здаць толькі ПЦР-тэст. А мне кажуць, што тэст станоўчы. Я зьлёг, а сябру сказаў, каб ён ехаў.

Мне не было страшна памерці ад ковіду, мне было страшна памерці ад ковіду ў турме. Усё абышлося, я перахварэў. Пасьля сабраў заплечнік і выехаў. Жыў у Ірпяні, вельмі добра мяне прыняла Ўкраіна і нашы сябры. Там зрабіў гуманітарную візу і 1 сьнежня паляцеў у Варшаву. У Польшчы ў асноўным працаваў на будоўлі.

На вайну зразумеў, што паеду, не адразу. Хаця быў да гэтага і маральна падрыхтаваны, і фізычна. Рашэньне не было спантанным; я нейкі час хадзіў на працу, мучыўся. І ўсё ж зразумеў: калі не паеду на вайну, то перастану сябе паважаць, не змагу з гэтым жыць. Гэтая вайна ня толькі ўкраінцаў, але і беларусаў. Ва Ўкраіну паехалі 5 сакавіка, мы былі ў другой групе. Памежнікі такія з падазрэньнем: „Беларусы?“ — „Так“. — „Куды едзеце?“ — „На вайну“. — „З кім ваяваць будзеце?“ — „З расейцамі“. Яны так узрадаваліся, што нават шмоткі ня сталі правяраць, не пыталіся, што вязём. Спачатку паехалі ў Львоў, па дарозе забралі яшчэ хлопцаў.

Было шмат хваляваньня з дакумэнтамі, зь мяжой, ці прапусьцяць. Усё мінула, як толькі заехалі ва Ўкраіну. Усё стала на свае месцы, мы

ў правільным месцы і робім правільную справу. Сустракалі нас вельмі па-сяброўску.

Мяне выклікаюць у штаб, кажуць, каб запаўняў анкету. Пытаюцца, які пазыўны. „Барада“, — адказваю. „Не, дружа, «Барада» ўжо заняты, іх у нас вельмі шмат“, — кажуць мне. Мне сказалі, што патрэбна нешта лякатічнае і запамінальнае. „Давайце «Лысы»“, — кажу. Такой мянушкі ў мяне раней не было.

Наблізіўся да баявых дзеяньняў у Кіеве, стаялі ў караўуле з „Кусем“ (Аляксандар Клачко) і „Оскарам“ (Аляксей Вайцяховіч). Шэсьць гадзін раніцы, прыходзяць зьмяняць варту, у гэты момант па суседнім аб’екце пачынаюць біць ракеты. Гэта быў завод Антонава. Мы спачатку думалі, што ўдарылі па нас. Ад нас гэта было 400-500 мэтраў.

Другі раз у Кіеве. Я выходжу з душу, лічы, у адных майтках, выйшаў на балькон, закурыў цыгарэтку. У гэты момант расейцы сталі адпрацоўваць па гандлёвым цэнтры, куды перад гэтым заяжджала вайсковая тэхніка. Гэта было дастаткова блізка ад мяне. Усё пачынае трэсьціся, і я з крыкамі залятаю ў памяшканьне (*сьмяецца*).

Баявое заданьне — быў наступ у Мікалаеўскай вобласьці. Я хваляваўся, была нават мітусьня. Я быў камандзірам аддзяленьня. Падчас плянаваньня супакойваўся. Мы дастаткова добра былі падрыхтаваныя. Трэнаваліся з іншаземцамі, наш трэнэр потым загінуў на Данбасе. Мы вельмі добра былі ўзброеныя і выдатна абароненыя. Страх і хваляваньне прападаюць, як толькі пачынаецца заданьне. Зразумела, мозг не зусім цьвярозы, калі цябе бамбяць з усіх бакоў. Але ты дзейнічаеш паводле пляну. Амаль усё так і было выканана.

Амаль, бо вайна заўжды бардак. Як казаў „Брэст“: „А ў нас зноў усё перая*ся“.

„Брэст“ быў бясстрашным, але не вар’ятам. У яго не было такога, што толькі наперад. Ён даўно ваяваў, цудоўна разумеў, што адбываецца. Ведаў, калі хавацца, а калі не. Ён быў строгім і вельмі харызматычным, за ім хацелася ісьці. Ён шмат крычаў, быў гучным. Пасьля бою да ўсіх падыдзе, з усімі паразмаўляе, душэўны.

Памятаю, калі ён яшчэ быў камандзірам роты цяжкога ўзбраеньня, то неяк падыходзіць да мяне, а ў яго ў падпарадкаваньні быў мой сябра „Лахвіч“, які ўвесь час катоў заводзіў. „Слухай, скажы, «Лахвічу», што ягоныя каты мяне дасталі, яны па мне ходзяць, грызуць мяне, а я нічога зрабіць «Лахвічу» не магу. Ты ж ягоны сябра, можа, цябе паслухае“. А „Лахвіч“ вельмі добры хлопец: і катоў, і сабак пастаянна заводзіў.

Усіх хлопцаў, якія загінулі пад Лісічанскам, я ведаў. „Папік“ (Вадзім Шатроў) быў у маім аддзяленьні. „Папік“ — гэта дарослы мужык, яму ўжо пад 45. Перад адным боем мы сядзелі і размаўлялі, ён мне кажа: „«Лысы», скончым заданьне, паедзем да мяне ў Крамянчук, у мяне прыватны дом, зробім шашлыкоў, лазьню“. У яго там была жонка-ўкраінка і трое дзяцей. Увогуле хлопцы на вайне сталі дабрэйшымі. Стаўленьне адзін да аднаго стала братэрскае. „Папік“ быў сьмелым воінам. Я ўспамінаю — і сьлёзы на вочы наварочваюцца.

У Севераданецк і Лісічанск я ўжо ня езьдзіў. Я атрымаў баявую траўму. Надарваў зьвязкі. У Лазавое яшчэ пайшоў „на характары“, хоць і бы-

ло балюча. Калена ня вытрымала потым, я нават зь цяжкасьцю хадзіў.

Пад Лазавым мой атрад выканаў задачу ў поўнай меры. Нашай задачай было ісьці апошнімі і заняць пазыцыю перад Лазавым, у пасадцы лесу. „Тут будзе знаходзіцца застава «Лысага»“, — было сказана на адным з брыфінгаў, доўга з гэтага рагаталі.

На БТ я стаў ахвярай падману іхнай журналісткі. Я ўжо хвіліне на пятай размовы зразумеў, што нешта ня так. А гэта прапагандыстка з БТ, прадставіўшыся журналісткай Deutsche Welle, брала ў мяне інтэрвію. Яны хацелі нешта кепскае нарэзаць з маіх адказаў, але нават гэтага ў іх не атрымалася. Настолькі яны бяздарныя, настолькі перапоўненыя чарнатой і нянавісьцю. Нічога добрага са зла не атрымаецца, а любоў пераможа зло.

Вось у мяне ў Варшаве дзяўчына, беларуска. Мы пазнаёміліся ў Ірпяні. Рэвалюцыя нас здружыла, а вайна закахала. Яна мяне чакала ў Польшчы. Мая дзяўчына на працягу вайны была маёй музай і натхненьнем, яна мяне выратавала.

6 кастрычніка

## ПРАЦЯГНУ ПРАЦАВАЦЬ ЖУРНАЛІСТАМ ВУСНА

*Ірына Леўшына (апошняе слова ў судзе):*

Найперш хачу падзякаваць свайму абаронцу, які аргумэнтаваў маю невінаватасьць зь юрыдычнага пункту гледжаньня. Я ж хачу выказаць сваё чыста чалавечае стаўленьне да таго, што адбываецца.

Ужо больш за год я жыву ў сьледчым ізалятары. Ужо больш за год я назіраю, як рэдакцыю, у якой я прапрацавала амаль 30 гадоў, спрабуюць выставіць экстрэмісцкім фармаваньнем, а мяне — яго стваральнікам і кіраўніком. Гэта поўнае трызьненьне, але гэта ня дзіўна.

За апошнія паўтара года ў Беларусі зьнішчылі дзясяткі сродкаў масавай інфармацыі, сотні журналістаў пазбавіліся працы або вымушаны былі зьехаць з краіны, баючыся крымінальнага перасьледу.

Зачысткі на інфармацыйным полі беспрэцэдэнтныя і неймаверныя для цывілізаванай дзяржавы ў XXI стагодзьдзі. Нехта відавочна пераблытаў прычынна-выніковыя сувязі, вырашыўшы зрабіць журналістаў адказнымі за падзеі, якія адбыліся ў нашай краіне ў 2020 годзе.

Вось толькі мы ні да чога не заклікалі, мы нічога не скажалі і не выдумлялі — рэальнасьць была круцейшая за любую выдумку. Упершыню за ўсе гады маёй працы нашыя журналісты вымушаныя былі працаваць у бронекамізэльках — таму што

ў іх прыцэльна стралялі гумовымі кулямі і кідалі сьвятлашумавыя гранаты, гэтаму ёсьць дакумэнтальныя пацьверджаньні.

Мы асьвятлялі ўсё, што адбывалася на вуліцах нашых гарадоў, прычым асьвятлялі аб'ектыўна — расказвалі як пра зьбіцьцё мірных дэманстрантаў, так і пра траўмаваных сілавікоў; як пра шматтысячныя мітынгі Сьвятланы Ціханоўскай, так і пра шматлікія публічныя выступы Лукашэнкі.

Мне ставіцца ў віну публікацыя на сайтах БелаПАН артыкулаў аўтараў, чые меркаваньні не адпавядалі афіцыйным установкам. Але хачу зьвярнуць вашу ўвагу на тое, што, згодна з законам Рэспублікі Беларусь „Аб СМІ“ разнастайнасьць меркаваньняў — гэта адзін з асноўных прынцыпаў дзейнасьці сродкаў масавай інфармацыі. Цытую арт. 4 закону: „Сродкі масавай інфармацыі забясьпечваюць свабоднае выказваньне і распаўсюджваньне меркаваньняў і поглядаў у грамадзтве“, цэнзура СМІ з боку дзяржаўных органаў не дапускаецца.

Ва ўсім сьвеце прэсу называюць „чацьвёртай уладай“, таму што яна дапамагае выяўляць праблемы і слабыя месцы ў грамадзтве, а значыць, садзейнічае іх вырашэньню і ў выніку робіць жыцьцё людзей лепшым.

Але ў Беларусі, мяркуючы па ўсім, з журналістаў вырашылі зрабіць абслуговы пэрсанал. Струмень дэзынфармацыі, нянавісьці, абразаў, нізкапробнага падхалімажу, які льецца сёньня зь дзяржаўных тэлеканалаў і друкаваных СМІ, зашкальвае і не вытрымлівае ніякай крытыкі.

Раю праваахоўнікам паглядзець хаця б аўтарскую перадачу таго ж Рыгора Азаронка — там па

кожным выпуску можна заводзіць справы адразу па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэксу: за паклёп, абразу, распальваньне нянавісьці.

Але не. У турмах сядзяць дзясяткі журналістаў менавіта недзяржаўных СМІ. Як быццам праўда бывае дзяржаўнай ці недзяржаўнай. Праўда — яна адна.

Я не прашу суд аб паблажлівасьці, яна мне не патрэбная. Бо я лічу сябе невінаватай. Я ганаруся тым, што столькі гадоў працавала ў крутой камандзе журналістаў і была іх галоўным рэдактарам. Я ганаруся тым, што тут і цяпер знаходжуся са сваімі так званымі „саўдзельнікамі“ — сумленнымі, годнымі, разумнымі людзьмі: Андрэем Аляксандравым, Дзімам Наважылавым, Ірай Злобінай.

Яшчэ частку маіх калегаў вы маглі бачыць у судовым працэсе, яны выступалі ў якасьці сьведак. Яны былі падобныя да злачынцаў? Усе яны заяўлялі, што БелаПАН — гэта калектыў журналістаў, а не экстрэмістаў. Верыць ці не — гэта сфэра вашай адказнасьці, службовай і чалавечай.

Пра час, у які мы жывём, прынята гаварыць: лес сякуць — трэскі ляцяць. Толькі мы ня трэскі, мы жывыя людзі. Заклікаю вас задумацца над гэтым. А БелаПАН — ён вернецца ў Беларусь. Як і іншыя разгромленыя прафэсійныя СМІ. Пэрыяд цемрашальства пройдзе, як праходзіць усё благое.

Хваля барацьбы з іншадумствам схлыне, таму што ніхто ня мае права прымусіць мільёны людзей скакаць пад адну дудку, нават з дапамогай дубінаў губазіку і сфабрыкаваных крымінальных спраў.

Запыт грамадзтва на годнае, бясьпечнае жыцьцё, як і на якасную прафэсійную журналістыку, быў, ёсьць і будзе.

Дзяржабвінаваўца прапануе мне пажыць яшчэ некалькі гадоў у турме. Ну ок. Сёньня там можна сустрэць мноства найдастойнейшых людзей: журналістаў, сацыёлягаў, філёзафаў, праваабаронцаў, лекараў, настаўнікаў, банкіраў, адвакатаў, былых сьледчых і нават пракурораў. А, скажам так, традыцыйныя крымінальнікі, гледзячы на нас, пачынаюць чытаць Салжаніцына і цікавіцца тэмай сталінскіх рэпрэсій. Вельмі своечасова і правільна, я лічу. Так што, па сутнасьці, я працягну працаваць журналістам: распаўсюджваць інфармацыю вусна. У любых умовах. Краты мяне ня спыняць, гэта дакладна. Як і маіх калег.

Падводзячы вынік, хачу сказаць: усё, што тут адбываецца, — гэта расправа зь БелаПАН за сумленную журналістыку, якая ў момант гістарычных пераменаў у нашай краіне раптам прыйшлася некаму не даспадобы.

---

10 кастрычніка

## ПАД АБСТРЭЛАМІ Ў ЛЬВОВЕ

*Яўген Атцэцкі:*

Мы з маёй жонкай Юліяй былі ў Львове, калі ў 7:30 раніцы 10 кастрычніка пачалася паветраная трывога.

З траўня ніякіх удараў у Львове не было, то я ня моцна зрэагаваў спачатку, але потым было нешта дзіўнае, падобнае да выбуху, і я пачаў хвалявацца, палез у тэлефон. Тады стала зразумела, што адбываюцца ўдары па горадзе. Праз пару гадзін

адключылі электрычнасьць, ваду, бо абстрэлы трапілі па гэтай інфраструктуры. З 10-й раніцы не было інтэрнэту. Усё гэта моцна нагадала першыя дні вайны: такая нявызначанасьць, нешта адбываецца, зьнікае сувязь, спэцыфічна крыху. Але ад таго, што поўнамаштабнае расейскае ўварваньне ідзе больш за сем месяцаў, людзі ўжо прывыклі, таму панікі абсалютна не было, мы проста хадзілі па горадзе і спадзяваліся, што ўсё будзе добра.

Панікі сярод людзей не было яшчэ і таму, што ёсьць моцны давер да ЗСУ, якія добра сябе паказваюць. Людзі вераць, што ўсё рана ці позна скончыцца.

Недзе а 5-й гадзіне зьявіўся мабільны інтэрнэт, у горадзе пачалі паволі аднаўляцца вада, электрычнасьць, вось у мяне яна ўжо ёсьць. Такія паўсядзённыя рэчы становяцца вялікай каштоўнасьцю. Вядома, мы ўсе застрэсаваныя, стаміліся, гэта вельмі моцна вымотвае, з улікам таго, што ўсім нам трэба працаваць і ўсё сумяшчаць вельмі складана.

Ёсьць верагоднасьць, што нам з жонкай давядзецца зьехаць, калі Лукашэнка ўвядзе беларускія войскі ва Ўкраіну.

Я думаю, што мне будзе вельмі складана тлумачыць сваю прысутнасьць тут. Гэта нягледзячы на тое, што ўвесь мой папярэдні досьвед, 90% камунікацыі з украінцамі былі станоўчыя, ніякіх пытаньняў. Але я думаю, тут таксама ўзровень цярпеньня не бясконцы.

За ўвесь час, што я ва Ўкраіне, я згадваю два непрыемныя выпадкі ад таго, што я беларус.

Я працаваў фотажурналістам, здымаў на мясцовым рынку, і да мяне падышоў чалавек. Ён

падумаў, што я шпіён, дывэрсант, які пункты для абстрэлу здымае. Ён паглядзеў на маю акрэдытацыю, сказаў, што яна, магчыма, фэйкавая і ён хоча выклікаць паліцыю. Гэта вельмі зразумела: усё ж такі тады прайшло толькі два тыдні з пачатку вайны, абсалютна няясная сытуацыя ў краіне, людзі моцна ўзбуджаныя, таму ў мяне ніякіх пытаньняў няма. Другі раз быў, калі я рабіў страхоўку, каб падоўжыць від на жыхарства. І ў адной з натарыяльных кантораў мне адмовілі, сказалі: „Мы прыватная кампанія і ня хочам рабіць беларусам“. Было непрыемна, скажу шчыра. Але ў астатніх выпадках да таго, што я беларус, альбо нэўтральна ставіліся, альбо пазытыўна.

Я не бяру на сябе адказнасьць за справы Лукашэнкі. Я раблю са свайго боку ўсё, што магу, бо мне не абыякавая Ўкраіна і Беларусь. Я стараюся ўкладацца, падтрымліваць украінцаў, як гэта атрымліваецца. Мы ня можам браць такую велізарную адказнасьць за тое, што робіць Лукашэнка. Няхай Лукашэнка пускае расейскія войскі і сам апраўдваецца. А для мяне важна дапамагаць украінцам — я дапамагаю. Рэпутацыя беларусаў глябальна мне важная, але я абсалютна ясна разумею, што яна ня можа быць белая і чыстая.

Мне вельмі дапамагае цяпер трымацца моцная супольнасьць беларусаў у Львове. Мы зьбіраемся разам, і гэта вельмі моцна падбадзёрвае, дае адчуваньне пляча. Увогуле, адна з асноўных прычын, чаму я тут застаюся, — вельмі моцная беларуская супольнасьць, якая сфармавалася ў Львове.

*Анісія Казьлюк:*

Я ў парадку, адчуваю сябе добра. У прынцыпе, да такога раскладу я была падрыхтаваная. Учора зь вечара я паслала сабе пасьцель у ваньне, каб туды перамясьціцца, калі налёт будзе ўначы. У выніку зранку я прыйшла хавацца ў ванну разам са сваімі дваімі коцікамі. Я падрыхтавала сабе і катам ежу, пітво. Ранкам яшчэ была сувязь, электрычнасьць і я нават пасьпела трошкі папрацаваць.

Учора я прачнулася, калі ўжо была паветраная трывога. Электрычнасьці не было адразу, а сувязь яшчэ трымалася.

Спачатку не было такіх страшных паведамленьняў, была інфармацыя толькі пра Кіеў. Пра Львоў я даведалася ад сяброў, якія напісалі, што недзе недалёка ад іх быў чуваць выбух. Мы тады таксама схаваліся з катамі ў ванну. Вось цяпер па вуліцы ходзяць людзі. Як кажуць мае сябры, якія пайшлі па ваду, людзі купляюць сабе штрудэлі, замест таго, каб набіраць ваду. У Львоў яшчэ не прыходзіла асабліва вайна, таму тут няма такой панікі і ажыятажу на нешта.

Учора, калі скончылася трывога, я бачыла людзей з валізкамі. Думаю, гэта людзі, якія ўцякалі ад вайны ў Львоў і цяпер вырашылі: трэба ехаць далей, бо тут небясьпечна.

На гэты момант я хаваюся ў калідоры, бо недзе а 8-й раніцы пачалася паветраная трывога. Зараз пачала зьяўляцца інфармацыя пра выбухі ў Львове, сытуацыя такая ж, як і ўчора: у кагосьці зьнікла вада, у мяне няма сьвятла і часам прападае мабільная сувязь. У мяне цяпер ёсьць вада,

запас прадуктаў, аптэчка, але няма электрычнасьці, і, адпаведна, няма інтэрнэту і ацяпленьня, бо газавы абагравальнік запальваецца толькі ад электрычнасьці. Мабільная сувязь не дацягвае да калідора, дзе я хаваюся. Таму, каб паслаць паведамленьні, я мусіла штурхаць тэлефон да вакна, а сама была ў схованцы.

Розьніца паміж тым, што адбываецца цяпер, і тым, што было 24 лютага, вялікая. 24 лютага я не разумела ўвогуле, што адбываецца, гэта была мая першая вайна. Тады я пасадзіла ката ў куртку, мы зь сябрамі ўзялі бутэльку шампанскага, бо думалі, што гэта скончыцца за адзін дзень і мы дзесьці ў схованцы адзначым разам зь іншымі ўкраінцамі агульную перамогу. Тады мы ўзялі толькі прадукты, дакумэнты і жывёлаў. Пасьля таго, як побач з домам пачалі абстрэльваць, мы вырашылі, што пара выяжджаць з Кіева.

Учорашні дзень я правяла разам зь сябрамі. Мы пасябравалі тут, у Львове, сутыкнуліся з аднолькавымі цяжкасьцямі. Мы падтрымліваем адно аднаго. І ўчорашні дзень прайшоў вельмі лёгка, бо мы нашай кампаніяй, з блізкімі мне людзьмі, хадзілі па горадзе, шукалі сувязь, дзе паесьці, дзе купіць прадуктаў. Ад таго, што няма інтэрнэту, нельга было расплаціцца карткай, а зьняць грошы — праблема, бо ў беларусаў іншаземныя карткі і курс вельмі дрэнны.

Мы зь сябрамі былі больш падрыхтаваныя: дакладна ведалі, што такое паветраная трывога, дзе шукаць інфармацыю, што трэба браць з сабой, калі выходзіш з дому, і што хавацца трэба празь дзьве сьцяны.

У беларускай дзяржавы няма шанцу „адмыцца“ з 24 лютага, калі наша краіна стала саўдзельніцай у вайне.

Пасьля падзей у Ірпяні і Бучы, куды салдаты ўвайшлі з тэрыторыі Беларусі, і таго, што яны там рабілі. І сёньняшнія падзеі ня надта моцна зьмяняюць агульную сытуацыю. Гэта проста адна з чарговых атак на ўкраінскую дзяржаву, адна з чарговых порцый хлусьні, калі спачатку Беларусь выстаўляе ноту да ўкраінскага амбасадара, а потым робіць вось такое. Гэта шызафрэнія незразумелага ўзроўню.

Я пляную заставацца ў Львове, хоць і маю магчымасьць выехаць за мяжу. Мой партнэр зараз жыве ў Варшаве, у мяне ёсьць гуманітарная польская віза, ёсьць магчымасьці, бо я праваабаронца, мяне падтрымаюць у любой краіне, якую я б ні выбрала. Адзінае, што ў мяне яшчэ няма дакумэнтаў на другое кацяня, ёй вось толькі споўнілася 4 месяцы, і толькі цяпер можна рабіць прышчэпку і завесьці вэтэрынарны пашпарт. Я пляную заставацца тут, я адчуваю сябе цалкам у бясьпецы. Так, ёсьць акалічнасьці ў выглядзе адсутнасьці сьвятла, паветранай трывогі, пагрозы жыцьцю, але я ацэньваю рызыку і разумею, што месца, у якім я цяпер жыву, цалкам бясьпечнае.

Калі такая сытуацыя будзе працягвацца больш за 10 дзён, то я падумаю пра пераезд у іншы ўкраінскі горад ці ў Эўропу, таму што без інтэрнэту не змагу нармальна працаваць.

Мне вельмі хочацца, каб людзі разумелі, што за той час, колькі цягнецца актыўная фаза вайны, якая ахапіла ўсю Украіну, людзі тут навучыліся разумець, што такое трывога, навучыліся хавац-

ца. І пасьля таго, як адбываюцца такія сытуацыі, у людзей няма страху, ёсьць толькі злосьць і жаданьне працаваць далей і болей. Я гэта бачу па сваіх калегах, якія служаць ува ЗСУ, займаюцца праваабарончай дзейнасьцю, па простых людзях. І таму я хачу перадаць ім сваю падтрымку і пажадаць ім болей сілаў.

17 кастрычніка

## ВАЖНА НЕ СКАЦІЦЦА Ў БАЛАГАН

*Добраахвотнік „Марк“:*

Я нарадзіўся і вырас у Беларусі. Мне больш за 40 гадоў. Ні ў якіх палітычных рухах ня ўдзельнічаў. Можна сказаць, што „прачнуўся“ толькі ў 2020 годзе. Займаўся рамонтам аўтамабіляў, у мяне была свая СТА ў Менску.

Мы на ўсіх маршах былі з жонкай і заўсёды неяк своечасова сыходзілі. Калі загінуў Раман Бандарэнка, то мы былі на гэтай плошчы. Толькі адышлі — і літаральна праз 5-7 хвілін усё было ў аблозе. Магчыма, гэта ўнутранае чуцьцё.

24 лютага 2022 году было вялізнае ўзрушэньне. Мне было вельмі цяжка. Я ня спаў тры ці чатыры дні. 24 на 7 я сядзеў у тэлефоне, гартаў навіны, глядзеў відэа, перастаў размаўляць з жонкай. Я ня езьдзіў на працу. Я быў у шоку, як такое магло пачацца. Я быў тады ў Беларусі. У нейкі момант я сказаў жонцы, што болей так не магу, што калі я нічога не зраблю, не паспрабую зьмяніць сытуацыю,

то я сабе гэтага не дарую. Было адчуваньне, што я згараў знутры. Я падняў свае кантакты, у мяне ўжо быў знаёмы ў батальёне Каліноўскага, я зь ім сьпісаўся, ён сказаў: „Добра, прыяжджай“. У мяне была віза з 18 сакавіка. 17 сакавіка ўначы я ўжо быў на мяжы, каб хутчэй яе перасекчы.

Жонка тады была на другім месяцы цяжарнасьці. Яна сказала: „Я цябе разумею. Калі б я не была цяжарная, то была б побач з табой“. Яна мяне адвезла ў Варшаву.

Ва Ўкраіне людзі настолькі добра да мяне ставіліся! Мяне спынялі на блёкпастах і пыталіся: „Ты беларус? Можна, я пацісну табе руку?“. Вось так ва Ўкраіне ставяцца да беларусаў, асабліва калі ты вайсковец. Проста фантастычнае стаўленьне.

Начальнік штабу батальёну „Волат“ — гэта ўсё, апроч непасрэднай нарэзкі задач. У мяне няма вялікага баявога досьведу, я не займаюся баявымі задачамі, але раблю ўсё астатняе.

Я быў паўсюль. Усё, што можна было прайсьці з Ванем „Брэстам“, мы прайшлі. Проста з часам, калі мы павялічыліся з маленькай роты цяжкога ўзбраеньня ў некалькі дзясяткаў чалавек да трохзначных лічбаў, то Ваня мусіў дэлегаваць частку сваіх паўнамоцтваў. „Брэст“ тады займаўся толькі баявымі апэрацыямі, а астатняе ўзялі некалькі іншых чалавек, у тым ліку я.

У першых баях адчуў і страх, і адрэналін. Ёсьць такая штука — адрэналінавая залежнасьць. Калі нехта пабываў у баях, то ведае, што гэта за адчуваньне, і зь ім ужо нічога не параўнаецца.

У сваім абсталяваньні і амуніцыі мы можам канкураваць зь сіламі спэцыяльных апэрацый.

Цана бэльгійскай штурмавой вінтоўкі SCAR — 15 тысяч даляраў. Ці шмат людзей у Беларусі ўвогуле трымалі ў руках такую зброю?

У нас ёсьць рэчы, якія зьяўляюцца „расходнікамі“, яны патрэбны заўсёды. Гэта дроны, аўтамабілі. Нядаўна была гісторыя, што насустрач выехаў свой жа танк, зачапіў крыху машыну. Нават са зьніжкамі для ЗСУ запчасткі абышліся ў 340 даляраў, а радыятар давялося доўга чакаць. Машыны б’юцца, мы іх страчваем. Мы пастаянна расьцём, павялічваецца колькасьць экіпажаў і патрэба ў машынах. Нам трэба, каб хаця б дзьве машыны прыяжджалі штотыдзень.

Іван „Брэст“... Ох, Ванечка... Гэта быў сапраўдны баявы камандзір. Ён гарэў усім гэтым. У яго быў унутраны рухавік. Бывае, што нават не было сілаў устаць, але ён мог перавярнуцца на жывот, стаць на калені, а потым абаперціся на аўтамат і падняцца. І Ваня мог так падняць. Я штодня думаю пра тое, што павінен так рабіць сваю працу, каб мне не было сорамна ні перад жывымі хлопцамі, ні перад тымі, хто загінуў.

Нешта нядобрае перад той апэрацыяй, дзе загінуў „Брэст“, адчуваў ня толькі я. Калі хлопцы выяжджаюць, мы іх праводзім. Калёна спынілася, Ваня даходзіць да машыны, я іду за ім, хацеў спытацца, што ён забыўся. А ён кажа: „Давай абдымемся“. Я тады нават фізычна не хацеў яго адпускаць. Нядаўна гаварыў з начальніцай нашай мэдслужбы „Север“, і яна казала, што таксама катэгарычна не хацела, каб яны ехалі. За дзень да гэтага ў нас быў вялікі сход, дзе я казаў: „Нам ня трэба ехаць, а трэба скончыць пытаньні тут“. У нас былі ўнутраныя пытаньні нявырашаныя.

Ваня ня той чалавек, якога можна было не адпусьціць на баявое.

Калі пачалася нейкая кансьпіралёгія аб тым, што „Ваню зьлілі“, я пачаў гэтае расьсьледаваньне. Я быў пастаянна на сувязі, ведаў пра апэрацыю, якая мела на мэце іх выратаваць. Я ведаю, хто што рабіў. На базе ў Краматорску я гаварыў асабіста з усімі ўдзельнікамі тых падзей. Паступова я склаў часьцінкі пазла, што там адбылося. Мяне там не было, але па словах відавочцаў склаў поўную карціну. Я не лічу, што Івану здрадзілі, проста так адбылося.

Мне здаецца, што ў групы „Брэста“ была магчымасьць не прымаць бой, а паспрабаваць адысьці. Але „Брэст“ ніколі ня мог не прыняць бой.

Я адказваю за дысцыпліну ў батальёне, гэта самае цяжкае. Самае цяжкае — хаваць сяброў і навесьці дысцыпліну. Нездарма прыдумалі слова „бульбас*ч“. У нас людзі могуць пасварыцца на абсалютна роўным месцы. Я для сябе зрабіў выснову: калі чалавек зь нейкай палітычнай арганізацыі, то чакай праблем.

Праблема з наркотыкамі і алькаголем на гэты момант не актуальная. Умовы простыя: калі вы трымаеце ў руках паперку з датай і часам вашага звальненьня, то можаце наняць кватэру, дзе можна ўпіцца, унюхацца, укурыцца. Але ў шэрагах палка, калі ласка, выконвайце правілы.

Самае непрыемнае на вайне — адчуваньне, што ты ня можаш нечага зрабіць. А таксама бульбас*ч, гэта вельмі непрыемна. Гэта момант, калі мы павінны быць разам, а замест гэтага пачынаем дзяліць шкуру незабітага мядзьведзя. Іван „Брэст“ даў нам тую траекторыю, у якой мы працягваем

рух. І мне вельмі важна гэта ўсё не згубіць, не скаціцца ў балаган.

А самае прыемнае на вайне — убачыць жонку. Убачыць, наколькі яна прыўкрасная. Мая, як жонка дзекабрыста, прыехала ня так даўно да мяне.

---

22 кастрычніка

## КАРАНІ БАЛЯЦЬ ФАНТОМНЫМ БОЛЕМ

*Наста Кудасава:*

Пару месяцаў таму я пакінула родны Рагачоў.

Мяняць краявід, безумоўна, варта час ад часу дзеля натхненьня, з гэтым я згодная цалкам. Але ў мяне быў сьвядомы выбар менавіта пакінуць гэтую дзяржаву. Як толькі пачалася вайна, нешта ўва мне зламалася, мабыць. Я вырашыла ў той жа дзень, што зраблю ўсё магчымае, каб зьехаць адтуль і каб мае дзеці ніякім чынам не асацыявалі сябе больш з гэтым пеклам. Мне было вельмі сорамна, што я нічога не магу зьмяніць. Слухаць штодня і штоночы гэтыя страшныя гукі, разумець, што яны лятуць і едуць забіваць, а ў нас жыцьцё працягваецца, як быццам нічога жахлівага не адбываецца, — гэта было невыносна. Гэта была апошняя кропля ў балею майго цярпеньня.

Я вельмі хачу вярнуцца, але я больш не магу жыць у пастаянным кампрамісе з самой сабой. Таму нават ня ведаю, калі вяртаньне станецца магчымым. І ці дастаткова будзе аднае толькі зьмены ўлады... Бо не адзін жа чалавек адказны

за жыцьцядзейнасьць тае сыстэмы. Там сапраўды процьма людзей, закаханых у свайго ўладара, якія вітаюць сёньняшнюю сытуацыю, ненавідзяць такіх, як я, і падтрымліваюць вайну ва Ўкраіне. Немагчыма ж пра гэта маўчаць і пра гэта забыць…

Я вельмі сумую, зразумела, па маёй зямлі. Тут я пачуваюся адарванай ад роднай глебы, карані недзе там засталіся і баляць фантомным болем, але гэта кошт свабоды ці, хутчэй нават, кошт бясьпекі, так што давялося выбіраць. Магчыма, я зьмяню сваю думку, калі пажыву ў эміграцыі крыху болей. Магчыма, настальгія аднойчы ўсё ж пераможа. Пабачым. Але пакуль што я пляную тут заставацца, прынамсі на некалькі гадоў.

Я не хаваю месца пераезду: я ў Польшчы, у Гдыні. У пэўным сэнсе гэта быў выпадковы выбар. Муж вырашыў пераяжджаць туды празь ягоную працу, а мне ўжо асабліва не даводзілася выбіраць, бо мы мусім трымацца разам дзеля нашых дзяцей. Зрэшты, поўнач мяне заўжды вабіла. Апошнія гады я зусім не магла вытрымліваць лета ў Беларусі, вельмі цяжка пераношу сьпёку. Спадзяюся, што тут, прынамсі фізычна, мне будзе лепей. Таму гэта ў пэўным сэнсе яшчэ і кліматычная эміграцыя. Што да побытавай уладкаванасьці, так, дабрабыт — яўна не маё наканаваньне, але я не адна тут, побач сям’я і многа знаёмых, сяброў. Так што выжываць атрымліваецца пакуль што.

Я маці дваіх школьнікаў. І гэта самая радасная старонка ў новым жыцьці. Дзецям сапраўды падабаецца польская школа, вельмі добрыя ў іх стасункі і з аднаклясьнікамі, і з настаўнікамі. Польская мова прыгожая і зразумелая, падобная да беларускай. Дзеці стараюцца пазыцыянаваць

сябе як беларусаў тут нават больш, чым у Беларусі. Прыкра, вядома, бо дома ім беларуская мова была ня ў радасьць, яны ня бачылі ў ёй сэнсу, а тут яны, наадварот, пачалі разумець, наколькі яна каштоўная. Сын нават сам надоечы прыйшоў да высновы, што файна было б, каб і ў Беларусі былі такія ж школы, дзе ўсё будзе па-беларуску, бо гэта ж лягічна. У Рагачове ім гэтая ідэя неяк не прыходзіла да галавы, тут жа фокус мяняецца і нейкія зрухі ў сьвядомасьці адбываюцца. Можа, вернуцца потым у Беларусь з новым сьветабачаньнем, каб пабудаваць там новае грамадзтва, спадзяюся…

Наконт вершаў. Пішацца насамрэч усюды аднолькава, калі маеш час пабыць сам-насам з сабой. Я ж увесь час ва ўнутранай эміграцыі, даўно ўжо сышла ўглыбкі сябе, там мой беларускі вырай, а не сярод людзей. Так што, дзякуй Богу, вершы не пакідаюць мяне, гэта сапраўднае адхланьне.

---

24 кастрычніка

## МЫ ЗАСТАЁМСЯ Ў ХЕРСОНЕ

*Валер Камагораў:*

Я з Брагінскага раёну, вучыўся ў Магілёве. У 2015 годзе пераехаў ва ўкраінскі Херсон да сваёй колішняй дзяўчыны, зь якой пазьней узяў шлюб. Меў невялікую краму тавараў для рыбалкі, адпачынку і турызму. Апошні раз у Беларусі быў у 2016 годзе. Больш ня езьдзіў, бо ведаеце, што там адбывалася. Больш за трое не зьбірацца, гэ-

ты ўсялякі маразм і трызьненьне. Я яшчэ ў 2015 годзе пасьля выбараў трапляў там у замес, таму і ня езьдзіў на радзіму.

У 2021 годзе я разьвёўся. Пачаў працаваць у рамонце ноўтбукаў і тэлефонаў.

Пасьля пачатку вайны я прынцыпова застаўся ў Херсоне. Бо тут былі людзі, якія патрабавалі маральнай і фінансавай падтрымкі. Спачатку мы дапамагалі тэрытарыяльнай абароне — калі расейцы спрабавалі захапіць Херсон, будавалі барыкады. Потым каардынавалі разам зь іншымі праўкраінскія мітынгі, малявалі плякаты. Таксама валянтэрылі, дапамагалі бабулькам з прадуктамі і лекамі.

Пад акупацыяй мы з групай актывістаў займаліся партызанскай дзейнасьцю. Рознай. Прабівалі колы ў тэхніцы акупантаў. Залівалі салярку замест бэнзіну, дадавалі цукар у паліва. І так псавалі ім тэхніку. Здавалі іхныя пазыцыі.

Калі людзей у Херсоне расейцы пачалі масава затрымліваць, нават па дзясятку чалавек за дзень, весьці такую дзейнасьць стала небясьпечна. Тады мы з маёй цяперашняй дзяўчынай Вольгай вырашылі здымаць патрыятычныя праўкраінскія відэа для TikTok.

Па сутнасьці, у нас засталася такая „група“ — я, Вольга і яшчэ адна жанчына. Вось нас нехта здаў, і 24 жніўня мы ўтраіх трапілі ў палон.

Нас „бралі“ расейскія вайскоўцы, супрацоўнікі ФСБ, ваенная паліцыя і мясцовыя калябаранты. Мяне адразу стукнулі прыкладам у галаву, потым чатыры гадзіны білі пасьля затрыманьня, на вуліцы. Добра, што я пачысьціў да гэтага інтэрнэт,

перапіскі. Бо было б горш. Так толькі засталася інтэрнэт-актыўнасьць у TikTok.

Пры затрыманьні расейцы ўбачылі ў маім пакоі бел-чырвона-белы сьцяг. Гэта іх моцна раззлавала. Яны крычалі, што я за Ціханоўскую, усяляк абражалі, з цэнзурнага было хіба „шпіён, здраднік, пацук". Крычалі, што „ў нас жа саюзная дзяржава, мы ж братэрскі народ, чаго ты „ўкропам" прадаўся?". Крычалі: „Што ты, сабе ў Гомлі дзеўку ня мог знайсьці?".

Нас зь дзяўчынай і жанчыну з „групы" прывезьлі „на падвал", які быў у цэнтры Херсону і які пасьля вызваленьня здымала Служба бясьпекі Ўкраіны.

Там нас і трымалі. Вольгу і нашу жанчыну адпусьцілі пасьля 11 дзён „на падвале". Вольга захварэла там на ангіну і не магла гаварыць. Жанчыне ж зрабілася блага. Мне стала лягчэй, калі іх вызвалілі. Гэта надало мне сіл перанесьці ўсе выпрабаваньні. Тым больш я абяцаў маці, што выжыву.

Штодзень з 6 раніцы да 12 дня былі допыты і біцьцё.

Выбівалі паказаньні, каб прызнаўся, хто ў горадзе партызаніў, хто маляваў украінскія стужкі. Прасілі: „Здай якога тлустага камэрсанта, які за Ўкраіну". Палохалі праблемамі ў сваякоў, пагражалі дэпартацыяй. Білі токам. Пагражалі, што „прышыюць" тэрарызм, экстрэмізм і шпіянаж. Пасьля адправілі за горад капаць акопы, магілы. Каму тыя магілы былі, я ня ведаю.

На капаньні акопаў я пазнаёміўся з мабілізаванымі з так званай ДНР. Там былі тыя, каго пасьпелі загрэбці. Студэнты, сталявары. Яны і самі не хацелі ваяваць. Але ім не было куды дзецца. Казалі,

што расейцы называюць іх „аднаразовымі“. Ад іх хоць было нармальнае стаўленьне. Бо пасьля падвалу ў мяне былі і рэбры паламаныя, і зубы выбітыя, і праблемы са здароўем. Але жывы — гэта галоўнае.

Начаваў я і іншыя затрыманыя ў хляве з заваранымі вокнамі і дзьвярыма. Там было трохі лепш, чым у падвале. Хоць нейкія матрацы валяліся на падлозе. Бо ў падвале начавалі на голым бэтоне. У падвале маглі і тыдзень не карміць, даць якой недаваранай грэчкі жменю. Камэры ў падвале былі перапоўненыя, трамбавалі па 7-8 чалавек.

24 кастрычніка да мяне падышоў ахоўнік і сказаў, што ёсьць загад адпусьціць мяне на чатыры бакі. Але мне параілі пасядзець да раніцы, бо пастоў жа ніхто ня зьняў і маглі прыстрэліць.

Галоўнае, што выжыў і ня здаў нікога. У мяне ж былі сувязі з вайскоўцамі, з тэрабаронай. А расейцы дапытваліся, дзе пазыцыі вайскоўцаў, дзе ў горадзе жывуць былыя вайскоўцы і паліцыянты.

Сьвятла ў Херсоне пакуль няма, але ўжо ёсьць вада. Пачасьціліся абстрэлы. Усе спадзяюцца, што расейцы сюды ня вернуцца. Нават калі ў горад заходзілі нашы, украінскія вайскоўцы, многія пабаяліся выходзіць з дамоў. Думалі, нейкая правакацыя. Потым ужо адважыліся, выскачылі. Цяпер у горадзе яшчэ вылоўліваюць калябарантаў, праводзяць фільтрацыю. Бо рэальна многія дапамагалі акупантам, перайшлі на іхны бок. Мы застаёмся ў Херсоне. Трымаем абарону!

25 кастрычніка

## ПРЫДУМАЎ НАЗВУ ДЛЯ ФІТНЭС-ЦЭНТРУ

*Андрэй Скурко (лісты з турмы):*

...Шчасьце — унутры нас, і толькі ад нас залежыць, быць шчасьлівымі ці не. І процілегласьць шчасьцю — не няшчасьце, а пошукі шчасьця. Калі чалавек разьбярэцца ў сабе, зразумее, хто ён, для каго і для чаго, яму прасьцей быць шчасьлівым.

...У сувязі з Багдановічам: займаючыся спортам, прыдумаў назву для фітнэс-цэнтру — „Краса і сіла“. Можа, каму прыдасца, калі такога яшчэ няма ☺

...Уся гэтая сытуацыя моцна мяняе погляды на жыцьцё, на сябе, на тых, хто побач. Калі мы будзем зноў разам, мы будзем толькі вельмі істотнымі рэчамі пераймацца. А дробязі ёсьць дробязі.

Колькі вакол нас усяго цікавага, у чым хацелася б разабрацца як сьлед. І гэта безадносна да якаснай характарыстыкі гэтых дзён ☺. Цёмныя непагодныя дні мінаюць, а вялізны цікавы сьвет — і мы ў ім — працягваем існаваць і радаваць нас.

...Думаў пра тое, што пахі здатныя моцна запамінацца і асацыявацца зь нейкай падзеяй. Ты пішаш, як адчула пах сьвежага гароху і ўспомніла дзяцінства. А ў мяне, напрыклад, адзін з самых запамінальных і дарагіх пахаў дзяцінства — пах і цяпло трактарнага рухавіка. Адразу ўспамінаецца дзядуля Іван, нашы зь ім паездкі і размовы.

...Усе чорныя палосы ўрэшце канчаюцца, і, у прынцыпе, жыцьцё — бясконцы шэраг зьмен,

казалі старажытныя індыйскія філёзафы (*тут Андрэй намаляваў слана*).

Казаў ужо, можа: вельмі вялікі працэнт рэчаіснасьці фармуе наша ўспрыманьне. Дык ведай, што я ўсё ўспрымаю спакойна і з аптымізмам, як, спадзяюся, і вы.

...Будзем помніць выслоўе псыхоляга: няправільнае пытаньне — чаго я хачу ад сьвету, правільнае — чаго сьвет хоча ад мяне.

...Год ужо прайшоў, як я па-за домам. Такое дзіўнае адчуваньне — нібыта кіно ☺.

Мы ўсе ёсьць адны ў адных, гэта самае галоўнае.

Падумалася: мы, наша пакаленьне, і не разьлічвалі ні на якія прыгоды, а так фантастычна лёсы складаюцца ☺. І колькі ўсяго яшчэ, дасьць Бог, пабачым за свой век.

...Вось яшчэ якую сыстэму абароны псыхікі для сябе сфармуляваў: не перажываць за тое, на што ніяк ня можаш паўплываць і зьдзяйсьненьня чаго ніякімі сваімі дзеяньнямі не справакаваў. Мы гэта абмяркоўвалі, і такое стаўленьне, у тым ліку, дазволіла нам прасьцей прайсьці гэты год.

...Я таксама спадзяюся на гэту восень. А як не — то на зіму. А як не на зіму — то на вясну ☺. Проста беражэм здароўе і захоўваем спакой. Крок за крокам мы пройдзем гэты няпросты шлях, усё пераадолеем і зноў будзем разам.

...Сёньня чытаў Гарэцкага — апавяданьні, дзёньнік з паездкі ў Сібір у 1926 годзе (добраахвотнай). Алесь Адамовіч у прадмове (цікава адзначаць, як ён у 1984 годзе паўнамёкамі пісаў пра нядобраахвотныя паездкі Гарэцкага на Вятку і ў Пясочню, пра „жыцьцёвыя віхуры“) адзначае,

што Гарэцкі ў нейкай меры даў штуршок пазнейшай прозе: Быкаву, Брылю, Мележу (і кожнаму — у розным: у ваеннай прозе, абразках лірычных, сялянскім эпасе). Цікава яшчэ, што Гарэцкі вельмі любіў Баркулабаўскі летапіс і мог на памяць цытаваць. Яшчэ мяне ўразіла, колькі ў яго раньніх рэчах готыкі, накшталт як у Яна Баршчэўскага. (Зрэшты, і яго сучасьнік Ластоўскі ў „Лябірынтах“ з готыкай экспэрымэнтаваў.) Магчыма, Гарэцкі сьвядома спрабаваў пісаць па-гогалеўску. „Страшная музыкава песьня“ дык наўпрост перагукаецца з гісторыяй Хамы Брута і панначкі-вядзьмаркі. Толькі ў Гарэцкага менш барочна выйшла ☺. А ў „Руінах“ апісаны сон, пабачаны пасьля наведваньня музэя — яўна Луцкевічавага ☺. Цікава знаходзіць такія адсылкі да рэальнасьці.

...Як добра ты згадала з Франкла, што аснова чалавечнасьці — гэта любоў і работа! Гэтыя два складнікі напаўняюць зьместам наша жыцьцё — асабліва ясна адчуваю гэта апошні год. Такое адчуваньне, што, апроч іх, у жыцьці нічога і няма. Ды і ня трэба ☺. Ну яшчэ, вядома, вандроўкі і ўсё іншае — кніжкі, фільмы, але гэта можна разглядаць як складнікі „любові“ ☺. А цярпеньне і ўвагу да здароўя — як частку „работы“.

27 кастрычніка

# ЦЯПЕР У АСНОЎНЫМ СЯДЗЯЦЬ „КАМЭНТАТАРЫ“

*Аляксей:*

У 2020 годзе я пабачыў, што пачалі адбывацца тэктанічныя зьмены ў сьвядомасьці людзей. Я пабачыў пакаленьне беларусаў, якія ня хочуць жыць у калгасным царстве.

Ноччу я трапіў пад ІЧУ на Акрэсьціна і бачыў, як адтуль выходзілі моцна пабітыя, аж сінія і фіялетавыя людзі. У мяне сэрца ёкнула: „За што іх білі? За што так моцна пабілі маладых дзяўчат?“. Потым я даведаўся пра гісторыю са згвалтаваньнем ад аднаго з пацярпелых там. Гэта для мяне быў яшчэ адзін званочак. Трэці званочак: на маім раёне неяк сустрэў знаёмых хлопцаў, якія ішлі на Пушкінскую і сказалі, што яны, здаровыя мужыкі, ня могуць сядзець дома, калі там б’юць дзяцей. Мы ўсе разам расьлі на раёне. У нас быў кодэкс паводзінаў. Мы не былі баязьліўцамі ў час маладосьці. Таму і ў гэты час мы выйшлі. Я маю адказнасьць перад сваім сынам. Я не хацеў бы, каб ён некалі сказаў: „Тата, чаму ты сядзеў склаўшы рукі і нічога не рабіў?“. Тое, што адбываецца — наша адказнасьць.

Я быў затрыманы, трапіў на Акрэсьціна. Потым — на „Валадарку“, у СІЗА ў Жодзіне. Менавіта на Акрэсьціна самыя прымітыўныя асобы працуюць. Яны як зьвяры. Гатовыя выканаць любы загад. Яны мэтанакіравана і сьвядома прыніжаюць людзей, зьдзекуюцца зь іх. Мяне і на Акрэсьціна,

і ў Жодзіна прывезьлі моцна пабітым. Але ніхто на гэта не зьвяртаў увагі.

Суд прызначыў мне „хімію“. Я трапіў у адну з аддаленых вёсак Беларусі. Калгасы там разьлічваюць, што сыстэма будзе пастаўляць ім рабоў, „хімікаў“. Я меў спагнаньні і канфлікты з адміністрацыяй „хіміі“ і сельскагаспадарчым прадпрыемствам. Таксама мяне хацелі падставіць. Прасілі аднаго хлопца, які сядзеў за наркотыкі, каб ён мяне абгаварыў, сказаў, што я яго схіляў да „экстрэмізму“. Але ён гэтага не зрабіў. Я лічу гэта подзьвігам зь ягонага боку ў нашы часы.

У выніку я трапіў на этап у СІЗА ў Берасьці.

За час зьняволеньня я пазнаёміўся з рознымі людзьмі. Цяпер у асноўным у СІЗА сядзяць „камэнтатары“. Гэта людзі, якія недзе нешта напісалі ў сацыяльных сетках. Іх вялікі адсотак. Некаторыя нават не разумеюць, за што. Напрыклад, чалавек з аднаго з райцэнтраў прыйшоў дахаты п’яны, нешта напісаў у „Аднаклясьніках“. Ранкам да яго пагрукала міліцыя. Такіх вельмі шмат. Нехта сьвядома пісаў, нехта проста па п’янцы. Я чытаў справу аднаго „камэнтатара“, і ў мяне быў гамэрычны рогат. Ён напісаў камэнтар на сьмерць Зельцара, і гэта сьледзтва расцаніла як „злачынства супраць чалавецтва“. Я кажу: „Ды ты проста Люцыпар, увасабленьне зла! І пінгвін у Арктыцы, і індзеец на Амазонцы проста ў жаху ад твайго ўчынку!“. Сустракаў і такога затрыманага „камэнтатара“, які пісаў камэнтары пасьля таго, як апынуўся ў СІЗА. Проста міліцыянты атрымалі доступ да яго тэлефона і напісалі ад яго камэнтары. І гэта не адзінкавы выпадак.

Я таксама пабываў у калёніі ў Шклове. Там людзей могуць біць бяз дай прычыны. Б'юць і потым кідаюць у карцар, каб сінякі прайшлі. Асаблівых прычын для таго, каб пабіць чалавека, ім ня трэба.

Парушэньні вязьні могуць атрымаць на роўным месцы, асабліва палітычныя. Напрыклад, з надыходам халадоў вязьні былі ў пальчатках. Увесь шэраг. Але чалавек з адміністрацыі выпісвае парушэньне за пальчаткі толькі палітычнаму. Іншыя яго не цікавяць. Усе мусяць хадзіць у такіх тонкіх „кліфтах". Забойцам ці рабаўнікам можна пад той кліфт надзець швэдар, калі холадна. Палітычным нельга. Яшчэ адна прычына спагнаньняў — вопіс рэчаў. Ты мусіш яго весьці і апісаць усё, да кожнай цыгарэты. Напрыклад, у мяне была гарбата. Колькі там грамаў? Няправільна адказаў на пытаньне вертухая, бо ў мяне ж няма на чым узважыць, і атрымаў спагнаньне.

Цяпер у калёніі крымінальных „паняцьцяў" зусім няма. Усім руляць міліцыянты праз „казлоў". Гэта такая катэгорыя зэкаў, якія падпарадкоўваюцца адміністрацыі і выконваюць любыя загады. Яшчэ адміністрацыя сочыць за перадачамі, пасылкамі. І калі бачыць, што чалавека добра падтрымліваюць блізкія — перадаюць вэнджаную каўбасу, розныя прысмакі, то яны пачынаюць „стрыгчы" яго, патрабуюць грошай. На рамонт калёніі, на фарбу, на лядоўню ці пральную машыну, ды на што магчыма. У палітычных грошы на гэта нельга браць, нават калі б самі прапанавалі.

Калі ў чалавека сьціплыя перадачы з волі ці ён адмаўляецца даваць грошы адміністрацыі, яго могуць палічыць годным стаць „казлом". Тады чалавека пачынаюць ламаць, пішуць парушэнь-

ні, адпраўляюць у „крытую турму“. Менавіта там цяпер „школа для казлоў“. Потым тыя „казлы“ выконваюць любыя загады адміністрацыі. На загад адміністрацыі могуць прыніжаць чалавека ці наагул зрабіць яго „апушчаным“. Безумоўна, асаблівае стаўленьне — да палітычных. „Казлы“ сачылі за тым, каб мы швабры проста з рук не выпускалі. Так разьмяркоўвалі дзяжурства, каб толькі палітычныя прыбіралі. Шмат людзей яны зламалі, шмат гора нарабілі.

Але на „зоне“ магчыма захаваць сябе і сваю годнасьць. Калі толькі трапляеш на „зону“, трэба ўважліва глядзець вакол, нічога не гаварыць, толькі слухаць. Азірацца, разумець, з кім можна размаўляць, з кім — не. Ня лезьці ў канфлікт. Ня раю тусавацца з крымінальнікамі. Яны іншыя. Мы для іх чужыя. Яны нас не разумеюць. Яны могуць падмануць, здаць. Лепш мець зносіны толькі з сабе падобнымі. Палітычныя дапамагалі адзін аднаму, падтрымлівалі, дзяліліся перадачамі.

Зь цягам часу трэба прымкнуць да нейкай групы, тады лягчэй будзе ставіць некага на месца. Мы былі ў стане абараніць сваю групу ад некаторых агрэсіўных прадстаўнікоў крымінальнага сьвету.

Калі крымінальнікі могуць паміж сабой абмяркоўваць што заўгодна, то палітычным гэта нельга. Калі адміністрацыя ўбачыць, што „жоўтабірачнікі“ (так называюць палітычных) недзе нешта абмяркоўваюць, шэпчуцца, — тут жа пойдуць у карцар.

Цяпер, калі мяне „перакруцілі праз гэтую машыну“, я буду помсьціць. Я не зьбіраюся складаць рукі і прабачаць людзям, якія зрабілі з нашай краіны рэінкарнацыю ГУЛАГу. Калі мы ім ня зломім

крылы, яны, як вампіры, будуць зноў і зноў падымацца з магіл. Я не адзін такі, хто ўжо выйшаў. Нас нават ня дзесяць і ня сто. Нас усё больш і больш. І пасьля тых катаваньняў нам нічога ня страшна.

2 лістапада

## Я ІШОЎ, БО НЕ МАГУ ПЕРАЛЯЦЕЦЬ ЦІ ПЕРАПЛЫЦЬ

*Мікалай Казлоў (апошняе слова ў судзе):*

Для пачатку скажу, што, у прынцыпе, гэта чакана. Жаданьне пазбавіць людзей волі — гэта чакана, гэта якраз у трэндзе, цяпер гэта модна. Выступіла дзяржаўнае абвінавачаньне. Зь ягонага выступу я зразумеў, што правы грамадзян, якія гарантаваныя Канстытуцыяй, міжнародным правам, абавязаньнямі ў галіне правоў чалавека, — у нас гэта не працуе.

Я ўчора казаў пра тое, што мне было цікава, мне было прыемна ў цэнтры горада паглядзець на людзей, якія сабраліся нечакана для мяне так масава. І я там быў, але цяпер не пра гэта.

Зь якой жа цікавасьцю я назіраў, як расьсьледуецца гэта справа. Вы напэўна ведаеце, і я згадваў пра гэта, што я сямнаццаць гадоў прапрацаваў у крымінальным вышуку і трошкі ўяўляю, як гэта ўсё робіцца: вышук злачынцаў, збор доказаў і ўсяго астатняга. Але гэтая крымінальная справа мяне зьдзівіла. То бок у нас зыходнае — гэта фатаграфія, на якой я зафіксаваны, гэта акт тралейбуснага парку і расстаноўкі транспарту. Далей ідзе нейкая дзіўная лёгіка, я б сказаў, нездаровая лёгіка і бясконцы палёт фантазіі. Я ня ведаю, як растлумачыць довад, што „Вы дайшлі ў цэнтар гораду“, „А як вы ішлі назад?“. Ну калі я жыву побач з цэнтрам гораду, то я вымушаны неяк ісьці, я не магу пераляцець ці пераплыць. А раз я туды

ішоў, то я ў гэтым удзельнічаў цалкам сьвядома. Ну прыкладна такая лёгіка.

Вось спынены транспарт. Кім спынены — тут адвакат абгрунтавана задаваўся пытаньнем. І абвінавачаньне на яго не адказала — хто спыняў, зь якой мэтай спыняў. Калі людзі прыйшлі ўжо пасьля спыненьня, можа быць, гэта дало нагоду, каб пазбавіцца ад таўкучкі і выйсьці на вольнае месца, якім зьяўлялася ў тым месцы праезная частка. Бо гэта так проста. Але калі задача стаіць абавязкова пасадзіць у турму, таму што знаходжаньне людзей супярэчыць нейкай рэвалюцыйнай мэтазгоднасьці, бо гэта, на думку кагосьці там, нейкая там бясьпека дзяржавы — тады вось зьяўляюцца падобныя справы, за якія сорамна.

Я ўпэўнены, што я буду рэабілітаваны. Я адсяджу, нічога страшнага. Усе сядзяць, і я адсяджу. І я ведаю дакладна, што я буду рэабілітаваны, і я ведаю дакладна, што вось такія справы будуць нагодай судовага разгляду, я ў гэтым упэўнены. Таму што ў кожным іншым выпадку гэта будзе несправядліва, будзе незаконна ні паводле чалавечых, ні паводле Божых законаў.

Я размаўляў шмат з кім, у тым ліку і зь юрыстамі, якія маюць навуковыя веды, мы абмяркоўвалі гэту праблему. Яна ва ўсіх выклікае нуду, ніхто ня можа растлумачыць зь юрыдычнага пункту гледжаньня вось гэту непаўнавартасную лёгіку і гэты нейкі дзіўны збор доказаў, якія такімі не зьяўляюцца. Вы мне кажаце: „У вас быў намер“. А я сьцьвярджаю, што ў мяне намеру не было. Таму што, калі б у мяне быў намер спыніць транспарт, я б знайшоў вуліцу, на якой ходзіць транспарт, і спыніў бы. Але Менск вялікі, там не адна вуліца. Але не. Мне

кажуць, што ў мяне быў намер ісьці вось роўна туды і там быў спынены транспарт. Вось я ішоў з такім намерам. Але чаму вам не ўявіць, што ў гэты час на вуліцы Арлоўскай ішлі тралейбусы і, калі б я жадаў спыніць тралейбусы, то я б выйшаў і спыніў. Ну напэўна, калі б мне прыйшла такая цудоўная думка вар'яцкая. Але не, вось чамусьці мы апэлюем такімі „фактамі".

Таму я не магу пагадзіцца. Я хачу сказаць (і цяпер я гавару цалкам шчыра), я лічу, што справа распачатая незаконна; я лічу, што я пазбаўлены волі незаконна. У дачыненьні да мяне зьдзяйсьняецца злачынства. Таму што, калі чалавека пазбаўляюць волі незаконна, значыць, у дачыненьні да яго зьдзяйсьняюць злачынства. І мне гэта не падабаецца, і я спадзяюся, што ўрэшце прафэсійныя якасьці, чалавечыя якасьці возьмуць верх і гэтаму будзе пакладзены канец, таму што з гэтым немагчыма мірыцца. Пры гэтым зьвяртаю ўвагу: у гэтым судзе прагучала некалькі сытуацый, якія сьведчаць пра тое, што ў той час, калі мы гэтыя рэчы, я нават ня ведаю, як гэта назваць, нават адміністрацыйна зь вялікай нацяжкай можна гаварыць пра гэта, паведамілі пра злачынства, якое адбываецца ў ІЧУ, пра катавальныя ўмовы, пра зьбіваньні... Слухайце, ну ніякай рэакцыі ў дзяржаўнага абвінаваўцы. Вось наогул ніякай. Вось мы абураемся, чаму людзі выйшлі на праезную частку, і зусім не зьвяртаем увагі на тое, што вакол дзеецца... *(Судзьдзя спрабуе перапыніць Мікалая і супакоіць з прычыны падвышанага тону.)*

Вельмі складана гаварыць пра рэчы, якія выклікаюць абурэньне. Вось мая пазыцыя. Я ня ведаю, пра што прасіць суд, таму што я ведаю з

моманту пачатку суду і з моманту завядзеньня крымінальнай справы я ведаў, што гэта скончыцца пазбаўленьнем волі, таму на гэтым я заканчваю.

---

6 лістапада

## НА СЬЛЁЗЫ ПРАБІВАЕ АД КРАНАЛЬНЫХ ЧАЛАВЕЧЫХ УЧЫНКАЎ

*Марына Золатава (лісты з турмы):*

Хутка паўтара года, як я ў турме. Час праляцеў непрыкметна. Цяпер ужо складана сказаць, якія эмоцыі я адчуваю з гэтай нагоды. Несправядлівасьць — мабыць, гэта галоўнае. За гэтыя паўтара года ўнутры мяне былі вельмі розныя пачуцьці — і нэгатыўныя, і пазытыўныя. З апошніх пазытыўных — навіна пра тое, што Алесь Бяляцкі атрымаў Нобэлеўскую прэмію міру.

Навіны тут вельмі спазьняюцца, але, што цікава, за некалькі хвілін да таго, як я ўсё даведалася, я зь ім разам ішла па калідоры турмы. А ён, сьціплы, нічога не сказаў.

Проста ўяві, як гэта выглядае: чалавек, які атрымаў Нобэлеўскую прэмію міру, сядзіць за некалькі камэр ад цябе. Думаю, гэтая Нобэлеўка Бяляцкага матывуе і натхняе ўсіх палітвязьняў. У нас на „Валадарцы“ дык дакладна.

Мой самы шчасьлівы за гэтыя паўтара года момант, калі мяне вазілі ў СК і я ўбачыла на „Валадарцы“ сваіх родных. Здараюцца і іншыя радасныя сустрэчы. Напрыклад, калі бачу нашу Мілу

(*былога генэральнага дырэктара „Тут Бай мэдыя“ Людмілу Чэкіну*) па дарозе на шпацыр. Шмат радасьці прыносяць лісты. Цяпер зь імі неяк зусім дрэнна, але я разумею, што людзі не забываюць.

А калі пра дрэннае... Гэта прысуды шматлікім палітычным і 24 лютага. Ужо некалькі месяцаў мы жывём у новай рэальнасьці. У галаве пракручваецца шмат сцэнароў, а ў выніку здарыцца можа нешта зусім іншае. Я ўжо зьмірылася, што ўсё гэта можа зацягнуцца надоўга. Нават ня тое што зьмірылася, а проста да гэтага гатовая.

У дзесяцімеснай — чацьвёра. Паступова колькасьць палітычных расьце. Самы распаўсюджаны артыкул — 342. Усё гэта вельмі розныя людзі: мастакі, праграмісты, бізнэс-аналітыкі, майстры манікюру, рабочыя, настаўнікі, лекары. Сустракалася, напрыклад, з 18-гадовай дзяўчынай, якой „у момант зьдзяйсьненьня злачынства“ было 16, і з 55-гадовай Ірынай Коваль, якая ў БНФ з 1988 году.

Здаецца, гэты паток не спыняецца і „заяжджаюць“ цэлымі сем’ямі. Муж з жонкай, маці з дачкой, а то і больш. І ўсё за што? За фота з маршу. Божа-Божа, але са жніўня 2020-га прайшло ўжо столькі часу. Гэта як бы новая нармальнасьць, якую я не хачу прымаць.

Адразу, калі хтосьці новы заходзіць у камэру, ацэньваем, што за кантынгент. Стараемся паглядзець валасы, пытаемся пра хваробы. Часта сустракаюцца людзі зь ВІЧ і гепатытам. Ёсьць грамадзянкі, якіх трэба прымушаць мыць рэчы і мыцца. Ды яшчэ і паказваць, як гэта рабіць. Раней такія рэчы шакавалі, але цяпер — прыкрая дробязь.

Ці сварылася я з кімсьці? Ня памятаю такога наагул. Ну як у звычайным жыцьці ўзьнікаюць

спрэчкі, калі ісьці курыць (я, дарэчы, не куру і адстойваю правы тых, хто ня курыць), калі глядзець тэлевізар. Сярод палітычных канфліктаў, як правіла, не ўзьнікае, а іншых тут ужо амаль няма.

Скандаляць у асноўным „дзьвесьцепяткі“ (арт. 205 КК „Крадзеж“) і рома. Робіш заўвагу ў спакойным фоне. На крык яны рэагуюць так, што яшчэ больш крычаць пачынаюць, а калі спакойна і добразычліва, дзівяцца і астываюць.

Важна прапанаваць нейкую альтэрнатыву ці гатовае рашэньне. Калі чалавек проста гарлапаніць, галоўнае — на гэта не паддавацца. Калі ён разумее, што ніхто не рэагуе, астывае.

Здаецца, палітычныя зламалі сыстэму. Нават прадольныя (дзяжурныя па калідоры) цяпер вітаюцца, усьміхаюцца, гавораць: „Калі ласка“, „Праходзьце, калі ласка“, „Рукі за сьпіну, калі ласка“. Ня ведаю, як яны з хлопцамі размаўляюць, але зь дзяўчатамі так. І гэта ўсё на маіх вачах мяняецца. Раней яны былі больш грубыя і строгія. Але раней сюды хто заяжджаў? Арт. 174 („Ухіленьне ад алімэнтаў“), арт. 205 („Крадзеж“), арт. 147 КК („Прычыненьне цяжкага цялеснага пашкоджаньня“) — асноўныя кліенты. А цяпер хто? Прыгожыя маладыя дзяўчаты, у крайнім выпадку — інтэлігентныя жанчыны ва ўзросьце.

Бытавыя цяжкасьці — гэта з разраду „з гэтым можна жыць“. Значна больш складана даецца расстаньне зь сям'ёй. Але ў мяне цудоўныя родныя. Дзеці побач з мужам, так што за іх я спакойная. Я прапусьціла ўжо два дні нараджэньня сына і два — дачкі.

Прапусьціла Надзін выпускны і паступленьне ў Акадэмію мастацтваў. Гэта, вядома, сумна, але

я ведаю, што за гэты час яны, гэта значыць мы, згуртаваліся мацней, а яны сталі дарослымі і самастойнымі.

Сын вырас на 10 сантымэтраў, а я гэта прапусьціла. Я заўсёды кажу: каб кампэнсаваць гэты скрадзены ў нас час, мы проста абавязаны жыць далей.

Кнігі — вельмі важная частка турэмнага жыцьця. Пасьля сотай я ўжо перастала лічыць, колькі ўсяго прачытала. Але мае значэньне нават ня колькасьць, а якасьць. Апошнім часам было шмат „цяжкай артылерыі“: „Архіпэляг ГУЛАГ“, „Блякадная кніга“. Чытаю, таму што важна ведаць гэта ўсё сёньня.

У Салжаніцына, безумоўна, самае маштабнае дасьледаваньне сталінскіх рэпрэсій. Я раней чытала шмат кніг на гэтую тэму, але „Архіпэляг ГУЛАГ“ цалкам раней не чытала. І што?

Ведаеш, калі мне дзяўчаткі цяпер расказваюць пра Акрэсьціна, гэта мала чым адрозьніваецца ад Салжаніцына.

Напрыклад, у камэры на аднаго было восем чалавек. „Шконку“ на ноч нават не адшпільвалі, ляжалі на падлозе, каб месца зэканоміць. А яшчэ па 10, 15 і больш дзён яны жывуць там безь перадач, зьменнай бялізны, без прагулак, бяз душу (у нас ён раз на тыдзень).

Калі здараецца, што я прапускаю шпацыр, то адчуваю сябе ня вельмі. Раніцай раблю невялікую зарадку-разьмінку ў камэры. На прагулцы яшчэ комплекс практыкаваньняў, уключаючы тое, што памятаю са стэп-аэробікі. А потым прабежка — бегаю на месцы роўна гадзіну (калі ў камэру ня скажуць ісьці раней).

Гэтая гадзіна прабежкі — своеасаблівая мэдытацыя. Руху тут страшна не хапае. Некаторыя „забіваюць“ на яго і па месяцу не выходзяць на шпацыр.

Іншая важная рэч — гартаваньне. Гэта дапамагае трымаць цела ў тонусе і... пазбавіцца ад лішняга праньня.

Тут я ня плачу ад гора ці злосьці. А вось ад радасьці ці замілаваньня — лёгка магу. Цяпер калі мяне і прабівае на сьлёзы, то менавіта ад чагосьці кранальнага. Ад нейкіх вартых пераймання чалавечых учынкаў.

---

7 лістапада

## ЛЕКЦЫІ ПА КВАНТАВАЙ МЭХАНІЦЫ І ЯПОНСКАЙ ЭСТЭТЫЦЫ

*Сяргей Гаранін:*

Дзякуй усім, хто падтрымаў і клапаціўся, я выйшаў з Акрэсьціна.

У якасьці справаздачы:

за час зьняволеньня для сукамэрнікаў прачытаны курс лекцый па беларускай літаратуры XI–XV стагодзьдзяў у поўным аб’ёме. Колькасьць слухачоў вагалася ад 31 да 18 у 6-месной камэры.

Таксама праслухаў лекцыі па:

— квантавай мэханіцы;
— японскай эстэтыцы;
— філязофіі піфагарэйцаў;

— структуры чалавечага вока, афтальмалягічных захворваньнях і мэтадах іх лячэньня;

— філязофскай сыстэме Марціна Гайдэгера;

— авіяцыйных рэактыўных рухавіках;

— гісторыі падводнага флёту ад пачатку да XXI ст.;

— практычных спосабах ачысткі нафтавых адыходаў;

— гісторыі сыцылійскай мафіі.

Браў удзел у сэмінарах-дыспутах „Лютаўская рэвалюцыя ў Расеі 1917 году“ і „Найлепшыя здабыткі сучаснай замежнай і айчыннай літаратуры“.

Так што трэба ўносіць прапанову ў МУС, каб палітычным пасьля Акрэсьціна выдавалі не даведку, а адмысловы сэртыфікат.

Было ў камэры з намі і пару крымінальных, але іх трымалі ў руках, нават не дазвалялі мацюкацца. Яны ахвотна ішлі на кантакт і падпарадкоўваліся агульным правілам. Адзін хлопец псыхічна хворы быў. Вельмі шкада яго, бо яму не давалі патрэбных лекаў, а бязь іх ён упадае ў дэпрэсію і ўсяго палохаецца. Бамжоў двое было, але па чарзе. Адзін зваўся Сірожа. Яго адмылі яшчэ да мяне, і ён ціха сядзеў у куточку. Пасьля яго адпусьцілі. Пасадзілі наступнага. Але ён самастойна адмыўся, бо сам прасіўся да палітычных. Яго нават выводзілі з камэры на ўсялякія работы. Аднойчы яму далі на кухні вялізную торбу турэмных катлет, дык ён прынёс у камэру „для ўсіх“. Мы елі, чаму ж не. Чалавек жа стараўся, зарабіў, нёс, клапоцячыся аб нас, бо перадач не даюць. Бялізны, натуральна, няма, прагулак таксама, ад сьпёртага паветра ва ўсіх кашаль і вочы заплываюць гноем. Ну а вошы — гэта сьвятое.

Хлопцаў маладых шкада, бо іх вельмі моцна б’юць у губазіку. Адзін быў пабіты так, што мог ляжаць толькі на жываце. Паклалі яго пад краты, дзе троху цягне халодным паветрам. Так ён мог спаць.

Тым, хто памятае Савецкі Саюз, псыхалягічна лягчэй: мы, у адрозьненьне ад моладзі, не зьдзіўляемся, што „к людям можно вот так относиться“; мы нічога не чакаем, ні на што не спадзяёмся і ні ў што ня верым. Закрылі? Ну дык сядзі і ня злуй „гражданина начальника“, бо самому ж горш будзе. Прыдзе час — і ўсё вернецца.

Вернецца абавязкова!

Бо век так ня будзе.

Жыве Беларусь!

---

12 лістапада

## ВЫЗВАЛЕНЬНЕ ХЕРСОНУ

*Добраахвотнік Алег „Альгерд“ Аўчыньнікаў:*

Я на вайне зь лютага 2022 году. Зь вясны з кароткімі перапынкамі быў на фронце, на херсонскім кірунку. Наша група апошні час займала пазыцыю каля сяла Аляксандраўка, што за сорак кілямэтраў ад Херсону. Гэта быў стратэгічна важны пункт, бо ад яго наўпрост ідзе дарога да абласнога цэнтру.

Літаральна за дзень да вызваленьня Херсону мы з пабрацімамі змаглі здабыць сабе мінамёт, які быў у адной з разьбітых машын. Апэрацыя рыхтавалася даўно, а там якраз усё сышлося. У самой

Аляксандраўцы ўжо не было мірных грамадзян, таму па вёсцы білі ўкраінскія сілы.

Ад траўня я быў на херсонскім кірунку. На ўтрыманьне пазыцыі і наступы пайшло шмат і фізычных сілаў, і матэрыяльных рэсурсаў, і некалькі нашых машын зьнішчылі, і боекамплект расстралялі. Але цяпер адчуваю задавальненьне ад выкананай працы.

Шчыра не чакаў такога хуткага адыходу расейскіх войскаў, але інакш расейцы маглі б трапіць у „кацёл“ і вайна за Херсон для іх абярнулася б вельмі вялікімі стратамі.

Калі расейцы адышлі, то ў горад сталі заходзіць Узброеныя сілы Ўкраіны, а менавіта спэцназ, выведка. А мы ўжо зайшлі 12 лістапада ў складзе арганізаваных армейскіх калёнаў. У прынцыпе, у той момант было ўжо бясьпечна заходзіць у горад. Але расейцы пакінулі шмат замінаваных аб’ектаў, вось у гэтым небясьпека была.

Адчуваньні ад уваходу ў горад цяжка перадаць словамі, але гэта было вельмі эмацыйна і натхняльна.

Мабыць, усе бачылі кадры, як вайскоўцаў сустракалі з кветкамі, насілі на руках. Літаральна ўсё так і было! Мы заходзілі на другі дзень, людзей на вуліцах было ўжо трошкі менш, але ўсё было тое ж самае. Людзі падбягалі да нас, ціскалі, фатаграфаваліся, цукеркамі частавалі. Уражаньні самыя сьветлыя. Калі даведаліся, што мы беларусы, то любоў іх проста перапаўняла. Херсонцы вельмі любяць беларусаў, асабліва тых, хто ваюе за Ўкраіну (*сьмяецца*).

У Херсоне баявых дзеяньняў асаблівых не было. Разбураныя толькі тыя аб’екты, якія зьнішчалі

расейцы пры адыходзе — масты, тэлевежа. У цэлым Херсон ня ў лепшым стане: ЖКГ не працавала ўвогуле, забесьпячэньнем людзей таксама ніхто не займаўся, расейцам на гэта было пляваць. Калі мы зайшлі ў горад, то не было электрычнасьці і тэлефоннай сувязі, цяпер сувязь крыху пачынае зьяўляцца. Працуюць некаторыя кавярні — за кошт генэратараў.

Шмат паўсюль прапагандысцкіх плякатаў — „Россия здесь навсегда“, „Русские и украинцы — один народ“, але цяпер ад іх пазбаўляюцца і самі мясцовыя жыхары, і жаўнеры ЗСУ.

Шчыльна паразмаўляць зь людзьмі часу проста не было, але гаварылі, што пры акупацыі было вельмі цяжка. Людзей у горадзе шмат, не сказаў бы, што пустынны. Людзі ўсе з украінскай сымболікай — гэта вельмі натхняе. Нас сапраўды сустракалі як вызваліцеляў. Нам былі гатовы аддаць апошняе толькі за тое, што мы іх вызвалілі. Уяўляю, што ў Беларусі будзе тая самая карціна, калі будзем яе вызваляць.

---

30 лістапада

## „КАБ ЯНЫ СЬМЕРЦІ ПРАСІЛІ“

*Сяргей:*

Я трапіў у калёнію як фігурант крымінальнай палітычнай справы. Мне прысудзілі два гады пазбаўленьня волі.

У шклоўскую калёнію прывезьлі ўлетку 2021 году. Пасьля гібелі Вітольда Ашурка адміністрацыя

спужалася, пэўны час там перасталі біць вязьняў. Пры мне гэта былі адзінкавыя выпадкі. Да таго, як я трапіў у калёнію, як расказвалі вязьні, было горш. Мне гаварылі: „Табе пашанцавала. Яшчэ паўтара месяца таму нас жорстка білі тут“.

Я і сам ня раз трапляў у штрафны ізалятар. Але немагчыма там самому сабе нанесьці пашкоджаньні, як сьцьвярджала адміністрацыя калёніі пасьля гібелі Вітольда. Як было на відэа, дзе ён ходзіць па камэры і потым падае і б’ецца галавой. Па-першае, у ШЫЗА ты сядзіш пад камэрамі назіраньня ўвесь час. Па-другое, кожныя 5-10 хвілін да цябе зазірае ахоўнік. Вязьні, зь якімі я перасякаўся, гавораць, што Вітольда білі. Бо ён, бадай, адзіны быў у калёніі, хто мог адкрыта выказваць свае думкі і сваё стаўленьне да адміністрацыі. Ён называў іх адкрыта „здраднікамі і ворагамі“.

Людзей у калёніі могуць біць бяз дай прычыны. Але Вітольда білі за ягоны характар і выказваньні. На яго ціснулі і маральна, і фізычна. Бо ён быў небясьпечны для адміністрацыі. Менавіта таму, што адкрыта выказваў свае думкі і такім чынам „падрываў аўтарытэт адміністрацыі калёніі“.

Да 2017 году шклоўская калёнія была „чорнай“. Гэта значыць, што там панавалі парадкі, вызначаныя самімі зьняволенымі. Як успаміналі „старажылы“, тады можна было набыць наркотыкі, алькаголь, нажы і заточкі. Адміністрацыя доўга змагалася з гэтым і ў выніку перамагла — „зона“ стала „чырвонай“, цалкам падпарадкаванай адміністрацыі. Не жадаючы дапускаць старых парадкаў, адміністрацыя жорстка абыходзіцца зь любымі праявамі непадпарадкаваньня. Але я ня

думаю, што гібель Ашурка была мэтанакіраваным забойствам.

Яны проста не разьлічылі, што арганізм ня вытрымае і чалавек проста памрэ. Мэта была зламаць яго маральна.

Калі я трапіў у Шклоў, то размовы пра сьмерць Вітольда маглі быць небясьпечнымі для вязьняў. Мне гаварылі, што ня варта пра гэта нават размаўляць ці пытацца, бо нешта з табой можа здарыцца.

На відэа з калёніі, дзе палітвязень па́дае ў камэры ШЫЗА, відаць, які ён худы і зьнясілены. Гэта ня дзіва. Адзін знаёмы зьняволены за два тыдні страціў 20 кіляграмаў вагі. Актыўных адміністрацыя ставіць на самую цяжкую працу, на начныя зьмены. Вось пацягае чалавек ноччу бярвёны, потым ня высьпіцца ўдзень. Калі палітычны, то ён пазбаўлены перадач як „злосны парушальнік“. Харчаваньне на зоне ніякае. Мала сьпіш, мала ясі, шмат і цяжка працуеш — вось чалавек і зьнясілены.

Пасьля выступу Лукашэнкі ў 2015 годзе невыносныя ўмовы адбыцьця пакараньня стварылі для „наркаманаў“ — тых, хто адбываў пакараньне паводле артыкулу 328. У 2015 годзе Лукашэнка загадаў стварыць для іх такія ўмовы, „каб яны сьмерці прасілі“.

Менавіта тады ў калёніях зьявілася новая „праца“ для вязьняў — ачышчаць кабэлі, здабываць медзь і алюміній. Праца вельмі цяжкая. Плацілі за яе капейкі. Потым, пасьля дзеяньняў кампаніі „Маці 328“, да „наркаманаў“ сталі ставіцца трохі лепш. Але выпрацаваную мэтодыку — „каб яны

сьмерці прасілі“ — пачалі ўжываць у 2020 годзе да палітычных.

Першымі пасьля падзеяў 2020 году ў шклоўскую зону заехалі дзевяць палітычных, у тым ліку і Вітольд Ашурак. Іх максымальна хутка зрабілі „злоснымі парушальнікамі“, пазбавілі спатканьняў, перадач. Стаць „злосным парушальнікам“ там надзвычай лёгка. На цябе прыйшоў загад „зьверху“ — і цябе робяць парушальнікам. Я сам быў сьведкам, калі на праверцы да аднаго зь вязьняў прычапіўся канвойны: „Чаму вы не паголены?“. А ён толькі што пры мне галіўся. Той кажа: „Я паголены“. Але канвойны сваё: „Якая прычына таго, што вы не паголены?“. Тут жа рапарт.

Яшчэ могуць на загад адміністрацыі „заганяць у гарэм“ — гэта значыць пераводзіць у статус „апушчаных“, людзей зь „нізкім сацыяльным статусам“. Гэта лёгка зрабіць з кожным. Напрыклад, звычайны зьняволены ня можа браць у рукі сьметніцу, каб выносіць яе, ці падняць нешта з падлогі ў прыбіральні, нават калі ў цябе гэта выпала з кішэні. Чалавеку даюць сьметніцу: „На, вынесі“. Ён згаджаецца — і трапляе ў катэгорыю „апушчаных“. Не згаджаецца — ідзе ў ШЫЗА. Пры мне жорстка катавалі звычайнага крымінальніка толькі за тое, што ён добра ставіўся да палітычных і размаўляў зь імі. Намесьнік начальніка па рэжыме і апэратыўнай працы сам асабіста пабіў яго. Пасьля яго кінулі ў ШЫЗА і папярэдзілі, каб больш ніякіх зносінаў з палітычнымі.

Намесьнік начальніка па рэжыме і апэратыўнай працы быў аматарам біць зьняволеных. Намесьнік начальніка па ідэалёгіі быў аматарам маральна ціснуць на іх.

Адміністрацыя зоны шмат увагі зьвяртае на словы, размовы сярод вязьняў. Больш за ўсё яны баяцца размоваў, выказваньня нейкіх ідэяў, калі ты даносіш нейкую інфармацыю, якая можа ўскалыхнуць сьвядомасьць іншых. За табой назірае ня толькі апэратыўнік, але яшчэ і пяць зэкаў, якія даносяць. Я трапіў у ШЫЗА, мне начальнік апэратыўнай працы перадаў менавіта тыя словы, якія я сказаў у атрадзе. За дзьве фразы я пайшоў у ШЫЗА.

Калі палітычнага пазбавілі ўсяго (перадач, атаваркі, спатканьняў), то іншыя зэкі могуць яму дапамагчы. Падзяліцца яблыкамі ці цыгарэтамі. Але гэта будзе пакарана. Ведаю выпадак, калі аднаму палітычнаму перадалі яблык. Тут жа нехта данёс. І палітычны (не звычайны зэк) панёс пакараньне за той яблык. Быў іншы выпадак. Адзін палітычны падзяліўся прадуктамі з зэкам. Вядома, зноў быў пакараны палітычны. Бо ў „Правілах унутранага распарадку“ ёсьць такі пункт, што нельга перадаваць іншаму сваю маёмасьць. Хоць для звычайных зэкаў гэтае правіла ня дзейнічае. Яны адміністрацыі не цікавыя, на іх заплюшчваюць вочы.

Стукачы маюць сваю зацікаўленасьць у супрацы з адміністрацыяй і ціску на палітычных. Ім могуць даць больш спатканьняў, могуць зьмяніць рэжым на лягчэйшы. Таму яны і рупяцца так у сваёй справе.

30 лістапада

## АД СТОМЫ БЫЛІ ГАЛЮЦЫНАЦЫІ

*Андрэй:*

Я ўцёк зь Беларусі адразу пасьля суду, на якім мне прысудзілі 2 гады „хіміі“ паводле артыкулу аб абразе прадстаўніка ўлады.

Беларуска-ўкраінскую мяжу перайшоў пешшу. І толькі на чацьвёрты дзень „падарожжа“ сустрэў людзей.

Мне 43 гады, я з Маларыты. У верасьні 2021 году зрабіў рэпост на сваёй старонцы ў фэйсбуку роліка блогера Максіма Шабуцкага пра міліцыянтаў. Сьледзтва палічыла гэта абразай службовай асобы. Мяне затрымалі на пяць дзён праз год. Пасьля прысуду вырашыў уцякаць з краіны, бо баяўся, што падчас адбываньня пакараньня зробяць больш жорсткім рэжым і хімію заменяць на калёнію.

Рашэньне ўцякаць прыйшло спантанна, сабраўся недзе за пяць гадзін. Узяў запасныя чаравікі, апрануўся вельмі цёпла: у некалькі пластоў, чаргаваў сынтэтычнае адзеньне з натуральным. Узяў вады з сабой трохі, ежы. Калі вада скончылася, тапіў сьнег у бутэльцы.

Пераходзіць мяжу вырашыў не ў сваім Маларыцкім раёне, бо там пад кожным кустом сядзяць памежнікі. Выбраў больш багністую мясцовасьць у раёне Драгічына і Янава. Пераходзіць мяжу было вельмі страшна, але яшчэ больш не хацелася апынуцца ў турме.

Мала таго, што гэта балоты, там яшчэ і вельмі сур'ёзна ўсё абаронена — масты ўзарваныя, на дарогах міны, я ўсё гэта бачыў. На беларускім баку бачыў мядзьведжы бярлог, ва Ўкраіне дзік побач прабягаў.

Спачатку я арыентаваўся па запампаванай загадзя мапе, але тэлефон сеў на другі дзень. Далей прыйшлося ісьці па памяці і арыентавацца па сьцежках.

Першыя дзьве ночы ў дарозе я адпачываў, але ня спаў. Бліжэй да трэцяй ночы ад стомленасьці зьявіліся галюцынацыі: галінкі дрэў складаліся ў карцінкі: то цягнікі, то машыны. Начлег удалося зладзіць у альтанцы на ўкраінскім баку, на якую я натрапіў. Каля альтанкі знайшліся дровы, я расклаў вогнішча і здолеў сагрэцца.

На чацьвёрты дзень выйшаў да возера, дзе сустрэў рыбакоў і папрасіў іх патэлефанаваць куды-небудзь і паведаміць пра мяне.

Яны нармальна мяне сустрэлі, я зь імі па-ўкраінску гаварыў, я ж з такога рэгіёну, што мову ведаю.

Рыбакі патэлефанавалі памежнікам, абагрэлі мяне, накармілі і напаілі гарбатай. Пазьней мяне забралі байцы тэрабароны і перадалі памежнікам. Тыя адвезьлі ў Луцк, дзе я трапіў на праверку ў СБУ.

Праверка працягвалася гадзіны чатыры, можа пяць, з паліграфам. Пыталіся пра ўсё: ці былі кантакты зь беларускімі спэцслужбамі, з расейскімі і гэтак далей. Ім жа галоўнае было высьветліць, што я не шпіён.

Пасьля праверкі мне далі даведку, якая пацьвярджае, што я папрасіў статус уцекача і зна-

ходжуся ва Ўкраіне легальна. Мяне адпусьцілі, і я паехаў у Львоў. Ужо ў Львове змог адпачыць і нармальна паспаць. З начлегам і забесьпячэньнем мне дапамагаюць беларусы з дыяспары і фонд „Вільна Білорусь“.

Цяпер спадзяюся атрымаць візу і паехаць у польскі горад Гданьск. Там ёсьць мае аднапартыйцы зь Беларускай народнай грамады, якія могуць дапамагчы з працай і адаптацыяй у Польшчы. У Беларусі ў мяне засталіся дзьве дачкі і каханая жанчына.

7 сьнежня

# ФУТБОЛ У КАЛЁНІІ

*Алег Грузьдзіловіч:*

Футбол быў першым, што я пабачыў у калёніі. Нас вывелі з карантыннага бараку ў лазьню, пашыхтавалі на вуліцы. Побач ішла будоўля, людзі везьлі на вазках аконныя рамы. Зэкі, але апранутыя, як звычайныя рабацягі. І вось ідзём мы паміж двух корпусаў, нейкая брама. Паварочваем налева — і тут я раптам бачу стадыён, засыпаны пяском. А на ім ганяюць мяч хлопцы. Зь нейкай вар'яцкай хуткасьцю. Як быццам у іх нейкая батарэйка ўнутры. Я такіх хуткасьцяў у жыцьці нармальным ня бачыў. Магчыма, людзі так выседжваюцца за кратамі, што потым настолькі хутка бегаюць. Я ня ведаю.

Футбольны стадыён у калёніі моцна адрозьніваецца ад таго, які можна пабачыць у вольным жыцьці. Гэта прастакутная пляцоўка, засыпаная ўтрамбаваным пяском. Агароджаная па пэрымэтры. Па пэрымэтры таксама пратаптаная сьцежка, дзе ахвочыя займаюцца бегам, у тым ліку падчас футбольных матчаў.

На другім баку стадыёна арганізаваныя трыбуны. Там вязьні заўзелі за каманды стоячы. Заўзятары ўсе ў чорным. Вядома, ніхто асабліва не крычыць, такога няма. Але сьвіст ці воклічы бываюць. Ахоўнікаў пры гэтым не відаць. Сам стадыён агароджаны высокім плотам з мэталічнай сеткі. Ахоўнікі запускаюць туды гульцоў і заўзятараў і самі не ідуць далей. Назіраюць звонку.

Стадыён крыху меншых памераў, чым звычайны футбольны, але вялікі. Брамы таксама меншыя. Гэта нешта сярэдняе паміж хакейнай пляцоўкай і звычайным футбольным стадыёнам.

Гуляюць у футбол вязьні звычайна ў спартовай форме — футболкі, майткі і абутак. Пры гэтым падчас „засяленьня“ ў калёнію мець пры сабе такі рэчы забаронена. Усё гэта пазьней зьняволеным перадаюць родныя пры спатканьнях.

Хтосьці гуляе нават у спартовых штанах, калі холадна. На нагах красоўкі. Мне ўсё гэта вельмі цікава было паглядзець, вядома. Як быццам ты на нейкі момант забыў пра турму і апынуўся ў нармальным жыцьці. Пасьля мяне вярнулі на карантын, а адтуль я ўжо ў ШЫЗА трапіў. І вось іду адтуль з сваім вялізным матрацам, чалавек вядзе мяне ў атрад. І аказалася, што мой 9-ы атрад акурат насупраць стадыёну. А там зноў бегаюць, гуляюць зэкі. Было ўражаньне, што яны ўвесь час гуляюць у футбол. І так яно амаль што і бывае.

Футбол настолькі папулярны за кратамі, што ў калёніі нават праводзяць уласны чэмпіянат, які цягнецца некалькі летніх месяцаў. Свая каманда ёсьць у кожным атрадзе, а іх у калёніі было каля дваццаці. Не гулялі толькі сядзельцы з так званага „пэнсіянэрскага“ атраду, дзе сабралі вязьняў пажылога ўзросту.

Футбол — гэта другі па папулярнасьці спорт у калёніі пасьля трэнажэраў. Саматобныя трэнажэры каля кожнага атраду ёсьць. А на стадыён ужо прыходзяць толькі аматары футболу. На выходных стадыён заняты ўвесь час. Адныя каманды прыходзяць, іншыя сыходзяць. Графік робяць. У будны дзень таксама, калі работы скончаныя.

Яны заканчваюцца прыкладна каля 14-й гадзіны, бывае і раней, тады вязьні адразу ідуць гуляць альбо заўзець.

Адміністрацыя калёніі нават вітае захапленьне вязьняў футболам, бо яны тады чымсьці занятыя і не сядзяць у атрадах, нічога ня робячы. Людзі стараюцца запісацца на стадыён амаль пагалоўна, але ўдаецца ня ўсім.

Я пайшоў да начальніка атраду з заявай, а ён мне сказаў, што не, што я там „буду гуртавацца і ячэйкі ўсякія ствараць". То мне загадалі сядзець у атрадзе. І акурат пачаўся чэмпіянат калёніі.

Для чэмпіянату вязьням дазволілі мець нешта накшталт формы. Звычайна вязьням не дазваляюць мець сьветлае ці каляровае адзеньне. Толькі цёмнае і шэрае. Але футболу гэта не датычыць.

Я са зьдзіўленьнем пабачыў, што хлопцы прыходзяць на стадыён, пераадзяваюцца — і ў іх усё рознакаляровае. Аказваецца, на футболе можна. Гэта ўсё вязьні атрымліваюць альбо ў пасылках, альбо на спатканьнях. Неяк умудраюцца мець. У выніку адна каманда бегае ў чырвоных футболках, другая ў белых. А ніз, гетры — ужо хто як. Нумароў на сьпінах ня памятаю. Каманда звычайна 6-7 чалавек. Буцаў няма, красоўкі звычайныя. Замены таксама інакш адбываюцца. Пабегаў чалавек і адпачывае, замест яго нехта іншы. Потым зноў мяняюцца.

Пільнуюць парадку на матчах адмыслова выбраныя судзьдзі, таксама зь ліку вязьняў. Яны нават маюць сьвісткі. Ёсьць і таблё, на якім вывешваюць лік. Падчас чэмпіянату на наведваньне стадыёну ў пэўны час запісваюцца як гульцы, так

і гледачы. А вось адмысловага агляду пры ўваходзе на стадыён у калёніі няма.

У кожнай камандзе на чэмпіянаце калёніі можна было вылучыць 2-3 чалавек, якія гулялі на вышэйшым за іншых узроўні.

Мячы ў кожнай каманды свае, яны захоўваюцца ў капітана. Я ў атрадзе акурат трапіў у пакой, дзе жыў капітан нашай каманды. Мячы захоўваліся ў шафе. Прычым фармальна гэта ўсё забаронена трымаць. Правяраюць па сьпісах рэгулярна. Тумбачкі, шафы. Бываюць незаплянаваныя кантралёры ў выходныя пэрыядычна. Усё правяраюць. Але футбольных мячоў не чапае ніхто. Да спартовага адзеньня таксама не чапляюцца.

Футбольныя матчы ў калёніі адрозьніваюцца ад гульняў на свабодзе яшчэ і лексыкай. За кратамі катэгарычна забароненае выкарыстаньне мацюкоў, хоць гэтае правіла часта вязьні абыходзяць. Карыстацца словамі, якія ганебна апісваюць асобаў нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі, што часта здараецца на стадыёнах на ўсім сьвеце, у калёніях катэгарычна нельга. Такі ўчынак можа мець самыя трагічныя наступствы.

Калі так скажаш, то будзеш адказваць за свае словы. Эмоцыі, вядома, праяўляюць вязьні-футбалісты і гледачы. Мне наагул здалося, што там заўзеюць людзі больш аддана, больш эмацыйна. Калі каманда з нашага атраду выйшла ў фінал, то частка вязьняў пайшла на стадыён, а частка назірала за гульнёй проста з вакна. Чалавек 20 набіліся туды. Ім ужо цяжка было глядзець. Я ў сваім пакоі быў тады і нават адтуль дакладна ведаў пра падзеі гульні. Увесь корпус трося. У фінале нашы пасьля выйгралі. Цікава, што калі

ў атрад заходзілі кантралёры, то яны не чапалі заўзятараў, не ганялі іх. На час футбольных матчаў звыклае турэмнае жыцьцё нібы спынялася, было крыху нармальнасьці ў нас.

Канфліктаў паміж заўзятарамі розных камандаў у калёніі, як і паміж футбалістамі, не бывае. За гэтым вельмі пільна сочаць ахоўнікі, пры любой вострай сытуацыі людзей разводзяць па розных атрадах.

Чэмпіянат у нашай калёніі працягваўся даволі доўга. Памятаю сходы вязьняў: кіраўнік атраду на іх абвяшчаў, колькі мы маем спагнаньняў і колькі заахвочваньняў. Рапартуе так — што на вытворчасьці, што ў культуры ў нас. І агучвалі таксама і футбольныя дасягненьні — і якія ў нас яшчэ сустрэчы і якія прамежкавыя дасягненьні, і нарэшце мы выйшлі ў фінал і перамаглі. Я глядзеў гэтую гульню. Але яшчэ раней заўважыў, што ў нашым атрадзе адзін вельмі добры футбаліст ёсьць. І аказалася, што гэта былы гулец „Крумкачоў“. За краты ён трапіў у 2018 годзе, быў асуджаны паводле „наркатычнага“ 328 артыкулу. Пасьля перамогі ў чэмпіянаце калёніі яму дазволілі працягваць адбываць пакараньне ўжо на „хіміі“.

Ня ведаю дакладна, ці было гэта вынікам нашай перамогі, альбо ў яго проста так тэрмін падыходзіў. Бо калі дзьве траціны тэрміну прайшло, то могуць перавесьці, калі спагнаньняў няма і ёсьць заахвочаньні. Але, хутчэй за ўсё, гэта было зьвязана з чэмпіянатам, бо яго перавялі ўжо праз 2-3 дні пасьля фіналу. У нас у атрадзе застаўся кубак пераможцаў, гэты хлопец яго пакінуў нам. Такая тыповая спартовая ваза. Паставілі ў атрадзе на паліцы.

Ахова калёніі альбо афіцэры, адказныя за атрад, футболам зьняволеных не цікавяцца. Прынамсі, я не заўважаў, каб яны заўзелі за кагосьці. Але ставяцца да „футбалістаў“ прыязна, падчас гульняў сочаць за падзеямі на стадыёне.

Да спорту ў тэлевізары там увогуле дзіўныя адносіны. У кожным атрадзе, як правіла, палова моладзі. А другая палова — людзі сярэдняга ўзросту. І ў іх вельмі не супадаюць густы што да прагляду тэлевізара. А ён жа адзін. Звычайна тэлевізар захопліваюць тыя, каго большасьць. Мне ніводнага разу не ўдалося паглядзець футбол. Нават калі ўдавалася на пяць хвілін уключыць, то хтосьці там сядзеў, нейкі вязень, які пераключыць. Знойдзе нейкі тупы фільм і будзе глядзець. Звычайна чамусьці тыя захопліваюць, хто паводле 328-га артыкулу сядзяць. Такая публіка.

За кратамі гульня ў футбол — гэта яшчэ і ўдзел у грамадзкім жыцьці калёніі, атраду. За гэта вязьні атрымліваюць заахвочаньні ад кіраўніцтва. Гэта лічыцца плюсам. Там жа ня толькі спагнаньні ёсьць — цэлая сыстэма існуе такіх рэчаў, якая нібы перавыхоўвае чалавека. Шмат каму важна мець заахвочаньні. Каманды, якія прайграюць, таксама іх атрымліваюць. Але я скажу, што людзі за кратамі гуляюць у футбол не за гэта. Гуляюць, каб атрымаць задавальненьне. Гэта такі чысты футбол. Ні за грошы, ні за што, толькі для сябе, за адчуваньне свабоды.

7 сьнежня

## ПАСЬЛЯ АПЭРАЦЫІ Ў ТУРМЕ

*Тацяна Хоміч, сястра Марыі Калесьнікавай:*

Сустрэча Марыі ў бацькам была кароткай — толькі дзесяць хвілін. Вядома, тата адзначыў, што Маша схуднела, гэта відаць. Выглядае яна нядрэнна. Дактары сьцьвярджаюць, што ёй аказваюць усё неабходнае лячэньне зараз. Але яна кажа, што цяпер ёй ня вельмі падыходзіць гэтая ежа. І лекары паабяцалі скарэктаваць харчаваньне.

Сустрэчу з бацькам у шпіталі я лічу „выключэньнем“. Магчыма, яе дазволілі для таго, каб бацька змог пераканацца, што з Марыяй усё ў парадку.

Марыя са студзеня ў калёніі, і была толькі адна кароткатэрміновая сустрэча на чатыры гадзіны. Штораз знаходзіліся нейкія прычыны, каб адмяняць гэтыя сустрэчы. Яны павінны былі быць увесну, улетку. Іх адмянялі праз надуманыя спагнаньні. Гэтаксама, як і цяпер. Марыя была ў ШЫЗА, 17 лістапада яна паведаміла адвакату, што яна будзе ў ШЫЗА, і гэта стала, зноў жа, наступствам таго, што на яе наклалі некалькі спагнаньняў.

Адно зь іх было накладзенае за тое, што Марыя нібыта знаходзілася ў працоўны час у непрацоўным месцы. Два іншыя — за тое, што Марыя камусьці нібыта нагрубіяніла. Усё гэта — спосаб ціску на сястру. Бо Марыя заўсёды размаўляе ветліва і паважліва.

Марыя ў панядзелак пры сустрэчы з бацькам расказала, што прасіла перадаць яму пра свой дыягназ (прабадная язва) некалькі разоў. І яна вельмі зьдзівілася, калі тата сказаў, што цягам

мінулага тыдня, калі ён сустракаўся зь лекарам, так і не сказалі, які ў яе дыягназ.

Прычыны раптоўнага пагаршэньня здароўя назваць не магу, бо ў Марыі не было належнага абсьледаваньня ў зьняволеньні.

Вядома, гэта можа быць стрэс, але ёсьць і іншыя прычыны. Вядома, павінны быць праведзены адпаведныя аналізы. Але, разумеючы тыя ўмовы, у якіх Марыя знаходзіцца, і тое, што стрэс зьяўляецца частай прычынай язвы, хутчэй за ўсё, гэта стала прычынай. І зьмяшчэньне ў ШЫЗА — гэта вельмі вялікі стрэс для кожнага чалавека.

Насамрэч я таксама вельмі рада была ўбачыць Марыю на гэтым здымку з праўладнага тг-каналу. Цэлы вечар панядзелка я яго разглядала. Відаць, што Марыя схуднела. Але хаця б тата змог убачыць, што яна жывая. І, вядома, тут таксама варта сказаць, што гэта была ня першая сустрэча за гэтыя два гады, але гэта быў першы раз, калі яны змаглі адно да аднаго дакрануцца і абняцца.

---

9 сьнежня

## У ГОМЕЛЬСКАЙ ЖАНОЧАЙ КАЛЁНІІ

*Алена, былая палітзьняволеная:*

Я нядаўна вызвалілася з гомельскай калёніі. Там пабывала ў розных атрадах з рознымі ўмовамі. Пяты атрад — найлепшы, паказальны па ўмовах. Штодзённы душ, добры рамонт, прасторна, вялізная кухня, асобны пакой для вопраткі і абутку. Туды нас накіроўвалі, як у санаторый. Таксама

там сядзелі тыя, каго берагуць „опэры“: гэта тыя жанчыны, якія „супрацоўнічаюць“.

Сядзелі ў пятым атрадзе розныя людзі. У тым ліку адна палітычная, якая супрацоўнічала з „опэрам“. Яна атрымлівала шмат лістоў. Мне не аддавалі ніякіх.

Пасьля пятага мяне перавялі ў атрад з жахлівымі ўмовамі. Душу там не было, стаяў смурод, мяне аж ванітавала. Стары жалезны рукамыйнік. Там былі пасьцельныя вошы. Унітазы стаялі насупраць адзін аднаго ў два шэрагі. Сядзіш і ўтыкаесься носам у чужыя майткі. Каб выйсьці — пераступаеш праз калені іншых, заплюшчыўшы вочы. Бо ёсьць людзі, якія ня ведаюць, што такое чысьціня і гігіена.

Я працавала на швейнай вытворчасьці. Першая зьмена пачыналася а 8-й раніцы. Перад гэтым — шыхтаваньне, пераклічка. Пасьля арганізаваны паход на працу. Зьмена працягваецца да 15:00. Потым вяртаньне ў атрад. На фабрыцы вельмі шумна. Праз гадзіну знаходжаньня там галава проста разрываецца на часткі.

Заробкі ў вязьняў мізэрныя. Ёсьць два разьлікі. Адзін афіцыйны, дзе большыя лічбы. Другі — рэальны. З заробкам, якога хапае на тры пачкі самых танных цыгарэт. Гэта проста выкарыстаньне рабскай працы. І ахоўнікі ставяцца адпаведна, як да рабоў. Кантралёры крычаць. Прымушаюць выконваць імі прыдуманыя нормы выпрацоўкі. За невыкананьне пляну сварацца, караюць.

Кацярыну Андрэеву разьмеркавалі спачатку ў так званы „прэс-атрад“. Празь яго прайшлі Тацяна Канеўская, Антаніна Канавалава. Цяпер там Соф’я Сапега. Яе жорстка прэсуюць, і ўжо доўгі час.

Яшчэ хачу заўважыць, што ў калёніі былі такія выпадкі: адна палітычная супрацоўнічала з „опэрам“. Яшчэ адна зьнюхалася з крымінальніцай і зьдзекавалася зь іншых палітычных дзяўчат. І яшчэ адна, якая сядзіць нібыта праз палітыку, за „абразу“, такое на нас гаварыла, што нават губазік здаецца больш гуманным.

Каці было вельмі цяжка. Яна чулы чалавек, ёй цяжка было спраўляцца з маральным ціскам натоўпу маргінальных асобаў. Яна іх баялася. Каці забаранялі стасункі з намі. Толькі зрэдку маглі перакінуцца словам. Яна ледзь стрымлівала сьлёзы і казала, што ёй цяжка гэты ціск выносіць.

Калі Кацярыне дадалі тэрміну, яна вярнулася ў калёнію і яе разьмеркавалі ў лепшы атрад. Але на фабрыцы яна нават не глядзела ў наш бок, бо яе запалохалі. Калі Каця была яшчэ ў „прэс-атрадзе“, у першым тэрміне, супраць яе чынілі правакацыі. З падачы „апэратыўнага куратара“, яго завуць Аляксандар Кузьняцоў. Кузьняцову дапамагала адна крымінальніца, махлярка Тацяна Г. Яна на загад опэра падкінула Тацяне Канеўскай нататнік Каці Андрэевай. На іх абедзьвюх у выніку „павесілі“ спагнаньне. Канеўскую кінулі ў ШЫЗА. Пазьней яе перавялі наагул у крытую турму. Каця атрымала спагнаньне і чарговыя зьдзекі ад супрацоўнікаў калёніі.

Тацяна Г. у іншай палітычнай украла прадукты. Адміністрацыя на такое не рэагавала, толькі сьмяялася і зьдзекавалася з той палітычнай.

Каб „павесіць“ на Кацю чарговае спагнаньне, кантралёрка падкінула ёй у кішэню пігулку. Нават не падкінула, а зрабіла выгляд, што дастае ў яе з кішэні пігулку са словамі: „Ой, пігулка“. Дзяўчаты

бачылі, што кантралёрка трымала гэтую пігулку ў руцэ перад тым, як лезьці ў кішэню да Каці. Каця атрымала чарговае пакараньне, кантралёр — прэмію за добры прэсінг.

*Аксана, былая палітзьняволеная:*

Палітычным, вядома, найгорш у калёніі. Там сядзела жанчына, якая ўдзельнічала ў забойствах, дык яна была ў пашане ў адміністрацыі. Атрымлівала не спагнаньні, а толькі заахвочваньні. Калі звычайная асуджаная можа мець проста „прафіляктычную гутарку“ за парушэньні, то для палітычных гэта будзе адназначна ШЫЗА. Прычым кантралёры практыкавалі гэта актыўна. Адна нават хвалілася перад намі, што за спагнаньні атрымлівае прэміі — па 35 рублёў за рапарт. Калі пасадзіць чалавека ў ШЫЗА, то за гэта ёй будзе 70 рублёў.

Палітычным зьняволеным атрымаць спагнаньне вельмі лёгка. Пад'ём а шостай гадзіне. Калі палітычная ўстане раней — спагнаньне. Калі пазьней хоць на хвіліну — спагнаньне. Некаторыя стараліся падняцца раней, каб пасьпець памыцца ці схадзіць у прыбіральню. Крымінальніцам гэта можна было, палітычным не. Кантралёры жорстка сачылі. Я ведала адну палітычную, якая атрымала спагнаньне, бо ня стала пісаць на загад супрацоўнікаў калёніі эсэ на тэму „Генацыд беларускага народу“.

Калі забойцы і махляркі мелі доўгатэрміновыя спатканьні па тры дні, то для палітычных спатканьні былі не даўжэйшыя за 24 гадзіны. Маглі і пакараць, скасаваць сустрэчу з блізкімі.

На фабрыцы такія нормы, што іх проста немагчыма выканаць. Таму калі зьмена пачыналася а восьмай, то ішлі да шостай раніцы, каб пасьпець выканаць нормы. Калі зьмена з 14-й гадзіны, то ішлі да 10-й. Атрымлівалі і па адным рублі, і па пяць. Але маглі, выпрацаваўшы норму, нават і 70 рублёў атрымаць. Аднак гэта рэдка.

На фабрыцы шылі розную форму: для ратавальнікаў, міліцыі, вайскоўцаў. Шылі бронекамізэлькі. Нядаўна шылі ў рэжыме аўралу вайсковыя насілкі для пераносу раненых. Ня ведаю, для беларускіх ці для расейскіх.

Летась быў такі падман. Усіх прымушалі пісаць прашэньні пра памілаваньне і моцна ціснулі: „Пішы, пішы“. Некаторыя нават пачалі спадзявацца на вызваленьне і пісалі. Але ўсім прыйшлі адмовы, зразумела. Зь лютага перасталі перадаваць лісты. Кантралёры зьдзекаваліся і казалі: „Вам ніхто ня піша, пра вас усе забыліся“.

Маральны ціск на палітычных там кожную хвіліну. Ня так стаў, ня так сеў. Праверкі, „шмоны“ адбываюцца вельмі часта. Прыбягаюць кантралёры, вывернуць усё дагары нагамі. Ці, напрыклад, курыш, а якая-небудзь крымінальніца тут жа капаецца ў сьметніку, шукае недакуркі. Неяк шкада чалавека. Дасі цыгарэту — і атрымаеш спагнаньне за гэта. Бо, паводле іхных „правілаў“, адбылося „адчужэньне маёмасьці“.

Многія крымінальніцы даносяць „опэру“. За гэта яны атрымліваюць цыгарэты. Штосьці „ня тое“ скажаш — яны навыперадкі бягуць да „опэра“ даносіць. Часта „опэр“ сам выклікае цябе на гутарку. Задае тупыя, як я лічу, пытаньні: „Як вы ставіцеся

да герба, сьцяга, да прэзыдэнта?". Усялякае такое глупства. Гэта так яны „перавыхоўваюць".

Я лічу, што рапарты, спагнаньні і ШЫЗА для палітычных выкарыстоўваюць яшчэ і для таго, каб людзі выйшлі з калёніі з „наглядам". Гэта значыць, ты мусіш цягам году пасьля вызваленьня з 22:00 да 6:00 быць дома, адзначацца ў міліцыі. Вядома, за мяжу ня выедзеш. Правяраць міліцыя часта прыяжджае і сярод ночы.

*Дар'я Чульцова, былая палітзьняволеная:*

Я таксама працавала на швейнай вытворчасьці. Заробкі там на фабрыцы малыя. Я атрымлівала 32 рублі. Нам загадвалі: „Трэба больш працаваць". Але ж і вылічвалі шмат — за электрычнасьць, ежу і гэтак далей. Большасьць людзей у калёніі сядзяць з пазовамі. Таму яны атрымліваюць капейкі.

Улетку на фабрыцы вельмі горача. Бо, апроч сьпёкі, яшчэ і машыны моцна награваюцца. А ты абавязаная сядзець у фартуху і хустцы. Часам дазвалялі зьняць фартухі. Прыходзяць кантралёры і кажуць, каб надзелі фартухі. Мы гаворым, што рэжымны супрацоўнік нам дазволіў. Але спрачацца ня будзеш, бо пойдзеш у ШЫЗА.

Зімой на фабрыцы холадна. Мінулай зімой хаця б уключалі ацяпленьне, раней яго не было ўвогуле. Але холадна ўсё роўна. На сябе нічога лішняга не надзенеш, бо „парушаеш форму". Каралі і па даносе стукачоў. Могуць данесьці, што ты мыла галаву „ня ў той час" ці пачаставала каго цыгарэтай, а гэтага нельга рабіць. Ці „ела яблык у недазволеным месцы". На фабрыку з атраду нельга праносіць нічога: ні ежу, ні рэчы.

12 сьнежня

# ЗА ЛІСТЫ КАЦЯРЫНЕ АНДРЭЕВАЙ

*Дзяніс Гурэцкі:*

Я, мая жонка і сястра жонкі трапілі пад рэпрэсіі за фота з пратэстаў, якое знайшлі ў канфіскаваным вінчэстэры. Я і сястра маёй жонкі прайшлі ізалятар на Акрэсьціна і СІЗА на Валадарскага. Жонка тым часам сядзела пад бомбамі ў Кіеве.

Мы ўтраіх сфатаграфаваліся зь бел-чырвона-белым сьцягам на адным з маршаў у Менску ўвосень 2020 году. Фатаграфія захоўвалася ў кампутары маёй жонкі Дар'і.

Дар'я сябравала зь вядомай журналісткай Кацярынай Андрэевай. Калі Кацю пасадзілі, жонка пісала ёй лісты. Яна пісала і іншым палітвязьням. Толькі за лісты Андрэевай і прыйшлі міліцыянты з „прафіляктычнай гутаркай“. Маўляў, навошта вам гэта трэба, навошта вы пішаце лісты палітвязьням, чым вы не задаволеныя? Яны забралі вінчэстар, дзе была тая самая фатаграфія. Але далей была цішыня, ніхто па нас не прыходзіў.

Жонка ўсё ж была вымушаная выехаць — спачатку ў Грузію, затым ва Ўкраіну. У Кіеў яна перабралася ў канцы 2021 году. Працавала графічным дызайнэрам. Я езьдзіў да яе некалькі разоў. Мы там сустракалі 2022 год. Быў у яе тыдзень у лютым, з 7-га па 15-га. І вось 24 лютага раніцай яна напісала мне: „Зь першым днём вайны!“.

Нягледзячы на бамбаваньні, Дар'я заставалася ў Кіеве. А па мяне прыйшлі 13 траўня. Спачатку

арыштавалі на 15 дзён за „дробнае хуліганства“: нібыта я мацюкаўся на вуліцы і не рэагаваў на заўвагі міліцыі.

Многія мае сукамэрнікі сядзелі паводле гэтага ж артыкулу. Толькі іх абвінавачвалі ў тым, што яны прыйшлі ў аддзяленьне міліцыі і рэзка пачалі там хуліганіць. Напрыклад, скідалі алоўкі са стала міліцыянта. Забралі мяне і сястру жонкі. За той самы фатаздымак. Відаць, ворагі пачалі заканчвацца, пачалі забіраць усіх запар. Хтосьці быў на нейкіх фота, кагосьці затрымлівалі ў 2020-м. Біць мяне ня білі, але абражалі.

Я быў уражаны, што ў будынку губазіку віселі сымбалі расейскай агрэсіі, літары V і Z, плякаты „За наших!“, „Сила в правде!“. Гэта для мяне была поўная дзікасьць. Усё ж гэта беларускія міліцыянты. А расейскія войскі яны называлі сваімі. Супрацоўнікі губазіку ведалі, дзе мая жонка, і сталі казаць: „Што, не забіла тваю жонку ў Кіеве?“. Я адказаў: „Не дачакаецеся“. Рэакцыя: „Вось якія жывучыя змагары, не падыхаюць“.

Я „пакаяўся“ на камэру, бо разумеў, што супраціўляцца сэнсу няма. Прымусяць так ці інакш. І мяне адправілі ў Цэнтар ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсьціна. Мяне кінулі ў камэру на чатырох, дзе сядзелі 18 чалавек. Не было матрацаў, пасьцельнай бялізны, перадач. Затое былі бяздомнікі з вошамі.

Мы іх адсаджвалі далей у куток. Прымушалі мыцца. У нас быў імправізаваны душ з пластыкавых бутэлек. Бяздомным было як пакараньне знаходзіцца з намі, бо мы іх прымушалі прыбіраць за сабой, мыцца, яны да гэтага не прывыклі.

Пасьля зь ЦІПу я трапіў у ІЧУ.

Там быў 10 дзён. Мы сядзелі ў карцары. Было страшэнна холадна. Спалі на падлозе. Многія прастудзіліся. Асабліва цяжка было хлопцу пасьля пералому. У яго ў назе мэталічныя сьпіцы, а ён вымушаны быў ляжаць на бэтоне. Потым на мяне завялі крымінальную справу за „беспарадкі“ і перавялі ў СІЗА на Валадарскага.

У СІЗА я меў матрац, пасьцельную бялізну, нас вадзілі ў душ, аддавалі перадачы.

Не хачу нікога абяляць, але супрацоўнікі на Валадарскага ставіліся да нас параўнальна нармальна. Калі параўноўваць з тымі, з Акрэсьціна, дык увогуле добра. На Акрэсьціна працуюць поўныя адмарозкі. Яны рэтрансьлююць толькі тое, што чулі ў тэлевізары. Пра загніваньне Захаду, пра „змагароў“. Там працуюць два былыя амапаўцы, якіх выгналі са службы за „неналежныя паводзіны“. Ім, відаць, няма куды больш падзецца. Мая асабістая думка: супрацоўнікі СІЗА жывуць у горадзе, іх многія ведаюць, таму асабліва не вызначаюцца жорсткасьцю. Ва ўсіх ёсьць сваякі, знаёмыя. Але пра супрацоўнікаў на Акрэсьціна можна сказаць толькі тое, што сказаў: гэта проста адмарожаныя людзі.

Я прабыў у турме амаль тры месяцы. Пасьля быў суд. За „ўдзел у дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак“ (артыкул 342 КК) мне прысудзілі 2,5 года „хатняй хіміі“ і вызвалілі ў залі суду. „Хатнюю хімію“ атрымала і сястра жонкі. Яна таксама правяла тры месяцы ў СІЗА.

На момант вызваленьня жонка Дар’я ўжо была ў Варшаве. Яна зьвязалася з фондам BySol і папрасіла дапамогі ў эвакуацыі мяне і сястры. Сям’я ўзьядналася ў сталіцы Польшчы. Я ўжо ўладкаваўся на працу.

14 сьнежня

## АДСЬВЯТКУЮ ЎСЕ СЬВЯТЫ, КАЛІ БУДУ НА ВОЛІ

*Андрэй Кузьнечык (лісты з турмы):*

Год я сабе таксама на каляндарыку адцеміў. Што даў карыснага? Можна і такога знайсьці, але не дае цяжар бескарыснага, несправядлівага, злога і страчанага, у тым ліку і незваротна.

Так ці гэтак, трэба жыць далей, дзень прыйдзе новы.

Калі я зноў сёньня прачнуўся ў Наваполацкай калёніі, то цікавых навін пакуль няма.

Не расказваць жа людзям, якія там кансэрвы завезьлі гэтым разам на атаварку. Але часам сасьніцца сон, які не ідзе з галавы.

Звычайна я сны забываю тут, нават калі бачу. І звычайна яны пра турму, да жалю. Дык вось, вярнуўся я ў тым сьне дахаты, і, хоць быў выходны, павялі Яніну ў садок (чамусьці), але новы, бо самі пераехалі. Вялі нядоўга, але па ўсіх чым-небудзь адметных у маім жыцьці менскіх вуліцах геаграфічна ў сьне каша поўная была. Раварыстаў на ходніках — не прапхнуцца. Яно б можна абысьці іх па дварах, але, калі я туды збочу, будзе парушэньне, рапарт і пакараньне. Такі вось нявольніцка-мройніцкі мікс...

Я працую. У Наваполацкай калёніі ёсьць лесапілка і мэталічная вытворчасьць (зьняволеныя рэжуць стары кабэль, абдзіраюць ізаляцыю з правадоў, здабываючы медзь і алюміній). Абедзьве работы нялёгкія. Раней працаваў менавіта з ка-

бэлем — вымаў дрот і рэзаў яго на кавалкі. Але, як толькі вязьні прызвычайваюцца і авалодваюць навыкамі, іх пераводзяць на іншую працу.

Цяжка бязь сьвежых навінаў. На волі цэлымі днямі я быў у сеціве, сачыў за падзеямі. За кратамі ўсяго гэтага вельмі не стае. Таму я выпісваю шмат пэрыёдыкі, беларускамоўныя часопісы і газэты. Аднак ніводнай падпіскі да канца так і не атрымаў, бо часта перасоўваўся з аднаго месца зьняволеньня ў іншае.

За кратамі людзі таксама прагнуць сьвята, у дні народзінаў гатуюць смачныя стравы і нават умудраюцца рабіць торцікі.

Спакушалі тартамі, але я яшчэ не настолькі тут абжыўся, каб навучыцца знаходзіць сьвяточны настрой для застольляў. Адсьвяткую ўсе прапушчаныя новыя гады і дні народзінаў, калі буду на волі.

На тым тыдні прывезьлі адну зь пяці замоўленых кніг. Больш за 800 старонак аднаго з маіх улюбёных аўтараў — Максіма Гарэцкага. У чарзе дзівіліся кніжцы на беларускай мове, а яшчэ больш — ейнай цане: 18 з хвосьцікам рублёў.

А вось замоўленыя кнігі Тацяны Заміроўскай, Міленкі Ергавіча, Артура Клінава, Альгерда Бахарэвіча не прывезьлі.

Беларускамоўных кніжак мне хопіць надоўга. Вольнага часу вельмі мала. Адной кнігі хапае на два-тры тыдні. У афармленьні тут ёсьць і адзін верш па-беларуску. Купалава „Спадчына“.

Уразіла, як моцна прасеў „ЛіМ“, ператварыўся ў газэту для членаў саюзу з унутранымі нецікавымі справаздачамі, слабымі вершамі, кампліментарнымі і стомленымі палосамі аднаго аўтара-напаўняльніка. Нават па турэмных мерках чытаць „ЛіМ“

ніякавата. Бээсэсэраўскія кніжкі зь бібліятэкі і тыя цікавейшыя. Адна бяда — процьма твораў толькі ў расейскім перакладзе.

---

31 сьнежня

# НЯХАЙ ЗІМОВЫ ЦУД ЗНОЙДЗЕ ЎСІХ НАС!

## Лісты палітвязьняў з турмы

*Дзьмітры Дубоўскі,*
*асуджаны на 20 гадоў калёніі:*

Там жыцьцё рай, дзе свабоды край. Удачы ў Новым 2023 годзе. З салідарнасьцю, Дзьмітры Д.

*Ягор Лебядок,*
*асуджаны на 5 гадоў калёніі:*

Зычу вам і вашым блізкім у надыходзячым годзе моцнага здароўя, мэтанакіраванасьці і сіл для дасягненьняў мэтаў, каханьня ўзаемнага і прыемных клопатаў, сямейнага дабрабыту і мноства прыемных момантаў! Усё будзе добра, інакш і быць ня можа!

*Марына Золатава, падсудная:*

…А вызваленьня і волі я зычу ўсім нам. ☺ А таксама — перамогі Дабра, Розуму і Справядлівасьці. Я па-ранейшаму веру, што так і будзе. Спадзяюся, вы таксама.

*Анатоль Латушка,*
*асуджаны на 6 гадоў калёніі:*

Віншую цябе, тваіх... са сьвятам Новага году! Жадаю вам усім моцнага здароўя, бязьмежнага шчасьця, нястрымнай весялосьці падчас сьвята і нават вашым коткам жыць заўсёды ў згодзе з сумленьнем! Ну і, вядома ж, посьпехаў ва ўсіх вашых справах!

*Натальля Дуліна, затрыманая:*

... У мяне ўсё добра. Не хвалюйцеся за мяне, я моцная і ўсё вытрываю. Мне лёгка, таму што я перакананая ў сваёй праваце. А гэта вельмі дапамагае. Мне няма пра што шкадаваць. Я рада, што нікуды не паехала. Я даўно была гатовая да гэтага і разумела, што рана ці позна гэта адбудзецца. ... Што б ні адбылося, я ўпэўнена, што ўсё гэта можна перажыць...

*Андрэй Любецкі,*
*асуджаны на 5 гадоў калёніі:*

Адрас адпраўніка: Цэнтар мэнтальна-сацыяльна-вэрбальна-гендэрна-фінансава-фізычнай рэабілітацыі. Цэнтар Эўропы. Плянэта Зямля. Сонечная сыстэма... Каму: Сябру. Куды: Туды. Індэкс: 123456.

Ад усёй душы і ад усяго сэрца з надыходзячымі сьвятамі!

*Віталь Мельнік,*
*асуджаны на 16 гадоў калёніі:*

Сардэчна віншую вас з Раством Хрыстовым і надыходзячым Новым 2023 годам! Зычу, каб новы

год ажыцьцявіў усе вашыя мары, а ў сэрцы гарэў агонь веры, надзеі і любові!

*Мікіта Старажэнка,*
*асуджаны на 7 гадоў калёніі:*

Ад усёй душы дзякую за дапамогу і падтрымку! Віншую з надыходзячымі Калядамі і Новым годам! Няхай зімовы цуд знойдзе ўсіх нас і будзе з намі побач!

*Ігар Аліневіч,*
*асуджаны на 20 гадоў калёніі:*

Віншую вас з Раством! Няхай Бэтлеемская зорка асьвятляе шлях пасіянарыям сёньня, як і тысячы гадоў таму! Слухаць сэрца і быць сабой! „У сваіх сэрцах мы нясём новы сьвет. Ён расьце цяпер, у гэтую хвіліну“. Казцы быць!

*Ганна Баран,*
*асуджаная на 1,5 года калёніі:*

Мае любімыя сябры, як я сумую па вас! Віншую з Новым годам і Калядамі. Няхай надыходзячы новы год будзе поўны выдатных падзей. Зычу вам здароўя, радасьці, каханьня і шчасьця. Няхай спраўдзяцца ўсе мары! У мяне ўсё выдатна, не хвалюйцеся. Моцна вас абдымаю!

# НОБЭЛЕЎСКАЯ ЛЕКЦЫЯ

*7 кастрычніка Нобэлеўскі камітэт прысудзіў Нобэлеўскую прэмію міру беларускаму праваабаронцу, кіраўніку праваабарончага цэнтру „Вясна” Алесю Бяляцкаму.*
*Алесь, арыштаваны 14 ліпеня 2021 году, сустрэў навіну за кратамі. 10 сьнежня ў Осла на ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджаньня нобэлеўскую лекцыю Алеся Бяляцкага прачытала ягоная жонка Натальля Пінчук.*

## ЗАРАЗ У ТУРМЕ ЎСЯ БЕЛАРУСЬ

*Вашы Каралеўскія Міласьці, Вашы Каралеўскія Высокасьці, шаноўныя сябры Нобэлеўскага камітэту, шаноўнае спадарства.*

*Зь вялікім хваляваньнем выпадае мне гонар выступіць тут, на ўшанаваньні ляўрэатаў прэміі міру за 2022 год. Сярод іх і мой муж Алесь Бяляцкі.*

*На жаль, ён ня можа прыняць узнагароду асабіста. Ён за кратамі ў Беларусі. Таму я стаю за гэтай трыбунай.*

*Хачу выказаць вялікую падзяку Нарвэскаму Нобэлеўскаму камітэту, рашэньне якога ўмацавала Алеся ў гатоўнасьці стаяць у сваёй праўдзе і дае надзею ўсім беларусам, што можна разьлічваць на дэмакратычную салідарнасьць у барацьбе за свае правы.*

*Дзякуй усім, хто падтрымліваў Алеся, ягоных сяброў і ягоную справу ўсе гэтыя гады і падтрымлівае цяпер.*

*Шчыра віншую „Центр громадянських свобод“ і Міжнароднае таварыства „Мемориал“ з заслужанай узнагародай. Алесь і ўсе мы ўсьведамляем, наколькі важна і рызыкоўна выконваць місію праваабаронцаў, асабліва ў трагічны час агрэсіі Расеі супраць Украіны.*

*Ня толькі Алесь у турме — тысячы беларусаў, дзясяткі тысяч рэпрэсаваных, зьняволеных за сваю грамадзянскую пазыцыю, знаходзяцца там. Сотні тысяч вымушаныя ўцякаць з краіны толькі таму, што хацелі жыць у дэмакратычнай дзяржаве. У Беларусі, на жаль, ужо гадамі працягваецца вайна ўлады супраць уласнага народу, мовы, гісторыі, су-*

*праць дэмакратычных каштоўнасьцяў. Пра гэта гавару тут з болем і перасьцярогай, бо сёньняшнія палітычныя і ваенныя падзеі пагражаюць Беларусі стратаю дзяржаўнасьці і незалежнасьці.*

*На жаль, улада з грамадзтвам размаўляе толькі пры дапамозе сілы — гранатаў, дубінак, электрашокераў, бясконцых арыштаў і катаваньняў. Пра нацыянальны кампраміс або дыялёг няма размовы. Перасьледуюць дзяўчат і хлопцаў, жанчын і мужчын, непаўналетніх і людзей сталага ўзросту. У беларускіх турмах уладарыць нечалавечае аблічча сыстэмы, асабліва для тых, хто марыў быць свабоднымі людзьмі!*

*У такой сытуацыі невыпадкова, што за дэмакратычныя перакананьні і праваабарончую дзейнасьць улады арыштавалі Алеся і яго паплечнікаў з Праваабарончага цэнтру „Вясна“: у вязьніцах Марфа Рабкова, Валянцін Стэфановіч, Уладзімер Лабковіч, Леанід Судаленка, Андрэй Чапюк і іншыя праваабаронцы. Другія зараз яшчэ пад сьледзтвам і пракурорскімі абвінавачаньнямі, трэція вымушаны былі эміграваць за мяжу. Але створанага звыш дваццаці пяці гадоў таму Алесем і яго аднадумцамі Праваабарончага цэнтру „Вясна-96“ не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!*

*Алесь ня мог перадаць на волю тэкст свайго выступу, ён пасьпеў сказаць мне літаральна пару сказаў. Таму падзялюся з вамі ягонымі думкамі — і гэтымі, і запісанымі раней. Гэта фрагмэнты ягоных ранейшых выказваньняў, твораў, развагаў. Тут яго думкі аб мінулым і будучыні Беларусі, аб правах чалавека, аб лёсах міру і свабоды.*

*То перадаю слова Алесю.*

Так бывае, што людзі, якія найбольш цэняць свабоду, часта пазбаўленыя яе. Я ўспамінаю сваіх сяброў — праваабаронцаў з Кубы, Азэрбайджану, Узбэкістану, я ўспамінаю сваю духоўную сястру Насрын Сотудэ́ з Ірану. Я захапляюся кардыналам Язэпам Чэнем (Joseph Zen) з Ганконгу. Зараз у Беларусі тысячы людзей знаходзяцца за кратамі па палітычных матывах, і яны ўсе мае браты і сёстры. Нішто ня можа спыніць прагу людзей да волі. Тут зараз у турме ўся Беларусь. Сядзяць журналісты, палітолягі, прафсаюзныя лідэры, сярод іх багата маіх знаёмых і сяброў... Суды працуюць, як канвэер, асуджаных развозяць па калёніях, а новыя хвалі палітзьняволеных займаюць іх месца...

Гэтая прэмія належыць усім маім сябрам-праваабаронцам, усім грамадзкім актывістам, дзясяткам тысяч беларусаў, якія прайшлі празь зьбіцьцё, катаваньні, арышты, турму.

Гэтая прэмія — узнагарода мільёнам беларускіх грамадзян, якія выступілі ў абарону сваіх грамадзянскіх правоў. Яна падкрэсьлівае тую драматычную сытуацыю, якая склалася з правамі чалавека ў краіне.

Нядаўна ў мяне адбыўся кароткі дыялёг.

— Калі на волю? — спыталіся ў мяне.

— А я і так вольны, у душы́, — адказаў я.

Мой вольны дух лунае па-над вязьніцай і над кляновым лістом абрысаў Беларусі.

Я зазіраю сабе ўсярэдзіну, і здаецца, што мае ідэалы не зьмяніліся, ня страцілі каштоўнасьці, не пацьмянелі. Яны заўжды са мной, і я ахоўваю іх, як магу. Яны як адлітыя з золата, і іх не бярэ ржа.

Мы хочам уладкаваць нашае грамадзтва як больш гарманічнае, справядлівае і спагаднае.

Дабіцца незалежнай, дэмакратычнай Беларусі. Марым, каб яна была ўтульнай і прывабнай для жыцьця. Гэтая ідэя высакародная, сугучная агульным для сьвету цывілізацыйным уяўленьням. Мы ж ня марым пра штосьці надзвычайнае, мы хочам усяго толькі „людзьмі звацца“, як сказаў наш клясык Янка Купала. Тут — і павага да сябе саміх, і да іншых, тут і правы чалавека, дэмакратычны лад жыцьця, беларуская мова і нашая гісторыя.

Я рана пачаў ставіцца крытычна да савецкай рэчаіснасьці. Сярод іншага, сутыкнуўся з рэзкім абмежаваньнем ужываньня беларускае мовы, з палітыкай дэбеларусізацыі, якая праводзілася тады дый праводзіцца і цяпер. Ранейшая каляніяльная залежнасьць Беларусі засталася. А ў выніку — пагроза для існаваньня беларусаў як народу.

Драматычная памылка — аддзяляць правы чалавека ад каштоўнасьцяў ідэнтычнасьці і Незалежнасьці. У незалежніцкім падпольным руху я з 1982 году, фактычна з 20 гадоў. Яго задача — дабіцца дэмакратычнай незалежнай Беларусі, у якой бы паважаліся правы чалавека. Ня можа быць Беларусі без дэмакратыі і ня можа быць правоў чалавека безь незалежнай Беларусі. А грамадзянская супольнасьць павінна валодаць такой ступеньню незалежнасьці, якая гарантуе бясьпеку асобы ад злоўжываньняў улады дзяржавы.

Я веру, бо ведаю, што мінае ноч і надыходзіць ранак. Я ведаю, што нас няўтомна штурхае наперад, дык гэта надзея і мара.

Марцін Лютэр Кінг заплаціў за сваю мару жыцьцём, яго застрэлілі. Мая плата за маю мару меншая, але ўсё роўна за яе даводзіцца плаціць.

Я не шкадую ні кроплі. Бо мая мара вартая гэтага. Мае ідэалы сугучныя з ідэаламі маіх старэйшых сяброў і духоўных настаўнікаў, чэха Вацлава Гавэла і беларуса Васіля Быкава. Абодва яны прайшлі праз вялікія жыцьцёвыя выпрабаваньні, абодва багата чаго зрабілі для сваіх народаў і культуры, абодва змагаліся за дэмакратыю і правы чалавека да апошніх хвілінаў свайго жыцьця.

Немагчыма, каб на пустым полі адразу вырас добры ўраджай. Поле трэба добра ўгнойваць, камяні выбіраць... А тое, што пакінула ў Беларусі камуністычная ўлада за 70 гадоў, можна назваць выпаленай зямлёй... Былі часы ў канцы 80-х гадоў, калі мы літаральна ведалі адзін аднаго ў твар... Але на пачатку 90-х зьявіліся тысячы і дзясяткі тысяч...

9 жніўня 2020 году ў Беларусі прайшлі прэзыдэнцкія выбары. Масавыя фальсыфікацыі прывялі да таго, што людзі выйшлі на вуліцу. У двубоі сышліся Дабро і Зло. Зло — добра ўзброенае. А з боку Дабра — толькі нечуваныя для краіны мірныя масавыя пратэсты, якія зьбіралі сотні тысяч людзей.

Улады напоўніцу запусьцілі рэпрэсіўны мэханізм катаваньняў і забойстваў — Рамана Бандарэнкі, Вітольда Ашурка і многіх іншых.

Гэта найвышэйшы і нечуваны па сваёй жорсткасьці ўзровень рэпрэсіяў. Людзі праходзяць праз неймаверныя катаваньні і пакуты.

Камэры і турмы больш нагадваюць савецкія грамадзкія прыбіральні, дзе людзей трымаюць месяцамі і гадамі. Я абсалютна супраць таго, каб жанчыны знаходзіліся ў турме, а ўявіце, як ім даводзіцца ў турме Беларусі — у гэтым філіяле пекла на зямлі!

Выказваньні Лукашэнкі пацьвярджаюць, што выканаўцам дадзены карт-бляншш, каб праз страх спыніць людзей. Але грамадзяне Беларусі патрабуюць справядлівасьці. Яны патрабуюць, каб тыя, хто ўчыняў масавыя злачынствы, былі пакараныя. Патрабуюць свабодных выбараў. Ніколі ўжо Беларусь і беларускае грамадзтва ня будуць ранейшымі, калі былі цалкам зьвязаныя па руках і нагах. Людзі прачнуліся...

Зараз пэрманэнтная барацьба дабра і зла разгарнулася ледзь ня ў чыстым выглядзе ўва ўсім рэгіёне. Халодная сьцюжа з Усходу сутыкнулася зь цяплом эўрапейскага рэнэсансу.

Мала быць адукаваным і дэмакратычным, мала быць гуманным і міласэрным. Трэба ўмець бараніць свой набытак і сваю Айчыну. Недарэмна ў Сярэднявеччы паняцьце Айчыны было тоесным паняцьцю свабоды.

Я дакладна ведаю, якая Ўкраіна задавальняла б Расею і Пуціна, — несамастойная дыктатура. Такая, як сёньняшняя Беларусь, дзе не чуваць голасу прыдушанага народу.

Расейскія вайсковыя базы, велічэзная эканамічная залежнасьць, культурная і моўная русыфікацыя — вось адказ, на чыім баку Лукашэнка. Улады Беларусі незалежныя толькі ў той ступені, у якой ім дазваляе Пуцін. І таму трэба змагацца супраць „інтэрнацыяналу дыктатураў“.

Я праваабаронца і таму прыхільнік негвалтоўнага супраціву. Я не агрэсіўны па натуры чалавек, імкнуся гэтак заўсёды паводзіць сябе. Аднак я таксама добра разумею, што дабро і праўда павінны ўмець абараняць сябе. Як магу, трымаю мір у маёй душы, гадую яго, як далікатную кветку,

адганяю злосьць. І малюся, каб рэчаіснасьць не прымусіла мяне адкапаць даўно закапаную сякеру і бараніць праўду зь сякерай у руках. Мір. Няхай мір застанецца ў маёй душы.

А 10 сьнежня мне хочацца паўтарыць для ўсіх: „Ня бойцеся!“ Гэта тое, што сказаў у 80-я папа Ян Павал II, калі прыехаў у камуністычную Польшчу. Больш ён нічога тады не сказаў, але хапіла. Я веру, бо ведаю, што пасьля зімы наступае вясна.

*Я цытавала Алеся Бяляцкага. І завяршу выступ воклічамі ягонай душы:*

*Свабоду беларускаму народу! Свабоду „Вясьне“! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!*

# ПАКАЗЬНІК ІМЁНАЎ І НАЗВАЎ ПАСЕЛІШЧАЎ

# SUMMARY

This is the third volume of “The Voices of Belarus” trilogy. In it, each year of Belarusian life — 2020, 2021, 2022 — is characterized by those who lived and witnessed the events that had transpired during those three years: unprecedented protests after the presidential elections, brutal repression, Russia’s war against Ukraine. Political prisoners deliver their final statements to the court during their trials, write about their choices from prison. Voices of political emigres join voices of those who remained in the homeland. We also hear from those who were in Ukraine when the war started, and from those who travelled to Ukraine to fight as a volunteer. Finally, we talked to relatives and friends of those that perished. These are remarkably diverse stories of Belarusians; something they sound like a “protocol,” something like the sincerest confessions. In the third tome of the trilogy, pandemic issues become more muted, fewer letters from prison are quoted. This was not because the incarcerated were set free or stopped writing letters. The letters simply stopped being delivered. In the meantime, the numbers of political prisoners increased significantly.
In time, the testimonies of Belarusian volunteers on the front of the Russia-Ukraine war became commonplace. The book reflects the extent to which the landscape of time and life changed and resettled and argues that it will never bea the same.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.* **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 140 с.: іл.




**Гаворыць Радыё ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 172 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 826 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга першая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 476 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2020.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 434 с.




**Неверагодны 2020-ы.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 170 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.* **Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.** Кніга другая. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 374 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.* **Дзевяноста шосты.** 2-е выд., дап. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.




**Галасы Беларусі – 2021.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 386 с.




**Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 412 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.* **Забіць упалмінзага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 360 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Чаму Беларусь не Расея.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 324 с.: іл.




**Алесь Бяляцкі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2022. — 444 с.: іл.